Ба 234416

# ПАДРУЧНІКІ

## ДЛЯ КОМСАМОЛЬСКАЙ ПОЛІТВУЧОБЫ

17721

В. ВІРГАНСКІ

# ПАДРУЧНІК ПОЛІТГРАМАТЫ

5999

ДЛЯ КОМСАМОЛЬСКІХ ПОЛІТЧЫТАК У ВЁСЦЫ

№3




ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Г. Змражлінскі

Ба 234416

В. ВІРГАНСКІ

1964 г.

# ПАДРУЧНІК ПОЛІТГРАМАТЫ

## ДЛЯ КОМСАМОЛЬСКІХ ПОЛІТЧЫТАК У ВЁСЦЫ

Бел. 2005
234416

Рэкомэндавана АПА ЦК УсеЛКСМ





ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА
МЕНСК—1927

## Ад Выдавецтва ЦК ЛКСМБ „Чырвоная Зьмена“.

Гэты падручнік укладзены аўтарамі і рэкомэндаваны АПА ЦК ЎсеЛКСМ для комсамольскіх гурткоў-чытанак на вёсцы. Патрэба ў гэтым падручніку надзвычайна вялікая і ў нас, на Беларусі, дзе паводле пляну АПА ЦК ЛКСМБ гэтай формай комсамольскай вучобы ў бягучым годзе павінна быць ахоплена ня менш 20 тысяч вясковых комсамольцаў.

Але ня толькі для гурткоў-чытанак падыходзіць гэты падручнік. Ён падыходзіць для ўсіх вясковых комсамольцаў, якія з тэй ці іншай прычыны ня могуць вучыцца ў політшколах або ў школах рухомых і стацыянарках, і якія ня маюць адпаведнай політычнай падрыхтоўкі. Ім могуць карыстацца і тыя, што займаюцца самаадукацыяй; яго трэба прасунуць у самыя шырокія колы беспартыйнай сялянскай моладзі.

Гутаркі 10-я і 11-я, якія тлумачаць аб працы партыі і задачах Комсамолу на вёсцы, зьяўляецца добрым матэрыялам і для вясковага комсамольскага актыву.

Адсутнасьць мясцовага беларускага матэрыялу, за выключэньнем аднэй гутаркі аб нацполітыцы на Беларусі, зьяўляецца, бязумоўна, недахопам падручніка. Пасьпяховасьць выданьня гэтага падручніка на беларускай мове не дазволіла ўнесьці ў яго гэтых неабходных дадаткаў. Нават лічбы аб коопэраваньні нашага сялянства прышлося паказаць у заўвагах.

Пры перакладзе гэтага падручніка з расійскага выданьня на беларускую мову былі зьменены некаторыя формулёўкі, у прыватнасьці ў чацьвертай гутарцы. Пасьпяховасьць выданьня недазволіла выправіць некаторыя, менш важныя па сутнасьці, недахопы, як напрыклад, у гутарцы першай (старонкі 14-15), дзе прыклад прадпрыемства «Шарыка-падшыпнік» названы проста капіталістычным тыпам, тады, калі ён па сутнасьці зьяўляецца тыпам дзяржаўна-капіталістычным. Але ў зьвязку з тым, што на наступнай старонцы растлумачваюцца ўсе тыпы гаспадаркі СССР правільна, выпраўляць гэта лічылі непатрэбным, каб не затрымаць і надалей выданьне падручніка. Такім чынам, адноснае спазьненьне выданьня гэтага падручніка на расійскай мове, пераклад яго, выпраўленьне ўжо ў корэктуры і, нарэшце, перагрузка друкарні іншымі тэрміновымі заказамі,—

усё гэта зьяўляецца прычынай таму, што падручнік, якога даўно чакаюць дзесяткі тысяч комсамольцаў, выходзіць са спазьненьнем амаль на паўтары месяцы.

Аднак, зьмест і аб'ём (13 гутарак) падручніка дае магчымасьць поўнасьцю прапрацаваць яго яшчэ ў бягучым навучальным годзе.

Політрэдагаваньне гэтага выданьня належыць М. Катушкіну; стыльрэдагаваньне—А. Рамаиоўскаму.

---

## ГУТАРКА ПЕРШАЯ.

# СССР—АДЗІНАЯ Ў СЬВЕЦЕ КРАІНА РАБОЧЫХ І СЯЛЯН.

### 1. НАШЫ ПРЫЯЦЕЛІ І НАШЫ ВОРАГІ.

Наша краіна сваім дзяржаўным і гаспадарчым ладам адрозьніваецца ад усіх іншых краін усяго сьвету. Дзяржаўны лад нашай краіны зусім процілежны дзяржаўнаму ладу іншых краін. У нашай савецкай конституцыі ёсьць адзін пункт, які рэзка і проста падкрэсьлівае асаблівасьць нашага дзяржаўнага ладу. Гэта той самы пункт, у якім гаворыцца, што **эксплёататары не карыстаюцца ў нашай краіне політычнымі правамі.** Яны пазбаўлены політычных праў, г. зн. ня могуць абіраць і ня могуць быць абраны ні на якую дзяржаўную пасаду ці грамадзкую. Яны адхіляюцца ад усялякага ўдзелу ў дзяржаўных і грамадзкіх справах. Дзяржаўнымі і грамадзкімі справамі ў нашай краіне кіруюць самі працоўныя. Асноўныя масы працоўных у нашай краіне—гэта рабочыя і сяляне. Вось чаму наша краіна і называецца краінай рабочых ды сялян. Другой такой краіны покуль што нідзе на ўсім сьвеце няма.

Нашу краіну з усіх бакоў абкружаюць краіны капіталістычныя. Капіталістычнымі краінамі мы называем такія краіны, дзе гаспадараць капіталістыя. Вось у гэтых капіталістычных краінах розныя групы насельніцтва парознаму адносяцца да нашай краіны. Адны ненавідзяць нас, другія, наадварот, адносяцца да нас прыхільна, лічаць нас за сваіх лепшых прыяцеляў. Першыя—гэта замежныя памешчыкі ды капіталістыя. Яны бяз злосьці і ненавісьці ня могуць гаварыць аб нашай краіне. У Англіі, напрыклад, зараз трымаюць у сваіх руках уладу чорнасоценныя паме-

шчыкі і капіталістыя. Ангельскія рабочыя называюць іх «цьвёрдалобымі», інакш кажучы, «медзянымі ілбамі». Міністры і адказныя чыноўнікі гэтага ўраду: Чэрчыль, Лёкер-Лемпсон ды інш. часта гавораць прамовы, у якіх увесь час нас лаюць. Называюць нас «бандаю забойц і рабаўнікоў», называюць нас «людзьмі, якія трацілі ўсякае сумленьне», гавораць, што нас трэба добра праўчыць, гавораць, што трэба вызваліць цывілізаваны сьвет[1]) ад такіх зацятых нягоднікаў і г. д.

У нас п'яныя хуліганы ня ўмеюць так моцна лаяцца, як лаюць нашу краіну ангельскія мядзяналобыя міністры. А што гавораць пра нас ангельскія рабочыя? Тыя гавораць зусім іншае. Два гады назад у нашу краіну прыяжджала дэлегацыя ангельскіх рабочых. Яна прыглядалася да ўсёй работы нашай краіны, прыглядалася да жыцьця рабочых і сялян. Вярнуўшыся назад у Англію, гэтая дэлегацыя надрукавала для рабочых справаздачу аб сваёй паездцы. У гэтай справаздачы яна піша, што ў нашай краіне сапраўды ажыцьцёўлена свабода для працоўных, што ў нашай краіне сапраўды адбываецца будаўніцтва новага жыцьця, што патугі нашых рабочых і сялян заслугоўваюць усякай пахвалы. Сьледам за гэтай дэлегацыяй прыяжджалі і іншыя. Нядаўна была дэлегацыя ангельскіх гарнякоў, і ўсе яны гавораць тое-ж самае. Прыяжджала да нас і дэлегацыя нямецкіх рабочых паглядзець, як рабочыя і сяляне нашай краіны спраўляюцца з эксплёататарамі. Вось што гаварыў старшыня гэтай дэлегацыі, нямецкі рабочы Фрэйбэргер[2]). «Мы,— казаў ён,—**згодны** з палітыкай расійскіх таварышоў і гэту палітыку **ўхваляем.** Усё, што мы бачылі ў вашай краіне, дзе цяпер распараджаюцца пролетары, робіць для нас у поўнай меры зразумелай ненавісьць буржуазіі да вашага ладу. Ня дзіва, што буржуазія настойна высоўвае лёзунг вайны проці Савецкага

---

[1]) Пад цывілізаваным сьветам капіталістыя разумеюць капіталістычныя краіны.

[2]) Фрэйбэргер быў тады сябром Нямецкай социял-дэмократычнай партыі (накшталт нашых меншавікоў). За тое, што ён гаварыў праўду аб нашай краіне, яго ў Нямеччыне выключылі з соцыял-дэмокр. партыі.

Саюзу». Прыяжджалі да нас рабочыя дэлегацыі і з іншых краін: з Фінляндыі, з Аўстрыі, з Амэрыкі, і ўсе яны ў адзін голас становяцца на наш бок. І толькі замежныя капіталістыя, памешчыкі, папы і г. д. не знаходзяць слоў для лаянкі па адрасу нашых рабочых і сялян.

Вось якія адносіны да нашай краіны з боку краін капіталістычных.

А то ёсьць такая краіна, якая называецца Індыяй. Гэта—вялізная краіна, жыве ў ёй звыш 300 мільёнаў жыхароў. Але краіна гэта несамастойная. Гаспадараць у ёй і кіруюць ёю, праз сваіх чыноўнікаў, ангельскія капіталістыя і памешчыкі. Гэтая краіна хоча скінуць з сябе ўціск чужой буржуазіі. У ёй увесь час прарываюцца выбухі рэволюцыйнага руху, які ангельцы душаць з самай лютай жорсткасьцю.

І вось у гэтым годзе ў Індыі адбываліся вялікія спрэчкі наконт таго, па якім шляху павінна пайсьці Індыя, каб вызваліцца ад уціску ангельскіх капіталістых і памешчыкаў. І індыйскія газэты, у якіх адбываліся гэтыя спрэчкі, у пераважнай большасьці выказаліся за той шлях, па якім пайшлі ды ідуць рабочыя і сяляне нашай краіны. «Толькі стварыўшы савецкую рэспубліку—пісалі гэтыя газэты,—індусы наўзаўсёды вызваляцца ад чужаземнага ўціску. Мы,—гаварылі яны,—павінны пайсьці па тым шляху, па якім пайшлі працоўныя царскай Расіі».

І ня толькі адна Індыя глядзіць на нашу краіну, як на ўзор для сябе. Рабочыя і сяляне прыгнечаных краін,—а прыгнечаныя краіны гэта амаль усе ўсходнія краіны,—лічаць за лепшы для сябе шляхам той шлях, па якім пайшлі мы.

Што-ж прыцягвае да нас працоўных і прыгнечаных усяго сьвету? І завошта ў той-жа час капіталістыя ды памешчыкі так дзіка ненавідзяць нас?

Прыцягваюць працоўных тыя заваёвы, якіх дабіліся рабочыя і сяляне нашай краіны ў выніку Кастрычнікавай рэволюцыі. Кастрычнікавая рэволюцыя зрабіла ў нашай краіне карэнныя зьмены ў гаспадар-

чым і дзяржаўным ладзе. Пасьля лютаўскай рэвалюцыі, якая скінула самаўладзтва, на вёсцы заставаліся памешчыкі, а ў гарадох—капіталістыя. Яны пастарому эксплёатавалі ды прыгняталі рабочых і сялян. Кастрычнікавая рэволюцыя скончыла і з імі. Яна адабрала ад капіталістых іхныя фабрыкі ды заводы, а ад памешчыкаў зямлю. Гэтым самым было зьнішчана рабаваньне сялян памешчыкамі, зьнішчалася эксплёатацыя капіталістых на фабрыках і заводах. Фабрыкі перайшлі да Савецкай дзяржавы, зямля таксама была абвешчана ўласнасьцю Савецкай дзяржавы і перадана ў карыстаньне працоўнаму сялянству (беднаце і серадняком).

Прагнаныя з краіны эксплёататары і яшчэ тыя, што засталіся ў краіне, былі абвешчаны пазбаўленымі політычных праў. І гэтае пазбаўленьне іх політычных праў замацавана ў савецкай констытуцыі. Правам прымаць удзел у дзяржаўным і грамадзкім жыцьці краіны пачалі карыстацца толькі працоўныя, г. зн. рабочыя ды сяляне.

Кастрычнікавая рэволюцыя вызваліла працоўных нашай краіны ад залежнасьці чужаземных капіталістых і памешчыкаў. А гэтая залежнасьць была і за царом, заставалася і пры часовым урадзе пасьля лютаўскай рэволюцыі. Залежнасьць ішла рознымі шляхамі. Папершае, царскі ўрад у свой час заключыў сакрэтныя дагаворы з чужаземнымі капіталістычнымі краінамі. Па гэтых дагаворах ён умаўляўся разам з замежнымі капіталістымі рабаваць чужыя землі (адабраць, напрыклад, у туркаў іх сталіцу Константынопаль і г. д.), выстаўляць свае войскі на дапамогу чужаземным капіталістым, інакш кажучы, праліваць кроў рабочых ды сялян дзеля чужых інтарэсаў і г. д.

Савецкі ўрад усе гэтыя рабаўнічыя, крывавыя дагаворы абвясьціў ня маючымі моцы.

Потым залежнасьць ад замежных капіталістых была грашовая. Царскі ўрад, а потым часовы ўрад пазычалі грошы ў чужаземных капіталістых пад вялікія процанты. Гэтыя грошы ішлі на ўзброеньне, на ўтрыманьне паліцыі, на крэдыты для капіталістых і паме-

шчыкаў. А для аплаты пазык і працантаў абіралі рабочых і сялян.

Савецкі ўрад пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі заявіў, што гэтых царскіх, капіталістычных і памешчыцкіх даўгоў ён плаціць ня будзе. Гэтым Савецкая ўлада пазбавіла рабочых ды сялян ад цяжару ў 60 мільярдаў рублёў. Калі-б раскласьці гэтыя грошы на ўсе сялянскія гаспадаркі, дык кожнай з іх прышлося-б заплаціць чужаземным капіталістым і памешчыкам па 3000 рублёў з гаспадаркі. І гэта ня лічачы працантаў.

І, нарэшце, была зьнішчана і яшчэ адна залежнасьць ад чужаземных капіталістых. За царом чужаземныя капіталістыя будавалі ў нас фабрыкі і заводы. Іх прыцягвала тое, што рабочы ня меў праў, значыць, яму можна было мала заплаціць і прымусіць шмат працаваць. Потым чужаземныя капіталістыя захапілі ў свае рукі шмат нашых прыродных багацьцяў (нафту, жалезную руду, вугаль, золата і г. д.).

Савецкая ўлада зьнішчыла і гэтую залежнасьць. Яна абвясьціла ўсе прыродныя багацьці краіны ўласнасьцю Савецкае дзяржавы ды ўзяла ў свае рукі таксама і фабрыкі і заводы, якія належалі чужаземным капіталістым.

Так Кастрычнікавая рэволюцыя зьнішчыла залежнасьць рабочых і сялян нашай краіны ад чужаземных капіталістых.

Зьнішчыўшы капіталістычную ўласнасьць на фабрыкі і заводы, зьнішчыўшы памешчыцкую ўласнасьць на зямлю, паклаўшы канец залежнасьці ад чужаземных капіталістых, Савецкая ўлада стварыла новыя ўмовы для гаспадарчага разьвіцьця нашай краіны. Зьявілася магчымасьць працаваць не на капіталістых і памешчыкаў, але на сябе. У працоўных зьявілася магчымасьць паляпшаць сваё жыцьцё замест таго, каб даваць нажывацца кучцы эксплёататараў. Адным словам, Кастрычнікавая рэволюцыя стварыла ўмовы для разьвіцьця народнае гаспадаркі на карысьць працоўных. А раней народная гаспадарка вялася ў інтарэсах невялічкай кучкі капіталістых і памешчыкаў.

Калі народная гаспадарка вядзецца **не на карысьць асобных людзей,** а на карысьць усяго грамадзтва, на карысьць усіх працоўных, тады яна называецца **соцыялістычнай гаспадаркай.** Зусім няцікава, **хто** гэтыя асобныя людзі. Калі, напрыклад, селянін сам з сям'ёй працуе на сваёй гаспадарцы і ўсё, што ён здабывае ў гэтай гаспадарцы, належыць яму асабіста і яго сям'і, дык такая гаспадарка не соцыялістычная, але **прыватная.** Калі возьмем другі прыклад—сябрыну. Некалькі сялянскіх гаспадарак аб'ядналіся, склалі сябрыну, працуюць разам. Тое, што здабываюць у сябрынскай гаспадарцы, дзеляць між членамі сябрыны. Гэта таксама гаспадарка **прыватная,** але ўжо не адзінкавая, а **групавая.** Значыць, таксама не соцыялістычная гаспадарка. Соцыялістычная гаспадарка, гэта гаспадарка **грамадзкая.** У ёй усе працуюць разам. Тое, што здабываецца ў такой гаспадарцы, належыць не асобным сябром, ня групам асоб, але **ўсім працоўным.** Адгэтуль павінна быць зразумела, што народную гаспадарку нашай краіны яшчэ нельга назваць соцыялістычнай. Народная гаспадарка—гэта ўся прамысловасьць і ўся сельская гаспадарка. А ў сельскай гаспадарцы ў нас покуль пераважаюць асобныя дробныя **прыватныя** сялянскія гаспадаркі. **Кастрычнікавая рэволюцыя стварыла ўсе ўмовы для пабудовы ў нашай краіне соцыялістычнай гаспадаркі,** г. зн. соцыялістычнай прамысловасьці і соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Працоўныя нашай краіны ўжо будуюць соцыялістычную гаспадарку. Як гэта яны робяць, мы ўбачым потым, у наступных гутарках.

А покуль мы адзначым яшчэ адну вялікую заслугу Кастрычнікавай рэволюцыі.

Яна паказала працоўным усяго сьвету, як ім трэба рабіць, каб пазбыцца прыгнячэньня і эксплёатацыі сваіх і чужых капіталістых.

Вось чаму з усіх канцоў капіталістычнага сьвету да нас ідуць рабочыя дэлегацыі. Вось чаму, прыгледзеўшыся да таго, што мы ўжо зрабілі і што мы робім, яны нам кажуць: «Вы, таварышы, зрабілі добра, мы вас поўнасьцю адабраем. Мы з вамі згодны. Вы

для нас узор таго, як трэба змагацца з капіталістымі ды памешчыкамі».

Вось чаму ў капіталістычных краінах ёсьць і нашы прыяцелі і нашы сьмяртэльныя ворагі, якія нас ненавідзяць лютай ненавісьцю. Ворагі—гэта чужаземныя капіталістыя ды памешчыкі, прыяцелі расійскіх капіталістых і памешчыкаў. Яны ня могуць зьмірыцца з тым, што рабочыя і сяляне выгналі вон іх прыяцеляў, вызвалілі краіну ад залежнасьці саміх замежных капіталістых і памешчыкаў ды яшчэ паказалі працоўным усіх краін, як ім трэба змагацца з эксплёататарамі.

### ПЫТАНЬНІ.

**1. Хто нашы прыяцелі ў капіталістычных краінах і хто нашы ворагі?**

**2. Як адносяцца да нашае краіны працоўныя прыгнечаных краін Усходу?**

**3. Якія заваёвы атрымалі працоўныя нашае краіны дзякуючы Кастрычнікавай рэволюцыі.**

## 2. СУПЯРЭЧНАСЬЦІ, ЯКІЯ МАЮЦЦА Ў НАШАЙ КРАІНЕ.

Да рэволюцыі гаспадарамі ў нашай краіне былі абшарнікі ды капіталістыя. Капіталістыя і памешчыкі мэтаю сваёй чыннасьці ставяць нажыву. Іх мала цікавіць, каму ад гэтай іх нажывы кепска прыходзіцца ці хто ад гэтае нажывы церпіць. Для іх важна, каб нажыва была. І яны нажываліся за кошт рабочых і сялян.

Паглядзімо, напрыклад, як памешчыкі рабавалі сялян. Паглядзеце на мал. стар. 10. Ён паказвае зямляўпарадкаваньне ў старой царскай вёсцы. Гэта плян сялянскай і памешчыцкай зямлі Броніцкага павету Маскоўскай губэрні. Зямля сялян нарэзана так, што кавалкі гэтай зямлі з усіх бакоў акружаны панскаю зямлёю. Куды селянін ні павернецца—ён усюды натыкаецца на памешчыцкую зямлю. Адсюль і ўсе няшчасьці вясковыя. У вёсцы няма свайго выгану—арандуй у абшарніка і плаці грошы. У селяніна няма лесу—за кожнаю палкаю дроў, нават за аглобляю ідзі да памеш-

чыка і плаці грошы. Надзелы ў сялян невялікія—арандуй зямлю ў памешчыкаў і плаці грошы. Выгнаў жывёлу на пашу, а вакол памешчыцкая зямля і ня ўбачыш, як здарыцца патрава,—плаці пану штраф. Сло-



 СЯЛЯНСКІЯ ЗЕМЛІ

 ПРЫВАТНАЎЛАСЬНІЦКІЯ ЗЕМЛІ

вам, няма дзе павярнуцца, каб не плаціць. А плаціць трэба было не аднаму памешчыку, трэ' было плаціць падаткі цару, земскія зборы і г. д.

А дзе селяніну ўзяць грошы? Для гэтага трэба продаць уражай. А калі здабытымі ад продажу грашыма ён расплачваўся з памешчыкам і ўносіў падаткі, дык яму самому даводзілася зусім мала на пражыцьцё. Дзе ўжо тут было думаць паляпшаць гаспадарку! І вялася наша сельская гаспадарка трохпалёўкаю, апрацоўвалася драўлянаю сахою ды худою клячаю. Царскае ды памешчыцкае рабаўніцтва вёскі перашкаджала разьвіцьцю сельскае гаспадаркі, **рабіла яе беднаю і адсталаю.**

Такое становішча ствapалася і ў прамысловасьці. Капіталісты будаваў фабрыку. Трэ' было яе забясьпечыць добрымі машынамі. Добрыя машыны каштуюць дорага. А капіталісты гоніцца не за добрымі машынамі, але за добраю нажываю. Ён меркаваў і вылічаў, што гэту добрую нажыву ён атрымае і бяз добрых ма-

шын. Трэба толькі як мага болей naцiснуць на рабочага. Заплаціць яму меней, прымусіць працаваць больш, дык ён і без машыны або з драўлянаю машынаю зробіць тое, што патрэбна. А калі рабочы не захоча, дык на яго лёгка можна знайсьці ўправу. Паліцыя, жандары, судзьдзі заўсёды рады служыць капіталістаму. Прамысловасьць у нас расла за кошт бязьлітаснай эксплёатацыі рабочых, але была кепска абсталяванай, адсталай, у параўнаньні з замежнаю прамысловасьцю.

Рабочыя ды сяляне, аб’яднаўшыся, прагналі капіталістых і памешчыкаў. Адабралі ад эксплёататараў зямлю, фабрыкі, заводы. Узяліся самі кіраваць гаспадаркаю. Пачалі будаваць гаспадарку пановаму, без эксплёататараў, соцыялістычную гаспадарку.

Для таго, каб народную гаспадарку нашае краіны перабудаваць на соцыялістычны лад, трэба вырашыць дзьве вялікія гаспадарчыя задачы. Папершае, **перамагчы тэхнічную адсталасьць нашае народнае гаспадаркі** і, падругое, перамагчы існуючую раздробленасьць гаспадаркі між паасобнымі прыватнымі асобамі, **стварыць адзіную, грамадзкую, колектыўную гаспадарку.**

Калі мы прыгледзімся да тэхнічнага роўню нашае гаспадаркі, дык мы заўважым, што, побач з вельмі добрымі прадпрыемствамі, якія пабудованы ці пераабсталяваны, галоўным чынам, за Савецкай уладай, ёсьць яшчэ самыя адсталыя гаспадарчыя прадпрыемствы. Возьмем, напрыклад, такую пабудову, як Волхаўстрой. Гэта экелтрычная станцыя, пабудованая ўжо за Савецкай уладай на рацэ Волхаве[1]). Зараз гэта адна станцыя прыводзіць у рух усе фабрыкі ды заводы Ленінграду.

А ня трэба забывацца, што ў Ленінградзе фабрыкі ды заводы не маленькія. Там ёсьць такія заводы, як «Красный Путиловец», які налічвае дзесяткі тысяч рабочых. І вось адна электрычная станцыя прыводзіць у рух усе машыны, якія працуюць на ўсіх фабрыках і

1) У Паўночна-Заходняй вобласьці.

заводах Ленінграду. А рабочых на гэтай станцыі ўсяго некалькі дзесяткаў чалавек. А побач з такім прадпрыемствам мы знойдзем у нашай краіне і саху і дробную майстэрню саматужніка, у якой, капаючыся ручнымі інструмантамі, трацячы шмат цяжкай працы, людзі атрымліваюць нікчэмныя вынікі. Вось і параўнайце: з аднаго боку—аграмадзіна, якая рухае ўсю прамысловасьць у вялізным горадзе, а з другога—саха, з якою селянін нават не арэ, але калупае зямлю. Якая вялікая, проста непараўнальная розьніца! Якая супярэчнасьць у нашай гаспадарцы!

Вось гэту супярэчнасьць мы павінны зьнішчыць. Мы павінны ўсюды, у кожнай частцы, кожнай галіне



Волхаўская гідраэлектрычная станцыя.

нашай народнай гаспадаркі дамагацца высокай тэхнікі. Мы павінны пакрыць нашу краіну сеткаю такіх, як Волхаўстрой, электрычных станцый, мы павінны выцесьніць саху і конны плуг трактарным плугам, замяніць ручныя інструманты машынамі, замяніць ручную працу працаю машыны.

Капіталістыя і памешчыкі гаспадарылі ў нашай краіне пры адсталай тэхніцы. Адсталасьць тэхнікі яны дапаўнялі рабаўніцтвам ды эксплёатацыяй працоўных. На поце і крыві працоўных, якія надрываліся над цяжкаю працаю, будавалі эксплёататары свой дабрабыт.

Рабочыя ды сяляне нашае краіны ня могуць пайсьці па такім шляху. Яны прагналі памешчыкаў і капіталістых, каб палепшыць сваё жыцьцё. Яны прагналі іх, каб бяз іх будаваць соцыялістычную гаспадарку. Таму яны павінны ісьці па такім шляху, каб усю цяжкую працу чалавека перакласьці на машыну. Памешчыкі і капіталістыя нагружалі працаю ды эксплёатавалі людзей, мы павінны нагрузіць працаю машыны і разгрузіць людзей ад цяжкай і немагчымай працы. Інакш кажучы, **мы павінны павышаць тэхнічны ўзровень нашай гаспадаркі,** перамагаць тую адсталасьць, якая дасталася нам у спадчыну ад памешчыкаў і капіталістых.

Гэта адна гаспадарчая задача, якую павінны вырашыць працоўныя нашае краіны. Як яны яе вырашаць, мы ўбачым гэта ў наступных гутарках.

Другая гаспадарчая задача, як мы ўжо казалі, ёсьць у тым, каб нашу народную гаспадарку зрабіць гаспадаркаю адзінаю, колектыўнаю, грамадзкаю.

Для таго, каб было ясьней, што гэта значыць, мы прыгледзімся да таго, якія тыпы гаспадарак маюцца ў нашай краіне.

Возьмем, напрыклад, той завод, які мы ўжо ўспаміналі, «Красный Путиловец». Гэты завод—гігант. Ён выра бляе трактары, турбіны [1]), рэйкі, вагоны, паравозы, рознага роду машыны для прамысловасьці і г. д. Завод абсталёваны дзесяткамі тысяч рознага роду машын. Па заводзкім двары праходзяць увесь час цэлыя цягнікі, якія падвозяць сыравіну, рознага роду матар'ялы, патрэбныя для вытворчасьці. На заводзе працуе дзесятак тысяч рабочых.

Чый гэта завод? Ён належыць Савецкай дзяржаве. Усё, што вырабляе гэты завод, ідзе ў нашу прамысловасьць, у нашу сельскую гаспадарку, на нашы чыгункі. Увесь прыбытак, які атрымлівае завод, ідзе часткаю на яго пашырэньне і палепшаньне, часткаю на патрэбы Савецкай дзяржавы, г. зн. на патрэбы ўсіх

[1]) Турбінаю называецца рухавік, які прыводзіцца ў рух вадою або параю. Адсюль і падзел турбін на вадзяныя турбіны і паравыя турбіны.

працоўных, на патрэбы ўсіх рабочых і сялян. Такім чынам, карысьць ад гэтага заводу атрымліваем мы ўсе, ён працуе на карысьць усяго грамадзтва. Таму мы называем яго **соцыялістычным.**

Вось такая амаль ўся наша прамысловасьць.

Мы ня кажам **уся,** а кажам **амаль уся** прамысловасьць таму, што ў нашай краіне можна спаткаць і другі тып заводу або фабрыкі.

Вось у Маскве, напрыклад, завод, называецца ён «Шарико-подшипник». Выробляе шарыкі для падшыпнікаў. Хто бачыў, як разьбіраюць вэлёцыпэднае, напрыклад, калясо, той бачыў гэтыя шарыкі. Гэты завод належыць Савецкай дзяржаве, але здадзены ў арэнду прыватніку. Дзяржава здае ў арэнду некаторы (вельмі нязначны) лік фабрык і заводаў, таму што ў яе яшчэ ня старчыць сродкаў, каб пусьціць іх у ход. Гэтая прыватная асоба (арандатар) закупляе машыны, закупляе матар'ялы, паліва ды іншыя прадметы, патрэбныя для вытворчасьці, наймае рабочых і пушчае завод у ход. Усё, што выробляецца на заводзе, належыць толькі яму. Ён продае тое, што выраблена, расплачваецца з рабочымі, **прыбытак кладзе сабе ў кішэню.** Запытаньне, для чаго ён вядзе вытворчасьць? Ясна, што толькі для сваёй нажывы, толькі для прыбытку.

Гэта ўжо другі гаспадарчы тып прадпрыемства, не падобны да тых, пра якіх мы казалі вышэй. Гэта тып гаспадаркі **капіталістычнай,** г. зн. такой гаспадаркі, якая вядзецца наёмнай працаю для прыбытку. Да таго-ж тыпу належыць і кулацкая гаспадарка на вёсцы. Кулак таксама вядзе сваю гаспадарку для нажывы, прычым нажываецца, як і гаспадар «Шарико-подшипника», за чужы кошт, за кошт эксплёатацыі. Кулак вядзе гаспадарку наёмнаю працаю, часта трымае крамку, гандлюе, пазычае грошы сваім аднавяскоўцам, а за гэта бярэ процанты, прымушае іх працаваць на сябе, бярэ падрады на пабудоўку, наймае рабочых і эксплёатуе іх і г. д.,—гэта тып гаспадаркі капіталістычнай, галоўны інтарэс якой—нажыва.

А побач з гэтым мы бачым маленькую сялянскую гаспадарку, якая мае некалькі дзесяцін зямлі. На гэтай

гаспадарцы працуе селянін з сваёю сям'ёю. Працуе з дапамогаю сахі або плугу, сярпа, касы, сякеры і г. д. Адным словам, працуе рукамі. Тое, што ён зьбірае, **належыць толькі яму,** а ня ўсім. Прыбытак, які ён атрымлівае ад продажу вытвараных продуктаў, таксама належыць **толькі яму.** Ён нікога не наймае, нікога не эксплёатуе, абыходзіцца **сваймі** сіламі.

З такіх гаспадарак складаецца амаль уся наша сельская гаспадарка, г. зн. яна распадаецца на паасобныя, **раздробненыя** прыватныя працоўныя гаспадаркі.

Ужо з гэтых прыкладаў можна бачыць, што ў нашай краіне спатыкаецца некалькі розных тыпаў гаспадарак, якія надта адрозьніваюцца адна ад аднэй. Ленін налічае ў нашай краіне пяць розных тыпаў гаспадарак, або гаспадарчых укладаў. **Соцыялістычны тып** гаспадаркі (напрыклад: «Красный Путиловец»)—вось такая амаль уся наша прамысловасьць. **Дзяржаўна-капіталістычны тып** (напрыклад: «Шарико-подшипник»)—фабрыка або завод належаць дзяржаве, але зданы ў арэнду капіталістаму, таму што ў дзяржавы яшчэ ня старчыць сіл і сродкаў згрупаваць у сваіх руках усю прамысловасьць; такога тыпу гаспадарак у нашай краіне ня многа. Потым, **прыватна-капіталістычная гаспадарка.** Да такога тыпу належаць, напрыклад, усе кулацкія гаспадаркі, рознага роду майстэрні, якія належаць прыватным асобам, але якія працуюць пры дапамозе наёмнай працы і г. д. Далей ідзе тып **проста-таварнай гаспадаркі** (напрыклад, сялянская гаспадарка, якая не карыстаецца наёмнай працай). Таварнаю гэта гаспадарка называецца таму, што яна зьвязана з рынкам, частку сваіх продуктаў продае, на здабытыя грошы купляе патрэбныя для яе прамысловыя тавары. І, нарэшце, **натуральная, або патрыархальная гаспадарка.** Гэты тып гаспадаркі, надзвычайна адсталай, спатыкаецца ў самых глухіх раёнах нашае краіны. Гэта гаспадарка замкнутая, з рынкам ня зьвязаная, якая нічога ня продае і нічога ня купляе, жыве ўласнымі прыватнымі продуктамі.

Усе гэтыя розныя тыпы гаспадарак ці гаспадарчых укладаў перапляліся з гаспадарчым жыцьцём нашае

краіны, ствараючы вялікую стракатасьць і ўскладняючы задачы працоўных па стварэньні адзінай колектыўнай грамадзкай гаспадаркі.

Калі мы зьвернемся ад гаспадаркі да другіх галін нашага жыцьця, напрыклад, да пісьменнасьці ды культурнасьці насельніцтва, то і тут мы ўбачым вялікую розьніцу, вялікія супярэчнасьці. Мы знойдзем у нашай краіне выдатных вучаных, якія вядомы ўсяму сьвету, і ў той-жа час знойдзем няпісьменных ды цёмных людзей, якія думаюць, што зямля трымаецца на трох кітох, а ў лесе жыве вядзьмак. Калі мы возьмем адну толькі моладзь нашае краіны, дык і тут мы знойдзем вялікія супярэчнасьці. Тысячы маладых рабочых і сялян вучацца ў нашых вышэйшых навучальных установах, сотні тысяч вучацца ў школах другой ступені і рабфаках, а ў той-жа час у нас налічаецца больш шасьці мільёнаў зусім няпісьменных маладых рабочых і сялян.

І калі мы параўнаем наогул усю нашу прамысловасьць і ўсю нашу сельскую гаспадарку, параўнаем горад з вёскаю, дык убачым перавагу ня ў бок вёскі. Гаспадарка ў гарадох большай часткаю абсталявана машынамі, гарады чысьцейшыя і больш у іх парадку, як на вёсцы, яны карыстаюцца вадаправодамі, электрычным сьвятлом, вуліцы ў гарадох менш гразкія, чымся на вёсцы, насельніцтва больш пісьменнае, больш культурнае, гаспадарка гарадзкая пастаўлена лепш. На вёсцы пераважае ручная праца, вёска дрэнна ўпарадкавана, часта сьвіньні заходзяць у хату, часта вёска зусім ня ведае, што такое электрычнасьць, насельніцтва менш пісьменнае, больш някультурнае, гаспадарка адсталая і вядзецца горай. Паміж нашым горадам і вёскаю, паміж прамысловасьцю і сельскаю гаспадаркаю—вялікая розьніца.

І гэта розьніца зноў-ткі—спадчына нядобрых старых часоў. Да рэволюцыі наша краіна была краінаю капіталістычнаю, а ў кожнай капіталістычнай краіне існуе супярэчнасьць між горадам і вёскаю. **У капіталістычных краінах** вёска зьяўляецца для **капіталістычнага** гораду сталаю крыніцаю эксплёатацыі. Вёска дае капіталістычнаму гораду рабочую сілу, якую капіталі-

стыя эксплёатуюць. Вёску рабуюць капіталістыя, купляючы сыравіну, продаючы тавары, даючы крэдыт і г. д. Эксплёатуючы, рабуючы і разбураючы вёску, капіталістыя не даюць ёй разьвівацца, не даюць перамагаць адсталасьць. Ды яны і не зацікаўлены ў разьвіцьці вёскі. Бо разьвіцьцё вёскі толькі перашкаджала-б іхнай эксплёатацыі сялянства.

**ПЫТАНЬНІ.**

1. **Якія тыпы гаспадарчых укладаў існуюць у нашай краіне?**
2. **Чым тлумачыцца адсталасьць нашай сельскай гаспадаркі?**
3. **Якая розьніца між горадам і вёскаю і чым гэта розьніца тлумачыцца?**

## 3. НАШЫ ЗАДАЧЫ.

Памешчыкаў і капіталістых мы прагналі з нашае краіны, адабралі ад іх фабрыкі, заводы, зямлю і дзяржаўную ўладу. У спадчыну нам дасталася вялікая гаспадарка, але кепска пабудаваная. Вёска і яе гаспадарка пабудованы горш, чымся горад і яго гаспадарка.

Паўстае пытаньне, як-жа мы павінны самі без капіталістых і памешчыкаў гаспадарыць і будаваць далей **сваё жыцьцё?** Ці павінны мы раўняцца па гораду ці па вёсцы? Ці павінны мы ўсю нашу гаспадарку будаваць на такі ўзор, як, напрыклад, «Красный Путиловец», Волхаўстрой і г. д., ці мы павінны яе будаваць паводле ўзору паасобных сялянскіх працоўных гаспадарак, якія працуюць сахою, сярпом, касою і сякераю? Ці павінны мы ў адносінах культурнасьці, пісьменнасьці раўняцца на культуру гораду, ці, наадварот, браць прыклад з культуры вёскі?

Зразумела, што ўсякі кожны разумны чалавек скажа, што мы павінны раўняцца па нашай соцыялістычнай прамысловасьці, г. зн. імкнуцца да разьвіцьця машынна-грамадзкай гаспадаркі; мы павінны раўняцца не па няпісьменнаму, цёмнаму і някультурнаму чалавеку, але, наадварот, імкнуцца да пісьменнасьці і культурнасьці. Ясна, што мы павінны трымаць курс не на тое, каб кожнаму, як таракану, залезьці ў сваю шчыліну, замкнуцца ў сваёй гаспадарцы, а на тое, каб вы-

ходзіць на шырокі шлях грамадзкай гаспадаркі. І, нарэшце, павінны сачыць за тым, каб усё, што робіцца ў нашай краіне, рабілася-б на карысьць працоўных. Трэба дамагацца таго, каб у нашай краіне не знайшлося месца ні кулацтву, ні такім капіталістым, як гаспадар «Шарико-подшипника». А шлях да гэтага адзін—пабудова соцыялістычнай гаспадаркі, г. зн. гаспадаркі грамадзкай, колектыўнай.

Мы будуем гаспадарку на карысьць працоўным. У нашай гаспадарцы, значыць, не павінна быць ні багатых, ні бедных, павінны быць роўныя людзі. А гэтага можна дасягнуць толькі ў колектыўнай грамадзкай соцыялістычнай народнай гаспадарцы.

З гэтага выцякаюць і нашы задачы.

Мы павінны павесьці барацьбу з тэхнічнаю адсталасьцю нашае прамысловасьці і сельскае гаспадаркі. Гэта значыць, што і ў прамысловасьці і ў сельскай гаспадарцы мы павінны кідаць ручную працу і пераходзіць да працы машыновай. Прычым машыны заводзіць ня дрэнныя, але самыя лепшыя, шырака скарыстоўваць электрычнасьць і ў горадзе і на вёсцы. Гэта падніме нашу гаспадарку, параўняе горад з вёскаю, таму што і горад і вёска будуць мець гаспадарку перадавую, якая працаваць будзе машынамі.

Але мы павінны паляпшаць нашу гаспадарку так, каб карысьць ад гэтага цалкам і поўнасьцю даставалася працоўным. Значыць, мы павінны паднімаць гаспадарку, выцясьняць усе капіталістычныя элемэнты з нашай гаспадаркі,—капіталістага ў горадзе і кулака на вёсцы. Мы павінны дамагацца аб'яднаньня дробных, распыленых бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак у гаспадаркі буйныя, грамадзкія. Інакш нам ня ўдасца завесьці машыны ў сельскай гаспадарцы. Дробная гаспадарка ня можа працаваць машынамі. Машыне ў дробнай гаспадарцы амаль няма чаго рабіць. Апрача гэтага, раздробненыя гаспадаркі маюць на ўвазе прыватныя інтарэсы, а не грамадзкія. А буйная гаспадарка, грамадзкая, задавальняе і прыватны і грамадзкі інтарэс. Значыць, нашаю задачаю зьяўляецца барацьба з капіталістым і кулаком шляхам процістаўленьня

іхным гаспадаркам—гаспадарак буйных, аб'яднаных, грамадзкіх, працуючых машынамі.

Нарэшце, мы павінны павялічаць культурны ўзровень працоўных мас. Цёмнаму чалавеку ні то што машыну—добрага інструманту даверыць нельга,—ён яго сапсуе. Нельга, значыць, паляпшаць гаспадарку, пераходзіць да машыновай працы, калі насельніцтва някультурнае. І, з другога боку, цёмны, няпісьменны чалавек ня можа быць добрым барацьбітом. Яго ўраз і кулак і капіталісты ашукае. Толькі добрапісьменны, культурны рабочы і селянін здолее весьці сваю працу так, што яна будзеісьці на карысьць працоўным.

Трэба памятаць, што соцыялістычная гаспадарка гатовенькай нам адкуль-небудзь ня зваліцца. Будаваць яе павінны самі працоўныя нашай краіны, а будаўніцтва ідзе з посьпехам толькі тады, калі будаўнікі працуюць дружна, а не распаўзаюцца хто-куды. А для нас дружная праца—гэта ўсё. Нас акружаюць капіталістычныя краіны, гаспадары якіх нас ненавідзяць. Дзеля гэтага важнейшаю нашаю задачаю зьяўляецца ўмацаваньне саюзу працоўных нашае краіны, **саюзу рабочае клясы і сялянскае беднаты з сярэднім сялянствам.**

Саюз рабочай клясы з сялянствам павінен умацоўвацца на гаспадарчай аснове. Працоўныя нашай краіны прагналі эксплёататараў, каб палепшыць умовы свайго жыцьця. Дзеля гэтага рост нашай гаспадаркі, яе палепшаньне павінны ісьці побач з палепшаньнем жыцьця рабочых, павышэньнем іх заработнае платы і адначасна павышэньнем узроўню жыцьця сялянскіх мас беднякоў і серанякоў. Трэба, каб працоўныя нашай краіны на справе адчувалі, што без памешчыкаў і капіталістых, па меры росту соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, жыцьцё становіцца лепш і лягчэй.

Разьвіваючы нашу прамысловасьць і нашу сельскую гаспадарку, павышаючы іх тэхнічны ўзровень, пераходзячы ад ручной працы да машыновай, выцясьняючы капіталістага і кулака, яднаючы праз коопэра-

Дзяржаўная
бібліятэка БССР
імя У. І. Леніна

цыю паасобныя сялянскія гаспадаркі ў буйныя, грамадзкія, павышаючы культурны ўзровень працоўных мас і паляпшаючы іх жыцьцё, умацоўваючы саюз рабочай клясы з сялянствам,—**мы будуем соцыялізм у нашай краіне.**

## ПЫТАНЬНІ.

**1. Якія нашы асноўныя задачы ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве?**

**2. Чаму мы павінны весьці барацьбу з тэхнічнаю адсталасьцю нашае гаспадаркі?**

**3. Чаму мы павінны паднімаць культурны ўзровень насельніцтва?**

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАНЬНІ.

1. Выявеце, што дала Кастрычнікавая рэволюцыя вашай вёсцы.
2. Даведайцеся, колькі ў вашай вёсцы няпісьменных, і добра падумайце, як іх няпісьменнасьць зьнішчыць.
3. Азнаёмцеся з працаю сельска-гаспадарчых коопэратываў вашага раёну і абгаварэце, ці выгадней колектыўная гаспадарка ў параўнаньні з прыватнаю.

---

ГУТАРКА ДРУГАЯ.

## НАРОДНАЯ ГАСПАДАРКА НАШАЕ КРАіНЫ.

### 1. НАША СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА.

У кожнай краіне, у тым ліку і ў нашым СССР, народная гаспадарка складаецца з дзьвюх вялікіх частак—прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Гэта зна-




чыць, што вялізная колькасьць насельніцтва нашай краіны працуе або ў прамысловасьці, або ў сельскай гаспадарцы. Усяго ў СССР насельніцтва налічаецца 145 мільёнаў. З іх 119 мільёнаў жыве на вёсцы, г. зн. большая частка займаецца сельскай гаспадаркаю; 26 мільёнаў жыве ў гарадох. Значная частка гэтага га-

радзкога насельніцтва—рабочыя са сваімі сем'ямі. Такім чынам, у сельскай гаспадарцы СССР занята шмат больш людзей, чымся ў прамысловасьці.

Аб чым яшчэ кажуць гэтыя лічбы? Яны кажуць аб тым, што ў народнай гаспадарцы СССР сельская гаспадарка займае зараз большае месца, як прамысловасьць. Або, як кажуць, у нашай краіне пераважае сельская гаспадарка. Тое, што сельская гаспадарка пераважае над прамысловасьцю, надае асаблівы харакатар усёй нашай народнай гаспадарцы. Мы часта кажам, што наша краіна **адсталая.** Што значыць адсталая краіна? Гэта значыць, што перш за ўсё тое, што ў краіне траціцца шмат працы, а вынікі гэтай працы параўнальна невялікія. Гэта значыць, што калі ў краінах неадсталых траціцца столькі-ж працы, колькі яе трацім мы, дык там атрымліваюць вынікі **шмат большыя,** чымся атрымліваюцца ў нас. У СССР, як кажуць звычайна, праца мала продукцыйная, г. зн. дае невялікія вынікі.

Чаму праца ў нас мала продукцыйная? Гэта таму, што насельніцтва малапісьменнае, таму, што праца ў нас кепска організавана, мала ўжываецца машына, а калі машына і ўжываецца, дык не заўсёды з поўнаю нагрузкаю. Дзе-ж знайсьці прычыну нашай адсталасьці? Яе трэба шукаць, галоўным чынам, у сельскай гаспадарцы. Сельская гаспадарка ў нас пераважае і ў той-жа час яна страшэнна адстала. Праца ў нашай сельскай гаспадарцы дае малыя вынікі. Возьмем хоцьякую галіну (частку) нашай сельскай гаспадаркі: паляводзтва, лугаводзтва, жывёлаводзтва, малочную гаспадарку і г. д., усюды мы ўбачым адно і тое-ж: людзі выбіваюцца з сіл, працуюць шмат, а вынікі маленькія. Вось тут-та наша адсталасьць і глядзіць на нас.

Наша сельская гаспадарка стаіць на нізкім узроўні. Яна дае прыбытак часта меншы, чымся магла-б даць. Нязначная прыбытковасьць сельскай гаспадаркі тлумачыцца тым, што сяляне нашай краіны вядуць гаспадарку ў большасьці выпадкаў пастарыкоўску, пастараму. Поле ўрабляюць сахою або дрэнным плугам; угнойваюць зямлю толькі гноем, дый то ў малой

колькасьці; з траў сеюць траха не адну толькі канюшыну, дый то ня ўсе, а толькі адзінкі; жывёлу трымаюць маласільную, дрэнную, якая не дае ні мяса, ні малака, а толькі гной, дый таго мала, і г. д.

Вельмі часта ад сялян можна пачуць такія словы: Вось вы кажаце, што мы гаспадарку дрэнна вядзем, падзедаўску, пастарому. Гэта правільна. Але мы **ня можам** яе весьці лепей. Для таго, каб гаспадарку паставіць добра, трэба затраціць вялікія грошы: купіць добрыя прылады, набыць добрую жывёлу, купіць штучнае ўгнаеньне ды інш. А грошай у нас няма. Раней царскі ўрад нас рабаваў, рабаваў памешчык, рабаваў купец. Ледзь-ледзь на пражыцьцё аставалася. І толькі цяпер вось мы памаленьку становімся на ногі. А пасьля зьбяром грошай, дапаможа савецкая ўлада, вось тады мы і пачнем весьці гаспадарку лепш.

Ці правільны такія размовы, ці не? І правільны і няправільны. Правільна кажа селянін, што за царом яго рабавалі ўсе: і кулак, і купец, і памешчык, і ўрад. Правільна, што яны пакідалі большасьці сялянам стольскі, каб той толькі не памёр з голаду. Адным толькі памешчыкам сяляне плацілі кожны год за арэнду зямлі 500 мільёнаў руб. Гэта правільна. Але няправільна, калі селянін зараз разважае «на шчасьце». Мо' як-небудзь зьбяру грошай, а мо' свая, савецкая ўлада дапаможа і г. д. Улада дапаможа—гэта правільна, але самому сядзець і чакаць—гэта кепска. Усякаму хоць крыху пісьменнаму селяніну добра вядома, што шмат чаго можна зрабіць пры дапамозе тых сродкаў, якія ў яго ўжо маюцца. Вядома, што каб зяблівая ворка праведзена была па ўсяму СССР, дык гэта дало-б сялянству на дзесяткі мільёнаў пудоў хлеба больш, чым зараз. Вядома, што звычайная ворка (з лёгкім падсевам) сенажаці з купінамі зьнішчае купіны, мураўейнікі, мох і дае значна (удвая-ўтрая) большы ўраджай травы. Вядома, што калі паіць зімою каровы не халоднаю, але цёплаю вадою, дык і гэта адно значна павышае ўдой. Вядома, што калі даваць карове тойжа самы харч, а іншы раз і больш танны, але даваць правільна, дык удойнасьць значна павялічаецца. Вя-

дома, што трымаць сьвіньню ў агароджаным хляўчуку шмат выгадней, чым трымаць «бадзячую» сьвіньню. Можна было-б бясконца падаваць падобныя прыклады, якія даводзяць, што ўвядзеньне ў сялянскую гаспадарку такіх простых, не патрабуючых ніякіх затрат палепшаньняў прынесла-б сялянам СССР павялічэньне прыбытку на дзесяткі і сотні мільёнаў руб. Вядома, гэтыя дзесяткі і сотні мільёнаў руб., разьмеркаваныя на 20 мільёнаў сялянскіх гаспадарак, дадуць зусім невялічкую суму на паасобную гаспадарку,—прыпадзе рублёў 10-20 на гаспадарку. На гэтыя грошы асабліва не разьвернешся, гаспадарку не асабліва-та і палепшыш.

Але гэта толькі ў тым выпадку, калі сядзець, як таракан у сваёй шчыліне. На 10-20 руб. гаспадарку не палепшыць, калі нават да гэтага савецкая ўлада адпусьціць пазыку ў два разы большую. І гэта таму, што аднаму паднімаць і разьвіваць гаспадарку нельга. Гэта толькі ў казках апавядаецца, як якому-небудзь чалавеку «шчасьце собіла». А на справе «шчасьце» ня собіць, калі не затраціць адразу вялікую суму грошай на сельска-гаспадарчыя прылады і на жывёлу, і на ўгнаеньне, і на будынкі, і г. д. А затраціць вялікую суму ні бядняцкая, ні серадняцкая гаспадарка ніколі ня зможа. Таму **для іх вывад адзін:** разам паляпшаць і разьвіваць гаспадарку. Трэба аб'яднацца ў коопэратывы. Праз коопэрацыю паднімаць сельскую гаспадарку, паднімаць ровень свайго жыцьця. Сотня мільёнаў руб., разьмеркаваная між 20-25 мільёнамі сялянскіх гаспадарак, глупства. Гэта 4-5 руб. на гаспадарку. А гэтыя 4-5 руб. з гаспадаркі, **пушчаныя ў коопэрацыйны зварот,** дадуць для савецкай вёскі 30.000 трактараў. Адзін трактар можа абслужыць 25-30 сялянскіх гаспадарак. Вось гэта сапраўдная дапамога вясковай гаспадарцы. А калі будзеш адзін—гэтага цяжка дасягнуць.

Колектыўная праца сялян, праца праз коопэрацыю, праца ў сябрынах, у комунах—ня толькі неабходны шлях для разьвіцьця сельскай гаспадаркі, але зусім магчымы і якога можна дасягнуць, дзеля таго што гэта

шлях просты. І там, дзе за справу бяруцца сур'ёзна і моцна, там яна і ідзе добра. Вось, напрыклад, коопэратыў у сяле Багушэўках, Барысаўскага р., Менскай акругі. Яшчэ ў 1924 г. коопэратыў ледзь-ледзь трымаўся. Думалі, што вось-вось зачыніцца. А пасьля пастанавілі ўзяцца за яго. Было ў коопэратыве 200 пайшчыкаў— за год прыбавілася яшчэ 500. Сяляне дружна ўзяліся за коопэратыў. Было ў коопэратыве ўласнага капіталу 180 руб.—стала 6000 руб. Зварот падняўся да 8000 руб. у месяц. Коопэратыў мае цяпер сваю смалярню, якая вырабляе шпігінар, вугаль і коламазь. Коопэратыў мае свой вадзяны млын, маслабойку, мае свой злучны пункт для буйнай жывёлы і сьвіней, мае збожжа-ачышчальны пункт, сартуе насеньне для пасеву, збывае продукты сялянскіх гаспадарак і г. д. Цяпер коопэратыў зьбіраецца пабудаваць электрычную станцыю. Вось гэта значыць паднімаць сельскую гаспадарку агулам! Адзін нічога гэтага ня зробіш.

А вось комуна «Пераправинский юрт» Майкопскай акругі. Будавалася на голым месцы. Вакол ніводнага двара. Большасьць комунараў—бедната. Укапалі слуп сярод поля і пастанавілі вакол слупа будавацца. За пару гадоў ужо сталі на ногі. Засеялі вялікую плошчу збожжа, пабудавалі будынкі, набылі вопратку. А ў 1920 г. комуна была зьнішчана. Атрад белагвардзейцаў на чале з Хвосьцікавым дашчэнту ababраў, зруйнаваў і разагнаў комунараў. Увосень 1920 г. Чырвоная армія прагнала бела-бандытаў, і комунары вярнуліся на руіны свайго гнязда. Узяліся за справу. А тут падасьпеў нэп, і частка больш заможных адышла, забраўшы сваю маёмасьць, і комуна зноў загаравала. Але комунары не сумавалі. Цьвёрда ведаючы, што па адным нічога ня зробіш, яны панатужыліся. І цяпер комуна мае свой млын, свой трактар, свае сельска-гаспадарчыя прылады, а там, дзе быў укопаны калісьці слуп, цяпер пабудавана школа і хата-чытальня. Вось вынікі колектыўнай працы. Ніводная паасобная гаспадарка такіх удараў ня вытрымала-б. Кожны гаспадар-адзіночка стаў-бы жабраком, а комуна пасьля кожнага ўдару станавілася яшчэ мацнейшай: гаспа-

дарку вядзе культурна і жыцьцё комунараў з кожным годам паляпшаецца.

А вось селянін, які паляпшаў гаспадарку адзін. Некалькі гадоў таму назад адзін селянін Валакаламскага павету скардзіўся, кажучы: «Які ад зямлі прыбытак! Уцякаць ад яе трэба. Змучыла яна мужыка ўшчэнт. Усю кроў высмактала. Ураджаяў ад яе няма, а плаціць за яе прыходзіцца шмат... Ці шмат намалоціш з гэтай дзесяціны? Стэп у нас, ці што, які? Гліна ўсё, для цэглы толькі і прыгодна. У самы лепшы год больш як саматрэць ня прыходзіць... Хоць сябе вазьму: з дзьвюх душ у засек 40 пудоў усыпаў. За іх то 30 рублёў падатку і аддай. За ўсю працу якая-небудзь дзесятка і прыдзецца. І за гэтыя самыя 10 рублёў уся сям'я цэлы год каля зямлі блытаецца».

А цяпер сяляне Валакаламскага павету, шырака разгарнуўшы працу сельска-гаспадарчай коопэрацыі, лічацца амаль ня лепшымі сельскімі гаспадарамі ў СССР. Вось якія магчымасьці для сялян адкрывае коопэрацыйны шлях будаўніцтва сельскай гаспадаркі.

Утвораныя сялянамі колектыўныя гаспадаркі маюць магчымасьць набыць і скарыстаць складаныя і ўдасканаленыя машыны і прылады, якія дробнай сельскай гаспадарцы набыць нельга. І вынікі атрымліваюцца вялікія.

Пры жаданьні і настойнасьці, такім чынам, кожны селянін можа, не адкладаючы справы, пачаць паляпшэньне гаспадаркі, калі ён пакіне спадзявацца «на шчасьце», а разам з другімі, праз коопэрацыю, возьмецца за справу. А палепшаньне і ўздым сельскай гаспадаркі надта патрэбны. Бяз гэтага мы не пераможам нашай адсталасьці, не пераможам нашай беднасьці, ня вылезем канчаткова з нашага жабрацтва. І гэта таму, што сельская гаспадарка мае вялікае значэньне ў народнай гаспадарцы краіны. Сельская гаспадарка дастаўляе сыравіну для прамысловасьці. Лён, пянька, базоўна, тытунь, бульба, буракі і г. д.—усё гэта ідзе на ільняныя, канатныя, бавоўняна-папяровыя і іншыя фабрыкі. Сельская гаспадарка дастаўляе і харчы для ра-

бочых, якія працуюць на гэтых фабрыках. Калі сельская гаспадарка будзе адсталай, сыравіны для фабрык ды заводаў яна ня зможа даць колькі трэба. А гэта значыць, што прамысловасьць з-за недахвату сыравіны ня будзе разьвівацца: ня будуць будавацца новыя фабрыкі і заводы, затрымка ў разьвіцьці прамысловасьці больна вытне і па сялянству. На вёсцы зараз шмат свабодных рабочых рук, якія-б пайшлі куды-небудзь на работу, але ісьці няма куды. Гэтых свабодных рук налічаецца 7 мільёнаў. Прычына гэтага лішку рабочых рук ёсьць ў раздробленасьці нашай сельскай гаспадаркі. Сям'я вялікая, а гаспадарка дробная. Вялікай колькасьці работнікаў у такой маленькай гаспадарцы рабіць няма чаго. Адгэтуль—вольныя рукі, лішняе насельніцтва. Наша вёска, як кажуць, перанаселена. Значная частка гэтага лішку вольнага вясковага насельніцтва пры хуткім росьце прамысловасьці знайшла-б сабе работу на новых фабрыках і заводах. А гэтыя новыя фабрыкі ды заводы могуць зьявіцца толькі пры належна хуткім росьце сельскай гаспадаркі. У росьце прамысловасьці селянін зацікаўлены яшчэ і таму, што гэты рост дае яму магчымасьць бязупынна паляпшаць гаспадарку. Калі прамысловасьць не працуе або працуе слаба, дык селянін не атрымае ў час ні плуга, ні касы, ні цьвіка, ні малатка і г. д. А гэта абазначае, што і яго гаспадарка ня будзе расьці.

Але тут трэба адзначыць, што гэты рост сельскай гаспадаркі павінен ісьці ў пэўным кірунку. Кепска было-б, калі-б прамысловасьць патрабавала буракоў, а сяляне многа разводзілі-б рэпы і прапанавалі потым яе нашым фабрыкам ды заводам замест буракоў. Такім чынам мы далёка не ад'ехалі-б. Важна, каб рост сельскай гаспадаркі адбываўся за **кошт росту яе таварнай часткі.** Прасьцей кажучы, важна, каб сяляне павялічалі вытворчасьць такіх продуктаў, якія-б знаходзілі сабе збыт на нашых фабрыках і заводах. Тыя продукты сельскай гаспадаркі, якія зьяўляюцца «хадавым таварам», павінны атрымаць перавагу ў сельска-гаспадарчай вытворчасьці. А гэта—рознага роду тэхнічныя культуры: бавоўна, каноплі, буракі і г. д.; асобныя па-

роды скаціны: авечкі з тонкаю воўнай, скорасьпелыя сьвіньні і г. д.

Зробім цяпер кароткі падрахунак усяму таму, што мы гаварылі. Мы высьнілі, што сельская гаспадарка мае вялікае значэньне для народнай гаспадаркі краіны. Але гэта сельская гаспадарка ў нашай краіне надта адсталая. Яна дае малы прыбытак пры надта вялікіх стратах працы. Тымчасам, кожны асобны селянін, ня робячы вялікіх выдаткаў, можа значна палепшыць сваю гаспадарку, калі ён гэта будзе рабіць праз коопэрацыю, праз колектывы. Калі гэтага ня будзе, дык наша краіна з адсталасьці і ня вылезе. Паляпшаючы сельскую гаспадарку, сяляне будуць ня толькі паляпшаць сваё жыцьцё, але і дапамогуць хуткаму разьвіцьцю прамысловасьці. Разьвіцьцё прамысловасьці выгадна для селяніна таму, што яно забясьпечвае бязупынны ўздым сельскай гаспадаркі і зьмяншае перанаселенасьць вёскі. Рост сельскай гаспадаркі павінен быць у першую чаргу ростам тэй часткі сельскагаспадарчых продуктаў, якія патрэбны для нашай прамысловасьці.

## ПЫТАНЬНІ.

**1. У чым выяўляецца адсталасьць нашай сельскай гаспадаркі?**

**2. Які ўплыў робіць адсталасьць сельскай гаспадаркі на ўсю народную гаспадарку нашай краіны?**

**3. Чаму ня трэба вялікіх страт для таго, каб пачаць палепшаньне сельскай гаспадаркі?**

**4. Якое значэньне мае сельская гаспадарка для разьвіцьця прамысловасьці?**

**5. Чым тлумачыцца аграрная перанаселенасьць (перанаселенасьць вёскі) у нашай краіне?**

**6. Чаму ў разьвіцьці прамысловасьці зацікаўлена сельская гаспадарка?**

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАНЬНІ.

1. Абгаварэце колектыўна наступнае пытаньне: ці паменшылася-б перанаселенасьць вёскі, калі-б распыленыя дробныя сялянскія гаспадаркі аб'ядналіся ў буйныя колектыўныя гаспадаркі?

2. Абгаварэце, якія палепшаньні ў гаспадарцы вашай вёскі магчыма было-б завесьці, ня робячы вялікіх выдаткаў.

3. Папрасеце прадстаўніка райвыканкому зрабіць вам даклад аб становішчы сельскай гаспадаркі ў вашым раёне.

## 2. ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ СССР.

Другая частка народнае гаспадаркі нашай краіны—прамысловасьць.

Прамысловасьцю ва ўсіх краінах уладаюць і распараджаюцца капіталістыя. Тое-ж самае было да рэволюцыі і ў нашай краіне.

З часу Кастрычнікавае рэволюцыі прамысловасьць у нашай краіне належыць пролетарскай дзяржаве, вось чаму яна і называецца ў нас дзяржаўнай прамысловасьцю (скарочана дзяржпрамысловасьць).

Прамысловасьць мае вялізнае значэньне для ўсёй народнай гаспадаркі краіны. У народнай гаспадарцы буйная, абсталяваная машынамі, добра організаваная прамысловасьць займае рашаючае становішча, адыгрывае камандную ролю. Сіла прамысловасьці ёсьць у тым, што яна складаецца ў пераважнасьці з буйных і магутных гаспадарчых прадпрыемстваў. А буйныя і магутныя гаспадаркі пры наяўнасьці рынку і праз рынак камандуюць над дробнымі гаспадаркамі і падпарадкуюць іх сабе.

Чаму-ж буйная гаспадарка падпарадкуе сабе дробную? А вось чаму. Буйная гаспадарка працуе машынамі, а машыновая праца шмат выгаднейшая за ручную. Касец, нават самы лепшы, ня можа скасіць у дзень больш 800 квадр. саж. травы, а сенакасілкай можна скасіць 6000 квадр. саж. травы, г. зн. больш, чым у 7 раз. 10 трактараў узьнімаюць за 10 дзён 370 дзесяцін цаліны. Для гэтай працы патрабуецца 1000 коняй, 500 рабочых і 500 парных плугоў. Сялянка на самапрадцы можа спрасьці за дзень 1 фунт прадзіва, а работніца на фабрыцы з дапамогаю машыны выпрадае за дзень 50 пудоў прадзіва (у 2000 раз болей). Малатарня, якая працуе з дапамогай трактара, дае ў гадзіну 200 пудоў зерня. Каб за гадзіну намалаціць 200 пудоў зерня, трэба паставіць на работу 150 чалавек. Такім чынам, пры малой затраце працы (дагляд машыны патрабуе 1 чалавека) пры машыновай рабоце атрымліваецца ў дзесяткі, сотні, а то і ў тысячы разоў большы вынік, чым пры ручной. Вось у чым галоўная сіла прамысловасьці.

Сілу буйнай машыновай гаспадаркі адчувае ня толькі гаспадарка дробная, але і буйная гаспадарка, якая працуе не машынамі, але рукамі. Возьмем прыклад з трактарнай і ручной малацьбой. Адна гаспадарка малоціць жыта трактарам. Яму патрэбна самае большае 8 чалавек. Адзін каля трактара, другі каля малатарні, два падаюць снапы, два адкідаюць салому і два адграбаюць зерне ад малатарні. За адну гадзіну намалочана 200 пудоў. Дапусьцім, што рабочым трэба заплаціць па 50 к. за гэтую гадзіну—усяго 4 р. Цяпер дадамо да гэтага гаручае для трактара і псаваньне машын за 1 гадзіну. Самае большае гэта 6 рублёў. Усяго 10 рублёў. За пуд абмалочанага зярна прыходзіцца 5 кап.

Цяпер паглядзім, колькі будзе каштаваць малацьба рукамі. Каб намалаціць 200 пудоў за 1 гадзіну, трэба 150 рабочых; кожнаму па 50 кап.—усяго 75 руб. За пуд абмалочанага зярна 37½ кап.

Дапусьцім, што абодва гаспадары вязуць сваё жыта на рынак. Які з іх можа таней прадаць ды больш прыбытку мець? Ясна, што тая гаспадарка, якой малацьба з пуду абышлася ў 5 кап., а ня ў 37½ кап. Вось гэтай таннасьцю буйныя машыновыя гаспадаркі і пабіваюць дробныя гаспадаркі і буйныя, якія працуюць без машын.

На рынку кожны хоча купіць таней. Буйная машынная гаспадарка зможа даць гэты танны тавар. А іншыя гаспадаркі павінны будуць трымацца тэй цаны, якую яна вызначыць, і надта часта павінны прадаць са стратай.

Такая галоўная прычына таго, што прамысловасьць у народнай гаспадарцы займае рашаючае, каманднае становішча над усёй іншай гаспадаркай краіны. Яе галоўная сіла—машына.

Прамысловасьць па сваіх разьмерах падзяляецца: на буйную (самыя буйныя фабрыкі і заводы), сярэднюю (сярэднія па разьмерах вытворчасьці) і дробную прамысловасьць. Да дробнай прамысловасьці належыць і саматужная. Самыя буйныя прадпрыемствы ў нашай краіне—гэта жалезныя рудні, чыгунна-жалезныя

# ВЫТВОРЧАСЬЦЬ РУЧНОЙ І МАШЫННАЙ ПРАЦЫ

КАСЕЦ КОСІЦЬ У ДЗЕНЬ



800 кв.с.

СЕНАКАСІЛКА



6000 кв.с.

СЯЛЯНКА НА САМАПРАДЦЫ МОЖА ЗРАБІЦЬ ЗА 1 ДЗЕНЬ



1 фунт пражы

РАБОТНІЦА НА ФАБРЫЦЫ З ДАПАМОГАЮ МАШЫНЫ ВЫТВАРАЕ



50 пуд.

ТРОЕ ЦАПАМІ АБМАЛОЦЯЦЬ ЗА 1 ГАДЗІНУ:



4 пуд.

ЗА ТОЙ-ЖА ЧАС МАЛАТАРНЯ, ЯКАЯ ПРАЦУЕ З ДАПАМОГАЮ ТРАКТАРА ВЫПРАЦОЎВАЕ:



200 пуд.

і сталяліцейныя заводы, машынабудаўнічыя заводы (так званая мэталюргія), потым вугальныя капальні, нафтавая прамысловасьць і тэкстыльныя фабрыкі. Рэшта прамысловасьці належыць да сярэдняй і дробнай.

Наша прамысловасьць не знаходзіцца ў якім-небудзь адным месцы краіны. Яна сконцэнтравана вялікімі гнёздамі ў некаторых раёнах. У **Паўночна-Заходнім раёне,** цэнтрам якога зьяўляецца Ленінград. На першым месцы тут стаіць машынабудаўнічая прамысловасьць (буйнейшы завод «Красный Путиловец»), наступнае месца займае хэмічная прамысловасьць і рэшта дрэваапрацоўчая, папяровая і г. д. Далей ідзе **Цэнтральна-Прамысловая вобласьць** (цэнтр— Масква). Тут на першым месцы стаіць тэкстыльная прамысловасьць. Тут сконцэнтравана ¾ усёй тэкстыльнай прамысловасьці СССР, і ў гэтай прамысловасьці занята ⅔ усіх рабочых вобласьці. Наступнае месца займае мэталёвая, а потым хэмічная прамысловасьць. Наступны раён—**Урал.** Урал—горназаводзкая вобласьць. Вытворчасьць жалеза, медзі, плятыны; здабываньне золата, солі і г. д. Наступны раён—**Паўднёвая Горнапрамысловая вобласьць.** Ужо самая назва вобласьці паказвае, якая прамысловасьць тут сконцэнтравана. Асноўныя цэнтры гэтай прамысловасьці вядомы ўсім. Гэта Донбас (каменны вугаль), Крывы Рог (жалезная руда), Пятроўскі, Сталінскі, Луганскі ды інш. мэталюргічныя заводы. У гэтым-жа раёне знаходзяцца буйныя машынабудаўнічыя заводы і хэмічныя. Потым ідзе **Каўказ,** галоўная прамысловасьць якога—нафтавая.

Тут-жа знаходзяцца заводы па вырабу розных продуктаў з нафты: газы, бэнзыны, газаліны і г. д.

Вышэй мы ўжо казалі аб тым, што нашы фабрыкі і заводы знаходзіліся ў руках капіталістых, а цяпер належаць рабочай Савецкай дзяржаве.

Чым-жа савецкая фабрыка адрозьніваецца ад фабрыкі капіталістычнай?

Перш за ўсё, у капіталістычнай прамысловасьці ёсьць гаспадар і рабочы. Гаспадару належыць фаб-

рыка з усімі машынамі, сыравінай. Рабочаму не належыць нічога, апрача яго сілы. Гаспадар-капіталісты купляе яго рабочую сілу, ставіць яго на працу. Усё тое, што рабочы вырабляе на фабрыцы, належыць капіталістаму. Фабрыку капіталісты трымае дзеля прыбытку. Прыбытак капіталісты атрымлівае ад эксплёатацыі рабочага. Робіцца гэта так. Дапусьцім, што рабочы за дзень можа вырабіць на фабрыцы тавараў на 2 руб. Капіталісты наймае яго на працу за 1 руб. Рабочы атрымлівае за сваю рабочую сілу рубель, а другі рубель застаецца капіталістаму, як прыбытак. Гэты прыбытак капіталісты траціць на сябе асабіста, г. зн. жыве за кошт чужой працы, і траціць на пашырэньне вытворчасьці. Пашырэньне капіталістычнай вытворчасьці ёсьць павялічэньне ліку рабочых, якіх капіталісты абірае, г. зн. пашырэньне эксплёатацыі.

Зусім іначай стаіць справа ў нашай дзяржаўнай прамысловасьці. У дзяржаўнай прамысловасьці няма гаспадара і рабочага. Гаспадаром дзяржаўнай прамысловасьці зьяўляецца сама рабочая кляса ў цэлым.

Капіталістычная прамысловасьць пашыраецца за кошт прыбытку капіталістага. За кошт чаго пашыраецца наша прамысловасьць? Таксама за кошт прыбытку, які накапіўся ў прамысловасьці. Прыбытак капіталістага падзяляецца на 2 часткі. Адна частка ідзе на самога капіталістага ды яго сям'ю, на спажываньне, другая накапляецца для пашырэньня вытворчасьці. Вытворчасьць капіталістыя зноў-ткі пашыраюць, каб нажыць больш багацьця. Прыбытак дзяржаўнай прамысловасьці падзяляецца іначай. Ён падзяляецца на 4 часткі. Адна частка ідзе ў прыбытак скарбу. Дзяржава траціць гэту частку на народную асьвету, на ўтрыманьне больніц, на Чырвоную армію, на ўтрыманьне аграномічных пунктаў на вёсцы, на арганізацыю сельска-гаспадарчых дасьледчых станцый і г. д. Прыбыткі ад прамысловасьці дапамагаюць і сельскай гаспадарцы. Другая частка ідзе на пашырэньне самога прадпрыемства, на закупку машын, на пабудову фабрычных памяшканьняў, іх абсталяваньне і г. д. Трэцяя частка ідзе ў так званы запасны фонд.

Гэты запасны фонд зьбіраецца для новага будаўніцтва і на выпадак усялякіх неспадзяванак. Нарэшце, чацвертая частка прыбытку ідзе на паляпшэньне жыцьця самых рабочых.

Такім чынам, прыбытак ад дзяржаўнай прамысловасьці трапляе ня ў кішэні асобных людзей, але ідзе на паляпшэньне ўсяго жыцьця краіны, на паляпшэньне жыцьця самае рабочае клясы і ўсіх працоўных.

Рост прамысловасьці ў капіталістычных краінах абазначае рост эксплёатацыі. Зьяўленьне новай капіталістычнай фабрыкі абазначае павялічэньне ліку рабочых, якія эксплёатуюцца, абазначае рост багацьця і гаспадарчай сілы капіталістых. Рост дзяржаўнай прамысловасьці ў Савецкай краіне, зьяўленьне кожнай новай дзяржаўнай фабрыкі ў ёй, наадварот, абазначаюць зьмяншэньне ў нашай краіне галечы і разбурэньня і новы крок да соцыялізму. Пабудавана, напрыклад, некалькі новых дзяржаўных фабрык,—яны дадуць дзяржаве дадатковы прыбытак, гэты прыбытак пойдзе на школы, больніцы, на паляпшэньне сельскай гаспадаркі і г. д. Павялічыцца колькасьць рабочых, якія працуюць без гаспадара-капіталістага, краіна зробіць лішні крок **да соцыялізму.**

Вось чаму наша дзяржаўная прамысловасьць называецца соцыялістычнай. Яна прадстаўляе фундамант, аснову тэй соцыялістычнай гаспадаркі, якую мы будуем.

Аднак, ня ўся прамысловасьць у нашай краіне соцыялістычная. Соцыялістычная прамысловасьць—гэта перш за ўсё наша буйная прамысловасьць, большая частка сярэдняй і, нарэшце, увесь транспорт (чыгункі). Частка сярэдняй прамысловасьці і дробная прамысловасьць належаць коопэратывам, ды розным сябрынам, і толькі частка дробнай, ў пераважнасьці саматужнай, прамысловасьці ды зусім нязначная частка сярэдняй прамысловасьці належыць прыватным асобам—капіталістым. Прыватная капіталістычная прамысловасьць у нас невялікая. Дый большасьць прыватных фабрык належыць не капіталістым, а дзяржаве, і толькі адданы капіталістам у арэнду.

Калі параўнаць нашу прамысловасьць з нашай сельскай гаспадаркай, дык перш за ўсё кідаецца ў вочы розьніца ў тэхніцы: у прамысловасьці—машыновая праца, у сельскай гаспадарцы—ручная праца. Сельская гаспадарка павінна дагнаць прамысловасьць. Соцыялістычная гаспадарка, якую мы будуем,—гэта гаспадарка машыновая. У гэтай гаспадарцы не павінна быць розьніцы між прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай. Сельская гаспадарка павінна зрабіцца такой самай машыновай гаспадаркай, як і гарадзкая прамысловасьць. І вось у справе машынізацыі (забясьпечаньне с.-г. машынамі) савецкая прамысловасьць усімі сіламі ідзе на дапамогу сельскай гаспадарцы. Савецкая ўлада вядзе такую лінію, каб сельская гаспадарка раўнялася па перадавой частцы нашай гаспадаркі—па прамысловасьці.

### ПЫТАНЬНІ.

1. **Якое значэньне мае прамысловасьць у нашай краіне?**
2. **Дзе знаходзяцца асноўныя прамысловыя гнёзды нашай краіны?**
3. **Чаму наша прамысловасьць называецца соцыялістычнай?**

### ЗАДАНЬНІ ДЛЯ ПРАПРАЦОЎКІ.

1. Організуйце экскурсію на бліжэйшы да вас завод або фабрыку. Прыгледзьцеся ўважна, чым адрозьніваецца праца рабочага ад працы селяніна.
2. Трымайце сувязь з шэфамі раёну. Папрасеце іх, каб яны зрабілі даклад аб становішчы прамысловасьці або аб тым, як жывуць і працуюць рабочыя ў гарадох.

ДАДАТКОВА ДА ГЭТАЙ ЧАСТКІ ГУТАРКІ МОЖНА ПАЧЫТАЦЬ:

БІБІК—„Работают токаря“. Выд. „Пролетарий“.
„ „Пэд зямлёй. Выд. УЦСПС.
СТОНАЎ—Шофер Тузов. Выд. „Новая Москва“.
ЛОГІНАЎ—„Сыны мужицкие“. ГИЗ.

## 3. УЗАЕМНАЯ СУВЯЗЬ ГОРАДУ І ВЁСКІ.

Вышэй мы ўжо казалі аб тым, што прамысловасьць ідзе на дапамогу сельскай гаспадарцы. Паглядзімо цяпер, як гэта робіцца. Мы ўжо ведаем, што сельская гаспадарка мае вялізнае значэньне для на-

шай прамысловасьці і для ўсёй краіны цалкам. І прамысловасьць і ўсе працоўныя зацікаўлены ў тым, каб наша сельская гаспадарка бязупынна разьвівалася. Але трэба памятаць, што і разьвіцьцё прамысловасьці мае вялізнае значэньне для ўсёй краіны. Асабліва важна яно для сельскай гаспадаркі. Сапраўды, што было-б, калі-б прамысловасьць не разьвівалася? Селянін калупаў-бы зямлю драўлянай сахой і ня меў-бы сякеры, касы, цьвікоў, ня меў-бы крамніны, а аб сельска-гаспадарчых машынах і трактарах тады і казаць ня прышлося-б.

Усе гэтыя патрэбныя сялянству вырабы можа даць толькі прамысловасьць.

**Вёска бяз гораду таксама як і горад бяз вёскі абыйсьціся ня можа.** Ня можа ісьці наперад і разьвівацца прамысловасьць, калі занепадае сельская гаспадарка. Ня можа разьвівацца і сельская гаспадарка, калі атрымліваецца застой у прамысловасьці. Але залежнасьць сельскай гаспадаркі ад прамысловасьці ня толькі ў тым, што прамысловасьць дае машыны і патрэбныя для селяніна гарадзкія тавары. Сельская гаспадарка можа расьці і разьвівацца толькі тады, калі яе продукты знаходзяць збыт [1]). Хто купляе хлеб, гародніну, мяса ды іншыя продукты? Зразумела, той, хто іх не вырабляе. Селянін гэтых продуктаў ня купляе таму, што ён сам іх разводзіць, а попыт на гэтыя продукты ідзе з боку рабочых, у якіх сваёй гаспадаркі няма.

Хто купляе пяньку, цукровыя буракі, воўну, канаплянае і сланэчнае семя ды прамыслова-тэхнічныя расьліны, якія здабываюцца ў сельскай гаспадарцы? Гэтыя продукты ідуць на прадзільныя фабрыкі, на цукровыя і маслабойныя заводы. Адгэтуль лёгка зразумець, што чым больш расьце прамысловасьць, тым большы з яе боку попыт на сельска-гаспадарчыя продукты, значыць—селяніну больш выгадна разьвіваць сваю гаспадарку.

Тое-ж самае трэба сказаць і ў стасунку да прамысловасьці. Прамысловасьць ня толькі таму зацікаўлена ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі, што рабочым

---

[1]) Збыт—ад слова збываць, продаць.

патрэбен хлеб, а фабрыкам і заводам патрэбна сыравіна, якая здабываецца ў сельскай гаспадарцы. Таксама, як і сельская гаспадарка, прамысловасьць патрабуе збыту сваіх вырабаў. Чым большы попыт на фабрычныя тавары, тым лепей ідуць справы прамысловасьці. А хто заўсёды быў і застаўся зараз галоўным спажыўцом фабрычных тавараў? Сялянства. Попыт на фабрычныя тавары з боку сялянства залежыць ад павялічэньня сялянскіх дастаткаў. Чым больш разьвіта і больш прыбытковай робіцца сельская гаспадарка, тым больш купляе сялянства машын, жалеза ды інш. гарадзкіх тавараў.

Такім чынам, прамысловасьць мае патрэбу для свайго разьвіцьця ў посьпехах сельскай гаспадаркі, і, наадварот, сельская гаспадарка для сваіх посьпехаў мае патрэбу ў разьвіцьці прамысловасьці.

Уся гэта ўзаемная зацікаўленасьць і залежнасьць прамысловасьці і сельскай гаспадаркі ствараюць аснову для змычкі між горадам і вёскай, для гаспадарчага саюзу рабочых і сялян.

## ПЫТАНЬНІ ДЛЯ ПАЎТАРЭНЬНЯ.

**1. Як і чаму сельская гаспадарка ды прамысловасьць зьвязаны адно з адным?**

**2. Якое значэньне для сельскай гаспадаркі мае прамысловасьць?**

**3. Якія галіны павінна разьвіваць сельская гаспадарка, каб наладзіць больш цесную сувязь з прамысловасьцю?**

---

## ГУТАРКА ТРЭЦЯЯ.

# РАЗЬВІЦЬЦЁ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

### 1. ШЛЯХІ РАЗЬВІЦЬЦЯ.

У папярэдняй гутарцы мы выясьнілі, што адсталасьць нашай сельскай гаспадаркі затрымлівае разьвіцьцё ўсёй народнай гаспадаркі. Там мы казалі і аб тым, што царскі ўрад рабаваў вёску і затрымліваў разьвіцьцё сельскай гаспадаркі, а Савецкая ўлада вядзе такую лінію, каб наша сельская гаспадарка раўнялася па перадавой частцы нашай гаспадаркі, па прамысловасьці. У гэтай частцы гутаркі мы выясьнім, якія меры прымае Савецкая ўлада і што павінны рабіць самі сяляне, каб разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ішло бязупынна.

На першым месцы трэба паставіць **зямляўпарадкаваньне.** Бяз правільнага зямляўпарадкаваньня сельская гаспадарка ня здолее хутка разьвівацца. Асабліва правільна гэта для нашай краіны. Да рэволюцыі ў нашай краіне існавала памешчыцкае, купецкае, царскае, царкоўнае, манастырскае, прыватна-сялянскае і грамадзка-сялянскае зямлякарыстаньне. Пасьля рэволюцыі зямля перайшла да аднаго гаспадара, Савецкай улады. Цар, памешчыкі, купцы былі прагнаны з зямлі, царква і манастыры пазбаўлены зямельных ужыткоўнасьцяй. Дзякуючы гэтаму, старыя зямельныя межы зьнішчаны. Патрэбна было вызначыць новыя, трэ' было пераразьмеркаваць зямлю. У першыя гады рэволюцыі такое пераразьмеркаваньне зямлі рабілася насьпех, навока, без парадку. Праўда, у той-жа час гэта было няўхільна і **зусім неабходна.** Трэ' было, каб працоўныя вёскі моцна ўзялі зямлю, адабраную ад памешчыкаў, трэ' было, каб яны пераканаліся, што бальшавікі ня словы кажуць, а на справе дапамагаюць узяць зямлю. Праўда, гэтае насьпех зробленае разьмеркаваньне

часта было няўмелым. Зямлю атрымалі і кулакі, якія яе атрымаць не павінны былі. Таму, калі жыцьцё ў нашай краіне наладзілася, гэта няправільнасьць і няўмельства ў разьмеркаваньні зямлі дало сябе адчуць. Яна пачала затрымліваць разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. Існаваўшыя частыя перадзелы вялі да спусташэньня зямлі. Трэ' было адабраць ад кулакоў няправільна захопленую імі зямлю. Таму Савецкая ўлада ўжывала і ўжывае ўсе захады да таго, каб правільна і паводле пляну зямляўпарадкаваць усю краіну.

Зямляўпарадкаваньне павінна зьнішчыць і тыя нелады, ад якіх церпяць сялянскія гаспадаркі. У цэнтральных губэрнях і ў заходняй палосе сельская гаспадарка церпіць ад дробнай унутрысяленнай цераспалосіцы; у Прыуральлі перш за ўсё павінна быць зьнішчана міжсяленная цераспалосіцца; на поўдні і паўднёвым усходзе галоўная бяда—гэта дальнязямельле.

Зямляўпарадкаваньне павінна быць праведзена так, каб ня толькі зьнішчыць цераспалосіцу ды іншыя недахопы, але і палегчыць сялянам пераход да палепшанай гаспадаркі. З прычыны гэтага, там, дзе праводзіцца зямляўпарадкаваньне, і РВК, і сельсаветы, і партыйная і комсамольская ячэйкі, павінны ўважна адносіцца да гэтай справы. Яны павінны выясьніць два асноўныя моманты: папершае, ці ўхіляе зямляўпарадкаваньне, якое ажыцьцяўляецца ў іх раёне, недахваты ў зямлякарыстаньні і, падругое, наколькі вызначаны плян зямляўпарадкаваньня, які праводзіцца, будзе спрыяць разьвіцьцю сельскай гаспадаркі. Яны павінны давесьці сялянам выгоднасьць шырокапалосіцы, на якой лягчэй завесьці шматпольны севазварот, вялікія паселішчы падзяляць на больш дробныя пасёлкі, радзіць ня выходзіць на адасобленыя хутары, таму што тады сяляне замыкаюцца ў сваіх вучастках, і з прычыны гэтага сувязь асобных гаспадарак і іх дапамога адна аднэй немагчымы. А тымчасам ёсьць шмат працы, якая зусім не пад сілу асобным гаспадаркам і патрабуе іх сумеснай працы.

Асабліва ўважна трэба сачыць, каб пры праведзеньні зямляўпарадкаваньня досыць поўна ахоўваліся

тарэсы вясковай беднаты, каб лепшая і найбольш выгодная зямля ня трапіла ў рукі кулакоў. Трэба, каб зямлёй, адабранай ад памешчыкаў, ад цэркваў і манастыроў, надзялялася ў першую чаргу вясковая беднага і серадвякі. Кастрычнікавая рэволюцыя дала зямлю **не ўсяму** сялянству. Кулакі пры Савецкай уладзе прырэзкі зямлі не атрымаюць. Зямля, здабытая ў часе рэволюцыі, павінна быць перадана ў карыстаньне тольки працоўнаму сялянству, бедняком і серадняком.

Вышэйшая ўлада нашай краіны, IV Ўсесаюзны Зьезд Саветаў, аддала шмат увагі зямляўпарадкаваньню. Зьезд пастанавіў, каб работы па зямляўпарадкаваньню былі ўдзяшэўлены, каб быў пашыраны доўгатэрміновы зямлябудаўнічы крэдыт для маламоцнага сялянства і каб частка зямлябудаўнічых работ дзяржава праводзіла за свой кошт.

Зьезд Саветаў зьвярнуў сваю ўвагу на тое, што ў нас вялікая рознапалосіца ў зямельным законадаўстве і законах аб зямляўпарадкаваньні. Украіна мае свой зямельны кодэкс, Беларусь—свой, РСФСР—свой і г. д. Зьезд пастанавіў запрасіць па гэтай справе сялянства СССР, і калі яно выкажацца проці гэтага рознабою ў зямельным законадаўстве, дык стварыць **адзіны зямельны кодэкс** (збор законаў) для ўсяго СССР.

Зьезд паказаў сялянам, што вялікім злом для нашай сельскай гаспадаркі зьяўляецца пастаяннае драбленьне вучасткаў зямлі і частыя перадзелы. **Яны пагражаюць далейшаму разьвіцьцю** сельскай гаспадаркі. Асабліва вялікім злом зьяўляюцца перадзелы. Селянін тады добра ўрабляе сваю зямлю, калі ён цьвёрда ведае, што яе ў яго ў наступным годзе не адбяруць. Тымчасам перадзелы, **забароненыя ў нас пастановай III-га Ўсесаюзнага Зьезду Саветаў,** вельмі часта распаўсюджаны.

Як бачым, зьезд саветаў падыходзіў да пытаньня зямляўпарадкаваньня, кіруючыся імкненьнем дапамагаць падняцьцю ды разьвіцьцю сельскай гаспадаркі.

Другой важнай умовай рашучага палепшаньня сельскай гаспадаркі зьяўляецца **забясьпечаньне вёскі с.-г. прыладамі і машынамі.**

Калі мы казалі аб прамысловасьці, дык падавалі прыклады таго, наколькі машыновая праца выгадней ад працы ручной. Увядзеньне хаця-б аднэй машыны ў дзесяткі, а то і сотні разоў скарачае працу селяніна ў сельскай гаспадарцы. Яшчэ большыя вынікі атрымаліся-б, калі-б усю працу ў сельскай гаспадарцы выконвалі толькі машыны. Амэрыканскі капіталісты Форд (той самы, які выпушчае трактары «Фордзон») загадаў кіраўніком усе с.-г. работы ў яго маёнтку. пра-



Трактар, які замяняе 10 плугоў, 20 коняй і 10 рабочых.

весьці толькі машынамі. Вынікі атрымаліся вялізныя. Усе палявыя работы (ворыва, пасеў, уборка, малацьба), сенажатныя работы (касьба, уборка сена), якія адбіраюць у селяніна некалькі месяцаў, ён зрабіў за некалькі дзён. Калі прайшоў год і надышлі дні, у якія прыходзілася працаваць, дык выявілася, што ўсе работы ў маёнтку, які налічае 300 з лішкам дзесяцін, былі зроблены ў працягу 21 дню. Тры тыдні працавалі машыны, і за гэты час у маёнтку ўсё было ўзорана, засеяна, сабраны ўраджай, скошана, высушана і прыбрана сена і памалочаны хлеб. І пры гэтым ураджаі былі атрыманы вялізныя. У маёнтку Форда зямлю глыбока ўзорваюць, чаго конь ніколі ня ў сілах зрабіць.

Узорвалася спачатку на глыбіню 5½ вяршкоў, а потым і глыбей—на 6¼ вяршкоў. І адразу атрымалася на 40 пуд. з кожнай дзесяціны ўраджаю болей. Цяпер ён загатаўляе плугі для ўспашкі на ¾ аршына і нават на аршын у глыбіню. Конь такога плуга не кране з месца, а машына яго пацягне лёгка. І няма ніякіх сумненьняў, што Форд атрымае яшчэ большыя ўраджаі. Вось што абазначае машына ў сельскай гаспадарцы. Але Форд—капіталісты, эксплёататар, і сквапнасьць яго вялікая. Пасьля таго, як рабочыя, працуючы машынамі ў яго маёнтку, дабіліся такіх вынікаў, Форд дагаварыўся да таго, што ўсіх амэрыканскіх сялян трэба прагнаць з зямлі, разбурыць іхныя платы, а зямлю іх перадаць такім «фордам», як ён. Сяляне, кажа ён, ня ўмеюць гаспадарыць, таму ад іх трэба адабраць зямлю і перадаць яе людзям, якія добра апрацоўваюць. Форд маўчыць пра тое, што сяляне не таму горай апрацоўваюць зямлю, што ня ўмеюць, а таму, што капіталістыя рабуюць іх так, што ледзь на жыцьцё застаецца. Дзе-ж ужо ім пры капіталізьме пераводзіць гаспадарку на машыновую працу?

Савецкая ўлада падыходзіць да селяніна не «пафордаўску», але выходзячы з інтарэсаў працоўных вёскі.

Таму Савецкая ўлада прымае ўсе меры да забясьпечаньня вёскі машынамі і с.-г. прыладамі. На першым месцы пакуль што стаіць забясьпечаньне вёскі с.-г. прыладамі. Тлумачыцца гэта тым, што за ўвесь час імпэрыялістычнай і грамадзянскай войн сельска-гаспадарчыя прылады так знасіліся, што на вёсцы засталася **толькі палова** таго інвэнтару, што быў да вайны. Ясна, што папоўніць яго трэба ў першую чаргу.

Да вайны вёска штогод купляла с.-г. прылад на **100 мільёнаў рублёў.** Частка с.-г. прылад, якія набываліся вёскай, вырабляліся ўнутры краіны, частка прывозілася з-за межаў. Цяпер штогод накіроўваецца ў вёску с.-г. прылад сярэднім на **120 мільёнаў рублёў.** Маецца на мэце, што ў 1930 годзе вёска атрымае с.-г. прылад на 190 мільёнаў рублёў. Выраб іх унутры краіны ўжо перарос даваенны выраб. Апрача гэтага,

Савецкім урадам было намечана за тэрмін з 1923 г. па 1928 г. (за 5 год) для прывозу з-за межаў вялікая колькасьць с.-г. прылад. З Англіі—на 32 мільёны, Нямеччыны—11 мільёнаў, Амэрыкі—на 5 мільёнаў руб. ды іншых краін.

Такія с.-г. прылады, як плуг, акучнік ды інш., набываюцца асобнымі сялянамі. Больш буйны с.-г. інвэнтар ня можа быць набыты асобнымі сялянскімі гаспадаркамі. І вось тут павінны прыйсьці на дапамогу **машыновыя таварыствы.** Гэтыя таварыствы організуюць колектыўнае карыстаньне машынамі. Машыновыя таварыствы яднаюць сялян, якім патрэбны машыны, што маюць вялікае значэньне для разьвіцьця сельскае гаспадаркі і ў той-жа час такія дарагія, што купіць іх для асобнай гаспадаркі нельга. Такім чынам, гэтыя таварыствы павінны абслугоўваць патрэбы сялянскага насельніцтва ў дарагім і ў дасканаленым інвэнтары. Яны павінны прыўчаць і вучыць насельніцтва карыстацца гэтым інвэнтаром.

Разьвіцьцю машыновых таварыстваў Савецкая ўлада дапамагае ўсімі сіламі. Савецкі ўрад, у меру сваіх сіл і магчымасьцяй, дае машыновым таварыствам крэдыт (на вялікія тэрміны) для закупкі ўдасканаленых машын, адпушчае машыны на выплат, закупляе тых, якіх няма за межамі, пасылае інструктароў для наўчаньня сялян карыстацца складанымі машынамі і г. д.

У справе забясьпечаньня вёскі машынамі, у справе разьвіцьця сельскай гаспадаркі вялікую дапамогу робіць і сельска-гаспадарчая коопэрацыя. Праўда, яна яшчэ ня робіць таго, што-б магла зрабіць. Але ў гэтым надта часта не яе віна, а віна самых сялян. Мы ўжо ведаем, што сельскага насельніцтва ў нашай краіне налічаецца 119 мільёнаў. А членаў с.-г. коопэрацыі ў 1925 г. было ўсяго $1^1/_2$ мільёны, у 1926 г.—$4^1/_2$ мільёны чалавек. У 1926 годзе сельска-гаспадарчая коопэрацыя мела сродкаў 402 мільёны рублёў. З гэтых 402 мільёнаў рублёў сялянскай гатоўкі надта мала. У 1926 годзе гэтая гатоўка (сялянскія ўклады) складалі ўсяго толькі $7^1/_2$ млн. руб. У сярэднім на коопэра-

тыў—911 рублёў. Чым гэта тлумачыцца? Тлумачыцца тым, што селянін сваю гатоўку трымае ў хлебе, а не ў грашох. А калі трымае ў грашох, дык ня хоча ўкласьці іх ў коопэратыў. А тымчасам, калі-б сяляне




сваю гатоўку ўкладалі ў коопэратывы, дык мы шмат хутчэй перайшлі-б ад **коннага плуга да трактарнага.**

А трактараў у нас покуль ня шмат. У сучасны момант у сельскай гаспадарцы ёсьць 23.000 трактараў. Урадам вызначаны на 5 гадоў (да 1931 году) водпуск крэдыту на 128 мільёнаў рублёў спэцыяльна для набыцьця сялянамі трактараў. Гэта дасьць магчымасьць давесьці к 1931 году лік трактараў на вёсцы да 103 тысяч штук. Вядома, справа пайшла-б шмат хутчэй, калі-б сяляне панесьлі свае сродкі ў сельска-гаспадарчую коопэрацыю. А што абазначае сотня тысяч трактараў для вёскі—лёгка ўявіць. У сярэднім адзін трактар замяняе 50 коняй.

Але і пры забясьпечаньні вёскі с.-г. машынамі трэба сачыць за тым, каб машыны не траплялі ў рукі кулацтва. У сучасны момант буйныя машыны, трактары, амаль не адпускаюцца асобным гаспадаркам.

Таму кулакі часта стараюцца захапіць у свае рукі машыновыя таварыствы, с.-г. коопэратывы. Трэба пільна сачыць за тым, каб таварыствы і коопэратывы абслугоўвалі інтарэсы беднякоў і сераднякоў.

Сьледам за машыназабясьпечаньнем вялікую ролю павінна адыграць ў справе падняцьця сельскай гаспадаркі наша **хэмічная прамысловасьць.** Вылічана, што наш СССР кожны год траціць ад розных шкоднікаў сельскай гаспадаркі (палявых, садовых, гародных) звыш 100 мільёнаў рублёў. На адным Паўночным Каўказе яны ўносяць штогод 15 мільёнаў рублёў. У цэнтральнай Расіі і ў Заходняй краіне штогод **галаўня** зьядае 6—10 проц. і без таго невялікага ўраджаю. Шкоднікі аднэй толькі капусты прыносяць мільёны рублёў страт. А шаранча, якая з году ў год спусташае цэлыя раёны ў сярэдняй паласе,—гэта сапраўдная навала для сельскай гаспадаркі.

І вось тут на дапамогу сельскай гаспадарцы павінна прыйсьці наша **хэмічная прамысловасьць.** Розная **атрута для шкоднікаў,** якую выробляе гэта прамысловасьць, ужо цяпер зьберагае мільёны для сялян. Што гэта так—падамо прыклады. Для ратаваньня яблыні ад чарвы, яе трэба апырскнуць атрутай (жалезным купарвасам). Гэта абыходзіцца ад 4-х да 7 кап. на дрэва. А дрэва дае прыбытку рублі. Каб адратаваць капусту ад вусеняў, яе трэба апырскваць 2-3 разы ў год (рошчына вапны з сольлю або хлёрысты бар). Апырскваньне сотні каранёў у працягу лета абыходзіцца ў 20—40 кап., а сотня капусных качаноў каштуе ня дзьве грыўні. Каб адратаваць жыта ад галаўні, трэба насеньне прамыць у рошчыне формаліну. Прамыўка 12 пуд. абыходзіцца 10 кап., а страта—6-10 проц. ураджаю ад галаўні каштуе далёка ня грыўню.

Шмат цяжэйшая барацьба з шаранчою. Яна патрабуе значных сродкаў, як і ўсякая барацьба са стыхійнай навалай. Лепшыя вынікі дае зьнішчэньне лярвы. Тая-ж шаранча, што зьяўляецца з лярвы, у сучасны момант зьнішчаецца атрутай, якую зьверху, з самалётаў выкідаюць на захопленыя шаранчою раёны.

Хэмічная прамысловасьць дае нашай сельскай гаспадарцы ў большасьці выпадкаў танныя сродкі захоўваць вялікія каштоўнасьці ад усякіх шкоднікаў. Трэба толькі, каб сяляне гэтымі сродкамі карысталіся.

І ня толькі ад шкоднікаў дапамагае хэмічная прамысловасьць сельскай гаспадарцы. Штучныя ўгнаеньні: салетра, аманяк, фосфорыты, супэрфосфат, касьцяная мука, калійныя солі,—усё гэта дае селяніну хэмічная прамысловасьць. Па тых досьледах, што нядаўна рабіліся на **кепскіх глебах** Уладзімерскай губ., ужываньне штучных угнаеньняў павысіла ўраджайнасьць поля ў сярэднім на 18 п. зерня і 75 п. саломы з дзесяціны.

Усё гэта кажа аб тым, якое важнае значэньне мае разьвіцьцё нашай хэмічнай прамысловасьці для сельскай гаспадаркі. Аднак, трэба сказаць, што і зямляўпарадкаваньне, і ўжываньне машын, і дапамога хэмічнай прамысловасьці мала дадуць сельскай гаспадарцы, **калі яна будзе жыць і разьвівацца, не аглядаючыся на прамысловасьць.**

Наша савецкая народная гаспадарка адрозьніваецца ад народнай гаспадаркі капіталістычных краін большым адзінствам, большай зьвязанасьцю сваіх частак. Зямля ў нас належыць дзяржаве. Прамысловасьць належыць дзяржаве. Гандаль з замежнымі дзяржавамі вядзе Савецкая дзяржава. Унутры краіны, у гандлі галоўную ролю іграе дзяржава. На справе, значыць, усёй народнай гаспадаркай кіруе Савецкая дзяржава, якая перабудоўвае гэтую гаспадарку на соцыялістычны лад.

З прычыны таго, што асобныя часткі нашай гаспадаркі павінны зьвязвацца ўсё цясьней і цясьней, сельская гаспадарка ня можа адасобніцца, ня можа разьвівацца, не аглядаючыся на ўсю народную гаспадарку.

А што гэта значыць—аглядацца на ўсю народную гаспадарку?

А значыць гэта вось што.

Скажам, напрыклад, што сяляне паляпшаюць сваю гаспадарку, зьбіраюць усё большыя ды большыя

ўраджаі. Але яны здабываюць у сваёй гаспадарцы такія продукты, якія маюць малы попыт на рынку, іх амаль ня купляюць. Або яны ў сваёй гаспадарцы атрымліваюць такія продукты, якія карыстаюцца вялікім попытам на рынку, але **яны трымаюць іх у сябе ў сьвірне** і ня вывозяць на рынак на продаж. Што здарыцца ў такім выпадку?

А здарыцца тое, што сяляне гэтым самым пашкодзяць самі сабе. Прамысловасьць не атрымае належнай колькасьці спажывецкіх продуктаў для рабочых, не атрымае сыравіны. У выніку яна ня толькі ня будзе разьвівацца, але напэўна большая частка фабрык і заводаў, якія працуюць на сельска-гаспадарчай сыравіне, зачыняцца, кінуць працаваць. А калі пасьля селянін адчыніць свой сьвіран і захоча ўсё-ж ткі прадаць з прычыны таго, што грошы яму ўсё-ж ткі патрэбны (каб купіць сельска-гаспадарчых прыладаў, набыць крамніну, газу, аддаць падаткі), дык пакупца **ён ня знойдзе.** Ня знойдзе таму, што галоўны спажывец—прамысловасьць. А прамысловасьць скарацілася, покуль ён трымаў свой тавар у сьвірне. Або калі ён і знойдзе пакупца, дык атрымае за свае продукты самую танную цану, таму што попыт на іх будзе слабы. Апрача гэтага, вёска не атрымае ў належнай колькасьці патрэбныя ёй тавары.

У 1926 годзе прамысловасьць па цэлым шэрагу тэхнічных культур мела недахват. Іначай кажучы, наша прамысловасьць, якая працуе на сельска-гаспадарчай сыравіне, можа перапрацаваць шмат болей сыравіны, чым атрымана яе ў сельскай гаспадарцы за мінулы сэзон. У сувязі з гэтым, і маса тавараў, якія вырабляюцца нашай прамысловасьцю, крыху паменшылася. Значыць, таварны голад, недахват некаторых тавараў у гэтым годзе большы, чымся ў мінулым. А ў належнай колькасьці тавараў роўна зацікаўлены і горад, і вёска.

Ясна таму, што сяляне, разьвіваючы сваю гаспадарку, павінны **павялічаць яе таварнасьць.** Павялічаць тую частку, якая ідзе ў продаж. Бяз гэтага няма чаго і казаць аб разьвіцьці сельскай гаспадаркі. З павялі-

чэньнем таварнасьці сельскай гаспадаркі трэба сьпяшацца. Наша сельская гаспадарка амаль ужо дасягнула даваеннага ўроўню, тымчасам як таварнасьць яе складае дзьве трэція часткі даваеннай таварнасьці. Тлумачыцца гэта тым, што да рэволюцыі селяніна рабавалі і царскі ўрад, і памешчыкі, і купцы, і капіталістыя. Усе цягнулі з яго грошы. А каб плаціць, селянін павінен быў продаць, продаць за кошт недаяданьня сваёй уласнай сям'і. Цяпер, пры Савецкай уладзе, якая гэта драпежніцтва зьнішчыла, селянін сам лепей есьць і таму менш продае. Важна, каб ён ня толькі лепш еў, але і дабіваўся-б наогул лепшых умоў жыцьця. Гэта будзе яго штурхаць да паляпшэньня гаспадаркі. Пры паляпшэньні гаспадаркі ён пачне больш продаць, каб больш купляць, і тады таварнасьць сельскай гаспадаркі хутка паднімецца: сувязь прамысловасьці з сельскай гаспадаркай значна ўзмоцніцца.

Прамысловасьць прад'яўляе попыт на харчаваньне для рабочых і на сыравіну. Усе галіны нашай сельскай гаспадаркі павінны ў сваім разьвіцьці **прыстасавацца** да гэтага попыту. Наша зямляробства павінна спэцыялізавацца ў залежнасьці ад раёну на вытворчасьці зернавых культур і на вытворчасьці тэхнічных культур. Наша жывёлагадоўля павінна таксама, у залежнасьці ад раёнаў, падзяліцца на вытворчасьць мяснога быдла і на вытворчасьць сыравіны ад быдла (воўна, мяса, скуры і г. д.). Таксама і іншыя галіны сельскай гаспадаркі.

Такая спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі па раёнах ня толькі моцна штурхне да разьвіцьця прамысловасьці і сельскую гаспадарку,—яна наблізіць фабрыку да вёскі, а гэта фабрыка дасьць заняткі лішку насельніцтва (зьменшыць перанаселенасьць вёскі). Апрача таго, у выніку гэтага вёска будзе атрымліваць тавары па значна больш таннай цане. У тых раёнах, дзе разводзяць шмат лёну, можна будзе будаваць фабрыкі для яго апрацоўкі, дзе разводзяць больш бульбы—крухмальні і г. д. У кожным такім спэцыяльным раёне сялянская гаспадарка будзе мець **аднолькавае абсталяваньне сваіх гаспадарак.** Коопэрацыйная

крама толькі тады здолее рабіць дзяржаўным фабрыкам заказы на гэта абсталяваньне вялікімі партыямі (агулам). А гэта заўсёды дае магчымасьць атрымаць танны тавар і, значыць, атрымаць яго ў сваю гаспадарку ў большым ліку. Лягчэй будзе поўнасьцю, без недастачы абсталяваць гаспадарку. А гэта значыць павялічыць вытворчасьць, разьвіваць гаспадарку яшчэ больш.

Такая політыка Савецкай улады ў стасунку да падняцьця і ўзмацненьня працоўных сялянскіх гаспадарак. Але на гэтым політыка Савецкай улады не канчаецца. Дабіваючыся росту і разьвіцьця сельскай гаспадаркі, Савецкая ўлада імкнецца зьмяніць самую організацыю сельскай гаспадаркі, імкнецца абярнуць яе з дробнай і распыленай у буйную, аб'яднаную.

Таму трэба дамагацца, каб сяляне добра ўцямілі і зразумелі, што самым вялікім злом, самай большай перашкодай да разьвіцьця сельскай гаспадаркі зьяўляецца раздробненасьць зямлі, гаспадаркі. Сапраўды, уявім сабе гаспадарку, якая мае тры дзесяціны пашні. Такіх гаспадарак шмат ёсьць у СССР. Надта часта пры трохпалёўцы кавалак ральлі падзелены на некалькі вузкіх палосачак у многіх палёх. На такой палосцы цяжка каня павярнуць у часе ворыва, каб не таптаць чужую паласу. Дзе ўжо тут гаварыць аб трактары, аб глыбокім ворыве і г. д. Апрача таго, досыць каб у азімай зьмене на такой палосцы жыта вымакла або яго папсавалі раньнія замаразкі, і ўжо сялянская сям'я сядзіць год бяз хлеба. Папалася такая палоска ў надта высокім або надта нізкім месцы—і справы гаспадаркі кепскія. Б'ецца селянін, як рыба аб лёд, а вынікі самыя кепскія. Гаспадарка год ад году ледзь перабіваецца, покуль які-небудзь няшчасны выпадак (вялікі недарод і г. д.) яе не разбурыць канчаткова. Дробная гаспадарка **нятрывалая, яе разьвіваць цяжка** таму, што машыны ёй ужыць нельга, таму, што страты для паляпшэньня яе не па сіле. Усе клопаты такой гаспадаркі ў тым, каб стачыць як канцы з канцамі. Вось таму-то Савецкая ўлада аддае пераважнасьць буйнай гаспадарцы, колектыўнай, перад гаспадаркай адзіночнай, дробнай.

Праўда, у нас яшчэ няма ўсіх спрыяючых умоў для таго, каб ужо цяпер адразу ўсе сялянскія, бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі аб'ядналіся ў буйныя колектыўныя гаспадаркі. Не хапае яшчэ ў нашага сялянства пэўнай сьвядомасьці ўсіх выгад ад колектыўнай працы, ад буйной колектыўнай гаспадаркі, або як кажуць, не хапае культурнасьці. Ня спрыяюць умовы для хутчэйшага аб'яднаньня ўсіх дробных гаспадарак, з прычыны немагчымасьці задаволіць іх усіх вялікім і доўгатэрміновым крэдытам. Бо дзяржава пакуль усім сялянам такой дапамогі зрабіць ня можа. Гэту дапамогу яна дае ў першую чаргу колектывам бядняцкіх гаспадарак. Дзеля гэтага Савецкая ўлада, аддаючы перавагу колектыўным гаспадаркам, як больш перадавым, у той-жа час па меры магчымасьці дапамагае ўсёй беднаце і падтрымлівае сялян-інтэнсіўнікаў, г. зн. тых што вядуць гаспадарку палепшаным спосабам.

Для заахвочваньня старанных культурных гаспадарак Савецкая ўлада дае ім розныя льготы. Даюцца льготы тым сельсаветам, вёскам і асобным гаспадаркам, якія прыстасоўваюць няўдобную, няўжыткоўную і кепскую зямлю пад пасеў, напр., асушваюць балоты або праводзяць ваду на бязводныя пляцы, ахоўваюць ральлю ад пяскоў, робяць раскарчоўку і г. д.

Даюцца льготы за шматпольную сыстэму, за ўжываньне тэхнічных расьлін, за паляпшэньне гатункаў скаціны.

Але калі зараз яшчэ немагчыма масавае стварэньне колектыўных гаспадарак, дык магчыма і надта неабходна другое. Магчыма і неабходна аб'яднаньне гаспадарак у сельска-гаспадарчай коопэрцыі. Гэта справа, якая дае селяніну адразу-ж значныя выгады. Перш за ўсё дзяржаве лягчэй дапамагчы аднаму коопэратыву, чымся некалькім сотням **асобных** распыленых гаспадарак. Лягчэй і прамысловасьці мецьсправу з сялянскім коопэратывам, чымся з асобнымі сялянамі. Лягчэй і самім сялянам збыць агулам (усім адразу), вялікай партыяй свае тавары, чымся трэсьціся па нашых дарогах па аднаму, адвозячы с.-г. продукты для продажу. Селянін зацікаўлены ў тым, каб **выгадней** збыць

свой тавар. Але тавар выгадней збываць не патроху, але вялікімі партыямі. 5-10 подоў лёну не павязеш прадаць далей свайго бліжэйшага мястэчка або гораду, а цэны там могуць быць нізкія. А вялікія партыі лёну, па 500 і па 1.000 пудоў, якія зьбіраюцца ў коопэратыве, магчыма выправіць і вадою і чыгункай туды, дзе цэны даражэйшыя. Магчыма нават праз дзяржаўныя організацыі накіраваць за мяжу.

Лёгка продаецца і па добрых цэнах тавар добрай якасьці. А для таго, каб атрымаць добры тавар, трэба яго добра апрацаваць. Патрэбны машыны. Коопэратыў зможа і машыны здабыць, і самае лепшае насеньне купіць для сялян, і штучнае ўгнаеньне здабыць. Яму і крэдыт для гэтай мэты лягчэй атрымаць. А машыны, палепшанае насеньне, угнаеньне і г. д. моцна штурхануць далейшае разьвіцьцё сялянскіх гаспадарак: жыцьцё сялян палепшыцца, народная гаспадарка паднімецца, і мы зробім яшчэ адзін крок да соцыялізму.

Вось чаму Савецкая ўлада на ўсіх сваіх зьездах зварачае ўвагу сялян на карысьць сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Вось чаму яна прымае ўсе меры да яе разьвіцьця, робіць ёй усялякую дапамогу і падтрыманьне. Вось чаму партыя і комсамол патрабуюць ад сваіх членаў, каб яны як мага болей увагі аддавалі с.-г. коопэрацыі.

У заключэньне гэтай гутаркі падамо лічбы, якія паказваюць, колькі Савецкая ўлада мае на мэце страціць у бліжэйшыя 5 год (да 1931 г.) на паляпшэньне сельскай гаспадаркі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Па зямляупарадкаваньню . . | 193 | млн. | руб. | беззваротна |
| „ „ . . . | 134 | „ | „ | у крэдыт |
| Машыназабясьпечаньне . . | 337 | „ | „ | у крэдыт |
| Забясьпечаньне трактарамі . | 128 | „ | „ | у крэдыт |
| На мэліорацыю . . . . | 278 | „ | „ | беззваротна |
| „ „ . . . . . | 143 | „ | „ | у крэдыт |
| Іншыя патрэбы сельскай гаспадаркі | 300 | „ | „ | беззваротна |
| „ „ „ „ | 730 | „ | „ | у крэдыт |

Калі дадаць да гэтых дзяржаўных страт страты самога насельніцтва, дык трэба думаць, што ў нашу сельскую гаспадарку будзе ўкладзена за 5 год звыш $3^1/_2$ мільярдаў рублёў.

# КАПІТАЛЬНЫЯ ЎКЛАДЫ Ў СЕЛЬСКУЮ ГАСПАДАРКУ ЯКІЯ МЯРКУЮЦЦА ДА 1931 г.

У МІЛЬЁНАХ РУБЛЁЎ

НА ЗЕМЛЯБУДАЎНІЦТВА

БЕЗЗВАРОТНА

У КРЭДЫТ




НА ЗДАВАЛЬНЕНЬНЕ МАШЫНАМІ

У КРЭДЫТ




НА ЗДАВАЛЬНЕНЬНЕ ТРАКТАРАМІ

У КРЭДЫТ




НА МЭЛІОРАЦЫЮ

БЕЗЗВАРОТНА




НА ІНШЫЯ ПАТРЭБЫ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

У КРЭДЫТ

БЕЗЗВАРОТНА



## ПЫТАНЬНІ.

**1. Чаму Савецкая ўлада аддае шмат увагі зямляўпарадкаваньню?**

**2. Якое значэньне мае машынізацыя сельскай гаспадаркі?**

**3. Якую дапамогу робіць хэмічная прамысловасьць сельскай гаспадарцы?**

**4. Чаму сельская гаспадарка павінна разьвівацца, прыстасоўваючыся да патрабаваньняў прамысловасьці?**

**5. Чаму Савецкая ўлада аддае перавагу колектыўным гаспадаркам?**

**6. Чаму сяляне павінны аб'яднацца ў с.-г. коопэрацыю?**

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАНЬНІ.

1. Калі ў вашай вёсцы праведзена земляўпарадкаваньне, дык абгаварэце, ці зьнішчыла яно цераспалосіцу ды іншыя недахваты і ці дапамагае яно разьвіцьцю ў вас сельскай гаспадаркі.

2. Запрасеце каго-небудзь з працаўнікоў с.-г. коопэрацыі, каб ён зрабіў вам даклад а працы коопэратыву.

3. Выявеце, чаму сяляне, якія ня лічацца членамі коопэратыву, ня ўступаюць у коопэратыў. А потым абгаварэце, што можна зрабіць, каб уцягнуць іх у коопэрацыю.

4. Даведайцеся ў РВК або сельсавеце, ці прыбавілася ў вас зямлі пасьля рэволюцыі. Праверце, ці сталі сяляне паляпшаць апрацоўку зямлі, сеяць травы, тэхнічныя расьліны.

5. Там, дзе няма, организуйце з моладзі і дарослых сялян с.-г. гурток, каб даведацца, як ляпей паставіць гаспадарку. Праграмы гуртка запытайце ў хаце-чытальні; калі там няма—з павятовага (раённага) аддзелу політасьветы.

Там, дзе с.-г. гурток ёсьць, паглядзеце, што ён робіць, каб дапамагаць паляпшэньню сельскай гаспадаркі вашай вёскі.

ШТО ЯШЧЭ МОЖНА ПАЧЫТАЦЬ:

С. СЬВЯНЧАНСКІ—„Фабрыка хлеба“ (надрукована ў часопісу „Молодая Гвардия“, 1922 г., № 6—7).

## ГУТАРКА ЧАЦЬВЕРТАЯ.

## КЛЯСАВАЕ РАССЛАЕНЬНЕ Ў САВЕЦКАЙ ВЁСЦЫ.

### I. НЕАДНАРОДНАСЬЦЬ СЯЛЯНСКІХ ГАСПАДАРАК.

У папярэдняй гутарцы мы бачылі, па якіх шляхох павінна пайсьці разьвіцьцё нашай сельскай гаспадаркі. Мы бачылі, што Савецкая ўлада ў пытаньні разьвіцьця сельскай гаспадаркі вядзе пэўную лінію. З аднаго боку, яна дамагаецца ўздымам сельскай гаспадаркі шляхам зямляўпарадкаваньня, забясьпечаньня вёскі с.-г. машынамі, прыцягненьнем хэмічнай прамысловасьці на службу сельскай гаспадарцы, разьвіцьцём таварнасьці, крэдытам, больш цеснаю сувязьзю прамысловасьці і сельскай гаспадаркі і г. д. А з другога боку, Савецкая ўлада імкнецца да таго, каб сялянства, па магчымасьці, дамагалася разьвіцьця сельскай гаспадаркі не па адным, але разам, у колектывах, у с.-г. коопэрацыі, каб гаспадарка ў нас ня толькі расла, пераходзіла да машын, але і паступова ядналася, узмацнялася, рабілася колектыўнай гаспадаркай.

Але, праводзячы гэткую лінію, Савецкая ўлада **неаднолькава** ўцягвае ў працу па разьвіцьці сельскай гаспадаркі розныя слаі вясковага насельніцтва. Яна нават неаднолькава адносіцца да розных слаёў. Мы гаворым аб розных слаёх таму, што вясковае насельніцтва неаднолькавае. У ім ёсьць розныя групы, розныя гаспадаркі.

У гэтых розных слаёх, розных групах вясковага насельніцтва, трэба наўчыцца добра разьбірацца, іначай лёгка заблытацца ў тэй політыцы, якую праводзяць партыя і Савецкая ўлада ў вёсцы.

Сялянства ў вёсцы па свайму дастатку і па свайму гаспадарчаму становішчу ніколі ня было аднолькавым.

І зараз яно падзяляецца на групы, непадобныя адна да аднэй: беднату, сярэдняе сялянства і кулац-

тва. Гэтая рознасьць у сялянстве кожнаму вядома, але ня кожнаму выгодна адкрыта яе прызнаваць. Буржуазія з усіх сіл старалася і стараецца адвесьці вочы працоўным ад разуменьня таго, што на вёсцы ня ўсе роўныя, стараюцца паказаць справу так, што ўсё сялянства аднолькавае, у яго адны і тыя-ж інтарэсы. Комуністычная партыя і Рабоча-Сялянская ўлада, наадварот, увесь час імкнуцца да таго, каб выразна была відаць розьніца між рознымі групамі сялян на вёсцы.

Сапраўды, ці-ж могуць быць роўныя, напрыклад, батрак і кулак. Батракі—гэта такія-ж наёмныя рабочыя, як і гарадзкія рабочыя. Розьніца толькі ў тым, што адны працуюць у сельскай гаспадарцы, а другія—на фабрыках ды заводах. Праўда, батрак адрозьніваецца ад гарадзкога прамысловага рабочага сваёй меншай клясавай сьвядомасьцю, клясавай дысцыплінаванасьцю і г. д. Батрак менш сьвядомы, менш дысцыплінаваны, у яго слабей разьвіта пачуцьцё клясавай солідарнасьці. Тлумачыцца гэта розьніца рознымі ўмовамі працы батрака і рабочага буйной прамысловасьці.

Батракі, такім чынам,—частка рабочае клясы, але менш організаваная, менш сьвядомая.

Зусім другая справа—кулакі. Гэтыя да рэволюцыі жылі дружна з памешчыкамі, купцамі, фабрыкантамі, разам з імі ашуквалі беднату, разам з імі ненавідзяць зараз Савецкую ўладу. Батрак цягне да рабочага, кулак цягне да капіталістага і памешчыка. Дзе-ж тут роўнасьць, дзе-ж тут аднолькавасьць? Ясна, што гэта зусім **розныя клясы.** Вось чаму да слоў «расслаеньне вёскі» Комуністычная партыя дадае яшчэ адно слова—клясавае. Бачыць клясавае расслаеньне вёскі, умець разьбірацца ў ім—надта важна. Той, хто ня ўмее разьбірацца ў гэтым пытаньні, ня можа зразумець пастаноў партыі аб працы на вёсцы, ня можа праводзіць гэтых пастаноў у жыцьцё.

Якая гаспадарка павінна называцца кулацкай, якая серадняцкай або бядняцкай? Зусім немагчыма вызначыць дакладнае, да ўсіх выпадкаў пристасаванае значэньне. Як казаў тав. Ленін: нельга выдумаць такі градусьнік, як у больніцы,—паставіць

пад паху, патрымаць дзесятак хвілін, выняў і глядзі па градусьніку—кулак або ня кулак. «Каб аддзяліць серадняка,—кажа тав. Ленін,—трэба ведаць гісторыю гаспадаркі гэтага селяніна, адносіны яго да вышэйшых і ніжэйшых груп, а ведаць гэта дакладна мы ня можам». Але можна вызначыць шэраг адзнак, якія адрозьніваюць кожную групу сялянскіх гаспадарак.

Ленін навучаў нас, што падзел сялянскіх гаспадарак на групы павінен быць заснаваны на падліку ўсіх адзнак, якія адрозьніваюць сялянскую гаспадарку. Разьмер пасяўной плошчы зьяўляецца аднэй з гэтых адзнак. Разам з ім павінна быць прынята пад увагу: 1. Які ў данай гаспадарцы жывы і мёртвы інвэнтар. 2. Ці арандуе яна зямлю, ці карыстаецца наёмнай працай. 3. Якімі незямляробскімі промысламі (напрыклад, гандаль) займаецца даная гаспадарка. 4. Разьмер яе прыбытку.

Трэба зварачаць увагу ня толькі на разьмер прыбытку данага гаспадара, але і на **крыніцы** гэтага прыбытку. Трэба ведаць, **адкуль** прыбытак ідзе, ці сваёй працай здабывае селянін сродкі для жыцьця, ці шляхам эксплёатацыі чужой працы, квотніцтва, гандлю, падрадаў і г. д.

Каго-ж можна лічыць за кулака, якую гаспадарку можна назваць кулацкай?

Кулацкай гаспадаркай трэба лічыць такую гаспадарку, якая, папершае, стала (а ня час ад часу) ужывае наёмную працу; падругое, арандуе шмат зямлі, з разьлікам апрацаваць яе сіламі наёмных батракоў; патрэцяе, мае ў належнай колькасьці рабочую скаціну і с.-г. прылады, зноў такі з разьлікам скарыстаньня іх на арэнднай зямлі і сіламі батракоў; пачацьвертае, мае прыбыткі ад гандлёвых або прамысловых прадпрыемстваў; папятае, атрыманыя ад гэтай эксплёатацыі (праз наёмную працу, арэнду) грошы пушчае на пашырэньне сваёй справы, г. зн. наймае яшчэ батрака, арандуе яшчэ дзесяціну і г. д. Вось такая гаспадарка, у якой і колькасьць дзесяцін (арэнда), і скаціна, і інвэнтар прыстасаваны да ўжываньня наёмнай рабочай

сілы,—такая гаспадарка ёсьць гаспадарка эксплёататарская—кулацкая.

Не абавязкова, каб усе гэтыя адзнакі былі ў наяўнасьці для таго, каб гаспадарку далучыць да кулацкіх гаспадарак. Можа, напрыклад, быць і так, што гаспадар эксплёатуе чужую працу не праз наём батракоў, але праз здачу бедняку ў арэнду інвэнтара або праз дачу каня, або праз пазыку насеньня на цяжкіх умовах. У наш час такія спосабы эксплёатацыі распаўсюджаны часьцей за ўсё.

Пяройдзем цяпер да процілежнай групы сялянства—да беднаты. Што з сябе прадстаўляе бядняцкая гаспадарка?

Да бядняцкіх належаць такія гаспадаркі, у якіх, папершае, або зусім няма, або ёсьць надта малая кольkасьць с.-г. інвэнтара; звычайна гэта—бесконныя і бескароўныя сяляне, якія ўрабляюць сваю зямлю канём, інвэнтаром багатага суседа на кабальных або на поўкабальных умовах. Падругое, у бядняцкіх гаспадарках с.-г. прыбытку не хапае для задаваленьня патрэб сваёй сям'і. Патрэцяе, значная частка прыбытку бядняцкай сям'і атрымліваецца не з свае гаспадаркі, але з продажу сваёй рабочай сілы—ад заработку ў чужых гаспадарках або на якой-небудзь ня сельска-гаспадарчай чорнай працы (батрацтва, адыход на промыслы).

У некаторых раёнах прыбыткі беднаты ад пабочнага прамысловага заработку бываюць большыя, чым прыбыткі ад сельскай гаспадаркі,—тады гаспадар больш хлеба купляе, чым продае.

Такія асноўныя адзнакі гаспадаркі бядняцкай.

Як у стасунку да азначэньня кулака, таксама і тут неабавязкова, каб былі ўсе пералічаныя асноўныя адзнакі, каб аднесьці тую ці іншую гаспадарку да бядняцкай. Дакладнай меркі, якая падойдзе да ўсіх мясцовасьцяй, быць ня можа. Аднак, мы павінны з поўнай выразнасьцю сказаць, што бядняцкія гаспадаркі—гэта ў вялізнай масе гаспадаркі, якія так ці інакш эксплёатуюцца, а кулацкія гаспадаркі—гэта гаспадаркі багатыя, якія ў масе сваёй эксплёатуюць беднату і бат-

ракоў пры найме, пазыках, арэндзе, адработкай ды іншымі спосабамі.

Між гэтымі двума крайнімі групамі знаходзяцца серадняцкія гаспадаркі. Асноўная маса іх, як правіла, не эксплёатуе чужую працу і сама не эксплёатуецца. Сярод серадьнякоў трапляюцца слабыя гаспадаркі. Гэта гаспадаркі бліжэйшыя да бядняцкіх. У іх, па выразу Леніна, «гора заўсёды за сьпіной стаіць». Здарся недарод, паб'е град, або які-небудзь гаспадарчы недахват, амаль заўсёды такі серадняк робіцца бедняком, залязае ў няволю да багатага суседа. Трапляюцца сярод серадьнякоў моцныя трывалыя гаспадаркі. Ёсьць і заможныя. Заможныя—гэта серадняцкая верхавіна, з якой часта той ці іншы вылязае ў кулакі.

Вядома, што і кулакі ня з неба звальваюцца, а вырастаюць з часткі заможных серадьнякоў, але ўсё-ж заможнік, старанны серадняк—**ня кулак.** Гэта трэба цьвёрда памятаць. Савецкая ўлада ня ставіць перашкод да разьвіцьця гаспадарак серадьнякоў хоць-бы і заможных. Наадварот, яна ўсялякімі спосабамі дапамагае старанным гаспадаркам у гэтым; часткова дазваляе арэнду і наёмную працу, калі толькі гэтыя гаспадары пераходзяць да культурных спосабаў гаспадараньня.

Калі Комуністычная партыя і Савецкая ўлада абвесьцілі новую экономічную політыку, дазволілі гандаль хлебам ды іншымі продуктамі сельскай гаспадаркі, дык яны ведалі, што гэта няўхільна выкліча недакаторы рост кулацтва, г. зн. ведалі, што будзе адбывацца расслаеньне на вёсцы. І сапраўды, расслаеньне вёскі ідзе і ў нашы дні. Гэта добра ведае кожны, хто жыве на вёсцы, кожны, хто вывучае жыцьцё цяперашняй савецкай вёскі.

Аднак, пры разглядзе пытаньня аб расслаеньні вёскі зараз пры Савецкай уладзе ніяк нельга забывацца на тыя асаблівыя ўмовы, непадобныя да старога часу, у якіх гэтае расслаеньне адбываецца. Гэтыя асаблівасьці наступныя: 1) купля-продаж зямлі скасавана (а скупляньне зямлі ў сялян, якія зьбяднелі, раней была галоўнай крыніцай нажывы для вясковых багаты-

роў); 2) арэнда зямлі пры яе цяперашніх разьмерах і пры цяперашніх законах таксама не дае вялікае прасторы кулацтву; 3) усе мерапрыемствы Савецкай улады і ў справе коопэрацыйнага будаўніцтва, і ў разьмеркаваньні падаткаў, і ў водпуску крэдыту накіраваны на дапамогу беднаце і на ўзмацненьне гаспадаркі серадня коў. Усё гэта стрымлівае разьвіцьцё кулацкай гаспадаркі, не дае магчымасьці расьці ёй за кошт разбурэньня беднаты і абядненьня серадня коў. Наадварот, дзякуючы дапамозе Савецкай дзяржавы, лік бядняцкіх гаспадарак у нас з кожным годам памяншаецца за кошт пераходу іх у серадняцкія, *) а серадняцкія гаспадаркі ўмацоўваюцца.

Каб уявіць сабе сапраўднае становішча нашай сучаснай вёскі, на якія групы яна падзяляецца і якая з гэтых груп зьяўляецца асноўнай, разгледзім уважліва наступную дыяграму-малюнак (глядзі на стар. 60).

З дыяграмы ясна відаць, якую ролю адыгрывае ў цяперашняй савецкай вёсцы сярэдняе сялянства у 1924 г. Сярэдняе сялянства складае 61,9 проц. усяго сялянскага насельніцтва. Серадняцкія гаспадаркі складаюць 55,1 проц. усіх гаспадарак; ім належыць $^{7}/_{10}$ усяе пасяўное плошчы і $^{2}/_{3}$ усяе рабочае скаціны.

Серадняк зьяўляецца цэнтральнай асобай вёскі, сярэдняе сялянства складае **асноўную масу** сялянства.

З гэтай-жа табліцы відаць, што кулацкія гаспадаркі нават разам з заможнымі складаюць $3^{1}/_{2}$проц., ім разам належыць 10 проц. пасяўное плошчы і 10 проц. рабочай скаціны.

Такім чынам, бедната і серадзякі—асноўная маса вясковага насельніцтва.

## ПЫТАНЬНІ.

1. **Якія асноўныя адзнакі бядняцкай гаспадаркі?**
2. **Якія асноўныя адзнакі кулацкай гаспадаркі?**
3. **Чаму серадняк—цэнтральная асоба сельскай гаспадаркі?**

---

*) Так, беспасеўных гаспадарак было ў 1922 годзе 6,9 %, у 1924—4,8 % ў 1925 годзе 4,2 %.

# РАСПЛАСТАВАНЬНЕ ВЁСКІ Ў СУЧАСНЫ МОМАНТ

| | БЕДНЯЦКІХ | СЕРАДНЯЦКІХ | ЗАМОЖНЫХ | КУЛАЦКІХ |
|---|---|---|---|---|
| ЛІК ГАСПАДАРАК |  41,4% |  55,1% |  2,6% |  0,9% |
| ІХ ПАСЕЎНАЯ ПЛОШЧА |  14,4% |  70,1% |  6,6% |  3,4% |
| ІХ РАБОЧАЯ ЖЫВЁЛА |  23,4% |  66,9% |  0,6% |  3,4% |

## 2. НАВОШТА ПАТРЭБЕН САЮЗ БЕДНАТЫ З СЕРАДНЯКОМ?

Розныя слаі вёскі маюць і розныя інтарэсы. У гэтым лёгка пераканацца, калі прыгледзецца да грамадзкага і гаспадарчага жыцьця вёскі. Якое-б пытаньне ні паўстала, мы лёгка можам заўважыць сутычку інтарэсаў беднаты з інтарэсамі кулацтва. Паўстае на вёсцы пытаньне аб зямляўпарадкаваньні. Бедната—за зямляўпарадкаваньне, кулак—**супроць.** Ён ведае, што пры зямляўпарадкаваньні паўстане пытаньне аб зямельнай норме, а для яго гэта нявыгодна. Кулакі ведаюць, што са спыненьнем зямельных неладаў цяжэй будзе эксплёатаваць сваіх аднавяскоўцаў. Таму яны супроць. Паўстае пытаньне аб адчыненьні коопэратыву—кулак супроць. Ён ведае, што пры наяўнасьці ў вёсцы коопэратыву яму цяжэй будзе рабаваць сялян. Паўстае пытаньне аб направе дарогі, кулак стараецца ўхіліцца ад цяжкіх зямляных работ і зваліць іх на беднату. «Я,—кажа ён,—пашлю хлапца з канём, а бясконныя няхай правяць». За кулака будуць працаваць конь і бедната! Гэтак па любым пытаньні бедната і кулацтва ня могуць дагаварыцца. Ды інакш і быць ня можа. Кулак стараецца абрабаваць бедняка, прымусіць яго на сябе працаваць. А бядняк хоча скінуць з сябе ўціск дармаеда. Бядняк хоча пазбавіцца ўціску ды эксплёатацыі. У гэтых адносінах інтарэсы беднаты падобны да інтарэсаў батрацтва. Батракі, як мы ўжо казалі, гэта наёмныя **рабочыя,** якія працуюць у сельскай гаспадарцы. Бядняк таксама праводзіць большую частку часу ў працы па найму. Таму батракі і бедната зацікаўлены ў вызваленьні ад наёмнага нявольніцтва, кабалы і кулацкага прыгнечаньня. Вось чаму батракі і бедната лічацца **верным апірышчам** партыі і рабочае клясы на вёсцы. Партыя кіруе барацьбой рабочых за вызваленьне ад усялякай эксплёатацыі, ад усялякага прыгнечаньня і кабалы. Батрацтва і бедната іх усімі сіламі падтрымліваюць.

Разгледзім цяпер, якое-ж становішча займае серадняк у гэтай барацьбе батракоў і беднаты з кулацтвам. Каб разабрацца ў паводзінах серадняка, трэба

прыгледзіцца бліжэй да інтарэсаў серадняцкіх гаспадарак. Чаго хоча серадняк? Серадняк перш за ўсё хоча ўзмоцніць сваю гаспадарку; ён ня хоча, ён баіцца зьбяднець, апусьціцца да становішча бедняка, батрака. Таму ён часта з апаскай пазірае на барацьбу батрацтва і беднаты з кулакамі. Ён баіцца, як-бы ня вынесьлі такой пастановы, якая можа мець кепскі ўплыў на яго гаспадарку. Таму ён вельмі ахвотна падтрымлівае ўсе імкненьні Савецкай улады, накіраваныя да разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Ён зацікаўлены ў разьвіцьці коопэрацыі. Праз коопэрацыю ён выгадней збывае продукты сваёй гаспадаркі. Праз коопэрацыю, якая добра працуе, ён таней набывае тавары, патрэбныя ў яго гаспадарцы. Серадняк зацікаўлены ў тым, каб машыны шырока пранікլі ў вёску. Гэта дасьць яму магчымасьць узмоцніць сваю гаспадарку. Серадняк зацікаўлены ў росьце прамысловасьці. Рост прамысловасьці забясьпечвае верны і надзейны збыт сельска-гаспадарчых продуктаў. З ростам прамысловасьці лішнія ў сям'і рабочыя рукі можна будзе прыстроіць на работу на фабрыцы. А калі адчыняецца дзе-небудзь блізка фабрыка—гэта крыніца прыработку. Такім чынам, мы бачым, што ў сваіх інтарэсах серадняк за разьвіцьцё коопэрацыі, за машынізацыю сельскай гаспадаркі, за ўзмацненьне ды разьвіцьцё прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Ён якраз за ўсе тыя меры, якія, як мы ўжо бачым, Савецкая ўлада праводзіць у інтарэсах разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Інтарэсы серадняка супадаюць з гаспадарчай палітыкай Савецкай улады.

Адсюль выходзіць, што інтарэсы серадняка бліжэй да інтарэсаў беднаты, чым да інтарэсаў кулацтва. Сапраўды, якую гаспадарчую лінію ў нашай краіне хацеў-бы правесьці кулак? Кулак хоча ўстанаўленьня вольнай куплі і продажу зямлі. Нашто гэта? Ён ведае, што ён можа скупіць зямлю беднаты і паступова ўзяць у свае рукі гаспадарча-слабых серадняков, каб зрабіцца новым памешчыкам ў вёсцы. Ці па дарозе тут серадняку з кулаком? Не, не па дарозе. Не ў інтарэсах серадняка, каб вярнуўся памешчык у вёску. Ку-

лак за зьмену падатковай політыкі Савецкай улады. Ён супроць таго, каб бядняцкія гаспадаркі атрымлівалі льготы, а серадняк плаціў меней, чым ён. Ён дабіваецца другога, адваротнага, або на дрэнны канец падатковай ураўнілаўкі. І тут серадняку не па дарозе з кулаком. Не ў інтарэсах серадняка ствараць падатковае драпежніцтва вёскі. Гэта перш за ўсё вытне па яго гаспадарцы.

Кулакі за тое, каб трактары продаліся вольна ўсім, хто пажадае. Здаецца, добра. А на справе з усіх, хто жадае, толькі кулакі **сапраўды** могуць купіць трактар. Ні бядняк, ні серадняк ня купяць. Па дарозе тут серадняку з кулаком ці па дарозе з Савецкай уладай, якая **разьмяркоўвае** трактары па машынных таварыствах, коопэратывах і бядняцка-серадняцкіх колектывах, ды яшчэ дае доўга-тэрміновы крэдыт? Ясна, што і тут серадняку з кулаком не па дарозе. Інтарэсы кулака варожы ня толькі рабочай клясе, але варожы і ўсім працоўным слаям вёскі. Серадняку выгадней ісьці з Савецкай уладай. Таму ў вёсцы яму выгадней ісьці з тымі, хто зьяўляецца ў вёсцы апірышчам партыі, рабочае клясы і Савецкай улады. Серадняку выгадней ісьці ў саюзе з беднатой проці кулацтва. Кулак—наш вораг. Кулак—вораг усіх працоўных.

Працоўным слаём сярэдняга сялянства вёскі выгадней ісьці разам з рабочымі і вясковай беднатой проці кулака. Вось чаму партыя бароніць лёзунг саюзу рабочае клясы і вясковай беднаты з сярэднім сялянствам.

### ПЫТАНЬНІ.

1. **Чаму на вёсцы ідзе барацьба між беднатой і кулакамі?**
2. **Якія гаспадарчыя інтарэсы серадняка?**
3. **Чаму серадняку па дарозе з беднатой, а ня з кулацтвам?**
4. **Якой гаспадарчай політыкі дабіваецца кулак?**

### 3. ЯК ЗМАГАЦЦА З КУЛАКОМ?

З кулаком трэба змагацца. Няправільна было-б адмаўляць кулацкую небясьпеку. Кулак—наш вораг. Каб змагацца з ворагам, трэба пазбавіць кулака яго

ўплыву на іншыя слаі вёскі, трэба бачыць яго сілу. Хто «адмаўляе» кулацкую небясьпеку, той, паводле выразу тав. Сталіна, абяззбройвае партыю, бо нельга змагацца з ворагам, якога нібы няма.

Чаму-ж мы нашаму ворагу даем існаваць? Наймаць батракоў? Ня лепей было-б адабраць у яго с.-г. інвэнтар, лішкі хлеба, забараніць яму гандаль, і займацца квотніцтвам? Мы сапраўды так рабілі ў часе грамадзянскае вайны: мы тады «раскулачвалі» вёску. Гэтага патрабавалі абставіны рэволюцыйнай барацьбы, якія былі тады.

Цяпер абставіны іншыя.

Праводзіць цяпер такім парадкам «раскулачваньне»—абазначала-б сарваць політыку партыі, накіраваную да ўздыму сельскай гаспадаркі і гэта адразу адбілася-б на прамысловасьці. Бо зямля, якую ўрабляе кулак, адразу ня ўся была-б скарыстана беднякамі і сераднякамі. І прыватны гандаль на вёсцы мы покуль ня можам цалкам замяніць коопэрацыяй. У той-жа час такое «раскулачваньне» адбіла-б у масы сялян ахвоту паднімаць дабрабыт свае гаспадаркі.

Убачыўшы, што Савецкая ўлада рэзка і крута расправіцца з кулацтвам, сяляне, асабліва сераднякі, баяліся-б паляпшаць сваю гаспадарку. Яны маглі-б падумаць, што калі іхная гаспадарка пачне паляпшацца, дык іх могуць палічыць за кулакоў і пачнуць «раскулачваць». Вядома, што тады рост сельскае гаспадаркі спыніўся-б, дзякуючы чаму панесла-б страты і прамысловасьць.

Таму мы змагаемся з кулакамі такімі спосабамі, якія адпавядаюць нашай гаспадарчай політыцы Савецкай улады. Мы стараемся выжыць кулака гаспадарчым спосабам. Для гэтай мэты Савецкая ўлада перш за ўсё стараецца пазбавіць кулака магчымасьці накапляць капіталы, з дапамогаю якіх кулак эксплёатуе вёску. Сродкам для гэтага ў руках дзяржавы ёсьць падатковая політыка. Падатковая політыка Савецкай улады на вёсцы пабудавана так, каб падаткі ўсім цяжарам клаліся на кулацкую гаспадарку. Каб пашкодзіць кулацкаму рабаўніцтву беднаты і батрацтва, Савецкай

уладаю выданы закон аб найме. Паводле гэтага закону дзяржава абвяшчае несапраўднымі ўсялякія зьдзелкі між кулаком і бедняком, калі яны маюць кабальны характар. Звычайна на заключэньне такіх зьдзелак бядняк прымушаны ісьці ў выпадках крайняй патрэбы.

Для таго, каб кулак ня мог атрымаць вялікую гаспадарчую перавагу над беднякамі ды серадняками. дзяржаўныя гандлёвыя організацыі ў сучасны момант спынілі продаж трактараў асобным людзям. Ясна-ж, што з асобных людзей толькі кулакі могуць купіць трактар. А трактар у руках кулака можа зрабіцца кабалою для вёскі. Кулак можа браць падрады на ворыва, на малацьбу ў сваіх аднавяскоўцаў і прымушаць іх потым працаваць за гэта. Апрача таго, ужываньне трактара ў гаспадарцы адразу павышае моцнасьць гаспадаркі. А ўзмацняць становішча кулацкай гаспадаркі, значыць іграць на руку кулаком супроць беднаты і сераднякоў.

Рашуча прасьледуе Савецкая ўлада і ўсякія хітрыкі кулакоў, якія часамі паціхеньку, патайна, пад выглядам арэнды або як-небудзь інакш скупляюць зямлю ў сваіх аднавяскоўцаў. За такія рэчы вызначаны ў нашым законадаўстве суровыя кары. І гэта таму, што дазвол куплі-продажу зямлі хутка давёў-бы да адраджэньня памешчыкаў у вёсцы.

Але самы важны спосаб змаганьня з кулаком— гэта гаспадарчая дапамога бедняку і серадняку, гэта аб'яднаньне бедняка і серадняка проці кулака.

Кулакоў ня шмат: яны складаюць усяго 3—4 проц. ўсяго сялянства. Чым-жа моцны кулак і ў чым яго небясьпека? Перш за ўсё ва ўплыве на іншыя слаі вёскі, і перад усім, на серадняка. Дзякуючы сваёй гаспадарчай моцы, кулак часта трымае пад сваім уплывам цэлую вёску.

Організуючы дзяржаўны крэдыт для беднякоў і сераднякоў, мы тым самым змагаемся з квотніцтвам кулака. Паднімаючы праз коопэрацыю дабрабыт сялянскае масы, мы тым самым падрываем гаспадарчую моц кулака.

Чым мацней будзе разьвівацца гаспадарка бедна-ты і сераднякоў, тым менш будзе магчымасьцяй заставацца ў кулака для таго, каб эксплёатаваць вёску. Калі гаспадарка бедняка паднімецца настолькі, што прыбытак ад яе будзе поўнасьцю забясьпечваць патрэбы яго сям'і, тады яму ня трэба будзе зьвязвацца з кулаком.

Але і зараз ужо Савецкая ўлада, па меры сваіх сіл і магчымасьцяй, стараецца абараніць вясковую беднату ад кулацкай няволі. Бедняку патрэбны грошы, каб паправіць сваю гаспадарку. Часта ён пазычае іх у кулака, трапляючы праз гэта ў кулацкую няволю. Дзеля гэтага Савецкая ўлада зьвяртае вялікую ўвагу на тое, каб зрабіць пазыку даступнай для беднаты. У сучасны момант частка пазыкі даецца на тэрмін 3—5 год. Але гэтага яшчэ мала. Дапамогу бедняку можа даць толькі тая пазыка, якая даецца на 5—10 год і ў такой суме, каб можна было сапраўды палепшыць сваю гаспадарку. Для спэцыяльнай дапамогі беднаце пры сельска-гаспадарчым банку створаны асобна-льготны крэдыт (пазыка), які выдаецца беднаце на доўгі тэрмін. За два апошнія гады на гэту справу адпушчана 18 мільёнаў руб.

Савецкі ўрад паклапаціўся і аб тым, каб бедната прымала актыўны ўдзел у сельска-гаспадарчай коопэрацыі, каб з дапамогаю сельска-гаспадарчай коопэрацыі яна паднімала сваю гаспадарку. Але бядняк вельмі часта ня можа зрабіцца членам коопэрацыі, таму што ён ня мае грошай для паявога ўзносу. Дзеля гэтага ўрадам вызначаны шэраг льгот для коопэраваньня беднаты: раскладка паявых узносаў, коопэраваньне праз камітэты ўзаемадапамогі і г. д.

Зямельным органам даны строгі наказ, каб пры правядзеньні зямляўпарадкаваньня ўсебакова прымаліся пад увагу інтарэсы вясковай беднаты. Частку сродкаў дзяржава дае спэцыяльна для **бясплатнага зямляўпарадкаваньня** бядняцкіх гаспадарак.

Побач з гэтым бедната атрымлівае вялікія палёгкі па адзінаму сельска-гаспадарчаму падатку. Мы ўжо казалі, што асноўны цяжар падаткаў перакладаецца

на кулака. Для беднаты, наадварот,—кожны год вялікая колькасьць бядняцкіх гаспадарак зусім вызваляецца ад падаткаў.

Колектыўным гаспадаркам, якія ўтвараюцца беднатой, Савецкая ўлада дае вялікае падтрыманьне. Часта зямляўпарадкуе іх бясплатна, дае значныя пазыкі, дае ў крэдыт машыны і сельска-гаспадарчыя прылады і г. д.

Усе гэтыя меры накіраваны да таго, каб падняць і ўмацаваць бядняцкія гаспадаркі, вырваць бедняка з моцных рук кулака.

Але, побач з умацаваньнем масы працоўных сялянскіх бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак для барацьбы з кулаком, трэба яшчэ што-небудзь.

Умацаваньне працоўных гаспадарак моцна замядляе расслаеньне ў вёсцы, перашкаджае акулачваньню адных гаспадарак за кошт зьбядненьня і разбурэньня другіх. Але покуль што ўсяго гэтага недастаткова, каб канчаткова зьнішчыць уплыў кулака на вёсцы. Каб зьнішчыць уплыў кулака, трэба, **каб кулакі на вёсцы засталіся адзінокімі.** Трэба, каб ва ўсіх грамадзкіх справах вёскі меўся моцны саюз вясковай беднаты і серадлякоў, дружна аб'яднаных супраць кулака і тэй няволі, якую ён нясе з сабою.

## ПЫТАНЬНІ.

**1. Чаму нельга адразу зьнішчыць кулакоў?**

**2. Як Савецкая ўлада абмяжоўвае магчымасьці кулацкага накапленьня?**

**3. Якія меры прымае Савецкая ўлада для дапамогі беднаце?**

**4. Чаму патрэбен моцны саюз вясковай беднаты з серадняком?**

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАНЬНІ.

1. Даведайцеся ў сельсавеце або ў раённым выканаўчым камітэце, колькі ў вашай вёсцы беднякоў, сераднякоў, ці ёсьць кулакі.

2. Азнаёмцеся з працаю вашага аддзяленьня саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых.

3. Падлічэце, колькі сярод беднякоў і батракоў няпісьменных, наладзьце сувязь з хатаю-чытальняю і пры яе дапамозе навучэце іх пісьменнасьці.

4. Прасачэце, лепш ці горш стала жыць якой-небудзь бядняцкай сям'і, выявеце палепшаньні і пагоршаньні. Запішэце ўсё, што ведаеце, і запісанае прышлеце ў Маскву ў рэдакцыю часопісу «Изба-читальня».

## ШТО ТРЭБА ПРАЧЫТАЦЬ, КАБ ЛЕПШ ЗРАЗУМЕЦЬ РАССЛАЕНЬНЕ ВЁСКІ.

ВІРГАНСКІ В.—Аб бедняку, серадняку і кулаку. Выд. „Молодая гвардия".

РУДЗІН.—Чаму трэба было дазволіць арэнду працоўнай зямлі і наём рабочай сілы ў сялянскай гаспадарцы. Артыкул у часопісу „Изба-читальня" № 5 за 1926 г.

ЛЕБЕДЗЕЎ Г.—Ці можна бедняку падняць сваю гаспадарку. Артыкул у часопісу „Изба-читальня" № 7 за 1926 г.

## ГУТАРКА ПЯТАЯ.

# 1. НАША ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

### 1. НЕДАХВАТЫ НАШАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ І БАРАЦЬБА З ІМІ.

Да вайны на фабрыках і заводах у нашай краіне выраблялася тавараў **шырокага спажываньня,** г. зн. тых, што ідуць на патрэбы шырокіх мас насельніцтва (цьвікі, мыла, газа, паркаль, пасуда ды інш.), на суму 2 мільярды 100 мільёнаў руб., прычым $^2/_3$ ўсёй гэтай масы тавараў ішло ў вёску.

Апрача таго, з гораду ў вёску ішло сельска-гаспадарчых машын і прылад і штучных угнаеньняў на 40 мільёнаў руб., дый іншых фабрычна-заводзкіх вырабаў на 300 мільёнаў руб. Такім чынам, з усяго таго, што выпрабляла прамысловасьць, сялянства атрымлівала да вайны прыблізна на 1 мільярд 740 мільёнаў р. Такім чынам, да вайны большая частка вырабаў прамысловасьці збывалася ў вёску, куплялася сялянствам. І цяпер у нас галоўным пакупцом і спажыўцом фабрычных тавараў зьяўляецца сялянства. Не таму, вядома, што сялянства вельмі багатае, але проста таму, што ў нашай вёсцы жыве больш людзей, як у гарадох.

Ранейшая Расія па колькасьці фабрык ды заводаў адставала ад другіх капіталістычных краін. У параўнаньні з гэтымі другімі краінамі, прамысловасьць у нашай краіне была слабейшая. Імпэрыялістычная вайна, якая пачалася ў 1914 г., а потым вайна грамадзянская моцна адбілася на становішчы прамысловасьці.

Вытворчасьць, разбураная вайною, скарацілася. Тавараў к канцу грамадзянскай вайны прамысловасьць выпускала, прыблізна, у 5-6 разоў менш, чымся да вайны.

Зьмешчаны тут малюнак паказвае, як зьменшыўся ў 1920 г. выраб вугалю, жалеза, плугоў і мануфактуры ў параўнаньні з вытворчасьцю іх у 1913 г.




Якое-ж зараз становішча нашай прамысловасьці? З 1921 г. прамысловасьць у нашай краіне разьвіваецца так хутка, што ўжо поўнасьцю дасягнула даваеннага ўзроўню і сілы.

Можна лічыць, што ў 1925—26 г. колькасьць тавараў, якія вырабляліся нашай прамысловасьцю, складала 95 проц. даваеннага выррабу. У гэтым годзе мы на справе дагналі ўжо даваенны ўзровень у вытворчасьці. Цэлы шэраг вытворчасьцяй у нас перашагнуў ужо

за даваенны ўзровень. Нафты мы здабываем больш, чымся да вайны, сельска-гаспадарчых машын вырабляем больш, як да вайны. Абагналі даваенную вытворчасьць і ў электрычнай прамысловасьці.

Такім чынам, мы бачым, што наша прамысловасьць разьвіваецца.

Аднак, наша хутка растучая прамысловасьць мае пакуль што два вялікія недахваты.

Папершае, яна дае ня зусім танны тавар і, падругое, гэты тавар ня зусім добрай якасьці.

Паглядзімо спачатку, чаму якасьць нашых тавараў не заўсёды добрая.

Прамысловасьць, якая засталася нам пасьля таго, як мы прагналі капіталістых, была ўжо надта старою. Машыны і варштаты, якія знаходзіліся на фабрыках ды заводах, у большасьці былі старыя. А кожнаму павінна быць вядома, што дрэнным інструмантам нельга зрабіць добрай рэчы. Нават аглоблю тупою сякераю ня зробіш гладкаю. Стары ткацкі варштат рве і псуе аснову. Дрэнны сьвідравальны варштат дае няроўную дзірку. Расхістаны такарны варштат дае дрэнную адточку і г. д. А калі дрэннымі варштатамі прыходзіцца рабіць часткі складанай сельска-гаспадарчай машыны, а потым з гэтых частак зьбіраць яе, дык прыходзіцца ўвесь час падганяць. У адным месцы падлажыць, у другім—падрэзаць і г. д. І сабраная з такіх частак машына заўсёды будзе горш ад машыны, зробленай новенькімі, добра працуючымі варштатамі. Паркаль, зроблены на добрых ткацкіх варштатах, заўсёды будзе лепшы за той паркаль, які зроблены на старым варштаце, і г. д. А нам дастаецца дрэннае абсталяваньне фабрык і заводаў.

Вось гэта адна прычына таго, што наша прамысловасьць дае пакуль што тавары ня зусім добрай якасьці.

Другая прычына—кепская сыравіна. З гнілога дубу добрай восі для калёс ня зробіш. Так і ў прамысловасьці. З кепскай сыравіны не атрымаецца добрага тавару. А чаму сыравіна кепская? Прычыны гэтаму розныя. Частку сыравіны на нашы фабрыкі ды заво-

ды дастаўляюць сяляне. І вельмі часта гэтая сыравіна або кепскай якасьці, або ня той гатунак. Машына—рэч складаная. Калі яна робіцца, дык прыстасоўваецца, галоўным чынам, да аднаго пэўнага гатунку сыравіны. Амаль кожны селянін бачыў жняяркуснопавязалку, ведае, як яна працуе. Ведае, што снопавязалка перавязвае снапы шпагатам. Ведае, напэўна, што ня кожны шпагат для гэтага падыходзіць. Шпагат патрабуецца асаблівы, снопавязальны, зроблены з пэўнага гатунку сыравіны. Другім шпагатам жняярка вязаць ня будзе. Вось так і сыравіна для прамысловасьці. Прамысловасьць патрабуе пэўнага гатунку лёну. А сяляне гэтага гатунку не даюць або даюць мала, даюць ня чыстага гатунку. А машына, атрымаўшы ня тую сыравіну, пачынае «капрызіць»—дае тавар кепскай якасьці. Тое-ж і з сыравінаю, якую мы купляем за межамі. Удасца дастаць добрую сыравіну—тавар атрымаецца добры, не дастанеш патрэбнага гатунку—і тавар першага гатунку не атрымаеш. А купіць добрую сыравіну нам часта не ўдаецца. Капіталістыя Заходняй Эўропы і Амэрыкі крэдытаў нам даваць ня хочуць. Купляй за гатоўку. А гатоўка не заўсёды ёсьць. Пакуль зьбяруцца, дык на рынку ўжо сыравіну лепшага гатунку раскупілі. Вось другая прычына нявысокае якасьці тавараў нашай прамысловасьці.

Ёсьць і трэцяя прычына. Старых гаспадароў прамысловасьці—капіталістых—мы прагналі. Гэта добра. Але горай справа ад таго, што за імі з нашай краіны паўцякала частка спэцыялістых, якія добра ведаюць вытворчасьць. У выніку, пасьля рэволюцыі, калі пачалі паднімаць гаспадарку і калі попыт на спэцыялістых моцна павялічыўся, іх не хапала. Некаторыя фабрыкі прышлося пусьціць у ход, ня маючы належнай колькасьці спэцыялістых. Рабіліся таму памылкі ў вытворчасьці, і тавары атрымліваліся якасьці горшай. Апрача таго, у часе грамадзкай вайны загінула на франтох многа наўчаных, добра ведаючых гэтую справу рабочых. І вось пакуль падрастаюць нашыя новыя, маладыя спэцы, пакуль набіваюць сабе руку маладыя рабо-

чыя, справу яшчэ нельга наладзіць так, як гэта патрэбна. Хаця трэба сказаць, што з гэтым недахватам мы спраўляемся—з кожным годам усё больш ды больш. Мы ўжо завялі ў сябе цэлы шэраг вытворчасьцяй, якіх у старой Расіі ніколі ня было (выраб трактараў, паравых і вадзяных турбін вялікай сілы і г. д.), а ў некаторых, праўда, пакуль у нямногіх вытворчасьцях, нашы спэцы і рабочыя ўжо дабіліся якасьці заграпічных тавараў і падцягваюцца яшчэ вышэй.

Такія галоўныя прычыны, дзякуючы якім якасьць нашых тавараў покуль што нявысокая.

Паглядзімо цяпер, чаму нашы тавары дорага каштуюць.

Усе мы ведаем, што нельга продаць тавар таней таго, што ён самому сабе каштуе. Хто ўздумае прадаць таней тавар сабекошту, той хутка прадасьць усю сваю гаспадарку і застанецца, як кажуць, «на бабох». Чым таней самаму прадаўцу абыходзіцца тавар, тым таней ён можа яго продаць. Чым даражэй сабе каштуе тавар, тым даражэй гэты тавар прадаецца. Нашы прамысловыя тавары дарагія. Зразумела, што яны самой нашай прамысловасьці абыходзяцца дорага.

Чаму-ж самой нашай прамысловасьці тавары абыходзяцца дорага?

Выдаткі па вырабу тавараў, або, як кажуць, сабекошт тавараў, залежыць ад таго, колькі грошай страчана на пакупку сыравіны, апал для машыны, на аплату рабочых. Гэта адна стацьця выдаткаў. Другая стацьця—гэта тое, што будынкі старэюць і абсталяваньне фабрык ды заводаў таксама. У часе работы варштаты знашваюцца і паступова робяцца няпрыгоднымі для працы. Будынкі фабрыкі, завода таксама не стаяць вечна. Яны час-ад-часу старэюць. Вось тут і трэба вылічыць: за які час варштаты, машыны і будынкі робяцца няпрыгоднымі, і раскласьці іх кошт на ўвесь той тавар, які за гэты час вырабляецца. І нарэшце, трэцяя стацьця выдаткаў—гэта так званыя накладныя выдаткі: ацяпленьне памяшканьня, асьвятленьне, уборка, утрыманьне канторы, страхоўка, падаткі ды інш.

Паглядзімо цяпер, якая стацьця выдаткаў у нас вялікая.

Перш за ўсё прыпамятаем тое, што мы казалі раней. Прамысловасьць мы атрымалі ад былых гаспадароў зусім старую. І абсталяваньне (машыны, варштаты ды інш.) гэтай прамысловасьці, якое працавала яшчэ ў старых гаспадароў, працуе ўжо некалькі гадоў у нас. Яно надта знасілася і састарэлася. Ад гэтага часта здараюцца паломкі, псаваньне частак, а значыць, патрэбны страты на рамонт, дый прастоі ў часе рамонту абыходзяцца дорага. Будынкі таксама пастарэлі, патрабуюць капітальнага рамонту, пераробкі і г. д. Гэта стацьця выдаткаў вялікая.

Цэны на сыравіну яшчэ ў 1925-26 г. значна падняліся. Апрача баваўняна-папяровай, пяньковай і льняной ды цукровай прамысловасьці, цэны на іншую сыравіну сталі вышэйшыя. А некаторыя з іх і падаражэлі і якасьцю зрабіліся горшымі (махорка, алейнае семя). Падаражэў і апал. Гэта падаражэньне не закранула толькі тых прадпрыемстваў, што назапасілі апалу на год. Нарэшце, заработная плата рабочых павысілася болей, чым павысілася продукцыйнасьць працы рабочых. У 1925-26 годзе рабочыя павысілі выраб на 12 проц. болей, чым у папярэднім годзе, а заработная плата павялічылася на 27 проц. у параўнаньні з папярэднім годам. Чаму сплахавалі рабочыя? Рабочыя ў гэтай справе мала вінны. Уся справа ў тым, што з 1-га чэрвеня 1925 г. па 1-е чэрвеня 1926 году на фабрыкі і заводы, у сувязі з пашырэньнем вытворчасьці, было прынята 464.000 новых рабочых. Гэтыя рабочыя яшчэ ня былі навучаны. Нянавучаныя рабочыя працавалі горай ад навучаных. Яны не маглі хутка ўцягнуцца ў працу і прыстасавацца да справы адразу. Сваёй працай яны часта шкодзілі і затрымлівалі працу старых рабочых. З-за гэтага заўважалася памяншэньне продукцыйнасьці працы (праца давала меншыя вынікі).

А ўсё гэта разам—зношанасьць будынкаў, машын і варштатаў, рост цэн на сыравіну і апал—павялічае цану тавараў. У дадатак да гэтага і трэцяя стацьця вы-

даткаў—накладныя выдаткі—бывае на некаторых фабрыках і заводах вялікая. Вялікія штаты служачых або кепскае гаспадараньне (лішнія выдаткі на апал, на ўборку ды іншае) падаражаюць тавары. Падаражаюць тавары і гандлёвыя організацыі, якія робяць на тавары значныя накідкі, або ганяючыся за прыбыткамі, ці з прычыны вялікіх накладных выдаткаў.

Ёсьць, аднак, яшчэ адна прычына, якую, уласна, трэба паставіць на першае месца,—гэта **нявысокая тэхніка нашай вытворчасьці.** Вельмі часта на нашых фабрыках амаль рукамі вырабляюць такую рэч, якая можа быць зроблена машынаю. А ручная праца, як мы бачылі (на прыкладзе з малацьбою), даражэй за працу машыновую. Дзякуючы таму, што ранейшыя капіталістыя будавалі фабрыкі няўмела і часта да галоўнага будынку (калі справы ішлі з прыбыткам) прыраблялі шмат прыбудовак, уся фабрыка аказвалася організованай дрэнна. Варштаты расстаўляліся нязручна. Рэч, якая апрацоўвалася на варштаце, пераходзячы з аднаго варштату на другі, пераносілася і ўніз, і ўверх, і ўперад, і назад па ўсёй фабрыцы. Трацілася дарэмна вельмі многа часу, а тавар, дзякуючы гэтаму няўмельству, якое дасталося нам у спадчыну, даражэе. Які ўплыў робіць на цану тавару добрая тэхніка, можна бачыць з наступных прыкладаў. Кожны ведае, што такое алюмінь. Гэта мэталь, з якога робяць лыжкі, міскі, рондлі ды інш. Ён-жа ўжываецца пры пабудове аэропляна ў. Так вось, гэты алюмін выраблялі раней, ня ўжываючы ў часе вырабу электрычнасьці. Тады ён каштаваў даражэй ад серабра разоў у 7. Фунт алюміну каштаваў тады 180 р. Цяпер яго здабываюць пры дапамозе электрычнасьці, і фунт яго каштуе 22 к. Вось якая розьніца ад зьмены тэхнікі: 180 р. і 22 к.! Патаненьне амаль у 1.000 раз. А вось другі прыклад. Трактар мае адну вельмі складаную частку, якая называецца ахаладжальнікам (радыятарам). Гэта частка трактара складаецца з 96 трубак, падагнаных адна да аднэй і зьлітаваных разам. З дапамогаю ручных інструмантаў адзін рабочы можа ў працягу 8 гадзін працы зрабіць толькі 1 такі ахала-

джальнік. А на вялікіх трактарных заводах гэтыя ахаладжальнікі робіць машына. Каля яе працуюць 3 рабочыя. І за 8 гадзін яны вырабляюць 1.200 штук такіх ахаладжальнікаў. На аднаго рабочага пры машыновай працы прыпадае, значыць, 400 штук, тымчасам, як пры ручной—1 штука. А плаціць рабочым трэба аднолькава. Ясна, што машыновая праца робіць тавар танным. У Маскве на адным заводзе, добра прыглядзеўшыся да таго, як ідзе праца, спрабавалі толькі варштаты на заводзе расставіць інакш, чым яны стаялі, і адразу продукцыйнасьць павялічылася ўдвая, а значыць, і тавар патанеў.

Такім чынам, адна з самых важных прычын дарагоўлі нашых тавараў—гэта нявысокая тэхніка і кепская організацыя саміх фабрык.

Чаму-ж на нашых фабрыках нявысокая тэхніка і чаму яны дрэнна організаваны? А таму, што будавалі іх ня мы самі, але капіталістыя. Фабрыка ў капіталістага была дрэнная, дык ён выяжджаў на рабочых. Прымушаючы рабочага працаваць 12-15 гадзін у суткі, плоцячы яму грашы, бязьлітасна яго эксплёатуючы, ён ня меў патрэбы ў добрых машынах. Ён проста прымушаў рабочых працаваць лішні час.

Значыць, мы выявілі, чаму нашы тавары нявысокай якасьці і дорага каштуюць. Але мала ведаць, чаму тавары дарагія і чаму яны кепскія. Трэба ведаць, як атрымаць добры і танны тавар. Трэба ведаць, ці робіць што-небудзь сучасны гаспадар прамысловасьці—рабочая кляса—для зьніжэньня цэн, для патаненьня тавараў ды паляпшэньня іхнай якасьці.

Само сабою зразумела, што рабочая кляса сама незадаволена тым, што тавары дорага каштуюць і нявысокай якасьці. Пад кіраўніцтвам партыі рабочыя праз свае профэсыйныя організацыі вядуць вялікую работу па зьнішчэньні гэтых недахватаў нашай прамысловасьці. Рабочыя зацікаўлены ў зьніжэньні цэн і ў павялічэньні якасьці тавараў удвая. Папершае, яны самі купляюць тавары. Таму яны зацікаўлены ў тым, каб атрымаць за танную цану добры тавар. Падругое, яны зацікаўлены, як гаспадары прамысловасьці,

у наладжаньні праз мену тавараў прамысловасьці на тавары сельскай гаспадаркі, сувязі гораду з вёскай. Чым больш танны і лепшы тавар будзе даваць прамысловасьць вёсцы, тым мацней будзе гэтая сувязь. Чым больш танны будзе тавар, тым хутчэй ён пойдзе ў вёску, тым больш вёска сама будзе прадаць. А, каб больш прадаць і больш купляць, трэба больш вырабляць, гэта значыць разьвіваць сельскую гаспадарку. А разьвіцьцё сельскае гаспадаркі дапамагае разьвіцьцю прамысловасьці, і наадварот. Такім чынам, патаненьне тавараў падштурхне разьвіцьцё ўсяе народнае гаспадаркі.

Вось чаму цэнтральны камітэт партыі вынес пастанову—**як-бы там ні было,** а дамагчыся к 1-му чэрвеня 1927 году зьніжэньня раздробных цэн на 10 проц. А затым сабекошт тавараў, г. зн. фабрычную цану, зьнізіць ня менш, як на 5 проц.

За кошт чаго-ж павінна быць праведзена зьніжэньне цэн?

Зьніжэньне **раздробных** цэн павінна быць праведзена за кошт памяншэньня гандлёвых надбавак і памяншэньня накладных выдаткаў. З гэтаю мэтаю было абсьледвана: як тавар з фабрыкі трапляе да спажыўца. Выявілася пры гэтым, якія гандлёвыя організацыі зьяўляюцца лішнімі, якія з іх трэба зачыніць, якія пакінуць. Гандлёвая сетка, напрыклад, Цукратрэсту скарочана на 204 адзінкі.

Усім гандлёвым організацыям было загадана, каб тавар ня гуляў са складу на склад, а з фабрыкі ён павінен трапляць да спажыўца, праходзячы самае большае праз адзін-два склады.

Потым, Народны Камісарыят Гандлю перагледзеў гандлёвыя надбаўкі на розныя тавары. Ён загадаў зьнізіць цэны на мануфактуру на 10—17 проц., на мэталёвыя тавары і шкло для вокан—20—25 проц., на газу, на алей і соль—33 проц. (пры гэтым зьняць акцыз [1]) і г. д. Вызначаны прыбытак, вышэй якога гандлёвыя організацыі атрымаць ня могуць: па сельскай коопэрацыі—2¾ проц. прыбытку, па гарадзкой—2 проц.,

[1]) Акцыз—гэта падатак, які накладваецца ўрадам на некаторыя тавары.

на транспорце—1,8 проц. За ашуканства, за паказное зьніжэньне цэн, калі, напрыклад, пад відам 1-га гатунку продаюць 2-гі гатунак, вінныя ў гэтым аддаюцца пад суд.




Потым, зьніжэньне раздробных цэн павінна праводзіцца заўсёды, а ня толькі час-ад-часу. А для таго, каб гэта было на справе, а не на словах, пастанова цэнтральнага камітэту партыі патрабуе ўпартай працы па зьніжэньні фабрычных цэн тавараў.

Зьніжэньне фабрычнай цаны тавару—справа цяжкая і складаная. Вышэй мы ўжо казалі, як складаецца гэта фабрычная цана тавару. Яна складаецца з кошту сыравіны, апалу, смазачных матар'ялаў, кошту зношаных машын, фабрычных будынкаў, кошту заработнае платы, утрыманьне канторы, складаў і г. д. Ясна, што самы просты шлях да зьніжэньня фабрычнае цаны—**ашчаднасьць ва ўсіх выдатках** (экономія). Цэнтральны камітэт партыі прапанаваў усім фабрыкам ды заводам, усім гаспадарчым организацыям праводзіць суровы рэжым экономіі (устанавіць строгую ашчаднасьць ва ўсім). Можна зьберагчы на сыравіне. Зда-

раецца іншы раз так, што фабрычныя машыны прыстасованы і лепш за ўсё апрацоўваюць адзін пэўны гатунак сыравіны. Яны апрацоўваюць і другія гатункі, але даюць пры гэтым шмат адкідаў. Фабрыка, купляючы сыравіну, іншы раз не зварачае на гэта ўвагі, купляе сыравіну розных гатункаў—толькі-б сыравіна была. Ідзе такая сыравіна на машыну і шмат яе адкідаецца, як сапсаванае і нягоднае. А гэта падаражае тавар. Ці возьмем, напрыклад, семя, з якога вырабляецца алей. Кожны селянін ведае, што адно семя дае і 10 і 11 фунт. алею з пуда, а другое і 5 фунтаў не дае. Трэба ўмець купіць багатае на алей семя, а ня худое. Інакш атрымаецца толькі псаваньне сыравіны і машын, дый тавар дарагі будзе. Танная сыравіна, добрае якасьці, якая падыходзіць да абсталяваньня фабрыкі, робіць тавар танным. Можна падняць тавар і правільным, разумным скарыстаньнем адкідаў. У прамысловай вытворчасьці атрымліваюцца іншы раз такія адкіды, якія, здаецца, нічога ня варты. А глядзіш, калі іх правільна скарыстаць, дык яны даюць дадатковы прыбытак, які дазваляе зьнізіць цану тавару. Возьмем такі выпадак. На нафтавых промыслах, пры пампаваньні з-пад зямлі нафты, разам з нафтаю пампуецца з зямлі і вада. Нафту ачышчаюць ад вады і спушчаюць ваду па рове ў мора. Так было дзесяткамі гадоў. Адзін інжынэр зацікавіўся гэтаю сьмярдзючаю вадою. Спрабаваў выявіць, што ў ей ёсьць. І аказалася, што гэтая сьмярдзючая вада каштуе вялікія грошы. Яна мае ў сабе лякарства—ёд. Гэтае лякарства ўжываецца пры ўсялякіх парэзах, ранах і пры некаторых унутраных хваробах. Мы прывозім ёд з-за межаў і плацім вялікія грошы, мільёны рублёў. А вада з гэтага рову можа даць ёду столькі, што нам і самім хопіць, ды яшчэ вывозіць можам за межы. Так і ў кожнай вытворчасьці бываюць адкіды, якія вывозяцца на сьметнік, паляцца, але якія пры ашчадным, умелым іх скарыстаньні могуць даць вялікую карысьць і дазволіць зьнізіць цану тавару. Можна з'эканоміць і на апале. Кожны ведае, што бярозавыя дровы даюць больш цяпла, чым асінавыя, буры каменны вугаль дае менш цяпла за чорны. Кожны

ведае, што адчыненая руская печ награе слабей, чым печ зачыненая, галяндзкая. Таксама, калі спаліць апал у галяндзкай печы і адкрыць пры гэтым дзьверцы, дык печ награецца слабей. Значыць, трэба ўмець выбраць добры апал, трэба яго паліць пры такіх умовах, каб меншая колькасьць яго давала больш цяпла. Страта апалу будзе меншай,—тавар стане таней. Падаражаюць тавар і прагулы рабочых. Усе варштаты на фабрыцы прыводзяцца ў рух звычайна аднэй-двума паравымі машынамі. Машына пастаўлена такой сілы, каб яна працавала з поўнаю нагрузкаю, як кажуць, да адказу. Што-ж атрымліваецца, калі дзесятак-другі фабрычных рабочых у сьвята добра-ткі выпіла. Ясна, назаўтра, з пахмельля, яны на працу ня выйдуць. Дзесяць-дваццаць варштатаў будуць стаяць, і паравая машына будзе працаваць бяз поўнай нагрузкі. А пусты ход машыны таксама грошы каштуе. Траціцца апал, спрацоўваюцца часткі і г. д. А гэта робіць тавар дарагім. Нельга таму дапушчаць прагулаў, на фабрыках і заводах павінна быць строгая працоўная дысцыпліна.

Адным словам, ашчаднасьць у ўмелым расходаньні сыравіны, апалу, рознага роду дапаможных матар'ялаў, умелае скарыстаньне адкідаў, умацаваньне працоўнай дысцыпліны, бязьлітасная барацьба з п'янствам, з прагуламі ды расхлябанасьцю і ўжо, вядома, жорсткае прасьледваньне ўсялякіх бяссэнсных выдаткаў, накшталт скарыстаньня фабрычнага транспорту для катаньня і гуляньня, накшталт раздуваньня штатаў служачых ды інш.,—усё гэта ўпарадкуе нашу вытворчасьць і патаніць цэны на тавары.

Вялікае значэньне мае для патаненьня фабрычнае цаны тавару правільная, разумная організацыя вытворчасьці. І на гэты бок справы Цэнтральны Камітэт партыі зьвярнуў увагу ўсіх гаспадарчых і прамысловых організацый ды прадпрыемстваў сваёю пастановаю аб рацыяналізацыі (правільнай організацыі) вытворчасьці. Цэнтральны Камітэт партыі пастанавіў, каб да палепшаньня і правільнай організацыі вытворчасьці былі прыцягнуты ўсе рабочыя. Самі рабочыя

павінны зазначыць на хібы і недахваты ў працы, зазначаць, як пры тых сродках і пры тым абсталяваньні, што фабрыкі і заводы маюць зараз, можна палепшыць справу.

Для гэтага на фабрыках ды заводах наладжваюцца **вытворчыя нарады.** На гэтых нарадах рабочыя абгаварваюць, як палепшыць справу на іх фабрыцы, каб атрымаць танны тавар. На гэтых вытворчых нарадах рабочыя абгаварваюць новыя **вынаходкі рабочых,** якія паляпшаюць вытворчасьць. Рабочыя цяпер часта прыдумваюць шмат палепшаньняў, якія зьберагаюць рабочы час, сродкі і, значыць, патаняюць тавар. На адным, напрыклад, заводзе «Красный Треугольник» за кароткі час рабочыя далі шэраг заўваг, якія дапамагаюць заводу зьберагаць дзесяткі тысяч рублёў. Рабочы Мелер прырабіў да такарнага варштату тры асобныя апараты, якія даюць магчымасьць выконваць на такарным варштаце фрэзэрныя і шліфаваныя работы. Адзін варштат, дзякуючы гэтаму, замяняе тры дорагакаштуючыя варштаты. Майстар Гушчын зьмяніў спосаб апрацоўкі вырубных нажоў і гэтым за сем месяцаў дапамог заводаў зьберагчы 4.000 руб. Замена на заводзе скураных шайб шайбамі з чырвонай байкі зьберагла заводу матар'ялаў на 45.000 руб. На другім заводзе нарэзка верацён рабілася на варштаце, рабочыя запрапанавалі працаваць на прэсе. Дзенны выпуск верацён з 2 з пал. тысяч узрос да 7 з паловаю тысяч штук. Такіх прыкладаў можна падаць шмат.

Паляпшаюцца ня толькі паасобныя машыны. Паляпшаецца ўся організацыя працы на фабрыках. Стараюцца паставіць працу так, каб яна ішла бязупынна, як вада ў рэчцы. Для гэтай мэты ставяць на фабрыках такія стужкі, якія ўвесь час рухаюцца і ўздоўж якіх сядзяць рабочыя. На стужку ставіцца тая рэч, што апрацоўваецца. Калі яна праходзіць міма кожнага рабочага, які знаходзіцца каля стужкі, ён гэту рэч апрацоўвае. Калі рэч даходзіць да канца стужкі, яна ўжо зусім гатовая. Такія рухальныя стужкі (іх называюць конвэйерам) заведзены, напрыклад, на заводзе сельска-гаспадарчых машын «Комунар». Да ўвядзень-

ня конвэйера на гэтым заводзе жняяркі-лобагрэйкі зьбіраліся ў трох розных памяшканьнях, прычым 80 рабочых зьбіралі 173 лобагрэйкі ў дзень. Пасьля ўвядзеньня рухальных стужак (конвэйера) 40 рабочых зьбіраюць у дзень 220 машын.

Так, на старых фабрыках ды заводах, якія дасталіся нам ад капіталістых, рабочыя паляпшаюць вытворчасьць, павялічаючы колькасьць тавараў, паляпшаючы іх якасьць і дабіваючыся болей танных цэн. Канечна трэба, каб сяляне дапамаглі нашай прамысловасьці ў гэтай працы. Яны гэта могуць зрабіць, галоўным чынам тым, што будуць паляпшаць якасьць тае сыравіны, якая патрэбна фабрыкам і заводам, будуць здабываць гэту сыравіну ў вялікай колькасьці, г. зн. будуць павышаць таварнасьць сельскае гаспадаркі.

Вялікую работу могуць зрабіць сяляне і ў справе дапамогі зьніжэньню цэн ды паляпшэньню якасьці тавараў. Наогул трэба моцна памятаць, што ўсякая справа прысьпяшаецца ў дзесяткі і сотні разоў там, дзе масы прымаюць удзел у працы. А працоўныя масы вёскі зацікаўлены ў зьніжэньні цэн. Іх і трэба прыцягнуць да гэтай справы.

Як? А вось як. Ёсьць у нас шмат такіх сёл, дзе, побач з коопэратыўнай крамай, ёсьць крама якога-небудзь мясцовага кулака Данілы. Кожны селянін з уласнае практыкі ведае, што як толькі ў коопэратыве якога-небудзь тавару не хапае ці зусім няма, дык Даніла на гэты тавар павялічае цану. Усе гэта заўважаюць, усе гэта ведаюць. А што робяць, каб гэтага ня было? Нічога. Лаюць і коопэратыў і Данілу. Гэта, бясспрэчна, кепская барацьба з высокай цаной. Больш толку будзе, калі выявіць, чаму ў коопэратыве тавараў мала, ці чаму іх няма. У 90 выпадках з сотні напэўна прычына будзе адна. У коопэратывах не хапае сродкаў. А не хапае сродкаў таму, што з 500 дамаўласьнікаў толькі поўсотні зьяўляюцца пайшчыкамі коопэратыву, а 450 толькі ўмеюць бурчэць. Ясна, што ня бурчэць, ня лаяцца трэба, але трэба змагацца і з Данілам і з высокімі цэнамі, умацоўваючы коопэратыў, уступаючы пай-

шчыкамі, уносячы паявыя ўзносы. Моцны коопэратыў з добрымі сродкамі здолее хутка прыціснуць Данілу, прымусіць яго зачыніць сваю грабілаўку.

А то здараецца і так, што сялянкі купляюць у коопэратыве простае мыла мыць бялізну. А атрымліваюць ня мыла, але якуюсь кашу, якая і ў вадзе распаўзаецца. І зноў справа канчаецца тым, што лаюцца. А што там праверыць, прыгледзецца, як коопэратыў захоўвае тавары? Ці не кладзе ён гэта мыла ў сырое месца, дзе яно псуецца, ці ня вінны тут складчык, даручны? А калі тавары захоўваюцца добра, узяць за бакі члена праўленьня, які купляў мыла. Ён вінны, што купіў кепскае. Ды ня лаяць яго, ад лаянкі нічога добрага ня бывае, але прымусіць рэвізыйную камісію тут-жа, зараз-жа праверыць, дзе куплена мыла, па якой цане, чаму такая якасьць? Калі справа сур'ёзная, аддаць пад суд, жартаваць з такімі рэчамі ці адмахвацца ад іх рукой ня трэба. Калі выявіцца, што член праўленьня нявінны, што фабрыка дае такое мыла і што другога няма, нельга дастаць, дык трэба накіраваць справу да прокурора. Ён знойдзе віннага. Дапамагчы сялянам у гэтай справе можа і ячэйка, і сельсавет, і судзьдзя. Трэба прыўчыць работнікаў коопэратыву да адказнасьці за даручаную ім грамадзкую справу.

Бывае селянін у горадзе, купляе там тавар. Той-жа самы тавар ён купляе ў сваёй сельскай патрабілаўцы. Аказваецца, што ў сельскай патрабілаўцы цана ледзь ці не ўдвая вышэйшая. Ізноў лаюцца: «грабілаўка гэта, а не патрабілаўка». І зноў ніякага толку ад гэтай лаянкі. І зноў трэба патурбавацца. Трэба праверыць, дзе тавар купілі, па якой цане, колькі заплочана за дастаўку, якая накідка на тавар, ці не перавышае яна пэўныя накідкі, вызначаныя Народным Камісарыятам Гандлю для сельскіх коопэратываў. Вось тады і будзе толк. Вінны будзе знойдзены. У залежнасьці ад ступені віны, ён атрымае выгавар, або будзе зволены з пасады, а то і адданы пад суд.

Кепскі той член коопэратыву, які ня ведае, які тавар трымае крама, дзе, па якіх цэнах яна яго купляе, як захоўвае тавар, як расходуе, ці правільная вага ў

коопэратыве, колькі каштуе наём і ўтрыманьне крамы, праўленьня, служачых, якія надбаўкі робяцца на тавары і г. д. Толькі ведаючы ўсё гэта, селянін здолее сачыць за працай коопэратыву, рабіць трапныя прапановы, прыцягнуць каго належыць да адказнасьці.

Ячэйкі партыі ды комсамолу павінны дапамагчы пайшчыкам наладзіць контроль над працаю коопэратыву, організаваць пры коопэратывах групы беднаты, падцягваць працу крамовых камісій, саветаў упоўнаважаных, рэвізыйных камісій і праўленьняў. Толькі пры шырокім уцягненьні сялян у працу коопэратываў барацьба за зьніжэньне цэн дасьць сапраўдныя вынікі і будзе пастаўлена пад контроль вясковай беднаты і сераднякоў.

### ПЫТАНЬНІ.

1. **Чым тлумачыцца нявысокая якасьць нашых тавараў?**
2. **Чаму тавары нашай прамысловасьці дарагія?**
3. **Як праводзіцца зьніжэньне цэн у раздробным продажу?**
4. **Як адбываецца зьніжэньне сабекошту?**
5. **Што можа зрабіць кожны селянін для зьніжэньня цэн?**

## 2. НЕДАХВАТ У НАС ТАВАРАЎ І ЯК МЫ ДАМАГАЕМСЯ ТАГО, КАБ ЗЬНІШЧЫЦЬ ГЭТЫ НЕДАХВАТ.

Кожнаму рабочаму і кожнаму селяніну нашай краіны добра вядома, што зараз у нас нястача прамысловых тавараў. Не хапае ў нас мануфактуры, не хапае сукна ды інш. У нашай краіне, як кажуць, у сучасны момант існуе таварны голад. Атрымліваецца на першы погляд штосьці дзіўнае і незразумелае. Наша прамысловасьць, як ужо гаварылася вышэй, дасягнула даваеннага ўзроўню. Да вайны тавараў было ў выстарчальнай колькасьці. А зараз іх мала. Ці няма тут якой-небудзь памылкі?

Не, ніякай памылкі тут няма. Наша прамысловасьць сапраўды дасягнула даваеннага ўзроўню, а тавараў у нас усё яшчэ не хапае. Тлумачыцца гэта наступнымі прычынамі. Да вайны ў Расіі быў царскі ўрад, які абараняў інтарэсы памешчыкаў і капіталістых. Гэты ўрад ня толькі дапамагаў памешчыкам і капіталістым рабаваць сялян, але і сам іх рабаваў такі добра. Кожны

год з сялянскай кішэні ў памешчыцкую за арэнду зямлі перакладалася звыш 500 мільёнаў руб. Кожны год селянін за патравы, за зьбіраньне грыбоў, ягад, за арэнду выганаў ды вадапою, за арэнду самых вадапояў і г. д. плаціў памешчыкам дзесяткі мільёнаў р. Асабліва рабаваў памешчык тады, калі селянін ў яго купляў зямлю. Толькі праз адзін сялянскі пазямельны банк (ня лічачы прыватных банкаў) памешчыкі выкачалі з сялянскай кішэні звыш аднаго мільёну руб.

Але і царскі памешчыцка-капіталістычны ўрад абіраў сялян. Ён зьбядняў іх вялікімі падаткамі. Па-




зямельны падатак, земскія, страхавыя ды інш. зборы складалі ў сярэднім ня менш 9 руб. з душы мужчынскага насельніцтва. Апрача таго, вёска плаціла вялікія пасрэдныя падаткі (акцызы), купляючы розныя тавары (запалкі, цукар ды інш.). Усякіх падаткаў, збораў і акцызаў вёска кожны год плаціла да паўтара мільярда руб.

Савецкая ўлада зьнішчыла зусім памешчыцкі рабунак, перадаўшы зямлю сялянам. Падаткі значна зьменшыліся, дзякуючы гэтаму, вёска, зараз плаціць

менш, як за царом. Менш, прыблізна, на паўтара мільярды руб. Значыць, паўтара мільярда руб. застаецца ў вёсцы.

Мы ўжо казалі, што галоўны пакупец прамысловых тавараў—сялянства. І вось, калі ў царскія часы купляла вёска, якую досыць парабавалі памешчыкі і царскі ўрад, вёска не магла шмат чаго купіць. Дзеля гэтага тавараў хапала з лішкам. А цяпер прамысловасьць выробляе столькі-ж, колькі яна выробляла да вайны. Але цяпер вёска ўжо ня тая. Цяпер у яе, у параўнаньні з старымі часамі, прыблізна на паўтара мільярды больш. Яна патрабуе таму больш прамысловых тавараў, больш іх купляе. А прамысловасьць можа даць толькі па старой, па даваеннай норме. Тавару таму не хапае, у краіне таварны голад.




Які-ж можа быць выхад з гэтага становішча? Ясна, што выхад можа быць толькі адзін. **Гэта пабудова новых фабрык і заводаў.** Савецкая ўлада па гэтаму шляху і пайшла.

Наша прамысловасьць увесь час расьце. Рост яе за апошнія гады можна бачыць з наступных лічбаў:

Кошт усёй вытворчасьці нашай прамысловасьці па даваенных цэнах складаў:

| | |
|---|---|
| У 1923-24 г. . . . . . . . | 2.441 млн. руб. |
| „ 1924-25 „ . . . . . . . | 3.797 „ „ |
| „ 1925-26 „ . . . . . . | 5.318 „ „ |
| „ 1926-27 „ . . . . . . . | 6.326 „ „ |

Прадбачыцца, што наша прамысловасьць з году ў год будзе даваць тавараў усё больш ды больш.

| | |
|---|---|
| У 1927-28 г. прадбачыцца, што прамысловосьць дасьць тавараў на . . | 7.188 млн. руб. |
| У 1928-29 . . . . . . . . . . . | 7.944 „ „ |
| „ 1929-30 . . . . . . . . . . . | 8.723 „ „ |
| „ 1930-31 . . . . . . . . . . . | 9.517 „ „ |

Для гэтае мэты ў СССР будуецца зараз шмат новых фабрык і заводаў. Будуюцца новыя тэкстыльныя фабрыкі. Будуюцца вялікія заводы для вырабу чыгуну, жалеза і сталі. Будуюцца ніколі нябачаныя яшчэ ў нашай краіне вялікія электрычныя станцыі (напрыклад, Днепрастрой). Гэтыя станцыі будуць прыводзіць у рух новыя пабудованыя фабрыкі і заводы. Электрычнасьць заменіць на гэтых фабрыках паравыя машыны. А з прычыны таго, што электрычная сіла таней за паравую, дык гэта адаб'ецца і на кошце тавараў.

Тавары будуць танейшыя. Яны будуць танейшымі яшчэ і таму, што новыя фабрыкі і заводы будуюцца ня так, як калісьці іх будавалі капіталістыя. Цяпер іх правільна разьлічаюць, абсталёўваюць самымі лепшымі машынамі і варштатамі. Правільна расстаўляюць гэтыя варштаты і г. д. Адным словам, будуюць так, каб на іх можна было вырабляць вялікія масы тавараў і прытым тавараў патанёных і добрай якасьці.

На даданых картах абазначана, дзе якія фабрыкі, заводы будуюцца зараз у СССР.

Але ў нас можа паўстаць такое пытаньне. Ці ёсьць у нас упэўненасьць, што мы гэтыя фабрыкі і заводы пабудуем? А калі пабудуем, дык адкуль мы ведаем, што мы пабудуем іх столькі, што наша прамысловасьць у 1930-31 г., як мы казалі вышэй, дасьць тава-

раў на 9.517 мільёнаў руб. па даваенных цэнах? Адкуль мы ведаем, што будзе так, а ня іначай?

А вось адкуль. Мы ўжо неяк раз казалі, што паасобныя часткі нашай гаспадаркі зьвязаны між сабой. Зямля належыць дзяржаве, амаль усе фабрыкі і заводы належаць дзяржаве, чыгункі належаць дзяржаве, гандаль таксама ў значнай ступені належыць дзяржаве. Такім чынам, большая частка нашае народнае гаспадаркі мае аднаго гаспадара. Гэтым гаспадаром




Якія фабрыкі і заводы будуюцца ў Сібіры

зьяўляецца савецкая дзяржава. У капіталістычных краінах, дзе адна фабрыка належыць аднаму капіталістаму, другая—другому, трэцяя—трэцяму, дзе зямля належыць памешчыкам,—там нельга сказаць, што будзе праз год—праз два з народнай гаспадаркай гэтай краіны. Будзе ісьці яна назад, ці пойдзе наперад. Там толькі асобныя гаспадары могуць разьлічаць, калі яны лоў-




Якія фабрыкі і заводы будуюцца ў Эўропэйскай частцы СССР.

ка і ўмела вядуць свае справы, дый то не заўсёды, што ў іх будзе праз год-два. А ў нас народная гаспадарка мае аднаго гаспадара. Таму наша краіна тым і адрозьніваецца ад капіталістычных краін, што мы стараемся будаваць гаспадарку на аснове разрахункаў, зробленых раней. Мы стараемся будаваць народную гаспадарку не на «шчасьце», **а паводле пляну.** Мы ведаем, які прыбытак дасьць уся народная гаспадарка, якіх яна патрабуе выдаткаў, колькі яна ўся дасьць к канцу году чыстага прыбытку. І вось гэты прыбытак ад усяе народнае гаспадаркі мы можам разьмеркаваць **паводле пляну.** Столькі-та трэба ўкласьці ў прамысловасьць і пабудаваць такія-та заводы, якія даюць столькі-та тавараў; столькі-та трэба ўкласьці ў сельскую гаспадарку і г. д. Так савецкая ўлада і робіць. Кіруючы ўсёй народнай гаспадаркай, яна яе будуе і перабудоўвае паводле пэўнага пляну. А плян гэты разьлічаны так, каб наша гаспадарка зрабілася гаспадаркай социялістычнай.

## ПЫТАНЬНІ.

**1. Чаму ў нашай краіне існуе недахват прамысловых тавараў?**

**2. Што робіць савецкая ўлада, каб тавараў хапала?**

**3. Чым адрозьніваецца наша гаспадарка ад капіталістычнай і як яна будуецца?**

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАНЬНІ.

1. Выявіце, ці зьніжаны ў вашым коопэратыве цэны і наколькі.

2. Дагаварэцеся з валасным камітэтам (раённым) і праўленьнем коопэратыву, зрабеце плян і потым правядзеце ў вашай вёсцы кампанію па ўцягненьні сялян у коопэрацыю.

3. Выявіце, як рабавалі царскі ўрад і памешчыкі вашу вёску (у архіве райвыканкому), даведайцеся, колькі вёска плаціла падатку. Распытайце сялян, колькі яны плацілі штогодна памешчыкам, банку і г. д.

## ГУТАРКА ШОСТАЯ.

# КООПЭРАЦЫЯ—ШЛЯХ ВЁСКІ ДА СОЦЫЯЛІЗМУ.

### 1. ПРАЗ КООПЭРАЦЫЮ ЛЯЖЫЦЬ ШЛЯХ ДА ЎЗДЫМУ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

У аднэй з папярэдніх гутарак мы ўжо гаварылі, што змычка гораду з вёскай заснавана на памене прамысловых тавараў на продукты сельскай гаспадаркі. Гандаль цесна зьвязвае горад з вёскаю і вёску з горадам. Да рэволюцыі гандлёвая сувязь гораду з вёскай таксама была. Але тады пасярэднікам між горадам і вёскаю былі гандляр, купец, капіталісты. У горадзе прамысловасьць належала капіталістым, капіталістыя-ж трымалі сувязь з вёскаю. Іх мэтай у гэтай сувязі з вёскай была **нажыва.**

Зараз прамысловасьць знаходзіцца ў руках рабочых. Рабочыя трымаюць сувязь з вёскай. Але яны ня ставяць сабе мэтай нажыцца на гэтай справе. Яны ставяць сабе мэтаю так наладзіць памен між горадам і вёскай, каб яна прынесла карысьць і прамысловасьці і сельскай гаспадарцы, і рабочым і сялянам, прынесла карысьць усяму нашаму социялістычнаму будаўніцтву. І вось для гэтага служыць **коопэрацыя.**

У нашай краіне, дзе ёсьць звыш 20 мільёнаў сялянскіх гаспадарак, коопэрацыя і пры тым коопэрацыя сельска-гаспадарчая павінна мець вялізнае значэньне. Толькі з дапамогаю коопэрацыі сяляне сапраўды здолеюць падняць сельскую гаспадарку на большую вышыню, пабудаваць социялістычную сельскую гаспадарку. Надта часта сяляне ня ўступаюць у коопэрацыю і кепска робяць. Досыць добра падумаць, каб пераканацца, што ўдзел у коопэратыве для селяніна надта выгодны. Толькі прымаючы ўдзел у коопэратыве, ён здолее хутка палепшыць сваю гаспадарку, дапамагчы будаўніцтву социялізму ў нашай краіне.

Сапраўды, уявем сабе сялянскую гаспадарку да рэволюцыі. У сваёй гаспадарцы селянін частку продуктаў вырабляе для сваіх уласных патрэб, а частку—для продажу. Дапусьцім, што ён вырабіў для продажу лён (валакно). Гэтага лёну ў яго ёсьць 50 пудоў. Што-ж ён з ім зробіць? Калі горад недалёка, дык вязе ў горад. Калі горад далёка, ён павязе ў бліжэйшае гандлёвае мястэчка, як гэта ў большасьці выпадкаў бывае, прадасьць гандляру-скупшчыку. Але гандляр купляе лён не для сябе. Ён купляе для перапродажу на фабрыку. І перапродае ён для таго, каб нажыць на гэтым грошы. А каб нажыць, ён павінен селяніну плаціць за лён цану танейшую. Калі па гэтай цане селянін не прадасьць, гандляр ня купіць. Яму няма сэнсу даваць поўную цану. Поўную цану ён хоча атрымаць сам ад фабрыкі. Селянін на фабрыку везьці ня можа, каб атрымаць гэтую поўную цану. Ці фабрыка далёка, ці калі яна і блізка, дык наўрад ці купяць. Фабрыцы няма сэнсу купляць лён дробнымі партыямі, ды яшчэ, мо', кепска адсартаваны. Яна купляе адразу сотні і тысячы пудоў. Такім чынам, хочаш-ня-хочаш, а селяніну прыдзецца лён продаць скупшчыку па няпоўнай цане. Селянін на гэтай справе траціць, скупшчык нажываецца, і змычку з прамысловасьцю наладжвае не селянін, але скупшчык. Вось што атрымліваецца.

І зараз, ужо ў нашых умовах, пасьля рэволюцыі, сяляне часам такім-жа шляхам, праз скупшчыка, наладжваюць змычку з прамысловасьцю. І гэта, вядома, няправільна. Адзіны правільны шлях для селяніна ў нашых савецкіх умовах—дзейнічаць праз коопэрацыю, організаваць коопэратыў. Тады ўсе сяляне, якія маюць лён, адвозяць яго ў коопэратыў (і везьці далёка ня трэба), у коопэратыве зьбіраецца некалькі сотнь а то і тысяч пудоў лёну. Коопэратыў яго сартуе, прэсуе і накіроўвае на фабрыку для продажу па поўнай цане. Коопэратыў атрыманыя грошы перадае сялянам, якія даставілі лён. Выгада ясная: сяляне самі праз свой коопэратыў наладжваюць сувязь з прамысловасьцю, не даюць скупшчыку нажывацца на іх працы, атрымліваюць поўную цану за свой лён.

Чым лепшае валакно, чым лепш яно апрацавана, чым лепш яно адсартавана, тым вышэйшая яму цана. А каб атрымаць добрае валакно, трэба добрае насеньне, каб добра апрацаваць валакно, трэба добра адсартаваць яго, патрэбны машыны.

Асобнай сельскай гаспадарцы не пад сілу здабыць машыны, часта нават добрага насеньня яна ня можа дастаць. А коопэратыву і насеньне, і машыны



Комсамольцы з трактарам.

набыць лёгка. Прыбытак сялян ад продажу лёну павялічыцца, і лён будзе вышэйшага гатунку.

Добрае насеньне дае добрае валакно. Але, каб ураджай гэтага валакна быў добры, патрэбна добрая апрацоўка глебы, патрэбны штучныя ўгнаеньні, правільны пасеў і г. д. Гэта зноў-ткі патрабуе набыцьця сельска-гаспадарчых машын, г. зн. таго, чаго асобная гаспадарка набыць ня можа. Усё гэта здолее зрабіць толькі коопэратыў. І зноў прыбытак для селяніна, члена коопэратыву, ад продажу лёну ўзрастае, дзякуючы таму, што ён будзе атрымліваць большыя ўраджаі.

І гэта, апрача таго, што праца будзе экономіцца. Досыць прыпамятаць, колькі часу адбірае ручное трапаньне лёну, як пыл пры гэтым выядае вочы, як параньваюцца рукі. Досыць прыпамятаць, колькі працы і цяжкой працы патрабуецца для работы з простаю мялкаю. А пры машыновай працы гэты час вызваляецца, і селянін можа яго з карысьцю ўжыць на другую працу.

У некаторых раёнах сялянскія гаспадаркі надта церпяць ад сухменяў, або ад забалочваньня, глеба патрабуе ў іншых мясцох асушкі, а ў другіх трэба яе паліваць. Адна сялянская гаспадарка ня ў сілах самастойна і асушыць і паліць глебу. Такую працу можна зрабіць толькі аб'яднаўшыся ў коопэрацыю ўсім гаспадаркам.

Нарэшце, яшчэ адна акалічнасьць. Кожны селянін добра ведае, што мука даражэй зерня. Алей, што вырабляюць з сланэчніку, даражэйшы самога сланэчніку. Крухмаль даражэй за бульбу і г. д. Інакш кажучы, выраблены продукт даражэй за сыравіну. Выгадней прадаць крухмаль, чымся бульбу. Але каб атрымаць крухмаль, трэба пераапрацаваць бульбу на крухмальні. Кожны селянін ня можа пабудаваць такі завод. А добры, акрэплы ў першыя часы на простым збыце сялянскай бульбы коопэратыў можа пабудаваць такі завод. Ізноў прыбытак сялянскіх гаспадарак павялічыцца. І, значыць, самі гаспадаркі палепшацца.

Вось якая карысьць сельскай гаспадарцы ад коопэратыву. Коопэратыў можа пачаць з маленькага. Пачаць са збыту продуктаў сялянскай гаспадаркі, перайсьці да закупкі насеньня і машын для паляпшэньня вытворчасьці і для павялічэньня ўраджайнасьці, організоўваць работы, недаступныя паасобным сялянскім гаспадаркам (мэліорацыя ды інш.), будаваць заводы для пераапрацоўкі тэй сыравіны, што здабываецца ў сялянскай гаспадарцы, і г. д.

Апрача таго, як вядома, крэдытаваньне сялянскіх гаспадарак зараз ідзе праз коопэрацыю. А якому селяніну не патрэбен крэдыт для паляпшэньня гаспадаркі? Досыць толькі падумаць аб усім сказаным, каб

зразумець, што сяляне, якія ня прымаюць удзелу ў коопэрацыі, гэтым самым затрымліваюць разьвіцьцё сельскае гаспадаркі. Яны пазбаўляюць сябе магчымасьці паднімаць сельскую гаспадарку, павялічаць яе прыбытковасьць і, значыць, паляпшаць сваё жыцьцё.

**ПЫТАНЬНЕ.**

**Якое значэньне мае коопэрацыя для разьвіцьця сельскай гаспадаркі?**

## 2. РОЛЯ КООПЭРАЦЫІ Ў СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫМ ПЕРАБУДАВАНЬНІ ВЁСКІ.

Аб'яднаньне сялянскіх гаспадарак у коопэратыў дапамагае разьвіцьцю сельскай гаспадаркі. І ня толькі гэта. Сяляне, наладжваючы праз коопэрацыю непасрэдную сувязь з фабрыкамі, з прамысловасьцю, выпіраюць гандляра-скупшчыка. Падобна да таго, як пры разьвіцьці спажывецкай коопэрацыі, робіцца зусім непатрэбным прыватны гандляр у вёсцы, так і з разьвіцьцём сельска-гаспадарчай коопэрацыі скупшчыку на вёсцы рабіць няма чаго. Коопэратыў яго забівае. Такім чынам, коопэрацыя служыць у нашай краіне сродкам выпіраньня гандляроў. Але коопэрацыя ня толькі б'е па гандляру, яна б'е і па кулаку. А ў вёсцы, як вядома, кулак і гандляр часта—адна і тая-ж асоба.

Мы ўжо бачылі, што аб'яднаньне сялянскіх гаспадарак у коопэрацыю дапамагае больш хуткаму падняцьцю ды разьвіцьцю сельскае гаспадаркі. Коопэрацыя дапамагае таму, каб машына трапіла ў вёску. Маса аб'яднаных у коопэрацыю гаспадарак з кожным годам усё больш і больш павялічае сваю прыбытковасьць. А кулак можа разьвярнуцца толькі там, дзе беднасьць. Сапраўды, чаму кулак мае магчымасьць заняволіць бедняка? Ясна, што прычынаю, якая зацягвае на шыі бедняка пятлю кулацкае няволі, зьяўляецца тое, што бядняк мала забясьпечаны. Гаспадарка бедняка ня можа яго пракарміць, вось ён і лезе ў кулацкую пятлю, каб хаця катаржнай працай штонебудзь зарабіць. І чым больш будзе ўмацоўвацца ды разьвівацца бядняцкая гаспадарка, тым менш будзе

патрэбы ў бедняка зьвязвацца з кулаком. Перамога над беднасьцю і жабрацтвам у вёсцы будзе сьмяртэльным ударам па кулаку. Калі жабрацтва і беднасьць зьнікне, зьнікне той кій, што заганяе беднату ў кулацкую сетку. А жабрацтва вясковае можа быць зьнішчана аб'яднанымі патугамі працоўнай вёскі. Паднімаючы з дапамогаю коопэрацыі гаспадарку, дапамагаючы рабочай клясе будаваць социялізм, вёска крок за крокам будзе выпіраць жабрацтва і разам з ім кулацтва.

Што ўсё гэта правільна, пацьвярджаецца практыкай працы сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Возьмем, напрыклад, вытворчасьць малака, сыра і масла ў СССР. У сучасны момант 90% гэтай вытворчасьці ахоплена сельска-гаспадарчай коопэрацыяй. І там, дзе коопэрацыя працуе, скупшчык зьнік. Малочная коопэрацыя значна павысіла прыбытковасьць сялянскіх гаспадарак. Сібірскае масла па сваіх якасьцях адно з лепшых на сьвеце. А на замежным рынку яно ідзе па таннай цане. У 1922-23 годзе пуд нашага масла прадаваўся ў Англіі таней пуда дацкага масла на 8 р. 50 к., а ў 1924-25 годзе, гэта значыць праз тры гады, таксама таней, але ўжо на 6 р. 50 к. Чым гэта тлумачыцца? Тлумачыцца тым, што наша масла вырабляецца дрэнна, падзедаўску, някультурна. Мы плоцім надзвычайна вялікі падатак за нашу адсталасьць. А калі з 1922-23 г. да 1924-25 году, за тры гады, малочная коопэрацыя пабудавала ў найбольш буйных малочных раёнах вялікія маслабойныя заводы, цана нашага масла павысілася, «падатак на някультурнасьць» паменшыўся. Сялянская гаспадарка пачала атрымліваць на 2 рублі больш на пудзе масла. І цяпер малочная коопэрацыя ўжывае ўсе захады, каб добра апрацаваўшы малочныя продукты, атрымаць поўную цану за масла. А пакуль што мы яе не атрымліваем. Калі падлічыць, што страцілі сяляне з прычыны кепскай апрацоўкі масла за тыя тры гады, дык мы атрымаем вялізарную суму ў 20 мільёнаў рублёў. На гэтыя грошы можна купіць 6.665 трактараў з плугамі, рандалямі, сеялкамі і запаснымі часткамі. Вось што страцілі сяляне ад таго, што

коопэрацыя неналежна разьвіта. У малочных раёнах гэта ўжо добра зразумелі, і коопэрацыя разьвіваецца там хутка, дапамагаючы шпаркаму паляпшэньню сельскай гаспадаркі, выпіраньню з вёскі жабрацтва, і паступова зьнішчае гэтым кулака.




Рост коопэрацыі выпірае прыватнага гандляра. І гэта правільна. Паглядзеце на гэтыя лічбы. Коопэрацыйны гандаль складаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| у 1923-24 г. | 28% | усяго гандлю СССР, а прыватная | 41%[1] |
| „ 1924-25 „ | 37% | „ „ „ „ | 27% |
| „ 1925-26 „ | 42% | „ „ „ „ | 23% |

[1]) Астатні % складае дзяржаўны гандаль. У 1923-24 г. ён складаў 31%, у 1924-25—36% і ў 1925-26 г.—35%.

Што кажуць гэтыя лічбы? Яны кажуць, што кожны год звароты коопэрацыйнага гандлю ўзрастаюць, а прыватнага зьмяншаюцца.

Коопэрацыя выціскае прыватніка.

Чым больш разьвіваецца коопэрацыя, тым цясьней праз яе сельская гаспадарка зьвязваецца з прамысловасьцю. У раёнах Туркастану, якія разводзяць баваўну, ужо наладзілася цесная сувязь прамысловасьці з сельскай гаспадаркай. Коопэрацыя там разьвіта і ўсебакова дапамагае сялянскім гаспадаркам. Трактары баваўнавых коопэратываў узорваюць сялянскае поле. Праўда, пакуль што коопэрацыя яшчэ ня можа абслужыць трактарамі ўсё сялянскае поле. Тым часам ад своечаснага і хуткага ўзорваньня сялянскага поля залежыць шмат чаго. Ад узорваньня залежыць шмат што ў палепшаньні сялянскіх гаспадарак. У багатага селяніна добрыя коні, ён арэ ўчас і зьбірае лепшыя ўраджаі. Трэба, каб і бедната ўзарала своечасна і атрымала такія-ж ураджаі. І вось на дапамогу коопэрацыі прыходзіць **прамысловасьць** праз «Хлопком». Яна адпушчае коопэрацыі свае трактары для ўзорваньня сялянскіх палёў. Калі ўзорваньне скончана, дык насеньне для пасеву сяляне атрымліваюць праз коопэрацыю; калі ў коопэрацыі не хапае насеньня, «Хлопком» адпушчае ёй тую колькасьць насеньня, якой не хапае; праз коопэрацыю сяляне атрымліваюць і ўгнаеньне для поля. Калі баваўна гатова, сяляне яе зьбіраюць, і тыя-ж трактары коопэрацыі ды «Хлопкому» прыяжджаюць на палосы, зьбіраюць баваўну і адвозяць яе на дзяржаўныя баваўна-ачышчальныя заводы. Прамысловасьць, такім чынам, **праз коопэрацыю** цесна зьвязваецца з сельскай гаспадаркай. Хутчэй расьце сельская гаспадарка, паляпшаецца жыцьцё селяніна, бо непасрэдная сувязь з прамысловасьцю забясьпечвае селяніну непасрэдны і выгодны збыт, а ў цяжкія часы і непасрэдную дапамогу прамысловасьці.

Такім чынам, шырокае разьвіцьцё коопэрацыі ва ўсіх адносінах выгодна селяніну. Праз коопэрацыю селянін **выгодна збывае** свае продукты, **выгодна купляе**

прамысловыя тавары. Праз коопэрацыю ён **лягчэй атрымлівае крэдыт.** Праз коопэрацыю ён лягчэй **набывае машыны.** Праз коопэрацыю ён **будуе заводы для пераапрацоўкі сельска-гаспадарчай сыравіны.** Праз коопэрацыю ён організуе работы, якіх адзін выканаць ня можа: **абвадненьне поля, асушка балот** і г. д. Праз коопэрацыю ён выціскае **прыватнага гандляра.** Праз коопэрацыю ён **павышае свой прыбытак.** Праз коопэрацыю ён **наладжвае цесную змычку сельскай гаспадаркі з прамысловасьцю. Гаспадарчыя інтарэсы селяніна знаходзяць сваё поўнае задаволеньне праз коопэрацыю.** Але разам з тым коопэрацыя ў найлепшай ступені **забясьпечвае грамадзкія інтарэсы працоўнага сялянства**—беднаты і серадняка. У чацьвертай гутарцы мы ўжо гаварылі, у чым выяўляюцца грамадзкія інтарэсы працоўных слаёў вёскі. Яны выяўляюцца ў тым, каб забясьпечыць сябе ад кулацкай, панскай і капіталістычнай кабалы. Праз коопэрацыю бядняк і серадняк у поўнай меры дасягаюць гэтага. Паглядзімо зараз, якім чынам.

Коопэрацыя павольна і паступова даводзіць селяніну выгоднасьць для яго буйнай, грамадзкай гаспадаркі перад гаспадаркай прыватнай і дробнай. Спачатку сяляне яднаюцца ў коопэратыў для больш выгоднага збыту сваіх продуктаў: лёну, масла, пянькі, бавоўны ды інш. Паступова яны пераконваюцца, што выгадней за ўсё збываць продукты найлепшай якасьці. Яны даражэй, яны даюць большы прыбытак. Але, каб збываць продукты найлепшай якасьці, трэба іх мець. А каб мець, трэба засяваць добрым насеньнем, добра ўгнойваць, узорваць, зьбіраць і апрацоўваць машынамі. Так сяляне ад збыту пераходзяць да палепшанай машыновай апрацоўкі. Але машына дае самы вялікі прыбытак не тады, калі яна стаіць у таку ці пад паветкай, але тады, калі яна працуе. У маленькай гаспадарцы яе нельга пусьціць з поўнай нагрузкаю. Маленькую гаспадарку ніколі ня зробіш цалкам гаспадаркай машыновай. На маленькай гаспадарцы заўсёды большае месца будзе займаць ручная праца, а машыну

можна будзе ўжываць толькі час-часом. А мы ўжо бачылі, наколькі выгадней тая гаспадарка, у якой галоўнае месца займае машыновая праца і толькі невялікае дапаможнае месца—праца ручная. Сяляне, пачаўшы працаваць машынамі, паступова гэта зразумеюць, пераканаюцца ў гэтым на ўласнай практыцы. І тады яны зробяць яшчэ крок наперад. Створаць, замест дробных аб'яднаных у коопэрацыю гаспадарак—буйныя коопэрацыйныя гаспадаркі. Створаць грамадзкую сельскагаспадарчую вытворчасьць, якая будзе грунтавацца на машыновай працы. Створаць такую гаспадарку, дзе, як і на фабрыцы, галоўнае месца будзе займаць машыновая праца. А ад такой гаспадаркі адзін крок да соцыялістычнай гаспадаркі. А пры соцыялізьме няма жаднай кабалы—ні кулацкай, ні капіталістычнай, ні панскай. Такім чынам, праз коопэрацыю ляжыць дарога да забясьпечаньня грамадзкіх інтарэсаў працоўных слаёў вёскі—беднаты і серадняка.

Прайсьці хутчэй гэту дарогу да соцыялізму—у інтарэсах працоўных слаёў вёскі. А для гэтага яны павінны шырака разгарнуць будаўніцтва коопэрацыі. Праз коопэрацыю, як мы ўжо бачылі, ім лягчэй і хутчэй атрымаць дапамогу партыі, рабочай клясы і Савецкай улады. Сапраўды, у нашай краіне больш за 20 мільёнаў сялянскіх гаспадарак. Проста немагчыма прыйсьці на дапамогу кожнай з іх паасобку. Гэта лёгка зрабіць тады, калі яны аб'яднаны коопэрацыяй у вялікія групы. Трэба сказаць, чаго патрабуюць асобныя распыленыя сялянскія гаспадаркі. Аднаму патрэбна сякера, другому плуг, аднаму конь, другому барана і г. д. Нельга мець на ўвазе патрабаваньні кожнай дробнай гаспадаркі. А калі аб гэтых патрабаваньнях паасобных гаспадарак заяўляе коопэратыў, дык ён адразу робіць заяўку на вялікія масы тавараў ці на вялікія сумы грошай. Куды зручней для дзяржавы мець справу з буйнымі заяўкамі, як з дробнымі. У вялікай гаспадарцы на дробязі ня варта траціць часу,—даражэй будзе. Так і тут, а дзяржава дапамагчы сельскай гаспадарцы можа і дапамагае і будзе з кожным годам

дапамагаць усё больш ды больш. Мы ўжо ня раз казалі, што нашу гаспадарку мы імкнемся будаваць паводле пляну. Дзяржава ўжо зараз, паколькі гэта магчыма, вядзе народную гаспадарку паводле пляну, вызначанага загадзя. Усе буйныя заяўкі коопэрацыйных аб'яднаньняў дзяржава зьмяшчае і будзе зьмяшчаць у свой плян разьвіцьця народнай гаспадаркі. Такім чынам, праз коопэрацыю сельская гаспадарка можа разьвівацца таксама паводле пляну, як і прамысловасьць. І кожны год наперад і нават за некалькі год наперад, сяляне будуць ведаць, як далёка яны прасунуцца ў справе паляпшэньня сельскай гаспадаркі, у справе паляпшэньня свайго жыцьця. І будаўнічая работа пойдзе ў нас без запінак, без перашкод. Але, зноў паўтараем, для гэтага трэба ўзмацняць і будаваць коопэрацыю.

Аднак, трэба добра памятаць адно. **Нічога добрага ня можа даць сялянам коопэрацыя, калі ўлада не знаходзіцца ў руках рабочых, калі прамысловасьць не належыць рабочай дзяржаве і калі гэта дзяржаўная прамысловасьць не разьвіваецца.** Паглядзеце на тое, што робіцца ў капіталістычных краінах. Там таксама ёсьць сялянская коопэрацыя. Але там улада і прамысловасьць у руках капіталістых. І што-ж атрымліваецца? Там, як у Даніі, дзе коопэрацыя кулацкая, усімі выгодамі коопэрацыі карыстаецца кулацтва. Там бяднейшае сялянства і частка сераднякоў ня могуць стварыць коопэратыў, бо капіталістыя з імі змагаюцца. Не даюць крэдыту, патрабуюць пры водпуску прамысловых тавараў платы гатоўкай. Урад накладае вялікія падаткі і г. д. А калі бедняком і ўдасца стварыць коопэратыў, дык ён можа спадзявацца на дапамогу толькі ў тым выпадку, калі будзе дапамагаць капіталістым рабаваць працоўных вёскі. Таму ў капіталістычных краінах коопэрацыя набывае кулацкі характар. Яна адносіцца да сялянства, як прадпрыемца, як гаспадар да батрака. Не сяляне кіруюць коопэрацыяй, але яна ім навязвае свае ўмовы, умовы часта вельмі нявыгодныя. Зьяўляючыся зброяй капі-

талістых, якія праз прамысловасьць, праз банкі, праз дзяржаўную ўладу падначальваюць яе сабе, коопэрацыя не дапамагае там масаваму ўздыму і палепшаньню сялянскіх гаспадарак. Наадварот, яна дапамагае кулаком, аб'яднаным у коопэрацыю, эксплёатаваць беднату і серадлякоў. Коопэрацыя ў капіталістычных краінах павялічае расслаеньне вёскі, спагадае зруйнаваньню адных гаспадарак для ўзбагачэньня другіх.

І толькі ў нашай краіне, дзе ўлада і прамысловасьць знаходзяцца ў руках рабочых, коопэрацыя служыць працоўным слаём вёскі супраць кулацтва. Рабочая кляса нашай краіны ўпарта вядзе барацьбу за зьнішчэньне ўсялякага ўціску ды эксплёатацыі, таму яна і коопэрацыю будуе так, каб тая была зброяй для барацьбы з кулацтвам. Рабочая Савецкая ўлада дапамагае праз банкі, праз прамысловасьць толькі такой коопэрацыі, якая дапамагае разьвіцьцю бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак. Таму, пакуль **толькі ў СССР,** коопэрацыя служыць сродкам уздыму шырокіх мас сялянскіх гаспадарак, выводзячы іх з беднасьці, распыленасьці і раздробненасьці на шырокі шлях соцыялістычнага будаўніцтва.

### ПЫТАНЬНІ.

**1. Якую ролю адыгрывае коопэрацыя ў справе ўздыму сялянскай гаспадаркі і як яна гэту задачу выконвае?**

**2. Чаму коопэрацыя забясьпечвае і гаспадарчыя і грамадзкія інтарэсы сялянства?**

**3. Якая розьніца між коопэрацыяй СССР і коопэрацыяй капіталістычных краін?**

**4. Чаму мы завем копэрацыю шляхам да соцыялізму?**

### 3. НЕДАХВАТЫ КООПЭРАЦЫІ.

У сучасны момант коопэрацыя ў нашай краіне досыць далёка сягнула наперад. Варта адзначыць тое, што спажывецкая коопэрацыя мае 7 мільёнаў членаў. Прыблізна такі-ж лік членаў мае і сельска-гаспадарчая коопэрацыя. Прыблізна каля ⅓ сялянскіх гаспадарак уцягнуты ў коопэрацыю [1]).

[1]) У нас у Беларусі ў 1927 г. было коопэравана 40,7% сялянскіх гаспадарак у вясковай спажыв. коопэрацыі і 37% у сельска-гаспадарчай.

Досыць значныя посьпехі коопэрацыі і па збыту сельска-гаспадарчай сыравіны. Так, напрыклад, з усяго што збываецца сялянамі лену 36% ідзе праз коопэрацыю; з усяго што продае сялянства масла 53% ідзе праз коопэрацыю. Тутуну, цукравых буракоў праз коопэрацыю ідзе 70—80%. Хлеба ў мінулым годзе коопэрацыя загатавала 170 мільёнаў пудоў, а за першыя 6 месяцаў бягучага году—154 мільёны пудоў.

Аднак, побач з гэтымі дасягненьнямі, коопэрацыя мае і вялякія недахваты. Галоўны недахват спажывецкай коопэрацыі—гэта вялікія гандлёвыя накідкі. Пакуль тавар дойдзе ад фабрыкі да селяніна, на ім нарастае шмат усякіх накладных выдаткаў. У папярэдняй гутарцы мы ўжо казалі, як трэба з гэтым змагацца. Галоўнае—гэта скарачэньне непатрэбных выдаткаў. Гэта асноўная задача спажывецкай коопэрацыі на бліжэйшы час.

Той-жа недахват ёсьць і ў сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Атрымліваючы ад селяніна хлеб, масла, яйкі, сала, сельска-гаспадарчую сыравіну, коопэрацыя робіць вялікія накідкі. Пакуль гэтыя продукты ці гэта сыравіна дойдуць да гораду, яны павялічаюцца ў цане амаль не ўдвая.

Апрача вялікіх накладных выдаткаў у коопэрацыі ёсьць яшчэ і другія недахваты. Часьцей яшчэ сустракаюцца растраты, хоць за апошні час іх стала менш, бо Савецкая ўлада жорстка карае ўсіх растратчыкаў. Часамі ў коопэрацыі здараюцца выпадкі, калі абраныя члены праўленьня пачынаюць прыстройваць на службу ў коопэратыве сваякоў, павялічаюць лік служачых, бяз жаднай на тое патрэбы. Здараюцца выпадкі, калі абраныя члены коопэратыву незаконна карыстаюцца крэдытам.

У некаторых коопэратывах праца вядзецца няўмела. Дрэнна ўлічаюцца запатрабаваньні насельніцтва. Сялянам патрэбны дыскавыя бароны, а коопэратыў купляе спрунжыновыя. Сялянам патрэбны плугі, а коопэратыў купляе сохі і г. д. Інакш кажучы, падбор тавараў (асортымэнт) дрэнны.

Час-часам здараецца і так, што коопэратыў захапляецца гандлярствам. Збывае, напрыклад, лён. Паступова ў коопэратыве зьбіраюцца сродкі. І ён замест таго, каб ужыць іх на набыцьцё ільнянага семя, церніцы інш., пачынае гандляваць сольлю, газай, мылам і г. д. Інакш кажучы, ухіляецца ад сваіх простых задач і займаецца тым, чым павінна займацца спажывецкая коопэрацыя.

Але горш за ўсё бывае тады, калі коопэратыў трапляе ў рукі кулацтва, ці праўленьне коопэратыву праводзіць кулацкую лінію. Тады коопэратыў траціць усякае значэньне для беднаты і серадняка ды робіцца зброяй панаваньня кулацтва над вёскай.

Усе гэтыя недахваты коопэрацыі могуць быць выжыты толькі адным шляхам. Гэта шлях актыўнага ўдзелу батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас у контролі над працай выбарчых органаў коопэрацыі і ў актыўнай коопэрацыйнай рабоце працоўных мас. Коопэраваньне насельніцтва дагэтуль усё яшчэ застаецца ў баку ад актыўнай коопэрацыйнай працы. Часта можна чуць скаргі на дрэнную працу коопэратыву. Аднак, вельмі рэдка гэтыя нездаволеныя выступаюць на сходах пайшчыкаў і робяць заўвагі аб недахватах у працы коопэратыву. Кожны пайшчык павінен цікавіцца працай коопэратыву таксама, як ён цікавіцца сваёй гаспадаркай. Кожны пайшчык павінен ведаць: што купляе коопэратыў і што ён продае, па якой цане, дзе, якую робіць надбаўку на тавары, дзе ён яго хавае і як хавае, як расходуе, колькі каштуе наём крамы, утрыманьне служачых і праўленьня, як прывозяцца тавары, колькі каштуе іх перавозка і г. д. Ведаючы ўсё гэта, селянін можа абмеркаваць і вызначыць, дзе ў працы коопэратыву маецца недахват і як гэты недахват зьнішчыць. Бяз гэтай асьвядомленасьці пайшчыкаў, бяз іх актыўнага ўдзелу ў працы коопэратыву, ён яшчэ доўга будзе мець розныя недахваты.

### ПЫТАНЬНІ.

1. **Якія недахваты мае наша коопэрацыя?**
2. **Як змагацца з недахватамі коопэрацыі?**

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАНЬНІ.

1. Заслухайце даклад аб працы вашага коопэратыву і абмяркуйце недахват працы.

2. Выявіце, што зрабіла коопэрацыя ў вашай вёсцы для паляпшэньня сельскай гаспадаркі.

3. Калі ў вашым раёне ці вёсцы маюцца колектыўныя гаспадаркі, дык наведайце іх і пазнаёмцеся з іхнай працай.

## ШТО МОЖНА ПРАЧЫТАЦЬ.


Н. ТРЫШЫН—„Тракторная быль“. Выданьне „Крестьянской Газеты“.

М. ОКСКІ—„Стойкие артельщики“. Выданьне „Крестьянской Газеты“.

В. Ш—ОЎ—„Мужицкий взмёт“. Выданьне „Крестьянской Газеты“.

І. СТАРАЖЫЛАЎ—„Молодежь и кооперация“. Дзяржвыдат.

## ГУТАРКА СЁМАЯ.

# МЫ БУДУЕМ СОЦЫЯЛІЗМ У НАШАЙ КРАІНЕ

### 1. ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ КРАІНЫ.

У папярэдніх гутарках мы часта гаварылі аб соцыялізьме. Гаварылі аб тым, што праз коопэрацыю ляжыць шлях вёскі да соцыялізму. Цяпер гэта наша гутарка названа «Мы будуем соцыялізм у нашай краіне». Для таго, каб было ясьней, мы скажам спачатку аб тым, што такое соцыялізм.

Соцыялізм, будаўніцтвам якога заняты працоўныя нашай краіны, гэта асобны гаспадарчы і грамадзкі лад. Асноўнае, што будзе адрозьніваць гэты лад ад другога ладу жыцьця (напрыклад, ад капіталізму), гэта тое, што пры соцыялізьме зусім ня будзе прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці—на фабрыкі, заводы, машыны, зямлю, жывую і мёртвую сельска-гаспадарчую маемасьць. Пры соцыялізьме ўсё гэта будзе належаць не асобным людзям і ня групам асоб, але ўсім працоўным, усяму грамадзтву. Навошта патрэбен такі лад? Ён патрэбен таму, што пры адсутнасьці прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці немагчыма эксплёатацыя. Ніхто ня зможа карыстацца сродкамі вытворчасьці толькі для сябе, на шкоду другім, каб эксплёатаваць (рабаваць). Капіталістыя таму эксплёатуюць рабочых, што ў іхных руках фабрыкі, заводы, машыны (сродкі вытворчасьці). Памешчыкі таму эксплёатуюць сялян і рабочых, што ў іхных руках зямля, сельска-гаспадарчыя прылады ды інш. Пры соцыялізьме ня будзе прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці. Ня будзе таму і эксплёататараў. Ня будзе і ня можа быць. Пры соцыялізьме будуць толькі адны працоўныя.

І працоўныя пры соцыялізьме ня будуць падзяляецца на рабочых, дробных гаспадароў, як сяляне,

саматужнікі і г. д. Пры соцыялізьме ня будзе ніякага падзелу між працоўнымі. Пры соцыялізьме ня будзе клясаў.

Пры соцыялізьме ня будзе таксама дробнай гаспадаркі. Будзе толькі буйная прамысловасьць і буйная машыновая сельская гаспадарка.

Усе гэтыя гаспадаркі, і прамысловыя, і сельскагаспадарчыя, павінны будуць працаваць пры соцыялізьме паводле аднаго пляну. Яны ня будуць разбураць адна на адну, і нішчыць, як гэта бывае пры капіталізьме.

Усё, што будзе выробляцца ў прамысловасьці і ў сельскай гаспадарцы, будзе агульнай уласнасьцю, пойдзе на грамадзкія склады. Фабрыкі, заводы, сельская гаспадарка атрымаюць патрэбныя ім з гэтых складаў машыны, сыравіну ды інш. Працоўныя атрымаюць продукты, абутак, адзеньне, мэблю ды інш., што ім патрэбна для асабістага спажываньня.

Такім чынам пры соцыялізьме: 1) не павінна быць прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці, 2) ня будзе падзелу на клясы—усе працоўныя, 3) уся вытворчасьць—буйная, машыновая, 4) уся народная гаспадарка, і прамысловасьць і сельская гаспадарка, будуць працаваць паводле агульнага пляну, 5) усё, што выробляецца, будзе належаць усім працоўным.

Як бачым, соцыялізм абазначае перш за ўсё буйную, машыновую, грамадзкую гаспадарку. Ручною працаю, з сахою соцыялізму не пабудуеш. Будаўніцтва соцыялізму абазначае перш за ўсё неабходнасьць разьвіцьця ўсёй народнай гаспадаркі, і прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Як-жа разьвіваць народную гаспадарку, паводле якога пляну, і адкуль узяць сродкі для яе разьвіцьця?

Мы ведаем, што ў нашай краіне пераважае сельская гаспадарка. Сельская гаспадарка нашай краіны адсталая. Таму народную гаспадарку нашай краіны нельга разьвіваць так, каб усе часткі народнай гаспадаркі разьвіваць адначасна і ў роўнай меры. Пры нашай адсталасьці і тых прыбытках, што дае на-

ша народная гаспадарка, так рабіць нельга. Сродкі распыляцца па ўсіх кірунках, а вынікі будуць малыя. Трэба зграмаджаць буйныя сродкі на асобных вучастках народнай гаспадаркі, паступова перасоўваючыся з аднаго вучастку на другі. Інакш кажучы, наступ трэба весьці па ўсяму гаспадарчаму фронту, але высоўваць у той-жа час якія-небудзь вучасткі асабліва моцна наперад. Асноўных вучасткаў у народнай гаспадарцы нашай краіны два—прамысловасьць і сельская гаспадарка. Таму народную гаспадарку нашай краіны можна разьвіваць двумя шляхамі. Адзін шлях—гэта шлях, калі ў першую чаргу разьвіваецца сельская гаспадарка. Тады большая частка сродкаў, што маюцца ў дзяржаве, павінна быць накіравана на сельскую гаспадарку. А машыны, канечна патрэбныя для прамысловасьці і для сельскай гаспадаркі, павінны купляцца за межамі. У нашай краіне да рэволюцыі амаль ня было заводаў, якія выраблялі машыны. А тыя, што былі, далёка не задавальнялі патрэб нашай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі на машыновае абсталяваньне.

Другі шлях разьвіцьця нашай народнай гаспадаркі—гэта, калі ў першую чаргу разьвіваюць **прамысловасьць.** Але разьвіцьцё прамысловасьці патрабуе пабудовы новых фабрык і заводаў, патрабуе абсталяваньня іх новымі машынамі. Без машын фабрыкі ня можа быць. Адсюль ясна, што пры разьвіцьці народнай гаспадаркі па гэтаму другому шляху трэба ў першую чаргу будаваць такія заводы, на якіх можна было-б рабіць машыны.

Вось цяпер і трэба паставіць пытаньне: які шлях для нас выгаднейшы? Ці выгадней шлях разьвіцьця, калі ў першую чаргу разьвіваецца сельская гаспадарка, ці выгаднейшы будзе другі шлях разьвіцьця, калі ў першую чаргу разьвіваецца прамысловасьць?

Уявім, што мы ў першую чаргу высоўваем разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. Што ў такім разе атрымаецца? А атрымаецца вось што. Машыны для прамысловасьці, якая цяпер працуе (загубіць яе, вядо-

ма, нельга), трэба купляць за межамі. Машыны для сельскай гаспадаркі (без машын сельскую гаспадарку нельга разьвіваць) таксама трэба купляць за межамі. Адкуль узяць грошы на гэта? Ясна—ад продажу за межы продуктаў сельскай гаспадаркі і сельска-гаспадарчай сыравіны (лён, тутун, бавоўна, буракі ды інш.). А ці шмат у нас гэтай сыравіны? Мы ведаем, што баваўны сваёй нам не хапае, мы яе купляем за межамі. Цукровыя заводы ў нас амаль увесь час недагружаны, бо маецца недахват буракоў і г. д. Што-ж у нас атрымаецца? А атрымаецца тое, што трэба будзе свае фабрыкі спыніць і вывозіць сыравіну за межы. А калі мы спынім фабрыкі, дык трэба



Унутраны выгляд электрастанцыі ў Ельцы.

будзе ўвозіць мануфактуру, цукар ды інш. з-за межаў. Як вядома, без мануфактуры, бяз цукру, бяз цьвікоў ды інш, нельга абыйсьціся. А ці многа тады застанецца грошай на закупку машын для сельскай гаспадаркі? Ясна, што мала.

Што-ж мы атрымаем, калі пойдзем па такому шляху? Атрымаем вельмі дрэнныя вынікі. Прамысловасьць нашу падарвем, а сельскую гаспадарку не на многа палепшым. Машын, вядома, шмат завесьці ўсе роўна ня здолеем. І што яшчэ горш, дык гэта тое, што **мы паставім нашу краіну ў залежнасьць ад чужаземных капіталістых.** Наша народная гаспадарка зрабілася-б цалкам залежнай ад чужаземнага капіталізму. Капіталістыя рабавалі-б працоўных нашай краіны. Яны бралі-б у нас хлеб і сыравіну танна, а нам давалі-б свае машыны і вырабы за дарагую цану. Мы ведаем, што сыравіна заўсёды таней за апрацаваны продукт.



Доменны цэх заводу імя т. Пятроўскага.

Успомнім, як стаяла справа з гэтым у царскай Расіі. Прамысловасьць яе да вайны залежала ад капіталістычнай вытворчасьці іншых краін. Гэта таму, што яна болей машын купляла за межамі, чым выраБляла ў сябе. У 1922 годзе было ўвезена з-за межаў машын на 182 мільёны рублёў, а вырабляна ў Расіі

толькі на 90 мільёнаў рублёў. Апрача таго, большая частка тых машын, што вырабляліся ў Расіі, выраблялiся на заводах, якія належылі чужаземным капіталістым. Царскі ўрад рабіў спробы пазбавіцца гэтай залежнасьці ад чужаземных капіталістых. Ён прабаваў заводзіць сваю машынабудаўнічую прамысловасьць. Грошы для гэтага пазычалі ў тых-жа чужаземных капіталістых. А чужаземныя капіталістыя давалі грошы на нявыгодных умовах. Некаторыя заводы, праўда, удавалася будаваць, але толку было мала, бо чужаземным капіталістым прыходзілася плаціць вялікія проценты.

Разьвіцьцё ў першую чаргу сельскай гаспадаркі паставіла-б нашу краіну ў нявыгоднае становішча і ў стасунку да вайсковай абароны. Успомнім грамадзянскую вайну. Успомнім, як капіталістыя ўсіх краін у часе грамадзянскай вайны абвясьцілі нам блёкаду. Гэта значыць, што яны да нас нічога ня пушчалі і ад нас нічога не выпушчалі. І зараз мы ня можам



Проект застаўкі на р. Сыр-Дар'і (Сярэдняя-Азыяцкая рэспубліка) для пад'ёму і выпуску вады ў сетку абвадняльных каналаў, якія абвадняюць 500 тысяч дзесяцін голай, пустыннай зямлі, для дапасаваньня гэтай зямлі пад патрэбы сельскай гаспадаркі. Гэта пустынная зямля носіць назву „Галодны Стэп“ і знаходзіцца па берагох р. Сыр-Дар'і, між Ташкентам і Самаркандам.

ручацца, што капіталістыя нам блёкады не абвесьцяць. Што мы тады будзем рабіць? Калі нам абвесьцяць блёкаду ў той час, як наша народная гаспадарка будзе залежыць у сваім разьвіцьці ад капіталістычных краін, дык наша прамысловасьць, наша сельская гаспадарка павінны будуць загінуць, і працоўныя нашай краіны ня толькі не пабудуюць у такім выпадку соцыялізму, аце трапяць у залежнасьць ад чужаземных капіталістых.

Ясна, што мы ня можам пайсьці па гэтаму шляху, ня можам разьвіваць народную гаспадарку так, каб высунуць у першую чаргу разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. На гэтым шляху нам пагражае пагібель.

Гэта добра зразумела комуністычная партыя, якая ў сваіх пастановах па гэтым пытаньні выказалася за другі шлях. Выказалася за тое, каб паставіць у першую чаргу разьвіцьцё прамысловасьці, якая зьвязана з вырабамі машын. Гэта—здабыча вугалю, вытап чыгуну, жалеза, сталі і машынабудаўніцтва. Гэта пастанова партыі вядома пад імем пастановы аб індустрыялізацыі краіны. Чацьверты Ўсесаюзны Зьезд Саветаў прыняў гэту-ж самую пастанову.

Разгледзім цяпер, як гэта можна індустрыялізаваць краіну.

Індустрыялізаваць краіну—гэта перш за ўсё абазначае, што трэба ў першую чаргу разьвіваць нашу прамысловасьць. Наша дзяржаўная прамысловасьць складае галоўнае ў соцыялістычнай частцы нашай гаспадаркі. Вось гэту галоўную соцыялістычную частку трэба разьвіць і ўмацаваць. Разьвіць і ўмацаваць за кошт росту машынабудаўнічай, вугальнай і мэталюргічнай прамысловасьці, у першую чаргу. Бяз вугалю і мэталю машын не пабудуеш, а бяз вытворчасьці машын нельга разьвіваць ні прамысловасьці, ні сельскай гаспадаркі.

Разьвіўшы вугальную, мэталюргічную і машынабудаўнічую прамысловасьць, мы атрымаем магчымасьць без перашкод **задавальняць прамысловасьць і сельскую гаспадарку машынамі.** А гэта абазначае, што мы зможам будаваць новыя фабрыкі і заводы (тэкстыльныя, скураныя, цукравыя, запалкавыя і г. д.), бо за машынамі для іх справа ня стане. Тады таварны голад, які ў нас наглядаецца цяпер, зьнікне.

Будуючы машыны ў сябе, мы перастаем быць залежнымі ад заходня-эўропэйскіх капіталістых. Наша народная гаспадарка стане самастойнай, і ёй ня будзе пагражаць ператварэньне ў дадатак да чужаземных капіталістычных дзяржаў.

Будуючы машыну ў сябе, мы замацуем абароназдольнасьць нашай краіны. Нам ня страшнай будзе блёкада чужаземных капіталістых, бо тады гэтай блёкадай ім ня ўдасца зрабіць сьмяртэльнага ўдару ні нашай прамысловасьці, ні нашай сельскай гаспадарцы. Абсталяваньне для фабрык і заводаў мы будзем рабіць самі, даваць для сельскай гаспадаркі машыны таксама будзем самі, нам ня прыдзецца для гэтага зьвяртацца да чужаземных капіталістых, а тыя сродкі, што мы зараз трацім на куплю машын за межамі, мы з вялікай карысьцю зможам скарыстаць на далейшае разьвіцьцё прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

Але тут можа паўстаць такое пытаньне. Калі мы высоўваем у першую чаргу разьвіцьцё прамысловасьці, ці абазначае гэта, што мы махаем рукой на сельскую гаспадарку? Няхай сабе сельская гаспадарка разьвіваецца так, як яна сама зможа...

Хто разважаў-бы так, той разважаў-бы зусім дрэнна. У папярэдніх гутарках мы ўжо казалі, што нельга адлучыць прамысловасьць ад сельскай гаспадаркі, як нельга адлучыць сельскую гаспадарку ад прамысловасьці. Яны цесна зьвязаны. Ня можа разьвівацца прамысловасьць, калі не разьвіваецца сельская гаспадарка, і наадварот. Калі мы пачнем разьвіваць прамысловасьць, не зьвяртаючы ўвагі на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі, дык наша народная гаспадарка ўвапрэцца ў тупік. Прамысловасьць, якая разьвіваецца, запатрабуе больш сыравіны, больш харчоў для рабочых, а адсталая сельская гаспадарка ня зможа гэтага ёй даць. Значыць, трэба разьвіваць і сельскую гаспадарку. У папярэдніх гутарках мы ўжо падавалі лічбы, колькі Савецкая ўлада выдае кожны год і колькі яна яшчэ мае на мэце выдаваць сродкаў на далейшае ўмацаваньне разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

Але ўся бяда ў тым, што наша сельская гаспадарка пры цяперашнім спосабе яе вядзеньня, пры цяперашняй апрацоўцы зямлі, пры цяперашніх спо-

сабах выпрацоўкі сыравіны ня можа даць значнага павялічэньня продуктаў. Каб колькасьць продуктаў павялічыць, дык сельскую гаспадарку трэба перабудоўваць. А перабудоўка сельскай гаспадаркі абазначае пераход на шматпольле, разьвіцьцё продукцыйнай жывёлагадоўлі, больш прыбытковых культур, шырокае ўжываньне штучных угнаеньняў, палепшанага насеньня ды інш. А ўсё гэта ў сваю чаргу патрабуе палепшаных прыладаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці, патрабуе машынізацыі сельскай гаспадаркі. Такім чынам, умовай уздыму сельскай гаспадаркі зноў-ткі зьяўляецца індустрыялізацыя краіны. Індустрыялізацыя краіны прывядзе да індустрыялізацыі і прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

Індустрыялізацыя і перабудова прамысловасьці ды сельскай гаспадаркі патрабуюць вялізарных сродкаў. Сродкі гэтыя вылічаюцца ня тысячамі, ня мільёнамі, але мільярдамі рублёў. Вось таблічка, якая па-



Трактар новай сыстэмы, дапасаваны да зімовай бездарожжы.

казвае, колькі мы трацім на індустрыялізацыю нашай народнай гаспадаркі (прамысловасьць, пабудову

электрычных станцый, кватэрнае будаўніцтва, сельскую гаспадарку):

| | |
|---|---|
| У 1925-26 г. . . . | 2.018.700.000 рублёў. |
| „ 1926-27 „ . . . | 2.544.900.000 „ |

Адкуль-жа мы бярэм гэтыя вялізарныя сродкі на будаўніцтва? Мы бярэм іх з нашай народнай гаспадаркі. Гэта прыбытак ад нашай прамысловасьці, ад гандлю, ад чыгунак, ад банкаў, і тыя падаткі, якія плоціць сялянства. Тады паўстае новае пытаньне: ці не прынясуць нам шкоды такія вялізарныя выдаткі, ці не пагоршаць яны жыцьця рабочых і сялян? Не, і вось чаму. Мы бярэм для выдаткаў на індустрыялізацыю сродкі з такой народнай гаспадаркі, якая не стаіць на месцы, але год ад году **расьце.** З тае прычыны, што нашу гаспадарку мы будуем з разьлікам, па пляну, дык мы можам разьлічыць так, каб з штогоднага прыросту заставалася кожны раз усё больш і больш на паляпшэньне жыцьця рабочых ды сялян.

Павялічыць сродкі на індустрыялізацыю, на палепшаньне жыцьця рабоча-сялянскіх мас можна, калі мы будзем прытрымлівацца ва ўсім **ашчаднасьці** (экономіі). Трэба зьнішчыць усялякія лішнія выдаткі, безгаспадарнасьць і неразумную трату дзяржаўных сродкаў. Змагацца за гэту экономію павінен кожны рабочы і кожны селянін. Яны павінны заўважаць, дзе сродкі выдаюцца дрэнна, і дабівацца таго, каб яны выдаваліся лепш. Экономія павінна быць праведзена і ў штодзенным жыцьці кожнага працоўнага. Кожную капейку трэба экономіць. Тое, што мы можам атрымаць ад экономіі, трэба аддаваць у дзяржаўныя касы ашчаднасьці. Дзяржава зможа, пакуль гэтыя з'экономленыя сродкі ляжаць у касах, скарыстаць іх для індустрыялізацыі краіны, заплаціўшы за гэта карыстаньне проценты ўкладальніку. Пастанова аб строгім рэжыме экономіі (рэжыме ашчаднасьці) была вынесена Цэнтральным Камітэтам Партыі, а сьледам за гэтым прынята IV Ўсесаюзным Зьездам Саветаў. Зьезд у сваёй пастанове з прычыны гэтага кажа:

«У зьвязку з неабходнасьцю буйных новых укладаў у народную гаспадарку, зьезд даручае ўраду ўсямерна ўзмоцніць барацьбу за сапраўднае ажыцьцяўленьне рэжыму эканоміі, ставячы за асноўнае ня толькі рашучае спыненьне безгаспадарнасьці і марнатраўства ў выдаткаваньні дзяржаўных сродкаў, але і рацыяналізацыю ўсёй гаспадаркі і дзяржаўнага кіраўніцтва. У прыватнасьці зьезд зьвяртае ўвагу ўраду на канечнасьць далейшага паляпшэньня і патаненьня адміністрацыйнага ды гаспадарчага апарату і ўсямернага зьменшэньня накладных выдаткаў у гандлі, прамысловасьці і транспорце».

«Зьезд лічыць, што ажыцьцяўленьне закону аб рэжыме эканоміі не павінна прыводзіць да пагоршаньня матар'яльнага становішча працоўных мас і што, наадварот, абумоўленае рэжымам эканоміі хуткае разгортваньне вытворчых сіл краіны забясьпечвае і пашырае магчымасьць далейшага ўздыму дабрабыту рабочых і сялян».

### ПЫТАНЬНІ.

**1. Што такое індустрыялізацыя краіны?**
**2. Чаму мы ня можам разьвіваць нашу гаспадарку, высунуўшы ў першую чаргу разьвіцьцё сельскай гаспадаркі?**
**3. Чаму індустрыялізацыя ўзмацняе абароназдольнасьць нашай краіны?**
**4. Што такое рэжым эканоміі?**

## 2. ЗАКЛЮЧНЫЯ ВЫВАДЫ.

Прыпомнім зараз усё тое, што мы казалі ва ўсіх папярэдніх 7 гутарках. Аб чым мы там гаварылі?

Мы казалі аб гаспадарчым будаўніцтве, якое адбываецца ў нашай краіне. Наша народная гаспадарка складаецца з дзьвёх вялікіх частак—прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Абедзьве гэтыя часткі народнай гаспадаркі цесна злучаны адна з аднэй. Адна без аднэй разьвівацца ня могуць.

Але між гэтымі дзьвюма часткамі народнай гаспадаркі—прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай—ёсьць вялікая розьніца. Наша прамысловасьць амаль

уся (за выключэньнем дробнай і часткі сярэдняй) належыць дзяржаве. Гэта прамысловасьць буйная, заснаваная на машыновай працы. Яна складае грунт усяе нашай народнай гаспадаркі. Па сваім характары—яна соцыялістычная, бо ўладае ёй і працуе ў ёй адзін і той-жа гаспадар—работнік, рабочая кляса.

Другая частка народнай гаспадаркі—сельская гаспадарка. У сельскай гаспадарцы толькі зямля належыць дзяржаве. Гэта належная дзяржаве зямля разьмеркавана на паасобныя вучасткі, якія перadaны сялянам **у карыстаньне.** На гэтых вучастках сяляне організуюць паасобныя дробныя гаспадаркі. У паасобных гаспадарках пануе ручная праца і адсталыя спосабы зямляробства.

Такая наша гаспадарка. Мы ня зьбіраемся пакідаць яе такой, якой яна ёсьць у сучасны момант. Мы прагналі з нашай краіны памешчыкаў і капіталістых, каб бяз іх будаваць новую гаспадарку—гаспадарку соцыялістычную.

Соцыялізму на беднаце, адсталасьці і зруйнаваньні не пабудуеш. Соцыялістычная гаспадарка—гэта гаспадарка буйная, машыновая. Гэта ня толькі буйная машыновая прамысловасьць. Гэта ў той-жа час буйная (грамадзкая) сельская гаспадарка. Значыць, каб будаваць соцыялістычную гаспадарку, мы павінны разьвіваць і нашу прамысловасьць і нашу сельскую гаспадарку.

Разьвіваць народную гаспадарку можна двума шляхамі: або высунуўшы на першы плян разьвіцьцё прамысловасьці, або разьвіваючы раней за ўсё сельскую гаспадарку. Мы сталі на шлях разьвіцьця прамысловасьці ў першую чаргу. Сталі на гэты шлях таму, што ён забясьпечвае нам моцнае разьвіцьцё ўсяе народнай гаспадаркі, робіць нас незалежнымі ад чужаземных капіталістых і забясьпечвае абароназдольнасьць нашай краіны.

Мы ўжо сталі на гэты шлях. Мы ўжо шырака разгарнулі прамысловае будаўніцтва, падцягваючы адначасна і сельскую гаспадарку.

Ці ёсьць у нас надзея, што наша будаўніцтва соцыялізму мы будзем весьці пасьпяхова? Такая надзея ў нас ёсьць. І падставы для яе таксама ёсьць.

Мы ведаем, што нас з усіх бакоў акружаюць капіталістычныя краіны. Капіталістыя, якія пануюць у гэтых краінах, адносяцца да нас варожа. Яны ня могуць згадзіцца з тым, што працоўныя нашай краіны прагналі іх сяброў, расійскіх капіталістых і памешчыкаў, і стараюцца наладжваць жыцьцё бяз іх. Царскаму ўраду гэтыя чужаземныя капіталістыя калісь дапамагалі. Праўда, гэта дапамога, якую давалі царскаму ўраду чужаземныя капіталістыя, была кабальная, але ўсё-ж гэта была дапамога. Нам яны ня толькі ніякай дапамогі не давалі, але ўвесь час спрабуюць перашкодзіць нашаму будаўніцтву. Яны пагражаюць нам вайною, блёкадай, організуюць у нас контр-рэволюцыйныя змовы ды інш.

Але мы бяз іх дапамогі абыйдземся, важна толькі, каб яны нам не перашкодзілі. Мы самі сваімі сродкамі



Трактар „Каломенец".

можам разьвіваць соцыялістычную прамысловасьць, індустрыялізаваць нашу народную гаспадарку. Што мы можам гэта зрабіць, мы ўжо давялі. Мы выцягнулі нашу гаспадарку з разбуранасьці пасьля вайны.

Мы ўжо перайшлі даваенны ўзровень. Мы пачалі індустрыялізаваць нашу краіну. Мы кожны год трацім мільярды на разьвіцьцё нашай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Разьвіваючы нашу гаспадарку, мы ідзем так хутка, што ў некаторых адносінах ідзем хутчэй, чым ідуць капіталістычныя краіны.

**Мы можам сваімі сродкамі разьвіваць соцыялістычную прамысловасьць ды індустрыялізаваць усю нашу народную гаспадарку.**

Разьвіваючы прамысловасьць, разьвіваючы нашу сельскую гаспадарку, будуючы коопэрацыю, мы робім удар за ўдарам па прыватнаму капіталу па гандляру, па скупшчыку, па кулацтву. Наша прамысловасьць, пашыраючыся, выціскае прыватнага капіталістага. Наша коопэрацыя, разрастаючыся, паляпшаючы сваю працу, выціскае прыватнага гандляра, скупшчыка. Рост нашай сельскай гаспадаркі, уздым бядняцкіх гаспадарак, коопэраваньне бядняцка-серадняцкіх слаёў вёскі,—усё гэта пазбаўляе кулака магчымасьці эксплёатаваць бедняка і серадняка, выціскае кулацтва з вёскі. Такім чынам, сваім будаўніцтвам мы ўжо да-



Трактар па здабычы торфу.

вялі, што наш рост абазначае паступовае зьнікненьне эксплёататараў унутры нашай краіны.

**Мы можам сваімі сіламі перамагчы буржуазію ўнутры краіны.**

Асноўныя масы насельніцтва нашай краіны—рабочыя і працоўнае сялянства (беднякі і серадпякі).

Яно і дапамагае рабочай клясе будаваць социялізм у нашай краіне, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. Можа зьявіцца таму такое пытаньне: а раптам між рабочымі ды сялянамі ўзьнікне нязгода? А раптам яны разыдуцца, перастануць разам дамагацца аднэй мэты? Дык тады ўсё наша будаўніцтва пойдзе пылам.

Гэта ня можа здарыцца, навучаў нас У. І. Ленін, калі рабочая кляса будзе весьці правільную політыку. Няма такіх супярэчнасьцяй між рабочай клясай і асноўнай масай сялянства, якія маглі-б разарваць саюз рабочых і беднаты з сярэднім сялянствам. Калі рабочы працуе на фабрыцы, дык інтарэсы яго не супярэчаць інтарэсам селяніна. Ні ён не эксплёатуе селяніна, ні селянін яго. І наадварот, калі селянін бядняк ці серадняк са сваёй сям'ёй працуе на сваёй гаспадарцы, дык інтарэсы яго таксама не супярэчаць інтарэсам рабочых; адзін другога не эксплёатуюць. Змычка, сувязь прамысловасьці з сельскай гаспадаркай, гораду з вёскай, рабочай клясы з сялянствам адбываецца на рынку, дзе тавары прамысловасьці абменьваюцца на тавары сельскай гаспадаркі. Вось тут можа ўзьнікнуць супярэчнасьць. Селянін продае хлеб—рабочы купляе, прамысловасьць продае тавары—селянін купляе, селянін продае сельска-гаспадарчую сыравіну—прамысловасьць купляе. Прадавец заўсёды хоча атрымаць даражэй, пакупец заўсёды хоча купіць таней. Можа ўзьнікнуць супярэчнасьць між сельскай гаспадаркай і прамысловасьцю, між рабочай клясай і сялянствам. Але ў СССР гэта супярэчнасьць адхіляецца правільнай політыкай партыі і рабочай клясы. Так і Ленін навучаў, што супярэчнасьць між рабочай клясай і сялянствам ня ўзьнікне пры тэй умове, калі рабочая кляса і яе партыя будуць весьці правільную політыку. Гэта правільная політыка павінна заключацца ў тым, **каб ня было разыходжаньня між цэнамі прамысловых і цэнамі сельска-гаспадарчых тавараў**, ня было «ножніц», як зараз кажуць. **Канечна трэба дамагацца такой цаны на сельска-гаспадарчыя продукты, каб яна забясь-**

**печыла, гарантавала рост сельскай гаспадаркі, а цэны на прамысловыя тавары забясьпечвалі рост прамысловасьці.**

Мы ўжо бачылі, што наша прамысловасьць дамагаецца зьніжэньня цэн, што па пастанове Цэнтральнага Камітэту Партыі зьніжаны раздробныя цэны, што тыя фабрыкі і заводы, якія будуюцца, абсталёўваюцца так, каб даваць танны тавар. Мала гэтага, бязупынны рост нашай прамысловасьці забясьпечвае верны і надзейны збыт для селяніна. А рост сельскай гаспадаркі забясьпечвае рост прамысловасьці.

Усё гэта кажа за тое, што **мы сваімі сіламі можам перамагаць супярэчнасьці між пролетарыятам і сялянствам.** Можам узмоцніць саюз гораду з вёскай.

Далей мы бачым, што ў царскай Расіі адбывалася, а ў капіталістычных краінах і зараз адбываецца, расслаеньне ў сялянстве на кулацтва і беднату. Там нікчэмная кучка кулакоў узбагачаецца за кошт бязупыннага зруйнаваньня масы сялянства. У нас іншае. Мы прыціскаем кулака. Мы робім усе захады, каб падняць, разьвіць, палепшыць гаспадарку беднякоў і сераднякоў. Мы імкнемся аб'яднаць бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ў коопэрацыю. Праз коопэрацыю яны паляпшаюць сваё становішча, павялічаюць свой прыбытак, растуць. Праз коопэрацыю яны пераходзяць спачатку да палепшанай, а потым машыновай апрацоўкі. Праз коопэрацыю машына шырака ўкараняецца ў сельскія гаспадаркі, пабуджае сялян аб'яднаць свае гаспадаркі, злучыць асобныя дробныя гаспадаркі ў буйныя, грамадзкія. Гэтыя гаспадаркі самым цесным чынам будуць змыкацца з нашай соцыялістычнай прамысловасьцю, з соцыялістычнай часткай нашай гаспадаркі. Гэта змычка будзе рабіцца ўсё цясьнейшай ды цясьнейшай, пакуль сельская гаспадарка таксама ня стане соцыялістычнай.

Такім чынам, **нашу сельскую гаспадарку мы здолеем накіраваць па соцыялістычнаму шляху.**

Так, разьвіваючы нашу соцыялістычную прамысловасьць, выціскаючы прыватны капітал, перама-

гаючы буржуазію ўнутры краіны, узмацняючы саюз рабочай клясы з сялянствам пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, накіроўваючы сельскую гаспадарку праз коопэрацыю па соцыялістычнаму шляху—**мы будуем соцыялізм у нашай краіне.**

## ПЫТАНЬНІ.

**1. Ці можам мы сваімі сіламі разьвіваць соцыялістычную прамысловасьць?**

**2. Ці можам мы сваімі сіламі перамагаць буржуазію ўнутры краіны?**

**3. Ці можам мы перамагаць супярэчнасьці між пролетарыятам і сялянствам?**

**4. Ці можам мы накіраваць сельскую гаспадарку па соцыялістычнаму шляху?**

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАНЬНІ.

1. Калі ёсьць дзе-небудзь блізка электрычная станцыя, наладзьце на яе экскурсію, пазнаемцеся з яе працаю.

2. Даведайцеся, дзе знаходзіцца бліжэйшая ад вас школа трактарыстых, дамажэцеся таго, каб хто-небудзь з моладзі вашай воласьці трапіў у яе вучыцца.

3. У ячэйцы пастаўце даклад на тэму «Што такое рэжым экономіі» і праверце, што зроблена ў вашым сельсавеце для яго ажыцьцяўленьня.

### ШТО ТРЭБА ЧЫТАЦЬ.

НОРЫС Ф.—„Спрут“. Скарачоны пераклад Э. Піменавай. Дзяржвыдат.
ЭССЭН А. — „Что делает Советская власть, чтобы не попасть в кабалу к империалистам“. Дзяржвыдат.
ЕСІН В.—„Электричество и трактор в сельском хозяйстве“. Дзяржвыдат.
БАГДАНАЎ—„Красная звезда“. Дзяржвыдат.

---

ГУТАРКА ВОСЬМАЯ.

# НАШАЙ КРАіНАЙ КіРУЕ РАБОЧАЯ КЛЯСА Ў САЮЗЕ З СЯЛЯНСТВАМ.

## 1. САВЕЦКАЯ ЎЛАДА.

Нізавой організацыяй Савецкай улады на вёсцы зьяўляецца сельскі савет. У сваёй вёсцы сельскі савет зьяўляецца вышэйшай уладай, якой падначалены ўсе іншыя грамадзкія організацыі вёскі. У сваёй вёсцы сельскі савет зьяўляецца кіраўніком усяго грамадзкага, гаспадарчага і культурнага жыцьця вёскі. Працы для сельсаветаў у вёсцы вельмі многа, бо розныя бакі сялянскага жыцьця і сялянскай гаспадаркі патрабуюць да сябе ад сельсаветаў шмат увагі.

Галоўным клопатам сельсавету павінна быць **абарона інтарэсаў беднаты і сераднякоў ад кулацтва.**

Пры кожных перавыбарах сельсаветаў кулакі імкнуцца захапіць іх у свае рукі. Яны, як лепш ня трэба, разумеюць, што, прыграбастаўшы да сваіх рук сельсавет, ім лягчэй будзе рабаваць ды ўціскаць беднату і сераднякоў. Таму працоўныя масы вёскі павінны аб'яднацца супраць кулакоў, ня пушчаць ні іх саміх, ні іх падлізьнікаў у саветы. Абіраць павінны ў саветы беднякоў і надзейных сераднякоў. Такі савет напэўна будзе абараняць працоўных вёскі ад кулацтва. А абарона патрэбна. Вось напрыклад, што піша адзін селянін-бядняк, які прасіў у сельсавета ў пазыку пару пудоў хлеба, але не атрымаў.

«Тады мне давялося пайсьці на паклон у пасёлак Лычкова да вядомага крывапіўцы М. Сьмірнова— прасіць у яго да ўраджаю якіх-небудзь 2 пуды. Прышоў да Сьмірнова. Накінуўся ён на мяне, як сабака, аблаяў, як сьлед, але потым зьлітаваўся. Добра, кажа, дам я табе два пуды, а калі здымеш свой хлеб, дык вернеш мне гэтыя 2 пуды ды 3 дні ў мяне папакашваеш. Гэта ўжо за процанты. Ну, дзявацца няма ку-

ды, узяў я гэтыя два пуды, а праз тры дні прыходзіць да мяне жонка Сьмірнова і пачала гнаць мяне касіць. Я ёй кажу: пачакай, я хачу сёньня перавесьці сваё сена. Свайго каня ў мяне няма, а сёньня знаёмы селянін дае мне свайго каня. Заўтра ён ужо ня дасьць, бо яму самому патрэбен будзе. Але ўсё-ж прымусіла мяне ісьці. Працаваў тры дні з двух гадзін раніцы да 11 ночы. Зьдзекаваліся над мною, як умелі».

Вось яна кабала кулацкая. І калі-б сельсавет у гэтай вёсцы меў хоць-бы невялічкі фонд (запас) для дапамогі беднаце, дык ня прышлося-б ёй лезьці ў кабалу да кулака. Галоўная дапамога беднаце і серадняку, як мы ўжо ведаем, павінна быць у гаспадарчай дапамозе. Трэба дапамагаць бедняком і серадняком разьвіваць і ўзмацняць іхныя гаспадаркі. Таму сельсаветы павінны клапаціцца аб тым, каб **агранамічная дапамога** абслугоўвала іх вёску. Сельсаветы павінны зьвязацца з коопэрацыяй, дапамагаць ёй. На пасяджэньнях сельсаветаў і на вясковых сходах заслухоўваць даклады коопэратыву, каб ведаць, чым яму можна дапамагчы. Падцягваць коопэратыў на дапамогу вёсцы ў гаспадарчых справах. Асаблівую ўвагу сельсаветы павінны аддаваць колектыўным гаспадаркам, сябрынам і таварыствам беднаты.

Сельсаветы павінны **клапаціцца аб зямляўпарадкаваньні** сялянскіх гаспадарак. І тут трэба ўважна сачыць за кулакамі. Не дапушчаць разьмеркаваньня вучасткаў жараб'ёўкай. Калі-ж ужо рабіць жараб'ёўку, дык толькі сярод беднаты, калі зямля ёй ужо дзенебудзь вызначана блізка. А кулака трэба адаслаць далей. Трэба пры зямляўпарадкаваньні бараніць інтарэсы колектыўных гаспадарак і бядняцка-серадняцкіх сябрын ды таварыстваў.

Трэба сачыць за тым, каб **народная асьвета і лекарская дапамога вёсцы** ня кульгалі. Часта па віне сельсавету дзеці мерзнуць у школе або ў аптэцы ў фэльчара няма лякарстваў, таму што сельсавет не паклапаціўся, каб яго даставілі. Калі ў вёсцы шмат дарослых няпісьменных, дык сельсавет павінен паклапаціцца, каб была адчынена школа для ліквідацыі

няпісьменнасьці дарослых. Канечна трэба, каб была ў вёсцы хата-чытальня, якая абслугоўвала-б культурныя запатрабаваньні вёскі і г. д.

На абавязак сельсавету кладуцца клопаты аб дарогах. Сялянская гаспадарка шмат церпіць ад таго, што нашы дарогі дрэнныя, часам зусім нягодныя для язды, масты паламаны, а часта іх і зусім няма. Добрая дарога дае магчымасьць селяніну ў хоць-які час перавозіць вялікі цяжар, ня мучыць дарма каня, так патрэбнага ў сялянскай гаспадарцы.

Сельсаветы павінны організоўваць і **барацьбу з пажарамі.** Пажар у вёсцы—страшэннае няшчасьце. Ён руйнуе сялян «да ніткі». Пасьля пажару рэдкая сялянская гаспадарка можа зноў стаць на ногі. А толькі-ж у адным 1925 годзе па СССР было 75 тысяч пажараў у вёсках. Каля 200 тысяч дамоў загінула. Страты, зробленыя вёсцы гэтымі пажарамі, склалі 50 мільёнаў рублёў. Задача сельсавету—змагацца з гэтым ліхам. Трэба організоўваць дружыны самаахвотнікаў, наладзіць правільную дастаўку вады і г. д.

Трэба змагацца таксама са зьнішчэньнем лясоў. Калі лес сякуць няправільна, дык хутка вёскі, цэлыя раёны і нават акругі застануцца без лясоў. А сялянская гаспадарка і наогул гаспадарка СССР ня могуць зьвярнуцца бяз лесу. Сельсаветы павінны сачыць за правільным скарыстаньнем лесу і організоўваць барацьбу з пакражамі.

Не пералічыш усяго таго, чым павінен займацца сельсавет. Але каб і гаспадарчае і грамадзкае жыцьцё вёскі ішло добра, **сельсавет павінен працаваць.**

У вёсцы часта здараецца так, што сельсавету ня чуваць і ня відаць, а за ўвесь сельскі савет працуе адзін яго старшыня ці сакратар. Здараецца часам і так, што сельскі савет бязьдзейнічае, а з тае прычыны, што хворыя пытаньні хвалююць вёску, дык пачын ва ўсіх справах бярэ на сябе сельскі сход. Тут ужо і не зразумееш, хто кіруе вёскай: сельскі савет ці сход, і хто нясе адказнасьць за прынятыя пастановы.

Канечна трэба, каб сельскія саветы падрыхтоўвалі працу сходу, складалі парадак яго работ,

наперад праглядалі і абгаварвалі пытаньні, якія выносяцца на сход.

За прынятыя пастановы сходу і ажыцьцяўленьне іх павінен адказваць сельскі савет. Таму ён павінен праглядаць протоколы сходаў, і пастановы, узгодненыя з савецкім законадаўствам, ажыцьцяўляць, незаконныя-ж пастановы сходаў сельсаветы павінны касаваць. Кожную пастанову сваю і пастанову сходу сельсавет павінен уважна абгаварыць: ці будзе такая пастанова карысна для вясковай беднаты і сераднякоў, ці не адыграе яна на руку кулацтву?

Але кіруючы працай сходу, даючы кірунак усяму грамадзкаму і гаспадарчаму жыцьцю вёскі, сельсавет не павінен забывацца, што ён не камандзір вёскі, але яе кіраўнік. Калісьці, яшчэ ў часы грамадзянскай вайны, націск і камандаваньне можна было цярпець. Тады ўся праца ставілася да таго, каб знайсьці схаваны кулакамі хлеб, уцёкшага з арміі дэзэртыра, схаваўшагася контр-рэволюцыянэра. Часта прыходзілася прыдушаць паўстаньне кулакоў. У абставінах лютай грамадзянскай вайны пры нябачаным напружаньні ўсіх сіл краіны, кіраўніцтва вёскай ішло шляхам адміністрацыйнага націску, шляхам загаду. Так было ў гады грамадзянскай вайны, бязладзьдзя і голаду, часта інакш і не магло быць у ваенных абставінах, хоць і тады партыя ды Савецкая ўлада ўсімі сіламі стараліся **будаваць** жыцьцё вёсак пановаму.

Цяпер становішча іншае. Мы перайшлі да будаўніцтва соцыялізму. Дзякуючы гаспадарчаму росту краіны, моцна павялічылася актыўнасьць сялянскіх мас. Адміністрацыйным націскам нельга зараз кіраваць сялянскімі масамі. Партыя дамагаецца перш за ўсё, каб комуністыя і комсамольцы ў вёсцы зьявіліся організатарамі, вакол якіх, праз саветы, зьбярэцца ўсё маламожнае і сярэдняе сялянства. Падругое, партыя і комсамол дамагаюцца, каб саветы ў вёсцы зрабіліся поўнапраўнымі і адзінымі органамі ўлады і самакіраўніцтва, каб перабудаваць усю іх працу на грунце **савецкай дэмократыі,** на грунце давер'я да іх асноўнай масы сялянства. Патрэцяе, партыя і комсамол да-

магаюцца поўнага і шырокага ажыцьцяўленьня рэволюцыйнай законнасьці ў вёсцы, каб уся праца праводзілася сельсаветамі на падставе закону, а ня так, як ўздумаецца.

Кіруюць працай сельсаветаў валасныя і раённыя выканкомы. Раённыя выканкомы падначалены акруговым. Акруговыя ў сваю чаргу—Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту данай рэспублікі.

Наш СССР прадстаўляе сабою саюз некалькіх рэспублік. У яго ўваходзіць Расійская СФСР (яна яднае 11 паасобных нацыянальных рэспублік і 10 нацыянальных вобласьцяй), Украінская ССР, у якую ўваходзіць Малдаўская ССР, Беларуская ССР, Закаўкаская СФСР, Туркменская ССР і Узбэкская ССР.

Кожная з гэтых рэспублік мае свой Цэнтральны Выканаўчы Камітэт (ЦВК), які зьяўляецца вышэйшай уладай гэтай рэспублікі і абіраецца на зьезьдзе саветаў гэтай рэспублікі.

Кожная рэспубліка, уваходзячая ў саюз, самастойна вырашае ўсе справы і пытаньні свайго ўнутранага жыцьця. Яна мае свае зьезды саветаў, свой ЦВК, свой Саўнарком, свае народныя камісарыяты (Наркамзем, Наркамздраў, Наркамасьветы, Наркампрацы і Народны Камісарыят Унутраных Спраў).

Усе гэтыя рэспублікі аб'яднаны ў адзін саюз—СССР. Вышэйшай уладай СССР зьяўляецца Ўсесаюзны Зьезд Саветаў, які зьбіраецца адзін раз у два гады. Зьезд засядае звычайна некалькі тыдняў, на працягу якіх ён правярае чыннасьць Савецкага ўраду, дае яму заўвагі на будучы час і потым разьяжджаецца. Перад сваім зачыненьнем ён абірае новы ўрад, якому даручае кіраўніцтва краінай да наступнага зьезду. Гэты ўрад складаецца з ЦВК СССР і падначаленага ЦВК Саўнаркому СССР. Такім чынам, вышэйшай уладаю ў СССР у часе між зьездамі саветаў зьяўляецца ЦВК СССР.

Усе органы Савецкай улады, пачынаючы ад сельсавету і канчаючы ЦВК СССР—выбарныя. Абіраюць іх рабочыя і сяляне беднякі і серадыякі. Таму Савецкая ўлада абараняе інтарэсы рабочай клясы і вясковай

беднаты, а таксама сярэдняга сялянства супраць капіталістых ды кулацтва. Савецкая-ж улада кіруе і соцыялістычным будаўніцтвам у нашай краіне. Яна намячае пляны разьвіцьця прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, яна падтрымлівае коопэрацыю, яна кіруе абаронай нашай краіны ад пасяганьняў на яе чужаземных капіталістых ды памешчыкаў, яна дамагаецца павялічэньня культурнага роўню насельніцтва і г. д.



М. І. Калінін.

У Саюзе Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік жыве каля 100 розных народаў. Жывуць у ім: расійцы, украінцы, беларусы, яўрэі, кіргізы, узбэкі, туркмэны, азэрбайджанцы, татары, башкіры, армяне, чэчэнцы, кабарДзінцы, осэтыны, чэркесы, інгушы, карачаеўцы, балкарцы, калмыкі, карэлы, мары, чувашы ды шмат інш.

Усяго ў СССР каля 140 мільёнаў насельніцтва. З гэтага ліку расійцаў каля 76 мільёнаў, а іншых на-

цыянальнасьцяй каля 65 мільёнаў. Усе народы маюць у СССР зусім аднолькавыя правы. Няма тут пануючай нацыянальнасьці і нацыянальнасьцяй прыгнечаных. Гаспадарамі ў СССР зьяўляюцца ўсе працоўныя, да якой-бы нацыянальнасьці яны ні належылі.

Так гэта зараз. Але за царом парадкі ў стасунку да дробных народнасьцяй у нашай краіне былі зусім іншыя.

Цяжка тады было жыць усяму працоўнаму народу, але яшчэ цяжэй быў лёс працоўных, якія належалі да нерасійскай нацыянальнасьці. Гэтым працоўным даводзілася ўдвая цярпець: і таму, што яны працоўныя, і за тое, што яны нерасійскай нацыянальнасьці.

Царскі ўрад пакарыў гэтыя народы сілай, агнём і мячом. Ён пакарыў іх, каб расійскія паны, фабрыканты, заводчыкі, купцы, чыноўнікі нажываліся за кошт забраных народаў. Лепшая зямля ад гэтых народаў адбіралася і аддавалася расійскім пасяленцам, а сяляне забраных народаў адціскаліся на неўраджайную зямлю, без лясоў, у пяскі і скалы. Так было з марыйцамі, нагайцамі, башкірамі, кіргізамі ды іншымі народамі.

Навошта царскі ўрад так рабаваў гэтыя народы? А вось чаму.

Мы ведаем, як дрэнна жылося расійскаму селяніну пры царскай уладзе. Ня раз расійскі селянін паўставаў, хацеў адабраць зямлю ад памешчыкаў. Так вось царскі ўрад, замест таго, каб адабраць зямлю ад памешчыкаў, адбіраў яе ў сялян—«інародцаў», як ён называў усе народы нерасійскай нацыянальнасьці, і пасяляў на гэту зямлю расійскіх сялян, якія атрымалі назву казакоў. Царскі ўрад хацеў такім чынам выратаваць памешчыкаў ад гневу расійскіх сялян. Хоць зямля сялян прыгнечаных народаў аддавалася перасяленцам-сялянам, але рабілася гэта выключна для расійскіх памешчыкаў.

Царскі ўрад дамагаўся гэтым рабаўніцтвам яшчэ і таго, што пераселеныя на ўскраіны расійскія сяляне павінны былі зьяўляцца сталай аховай царскай улады супраць паўстаньня прыгнечаных народаў.

Зразумела, што гэтыя народы з агідаю адносіліся да перасяленцаў. Бачачы перад сабой расійскага ураднїка, прыстава, казака, які заняў іх зямлю, гэтыя народы лічылі за вінавайцаў свайго няшчаснага жыцьця ўсіх расійскіх людзей, увесь расійскі народ.

Царскі ўрад і буржуазія зацікаўлены былі ў тым, каб ускраіны, дзе жылі ўсе гэтыя народы, не разьвіваліся ні ў экономічным, ні ў культурным стасунку.

Расійскім купцом выгодна было, каб іншыя народы, што насялялі Сібір, заставаліся ў цемнаце, і каб яны займаліся выключна паляваньнем і рыбацтвам. За дарма, за гарэлку і табак расійскія купцы скуплялі ў гэтых забітых, цёмных людзей дарагія скуры і рыбу. За грашы куплялі яны воўну ў аўцаводаў і фрукты ў садаводаў на Каўказе.

У Туркастане расійскія фабрыканты атрымлівалі танную баваўну. Фабрыкі і заводы на ўскраінах не будаваліся. Царскі ўрад баяўся, што калі там будуць рабочыя на фабрыках і заводах, дык яны самі будуць там бунтаваць і яшчэ організуюць для барацьбы прыгнечаныя народы.

Так царскі ўрад затрымліваў разьвіцьцё ўскраін і трымаў у цемнаце тубыльнае насельніцтва.

Школ на роднай мове для народаў нерасійскай нацыянальнасьці царскі ўрад ня толькі не адчыняў, але ў большасьці выпадкаў і не дазваляў ім самім будаваць. Дзяцей сваіх гэтыя «інародцы» павінны былі пасылаць у расійскія школы. Дый гэтых расійскіх школ была нікчэмная колькасьць. Дзеці не разумелі расійскай мовы і нічому ў гэтых школах наўчыцца не маглі. Дый чаму маглі яны наўчыцца ў гэтых школах? Не карысным ведам, але чытаць сьвятыя праваслаўныя кніжкі, маліцца на царкоўна-славянскай мове. Часта гэтыя школы і засноўваліся ў манастырох, а настаўнікамі ў іх былі папы. Няма чаго ўжо і казаць, што ніякіх газэт на мовах гэтых народаў царскі ўрад выдаваць не дазваляў, кніжак не друкаваў. А калі друкаваў, дык толькі евангэльле, каб лепш дурманіць народ.

Расійскі мгандляром і фабрыкантам выгодна было, каб усе народы Расіі, апрача расійскага, не разьві-

валі сваёй мовы і каб іх прымушалі вучыць толькі расійскую мову.

Прыгнятальнікі працоўных нерасійскай нацыянальнасьці—не адны расійскія чыноўнікі, памешчыкі ды капіталістыя. Капіталістыя, памешчыкі, кулакі, да якой-бы нацыянальнасьці яны не належалі, жывуць за кошт працоўных, кормяцца іхным потам і крывёй. Такім чынам, у працоўных кожнай нацыянальнасьці былі яшчэ і свае ўласныя прыгнятальнікі. Яўрэйскі, польскі, татарскі, армянскі, грузінскі багатыр ня горай ад расійскага эксплёатаваў яўрэйскіх, польскіх, татарскіх, армянскіх, грузінскіх рабочых. У справе прыгнечаньня рабочых і сялян капіталістыя ўсіх краін злучаюцца між сабою. Ленін пісаў, што «праваслаўныя, яўрэі, расійцы, немцы, палякі і украінцы,—усе, у каго ёсьць капітал, дружна эксплёатуюць рабочых усіх краін». Мы ведаем шмат выпадкаў, калі яўрэйскія фабрыканты, як, напрыклад, лодзінскі фабрыкант Пазнанскі, адмаўляліся разам з чорнасоценцамі прымаць на свае фабрыкі яўрэйскіх рабочых за тое, што яны «бунтаўшчыкі».

На дапамогу прыгнятальнікам прыходзілі яшчэ папы, мулы, рабіны, шаманы, якія садзіліся на шыю свайго народу і дапамагалі царскай уладзе, царскім шпіёнам і жандарам рабаваць і крыўдзіць народ.

Царскі ўрад, памешчыкі і фабрыканты жылі заўсёды ў страху, што рабочыя ды сяляне паднімуцца супроць сваіх прыгнятальнікаў і тады ім не здабраваць. Таму царскі ўрад вышукваў розныя спосабы, як-бы ашукаць працоўных, каб яны ня бачылі свайго сапраўднага ворага. Адным з гэтых спосабаў было распальваньне нацыянальнай варожасьці. Ён гаварыў расійскім рабочым і сялянам, што ўрад клапоціцца аб іх, як аб сваіх дзецях, ён дае розныя прывілеі праваслаўнаму расійскаму чалавеку, але ўсё ліха ў тым, што «інародцы»—«жыды», «ляхі», «татары»—не даюць жыць расійскім людзям.

Калі царскі ўрад бачыў, што набліжаецца небясьпека народнага абурэньня супроць царскай улады, супроць капіталістых і памешчыкаў, ён узмацняў на-

цыянальную варожасьць. Ён жадаў такім чынам адцягнуць ад сябе абурэньне рабочых і сялян, накіраваць яго супроць «інародцаў». Царскі ўрад не абмяжоўваўся толькі пропаведзьдзю нацыянальнай варожасьці: ён часта проста наладжваў крывавыя пагромы розных народаў, організоўваў яўрэйскія пагромы, разьню армян і г. д. Асабліва моцна нацкоўваў царскі ўрад расійцаў на яўрэяў.

Політыка прыгнечаньня чужых народаў і распаўсюджваньне варожасьці між працоўнымі розных нацыянальнасьцяй, гэта політыка ўсіх дзяржаў, дзе пануе капітал. Бяз прыгнёту і рабаваньня капіталізм ня можа існаваць. Ангельскі ўрад, урад капіталістых і памешчыкаў, прыгнятае сотні мільёнаў людзей у сваіх колёніях у Афрыцы, Азіі і Аўстраліі. Тысячы індусаў, мароканцаў, арабаў, кітайцаў гінуць ад куляў ангельскіх і францускіх салдат за тое толькі, што яны спрабуюць вызваліцца ад прыгнечаньня ангельскіх ды францускіх імпэрыялістых. За тое, што кітайскі салдат адважыўся ўвайсьці ў квартал, дзе жывуць ангельцы ў Шанхаі, кітайскім горадзе, ангельскія чыноўнікі загадалі пабіць розгамі гэтага салдата. Няма чаго ўжо і казаць пра тыя нячуваныя жорсткасьці, якія церпіць кітайскі народ з боку эўропейскіх гвалтаўнікоў зараз, калі ў Кітаі ідзе вялікая барацьба супраць імпэрыялістых усяго сьвету. Польскі ўрад зьдзекваецца над нацыянальнымі меншасьцямі Беларусі, украінцамі, яўрэямі, немцамі. Румынскі ўрад прыгнятае малдаван і яўрэяў. Усюды, дзе толькі пануе капітал, там—нацыянальнае прыгнечаньне.

Як толькі рабочыя Расіі ўзялі ўладу ў свае рукі, савецкі ўрад абвесьціў поўную волю ўсіх нацыянальнасьцяй. 2-га лістапада 1917 году была выпушчана «дэкларацыя праў народаў Расіі», у якой гаворыцца, што Кастрычнікавая рэволюцыя рабочых ды сялян паставіла сабе мэтай вызваленьне ўсіх прыгнечаных. Вызваляюцца сяляне ад улады памешчыкаў, рабочыя—ад улады фабрыкантаў і заводчыкаў, салдаты і матросы—ад улады самаўладзтва генэралаў. Трэба, гаворыцца ў гэтай дэкларацыі, узяцца так-жа неад-

кладна за вызваленьне ўсіх народаў Расіі, пераносіўшых уціск і свавольле. Гэта вызваленьне павінна быць праведзена рашуча і беспаваротна.

Дэклярацыя заяўляе, што новы ўрад прызнае роўнасьць усіх народаў Расіі. Кожны народ мае права сам вызначыць свой лёс. Калі ён хоча ён можа аддзяліцца ў асобную дзяржаву. Ніводны народ ня можа мець больш праў, чым іншыя. Усе нацыянальныя меншасьці і племяныя групы, якія жывуць у быўшай царскай Расіі, павінны мець магчымасьць вольна разьвівацца. Гэтая дэклярацыя не засталася аднэй толькі абяцанкай. Савецкая ўлада ня толькі абвесьціла роўнаправнасьць ўсіх нацыянальнасьцяй, яна прымае таксама усе магчымыя меры да ажыцьцяўленьня гэтае роўнапраўнасьці і правядзеньня яе ў жыцьцё. Народы, якія жывуць на тэрыторыі быўшай царскай імпэрыі, заснавалі самастойныя рэспублікі, гэтыя рэспублікі маюць свой урад, свой дзяржаўны апарат. Справы там ва ўсіх дзяржаўных установах вядуцца на роднай мове. Суд кіруецца законамі, якія ўлічаюць мясцовыя асаблівасьці і звычаі. У школах вядзецца выкладаньне на роднай мове і г. д.

Каб абараняць сваю свабоду, усе нацыянальныя рэспублікі яднаюцца ў адзін саюз—СССР. Урад Саюзу пільна сочыць за тым, каб роўнапраўнасьць нацый у Саюзе не парушалася, дапамагае адсталым нацыянальнасьцям даганяць больш перадавыя. Дапамагае ім разьвіваць сваю нацыянальную культуру і вядзе барацьбу з усякай нацыянальнай варожасьцю.

Нацыянальная варожасьць выгодна не працоўным, але іх ворагам. Эксплёататары заўсёды нацкоўвалі адну нацыю на другую—ім гэта было выгодна. Працоўным-жа ад нацыянальнай варожасьці нічога, апрача шкоды, быць ня можа. Нацыянальная варожасьць можа толькі аслабіць саюз працоўных, а гэта скарыстаюць толькі нашы ворагі—памешчыкі і капіталістыя.

### ПЫТАНЬНІ.

**1. У чым заключаецца работа сельсавету?**

2. Чаму сельсаветы ў сваёй рабоце павінны быць кіраўнікамі, а не камандзірамі?

3. З якіх частак складаецца СССР?

4. Хто зьяўляецца вышэйшай уладай у СССР?

5. Якую нацыянальную політыку вядзе Савецкая ўлада?

## 2. САВЕЦКІ САЮЗ—ДЫКТАТУРА ПРОЛЕТАРЫЯТУ.

У нашай краіне існуе саюз рабочай клясы з сялянствам. На чым-жа гэты саюз трымаецца? Ён трымаецца на ўзаемнай выгодзе рабочых і сялян. Рабочыя зацікаўлены ў тым, каб трымаць саюз з сялянствам і сяляне зацікаўлены ў тым, каб трымаць саюз з рабочымі. У чым інтарэс селяніна—бедняка і серадняка? Раней, у гутарцы 4-й мы ўжо выясьнялі, у чым гэты інтарэс. Напомнім коратка аб гэтым. Інтарэс бедняка ёсьць у тым, каб пазбавіцца кулацкай кабалы, у тым, каб пазбавіцца таго ўціску і тэй эксплёатацыі, якую яму прыходзіцца цярпець ад памешчыка, гандляра і кулака. Інтарэс бедняка ёсьць у тым, каб пазбавіцца назаўсёды жабрацтва і голаду.

А ў чым ёсьць інтарэс селяніна-серадняка? Інтарэс серадняка ў тым, каб разьвіць і ўзмоцніць сваю гаспадарку, у тым, каб ухіліцца пагрозы зьбядненьня. Інтарэс серадняка ў тым, каб памешчык не вярнуўся ў вёску, а таксама і ў тым, каб у цяжкую хвіліну кулак не захапіў яго ў свае сеці.

Вось гэтыя інтарэсы моцна зьвязваюць сялянскую беднату з рабочай клясай і вымушаюць серадняка трымаць з імі саюз. Сапраўды, пры якім ладзе існуюць уціск і эксплёатацыя беднаты капіталістым, памешчыкам, гандляром і кулаком? Мы ведаем, што гэта бывае пры **капіталістычным ладзе.** Пры якім ладзе ў бедняка **няма ніякай** надзеі падняцца? Пры якім ладзе бядняк прымушаны цярпець адвечную галадуху і галечу?—Зноў-ткі пры **капіталістычным ладзе.**

Пры капіталістычным ладзе і серадні́кі масамі бяднеюць, робяцца беднякамі. Пры капіталістычным ладзе коопэрацыя служыць не серадняку, але кулаку. Пры капіталістычным ладзе памешчыкі сядзяць у вёс-

цы і перашкаджаюць серадняку разьвіваць гаспадарку. Пры капіталістычным ладзе на серадняка, у цяжкую для яго хвіліну, накладае свае лапы кулак.

А можа існаваць толькі адно ці другое: ці капіталізм, ці соцыялізм. Нічога трэцяга, ніякай сярэдзіны быць ня можа. І сяляне беднякі і сераднякі павінны выбіраць. Ці яны за зьбядненьне, за галадуху, за жабрацтва, за ўціск памешчыкаў, капіталістых і кулакоў—тады яны супроць рабочых і за капіталістых. Ці яны **супроць** жабрацтва, уціску, голаду і эксплёатацыі,—тады яны **з рабочымі, супраць капіталістых, памешчыкаў і кулакоў.** Нічога трэцяга няма і быць ня можа. Само жыцьцё прымушае выбіраць адно ці другое. І селянін-бядняк ці серадняк выбіраюць саюз з рабочымі. Выбіраюць не адразу, бядняк—хутчэй, серадняк—больш павольна. Але абодва выбіраюць адно і тое-ж.

Але чаму-ж працоўныя сяляне, калі яны ня хочуць жабрацтва, уціску і зьбядненьня, павінны ісьці пад кіраўніцтвам рабочых?

А вось чаму. Карэнны гарадзкі рабочы, працуючы ў буйной капіталістычнай прамысловасьці, на сваёй практыцы шмат чаму навучыўся. Працуючы на фабрыках і заводах, ён бачыць, што машыновая праца і буйная гаспадарка шмат выгадней ад гаспадаркі дробнай, у якой працуюць рукамі. Ён даўно зразумеў, што вяртацца да сваёй уласнай дробнай гаспадаркі няма сэнсу. Буйная капіталістычная гаспадарка ўсё роўна паб'е і пераможа сваёй таннасьцю. Але рабочы бачыць, што ўсе выгоды ад гэтай буйнай гаспадаркі атрымлівае невялічкая кучка капіталістых. Гэтая кучка капіталістых, уладаючы фабрыкамі ды заводамі, банкамі і чыгункамі, эксплёатуе рабочых. А з прычыны таго, што гэтай кучцы капіталістых належыць і дзяржаўная ўлада, дык яна з дапамогай суду, паліцыі, арміі трымае працоўных у паслушэнстве. І вось рабочыя прыходзяць да думкі, што трэба прагнаць капіталістых, узяць у свае рукі фабрыкі ды заводы і разам кіраваць імі. Дзяліць фабрыкі і заводы паміж мільёнамі рабо-

чых нельга. Падзяліць іх, гэта значыць зруйнаваць прамысловасьць, вярнуцца назад да дробнай гаспадаркі і ручной працы. Таму рабочыя патрабуюць, каб уладаць фабрыкамі і кіраваць імі ўсім разам, пасоцыялістычнаму.

Так у рабочай клясы выхоўваецца думка аб соцыялістычнай гаспадарцы.

Але, каб будаваць такую гаспадарку, трэба сьпярша прагнаць капіталістых. І рабочыя пачалі організавацца. Працуюць яны ў вялікіх гарадох, вялікімі масамі. На асобных фабрыках і заводах працуюць сотні, тысячы, а то і дзесяткі тысяч рабочых. Іх яднала і згуртоўвала агульная праца пад агульным уціскам капіталістых. Рабочыя дзейнічалі і змагаліся сумесна, дружна, згуртавана. Змагаліся шмат гадоў, набылі вялікую практыку ў барацьбе. Барацьба супраць прыгнятальнікаў яшчэ больш зьяднала і ўзмоцніла іх шэрагі. У ходзе гэтай барацьбы яны выкавалі сваю комуністычную партыю, якая кіравала іхнай барацьбой. Гэтая практыка ў барацьбе, згуртаванасьць, організаванасьць і кіраўніцтва партыі дапамагалі рабочым, нарэшце, скінуць уціск прыгнятальнікаў.

Цяпер для рабочых застаўся толькі **адзін шлях— да соцыялізму.** Іншага шляху ў іх няма і быць ня можа. Пабудаваўшы соцыялізм, яны дабʼюцца зьнішчэньня ўсялякага ўціску, усялякай эксплёатацыі. Пабудаваўшы соцыялізм, яны канчаткова зьнішчаць жабрацтва, адсталасьць і галечу.

Вось чаму сяляне—серадннякі і беднякі, калі яны ня хочуць звароту старых парадкаў, павінны ісьці ў саюзе з рабочай клясай, у саюзе з ёй і пад яе кіраўніцтвам будаваць соцыялізм.

Чаму-ж рабочай клясе выгодны саюз з сялянствам?

Мы усе добра памятаем, як упіраліся капіталістыя і памешчыкі, калі мы іх выганялі прэч з нашай краіны. Яны распачалі грамадзянскую вайну і заўзята супраціўліся. Патрабавалася шмат сіл страціць, пакуль мы іх прагналі. А цяпер трэба весьці барацьбу з кулац-

твам, гарадзкімі гандлярамі і капіталістымі (нэпманамі, як іх называюць). Трэба рыхтавацца да абароны країны ад замежных капіталістых і памешчыкаў. Дык вось ужо адна прычына, па якой рабочым патрэбен саюз з сялянствам. Рабочая кляса, скінуўшы цара, капіталістых і памешчыкаў, захапіўшы ўладу ў свае рукі, мае патрэбу ў тым, каб **беднякі і серадняки падтрымалі яе ўладу, дапамаглі ёй дабіваць ворагаў.**

Ёсьць і яшчэ адна прычына. Рабочая кляса будуе соцыялізм. Але будаваць соцыялізм у сельскай гаспадарцы без сялянства нельга. **Рабочая кляса ня можа і не жадае сілком навязваць сялянам соцыялізм.** Яна хоча дабіцца таго, каб селянін сам зразумеў, што соцыялістычная гаспадарка выгаднейшая ад гаспадаркі дробнай, прыватнай. Паступова паляпшаючы, паднімаючы і ўзмацняючы сваю гаспадарку, пры дапамозе рабочых, селянін на сваёй практыцы праканаецца ў выгодзе і перавазе соцыялістычнай гаспадаркі. Вось другая прычына канечнасьці для рабочых саюзу з сялянствам. Гэты саюз канечна патрэбны рабочым, **каб разам з сялянамі-беднякамі і серадняками, а не бяз іх будаваць соцыялізм у нашай краіне.**

Пасьля ўсяго сказанага для нас павінна быць зразумела, што такое Савецкая ўлада. Відавочна, што **Савецкая ўлада—гэта ўлада рабочай клясы,** з якой трымае саюз бяднейшае і сярэдняе сялянства і з якой, у сваю чаргу, рабочая кляса трымае саюз. Гэта ўлада рабочай клясы завецца іначай **дыктатурай пролетарыяту.** Дыктатура значыць—неабмяжованая ўлада, улада, неабмяжованая ніякімі законамі. Такім чынам, Савеецкая ўлада, ці дыктатура пролетарыяту, **ёсьць неабмяжованая ўлада рабочай клясы, на грунце саюзу з сялянствам** (беднатой і серадняками), якія падтрымліваюць уладу рабочых.

Чаму-ж у нашай краіне ўстанавілася пасьля рэволюцыі рабочая ўлада, а не якая-небудзь іншая, напрыклад, улада сялян-серадняко̆ў?—А таму, што іншай **улады быць не магло.** Ні ўваднэй краіне на сьвеце ня было яшчэ і ніколі ня будзе сялянскай улады. Мы ўжо ведаем, што можа існаваць ці капіталізм, ці соцыялізм.

Таму можа быць ці ўлада капіталістых, ці ўлада рабочых. Чаму-ж гэта так?—А таму, што лепшымі, найбольш рашучымі, непасрэднымі, ня хісткімі абаронцамі капіталізму зьяўляюцца самі капіталістыя. Каму-ж лепш абараняць капіталістычны лад, як ня ім самым? Таму ў капіталістычных краінах ва ўлады заўсёды стаялі і будуць стаяць капіталістыя. Таму ў краіне, дзе будуецца соцыялізм, заўсёды будуць стаяць ва ўлады рабочыя, а капіталістыя з гэтай краіны будуць прагнаны. Рабочыя, найбольш рашучыя—ня хісткія прыхільнікі соцыялізму. Таму яны стаяць і павінны стаяць ва ўлады. Мы з усіх бакоў абкружаны ворагамі, самае нязначнае хістаньне, самае нязначнае сумненьне, няправільны крок могуць пагражаць гібельлю. А ворагі нашы ня сьпяць. Яны чакаюць, а мо' мы пахісьнемся, а мо' памылімся і тады яны сваімі ўдарамі прыкончаць з намі. Таму ў нашай краіне ва ўлады павінна стаяць кляса, якая ня ведае хістаньняў, якая ня ведае сумненьняў, якая ідзе ўвесь час наперад, не азіраючыся назад. А такой клясай можа быць толькі рабочая кляса. Сярод сялянства заўсёды ёсьць хістаньні. На што ўжо памешчык вораг сялянам! А калі за царом заходзіла гутарка аб барацьбе з памешчыкамі, дык частка вёскі была настроена пабаявому, частка казала: «Мая хата з краю», а частка была і зусім супраць.

У барацьбе так нельга. Там не павінна быць хістаньняў. Вось чаму ў пэрыод будаўніцтва соцыялізму, калі патрэбна асаблівая магутнасьць, цьвёрдасьць і крэпасьць, ва ўлады павінна быць рабочая кляса.

Дзеля якой-жа мэты патрэбна ўлада рабочай клясе? Мы ўжо ведаем, што яна патрэбна ёй для таго, каб у саюзе з беднатой і сераднякамі будаваць соцыялізм у нашай краіне. Рабочая кляса не бярэ сабе ўлады на векі-вечныя. Гэта капіталістыя хочуць, каб іх улада была адвечнай, каб яны заўсёды маглі рабаваць і ўціскаць працоўных. Рабочая кляса будзе трымаць уладу ў сваіх руках да таго часу, пакуль соцыялізм ня будзе пабудаваны. А калі мы пабудуем соцыялізм, тады зьнікне ўсякая розьніца між працоўнымі. Ня будзе ўжо рабочых, ня будзе беднаты, ня будзе сераднякоў,

а будуць толькі працоўныя. Тады і ніякай улады ня будзе, дый непатрэбнай яна будзе.

**ПЫТАНЬНІ.**

**1. Што такое Савецкая ўлада?**
**2. Што такое дыктатура пролетарыяту?**
**3. Чаму ў пэрыод будаўніцтва соцыялізму ўлада павінна быць у руках рабочай клясы?**
**4. Дзеля чаго існуе дыктатура пролетарыяту?**

## 3. БЮРОКРАТЫЗМ І БАРАЦЬБА З ІМ.

Вельмі часта нам прыходзіцца чуць такія гутаркі: «У нас бюрократы завяліся», «Бюрократызм нас заядае», «Сядзяць там бюрократы, а ня людзі» і г. д.

Бюрократы, бюрократызм,—што гэта такое? Гэта будзе зразумела, калі мы падамо прыклады.

У чэрвені 1925 году 6 сялян з вёскі Сарай Раскага павету, Разанскай губэрні, выкапалі для мясцовага камітэту ўзаемадапамогі 70 кубаў торфу. Паводле ўмовы, камітэт павінен быў заплаціць грошы, як толькі прадасьць торф.

Торф у камітэта купіў ВВК., але грошай ім не заплаціў. Камітэт паскардзіўся ў суд, які прысудзіў з ВВК заплаціць камітэту 22 рублі.

Камітэт узаемадапамогі перадаў выканальны ліст сялянам, якія пайшлі ў ВВК атрымаць грошы.

Старшыня ВВК ім сказаў:

— Не магу заплаціць.

— Чаму?—пытаюцца сяляне.

— Грошы гэтыя не ўвайшлі ў каштарыс (каштарыс—расьпісаньне прыбыткаў і выдаткаў).

Сяляне пачухалі патыліцы і запыталіся:

— А калі заплоціце?

— Заплоцім тады, калі надыйдзе новы гаспадарчы год. Зараз сакавік, прыходзьце ў канцы кастрычніка.

Сяляне пастанавілі паскардзіцца ў горад інспэктару працы. Паслалі дэлегата, ён інспэктара не знайшоў.

Праз пэўны час паслалі другога. І другі не знайшоў інспэктара. Пастанавілі чакаць да восені.

Прышлі ўвосень. Старшыня ім кажа:

— Грошы вашы ў каштарыс увайшлі, але выдаць іх нельга.

— Чаму?

— Губэрня не зацьвердзіла іх па каштарысу,— адказвае старшыня ВВК.

— Трэба чакаць пастановы губвыканкому.

Сяляне чакалі месяц. Прышлі зноў у ВВК.

Тады старшыня пачаў гаварыць іншае:

— Ваш камітэт узаемадапамогі пазычыў у нас 25 рублёў. Калі ён верне, я вам заплачу.

Так і пайшлі сяляне ні з чым.

Як назваць такія дзеяньні ўлады?—Адна ім назва, **цеганіна і бюрократызм.**

Яшчэ адзін прыклад. Сяляне вёскі Вятка, Глухаўскай воласьці, Смаленскай губэрні надумаліся правесьці зямляўпарадкаваньне.

Недалёка працаваў каморнік, да якога і накіравалі хадакоў прасіць правесьці ў іх работу. Каморнік патрабаваў у сялян дакумант аб замацаваньні за імі зямлі з дзяржфонду. Такі дакумант быў. Гэта была пастанова пав. земаддзелу і знаходзілася яна ў валвыканкоме.

Пайшлі сяляне ў валвыканком, адкуль іх накіравалі ў павятовы земаддзел. З земаддзелу загадалі ісьці ў ВВК. ВВК паслаў іх у сельсавет. Сельсавет паслаў зноў у ВВК.

Хадзілі туды і назад, а дакуманту не знайшлі. Тым часам каморнік, які згаджаўся правесьці работу, паехаў.

Як назваць такія дзеяньні ўлады? Адна ім назва— **цеганіна і бюрократызм.**

Дык што-ж гэта бюрократызм? Гэта такія адносіны да справы і да людзей, калі справа робіцца дзеля выгляду, або з-пад палкі, калі людзей бяз сэнсу ганяюць з месца на месца, не жадаючы з толкам і хутка скончыць з імі справу. Бюрократызм—гэта такая рэч, калі для людзей паперка важней за чалавека, калі з-за паперкі могуць з чалавека «душу выцягнуць».

Аднаму дэмобілізаванаму чырвонаармейцу патрабаваўся пашпарт. У яго патрабавалі мэтрыку. А мэ-

трыка на яго радзіме прапала, калі там у часе грамадзянскай вайны згарэў архіў. Чалавека проста ганялі з установы ва ўстанову—падай ім мэтрыку дый годзе. І пашпарту напэўна не атрымаў-бы ён, калі-б «Правда» не ўмяшалася-б у гэту справу. Вось гэта і ёсьць бюрократызм.

Прыяжджае селянін у горад. Справа ў яго важная, а куды зьвярнуцца—дасканала ня ведае. Прыдзе ва ўстанову, яго і пачынаюць ганяць ад стала да стала, з пакою ў пакой. То туды загадаюць зьвярнуцца, то сюды, то скажуць—паперкі нейкай не хапае, а бывае паперка ёсьць, ды пячаткі якой няма. Ходзіць чалавек, а толку ніякага. Добра калі зойдзе ў Дом Селяніна, там яму скажуць, што рабіць. А часта прыходзіцца ехаць ні з чым, дарэмна трацячы і грошы і час. І будзе потым гэты селянін лаяць Савецкую ўладу.

А ці ўлада тут вінавата? Вядома, не. Вінаваты асобныя працаўнікі, якія ня выконваюць заўваг партыі і Савецкай улады.

Адкуль у нас бюрократызм, адкуль у нас бюрократы? Ад няправільных спосабаў работы—адно, ад таго, што некаторыя савецкія чыноўнікі ня лічацца з патрэбамі і інтарэсамі працоўных—другое.

З першай прычынай змагацца цяжэй, чым з другой. Рабочыя і сяляне ніколі не займаліся дзяржаўным будаўніцтвам. Гэтую магчымасьць яны атрымалі толькі пасьля рэволюцыі. Сваіх спосабаў работы ў дзяржаўным апараце яны адразу вынайсьці не змаглі. Шмат што запазычылі з старых спосабаў работы. Чыноўнікі і спэцыялістыя царскага часу прынесьлі ў савецкія ўстановы старыя спосабы работы. А дзякуючы неспрактыкаванасьці рабочых і сялян з гэтых старых спосабаў растуць цеганіна і бюрократызм.

Як з гэтым змагацца? Шлях адзін: шырэй уцягваць рабочыя і сялянскія масы ў дзяржаўны апарат, у савецкае будаўніцтва. Уздымаць культурны ўзровень насельніцтва. Паступова пераглядаць існуючыя спосабы работы ў нашых установах і замяняць іх лепшымі. Жорстка і бязьлітасна перасьледваць бюрократаў і тых, хто разводзіць цеганіну аддаваць іх пад суд,

асабліва тых, хто наўмысьля ня лічыцца з інтарэсамі і патрэбамі працоўных.

А ў стасунку да усяго савецкага апарату трэба выконваць тое, што казаў Уладзімер Ільліч:

«Самай галоўнай чарговай задачай сучаснага пэрыоду на бліжэйшыя гады,—казаў ён,—зьяўляецца сыстэматычнае зьмяншэньне і патаненьне савецкага апарату шляхам скарачэньня яго, больш дасканалай організацыі, зьнішчэньне цеганіны і бюрократызму, зьмяншэньня непродукцыйных выдаткаў».

## ПЫТАНЬНІ.

1. **Што такое бюрократызм?**
2. **Якія прычыны бюрократызму ў нас?**
3. **Як змагацца з бюрократызмам?**

## ГУТАРКА ДЗЕВЯТАЯ.

# УСЕСАЮЗНАЯ КОМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ (БАЛЬШ.).

### 1. КЛЯСА І ПАРТЫЯ.

У папярэдніх гутарках мы вельмі часта спасылаліся на розныя пастановы комуністычнай партыі, калі гаварылі аб соцыялістычным будаўніцтве ў нашай краіне. Партыя вынесла пастанову аб індустрыялізацыі краіны, а гэтая пастанова зараз ажыцьцяўляецца. Яна прынята і IV Зьездам Саветаў, які заклікаў усіх рабочых ды сялян гэтую пастанову партыі ажыцьцяўляць. Партыя прыняла пастанову аб зьніжэньні цэн на прамысловыя тавары, і зьніжэньне цэн праводзіцца зараз прамысловасьцю, дзяржгандлем і коопэрацыяй па ўсяму СССР. Партыя прыняла пастанову аб суровай барацьбе з бюрократызмам і цеганінай. І зноў-ткі гэта пастанова партыі ажыцьцяўляецца савецкімі і грамадзкімі організацыямі, рабочымі і сялянамі. І якую-б частку нашага гаспадарчага ці грамадзкага жыцьця мы не ўзялі, усюды мы знойдзем пастановы партыі. Зямляўпарадкаваньне, дапамога беднаце, будаўніцтва коопэрацыі, забясьпека вёскі машынамі, барацьба з кулацтвам, работа школ, лячэбная дапамога насельніцтву і г. д.—на ўсіх гэтых пытаньнях спыняла сваю ўвагу партыя, па ўсім гэтым пытаньням яна вынесла свае пастановы. І гэтыя пастановы прымаліся потым і Савецкай уладай, ажыцьцяўляліся рабочымі ды сялянамі нашай краіны.

Што-ж такое комуністычная партыя, адкуль у яе такі аўторытэт, чаму працоўныя так даверна адносяцца да яе, што ажыцьцяўляюць усе яе пастановы, дзе яна чэрпае свае сілы?

Калі мы ў папярэдняй гутарцы гаварылі аб барацьбе рабочай клясы за соцыялізм, мы там успаміналі,

што ў ходзе барацьбы рабочая кляса выкавала сваю партыю, якая і кіравала яе барацьбой.

З кім-жа змагалася і з кім змагаецца за соцыялізм рабочая кляса?

А вось з кім. У кожнай капіталістычнай краіне, як у сучаснай Англіі, Францыі, Амэрыцы або як у быўшай царскай Расіі, усё насельніцтва падзяляецца на групы, або **клясы.** Адна група насельніцтва, гэта—фабрыканты, заводчыкі, банкіры, памешчыкі—уладае землямі, банкамі, фабрыкамі, заводамі, чыгункамі. Гэта гаспадары, яны пануюць у капіталістычных краінах, яны кіруюць гаспадаркай. Гэта—капіталістыя, **кляса капіталістых,** ці, як кажуць іначай, **кляса буржуазіі.**

Капіталістыя грунтуюць сваё панаваньне на эксплёатацыі і рабунку **клясы рабочых.** У капіталістычных краінах мы бачым вялізныя масы людзей, якія ня маюць сродкаў вытворчасьці (зямлі, фабрык, заводаў ды інш.). Гэтыя масы людзей жывуць тым, што прадаюць капіталістым сваю рабочую сілу. Капіталістыя купляюць рабочую сілу і ставяць яе на працу ў сваіх фабрыках ды заводах. **Усё,** што выробляе гэта рабочая сіла наёмных рабочых, **прысвойваюць сабе капіталістыя.** А ў замену капіталістыя выплачваюць рабочаму заработак, якога хапае толькі на тое, каб рабочы не памёр з голаду.

Такім чынам, выплачваючы рабочым нікчэмную заработную плату, капіталістыя прысвойваюць сабе вялізныя багацьці, створаныя працай рабочых. Іншымі словамі—капіталістыя эксплёатуюць рабочых, карыстаючыся іхняй рабочай сілай. **Кляса капіталістых** эксплёатуе **клясу наёмных рабочых**—пролетараў.

Такім чынам, у капіталістычным грамадзтве розныя групы людзей займаюць рознае месца ў грамадзкай вытворчасьці. Адны ўладаюць сродкамі вытворчасьці, самі не працуюць і прысвойваюць сабе тое, што створана працай іншых людзей. Гэта—эксплёататары, буржуазная кляса. Другія, не ўладаючы сродкамі вытворчасьці, продаюць сваю рабочую сілу, каб не памерці з голаду, іх эксплёатуюць, яны ўзбага-

чаюць сваёй працай эксплёатататараў. Гэта—пролетары, кляса наёмных рабочых.

Паміж гэтымі двума клясамі капіталістычнага грамадзтва ідзе бязупынная барацьба. Капіталістыя імкнуцца замацаваць сваё панаваньне, трымаць пролетараў у паслушэнстве, каб лягчэй было іх эксплёатаваць. Рабочыя, наадварот, імкнуцца падарваць панаваньне эксплёататараў, зьнішчыць яго і стварыць такі лад, пры якім ня было-б ніякай эксплёатацыі, ніякага прыгнечаньня. Буржуазія і пролетарыят—**непрымірымыя ворагі.** Барацьба гэтых клясаў складае асноўны зьмест усяго грамадзкага жыцьця капіталістычнага грамадзтва.

Капіталістыя імкнуцца павялічыць рабочы дзень, прымусіць рабочых больш працаваць; рабочыя імкнуцца зьменшыць рабочы дзень, менш працаваць на капіталістых. Капіталістыя імкнуцца як мага менш плаціць рабочым, скараціць іх заработную плату; рабочыя дамагаюцца, каб ім плацілі больш, дамагаюцца павялічэньня зарплаты. Капіталістыя не жадаюць траціць сродкі на палепшаньне ўмоў працы для рабочых, каб у памяшканьнях, дзе рабочыя працуюць, было чыста, досыць паветры і сьвятла ды інш.; рабочыя патрабуюць палепшаньня ўмоў працы. Капіталістыя імкнуцца захаваць і ўмацаваць сваё панаваньне, эксплёатаваць як мага мацней магчыма большы лік рабочых. Рабочыя зацікаўлены ў тым, каб скінуць панаваньне капіталістых, замяніць капіталістычны лад соцыялістычным.

Але апрача буржуазіі і пролетарыяту ў капіталістычнай краіне існуюць і другія вялікія групы людзей—дробныя гандляры, рамесьнікі, саматужнікі, дробныя зямляробы ці сяляне. Усе гэтыя групы маюць нешта супольнае. Усе людзі, што належаць да гэтай групы, дробныя ўласьнікі. Таму іх называюць клясай дробных уласьнікаў ці клясай дробнай буржуазіі.

Найбольш шматлікая група дробнай буржуазіі—сялянства. Селянін адначасна зьяўляецца і ўласьнікам і працоўным. Ён уладае сродкамі вытворчасьці (сельска-гаспадарчыя прылады, быдла, будынкі, а ў капі-

талістычных краінах і зямля). Але ў большасьці выпадкаў селянін—працоўны. Ён працуе сам, нікога не эксплёатуе. Наадварот, у капіталістычных краінах селянін, як працоўны, эксплёатуецца капіталістымі ды памешчыкамі.

Дробная буржуазія, у тым ліку і сялянства, называецца пасярэдняй клясай, якая знаходзіцца між буржуазіяй і пролетарыятам. Як уласьнікі, людзі гэтай клясы набліжаюцца да буржуазіі, як працоўныя, яны набліжаюцца да пролетарыяту. Пры капіталізьме дробная буржуазія расслайваецца, распадаецца. Сялянства, напрыклад, не застаецца аднародным. Большасьць павольна і паступова бяднеюць, ідуць на фабрыкі і заводы, наймаюцца батракамі да памешчыкаў. Другая, вельмі невялікая кучка, узбагачаецца, акулачваецца, эксплёатуе наёмных рабочых, рабуе вясковую беднату. Вёска распадаецца на буржуазію і пролетараў. Гэта зноў-ткі кажа аб тым, што сялянства займае пасярэдняе становішча між буржуазіяй і пролетарыятам.

Пасярэдняе становішча дробнай буржуазіі і сялянства выяўляецца і ў адносінах гэтай клясы да барацьбы між буржуазіяй і пролетарыятам. Дробная буржуазія і сялянства ў тым ліку, хістаецца ў гэтай барацьбе, становяцца то на той, то на іншы бок. Як уласьнікаў, іх цягне да буржуазіі, як працоўных—да пролетарыяту.

Таму ў капіталістычнай краіне між пролетарыятам і буржуазіяй адбываецца барацьба за кіраўніцтва сялянствам. Буржуазія хоча выкарыстаць сялянства для ўмацаваньня свайго панаваньня над працоўнымі. Пролетарыят дамагаецца таго, каб прыцягнуць працоўныя масы сялянства да сумеснай барацьбы супраць эксплёататараў, каб скінуць панаваньне эксплёататараў.

У нашым СССР справа стаіць інакш, чым у капіталістычных краінах. У нас таксама пакуль ёсьць клясы, але ўжо ня тыя, што пры капіталізьме. Грунтоўныя клясы ў капіталістычным грамадзтве—буржуазія

і пролетарыят, сялянства там пасярэдняя кляса. А ў СССР асноўныя клясы—пролетарыят і працоўнае сялянства. У капіталістычнай краіне асноўныя клясы змагаюцца між сабой, у нас, у СССР, асноўныя клясы трымаюць саюз адна з аднэй. У СССР ёсьць яшчэ пакуль і буржуазія: гандляры і прадпрыемцы ў горадзе, кулакі—на вёсцы. Але гэта ўжо не ранейшая кляса буржуазіі, а рэшткі былых панаваўшых клясаў. Гэта рэшткі, якія, па меры росту социялістычнага будаўніцтва, будуць зьнікаць. Пры социялізьме-ж наогул усе клясы зьнікнуць, застануцца толькі працоўныя.

Панаваньне памешчыкаў і капіталістых у нашай краіне скінута пасьля шматгадовай барацьбы супраць іх рабочай клясы. Апошняя вяла бязупынную барацьбу з эксплёататарамі, на працягу барацьбы яна зьвязвалася з сялянствам, наладжвала саюз з ім, пакуль, нарэшце, у кастрычніку 1917 году не нанесла рашучага ўдару панаваньню капіталістых у нашай краіне. Клясавая барацьба між буржуазіяй і пролетарыятам скончылася перамогай апошняга.

У гэтай барацьбе з эксплёататарамі ня ўсе рабочыя прымалі роўны і зусім аднолькавы ўдзел. Гэта, зразумела, ня ўсе рабочыя ў цэлым могуць з аднолькавай рашучасьцю весьці клясавую барацьбу. Ёсьць старыя рабочыя, якія дзесяткі гадоў працуюць на фабрыках ды заводах, якія доўгія гады змагаліся з капіталістымі. Яны сьвядомыя, набылі вытрымку, умеюць організавацца і організоўваць другіх. Але ёсьць і такія, што нядаўна прышлі на фабрыку з вёскі і ня маюць ніякай практыкі ў барацьбе. Ёсьць рабочыя буйных фабрык і заводаў. Тыя заўсёды больш зьяднаны, організаваны і сьвядомы, чым рабочыя дробных майстэрань, распыленыя, малаорганізаваныя, маласьвядомыя.

І так ня толькі ў рабочай клясе. Кожная кляса складаецца з розных слаёў, якія неаднолькава падыходзяць да абароны інтарэсаў сваёй клясы. А ў клясавай барацьбе перамагае тая кляса, якая выяўляе больш організаванасьці, вытрымкі, дысцыплінаванась-

ці і моцы. Важна, таму, аб'яднаць, арганізаваць сваю клясу, прымусіць яе дзейнічаць дружна і рашуча.

Вось за гэту задачу арганізацыі сваёй клясы, кіраўніцтва яе барацьбой і бярэцца самая сьвядомая, самая адважная, самая спрактыкаваная, самая рашучая частка клясы. А гэта ёсьць перадавая частка клясы, яе авангард. Гэта перадавая частка клясы для кіраўніцтва барацьбой ўсёй клясы організуецца ў **партыю.**

Шматгадовай барацьбой рабочай клясы супраць капіталістых і памешчыкаў кіравала **комуністычная партыя.** Мы ня можам у кароткай гутарцы расказаць




У. І. Ленін.

аб гісторыі комуністычнай партыі. Але з гэтай гісторыяй павінен быць знаёмы кожны, хто хоча актыўна ўдзельнічаць у барацьбе працоўных за сваё вызваленьне.

Партыя дзесяткамі гадоў выкоўвала свае сілы. Адным з яе творцаў быў Уладзімер Ільліч Ленін, які працаваў усё сваё жыцьцё над стварэньнем моцнай пролетарскай партыі, аддаў ёй увесь свой розум, свае сілы. Вось чаму мы кажам, што комуністычная партыя—партыя Леніна. Яна выконвала і зараз, пасьля яго сьмерці, няўхільна выконвае яго вучэньне, кіруе барацьбой рабочай клясы з сялянствам, як навучаў яе гэтаму кіраўніцтву Ў. І. Ленін.

Кіраўнічае ядро партыі складаецца з таварышоў, якія прайшлі цяжкую школу рэволюцыйнай работы: падпольле, перасьледваньне царскага ўраду, сасланьні, турму і катаргу. Дзесяткі гадоў партыя ўцягвала ў свае шэрагі ўсё, што ёсьць лепшага, рэволюцыйнага і самаадданага ў рабочай клясе.

І ня гледзячы на вельмі цяжкія ўмовы сваёй працы, ня гледзячы на ўціск і зьдзекі ворагаў, перасьледваньні, катаваньні, кары,—партыя ніколі ня кідала свайго рэволюцыйнага паста, заўсёды бараніла інтарэсы рабочай клясы і прыгнечаных мас працоўных, кіравала барацьбой рабочай клясы, дапамагала рабочым умацоўваць саюз з працоўнымі масамі сялянства.

Комуністычная партыя, бальшавікі, пад кіраўніцтвам Леніна, бязупынна і няўхільна організоўвалі сілы рабочай клясы дзеля барацьбы з эксплёататарамі. Кіруючы барацьбой рабочай клясы, яны заўсёды навучалі рабочых, што іх абавязак—дапамагчы сялянству ў яго барацьбе з памешчыкамі.

У самыя цяжкія гады бальшавікі бязбоязна выступалі супроць ворагаў працоўных. У гады вайны, калі царскі ўрад асабліва люта расстрэльваў рэволюцыянэраў, бальшавікі організоўвалі рабочых для рэволюцыі і тлумачылі працоўным, што іх пасылаюць на бойку за чужыя ім рабаўніцкія інтарэсы эксплёататараў. Пасьля лютаўскай рэволюцыі бальшавікі, ня гледзячы на перасьледваньні капіталістых, меншавікоў і эсэраў, настойна тлумачылі рабочым і сялянам, што ўся ўлада павінна перайсьці ў рукі саветаў. Партыя кіравала барацьбой рабочых і сялян у дні Кастрычнікавай рэволюцыі. Пад кіраўніцтвам партыі рабочыя і сялянскія масы перамаглі памешчыкаў і капіталістых у грамадзянскай вайне і прагналі іх прэч з нашай краіны. Пад кіраўніцтвам партыі рабочыя СССР у саюзе з сялянствам (беднатою і серадняками) вось ужо 10 год будуюць социялізм у нашай краіне.

Вось чаму рабочыя і сяляне СССР маюць неабмяжованае давер'е да комуністычнай партыі. Доўгія гады барацьбы з эксплёататарамі праканалі іх, што партыя—надзейны кіраўнік. Яны бачылі, што ў самыя

цяжкія хвіліны партыя заўсёды была на сваім баявым пасту, што ў самых небясьпечных мясцох яна заўсёды ішла наперадзе. Яны ведаюць, што ніякія перасьледваньні, ніякія небясьпекі, ніякія напады ворагаў ніколі не маглі прымусіць партыю збочыць з правільнай дарогі, дарогі абароны інтарэсаў рабочай клясы і працоўных вёскі. Таму партыя карыстаецца такім давер'ем рабочых і сялян; у гэтым давер'і яна чэрпае свае сілы. Гэтае давер'е стварае ёй такі вялікі аўторытэт. Гэтае давер'е дазваляе ёй кіраваць соцыялістычным будаўніцтвам. Давяраючы партыі, шырокія масы рабочых ды сялян ідуць па тым шляху, які яна паказвае, выконваюць усе яе пастановы.

**ПЫТАНЬНІ.**

1. **Якія клясы існуюць у капіталістычным грамадзтве?**
2. **Якія клясы існуюць у СССР?**
3. **Чаму рабочыя і сяляне СССР маюць неабмяжованае давер'е да комуністычнай партыі?**

## 2. ЯК КОМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ КІРУЕ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫМ БУДАЎНІЦТВАМ.

Будаўніцтва соцыялізму гэта—ня простая і ня лёгкая справа. Каб пабудаваць соцыялізм, трэба перабудаваць усю народную гаспадарку. Трэба і прамысловасьць і сельскую гаспадарку падняць на большую вышыню, замяніць ручную працу машыновай, адначасна весьці барацьбу з эксплёататарамі і г. д. А такая работа патрабуе затраты вялізарных сіл, сродкаў і вялізарнай працы. Пабудаваць соцыялізм рукамі соцень і нават соцень тысяч людзей немагчыма. Пабудаваць соцыялізм магчыма толькі тады, калі ў яго будаўніцтве прымаюць удзел мільёны і дзесяткі мільёнаў людзей.

Будаўніцтва соцыялізму ня ёсьць нейкая асобная справа, ня зьвязаная з звычайнай штодзеннай працай мільёнаў мас рабочых і сялян. Працуючы на фабрыках ды заводах, шахтах, узорваючы зямлю, зьбіраючы ўраджаі і г. д., працоўныя нашай краіны будуюць соцыялізм.

Але чаму-ж, запытае хто-небудзь, працоўныя ня будуюць соцыялізм у якой-небудзь капіталістычнай Англіі ці Нямеччыне. Бо і там яны працуюць на фабрыках ды заводах, у шахтах, на полі і г. д. Чаму-ж там няма будаўніцтва соцыялізму? У чым розьніца між работай працоўных нашай краіны і работай працоўных капіталістычных краін? Чаму праца ў аднэй краіне прыводзіць да соцыялізму, а ў другой ня прыводзіць?

А ўся розьніца ёсьць у тым, што праца і гаспадарка ў нашай краіне організаваны і організуюцца інакш, чым у капіталістычных краінах. У капіталістычных краінах народная гаспадарка і праца рабочых ды асноўнай масы сялянства організаваны так, што яны прыносяць выгаду невялікай кучцы капіталістых і памешчыкаў. Масы-ж працоўных адданы жабрацтву, голаду і руйнаваньню.

А ў нас іншае. У нас частка народнай гаспадаркі (буйная прамысловасьць) ужо організавана інакш. Праца ў гэтай частцы народнай гаспадаркі ўжо ня служыць для ўзбагачэньня асобных людзей. У нас у сельскай гаспадарцы праводзіцца паступова, праз коопэрацыю, такая організацыя гаспадаркі ды працы сялян (беднякоў і серадлякоў), каб не асобныя «шчасьліўчыкі» ўзбагачаліся і нажываліся, але каб уся маса працоўнага сялянства перамагала жабрацтва, голад і руйнаваньне, будуючы соцыялістычную сельскую гаспадарку. Мы ўжо організавалі часткова і організоўваем далей нашу гаспадарку і працу ў ёй так, каб паляпшалася жыцьцё **ўсіх працоўных,** а не якой-небудзь маленькай кучкі паноў. У нас працоўныя на сябе працуюць, а ў капіталістычных краінах—на іншых, на памешчыкаў і капіталістых. У капіталістычных краінах рост прамысловасьці і рост сельскай гаспадаркі абазначаюць рост багацьця капіталістых і памешчыкаў, рост жабрацтва рабочых і сялян. А ў нашай краіне рост прамысловасьці і рост сельскай гаспадаркі абазначаюць рост **грамадзкай,** соцыялістычнай часткі гаспадаркі, рост дабрабыту працоўных мас. Вось у чым розьніца.

Такім чынам, асноўная задача пры пабудове соцыялізму ёсьць у тым, каб організаваць гаспадарку, працу рабочых і сялян так, каб гэта выклікала **рост грамадзкай гаспадаркі,** усё большае і большае паляпшэньне жыцьця працоўных мас. Адначасна-ж трэба організоўваць працоўных для барацьбы з эксплёататарамі, якія паграseverity нам у самой краіне і па-за межамі яе. Дзеля гэтай мэты ў нашай краіне і існуе **дыктатура пролетарыяту.**

Вось гэтай задачай організацыі гаспадаркі, організацыі працоўных мас, задачай кіраўніцтва імі для соцыялістычнага будаўніцтва і занята комуністычная партыя. А організоўваць масы, організоўваць мільёны і дзесяткі мільёнаў рабочых і сялян—нязвычай цяжкая справа. Для гэтага патрэбна, **каб самі масы зразумелі, што організацыя неабходна, што яна выгодна, што організуючыся, яны ляпей абараняюць свае інтарэсы.** Патрэбна найвялікшая сьвядомасьць мас, тады іх організацыя ня можа быць зламана ніякімі сіламі.

Соцыялізм павінны будаваць мільёны. А дзеля таго, каб кіраваць гэтымі мільёнамі, організоўваць іх, трэба з імі моцна зьвязацца. Вось чаму партыя ўвесь час напамінае сваім членам: «бліжэй да мас», «цясьней сувязь з масамі». Бяз гэтага немагчыма ніякае кіраўніцтва.

Партыя ня можа і не павінна замыкацца ў сабе, адрывацца ад мас. Кіраўніцтва партыі можа мець посьпех толькі тады, калі партыя зьвязана з масамі, калі масы партыі давяраюць, калі яны лічаць яе за сваю партыю. Каб не адарвацца ад мас, партыя павінна ня толькі навучаць масы, але сама павінна вучыцца ў мас. Павінна сваю політычную лінію, сваё кіраўніцтва правяраць на практыцы мас. Партыя таму павінна чула прыслухоўвацца да патрэб і запытаў мас. Яна павінна ведаць, чаго масы хочуць, якія іх патрэбы, як гэтыя патрэбы задаволіць.

Партыя так і робіць. Яна чула прыслухоўваецца да голасу рабочай клясы і працоўных мас сялянства. Ленін і яго партыя заўсёды ўважліва адносіліся да запатрабаваньняў вясковай беднаты і серадняка.

У 1918 г. па дамаганьні Леніна партыя прыняла пастанову заключыць з Нямеччынай мір, хоць і вельмі цяжкі для нас, таму што сялянства было зусім змарана імпэрыялістычнай вайной. Заключэньнем міру партыя хацела забясьпечыць магчымасьць мірнай працы для сялян і вызваліць усю краіну для творчай работы. Або ў 1921 г. партыя прыняла пастанову аб пераходзе ад ваеннага комунізму да новай экономічнай політы-



Генэральны сакратар ЦК УсеКП(б) І. В. Сталін.

кі. Гэты пераход палегчыў становішча сялянства, узмоцніў саюз рабочых і сялян і даў магчымасьць разгарнуць гаспадарчае будаўніцтва. Ці, напрыклад, па рашэньню партыі, Савецкая ўлада прыняла ў 1926 годзе пастанову аб сельгаспадатку. Гэтай пастановай цяжар падаткаў перакладаецца на кулацкія гаспадаркі, а значная частка беднаты, кожны год усё большая, і зусім ад падаткаў вызваляецца. Можна было-б бясконца падаваць такія прыклады, якія паказваюць, што партыя заўсёды чула адносілася да патрэб вясковай беднаты і сярэдняга сялянства.

Так, бяручы пад увагу патрэбы рабочай клясы і працоўных мас сялянства, партыя зьвязваецца з масамі. Але гэта ня значыць, што партыя застаецца ў хвасьце ў мас. Гэта ня значыць, што партыя здавальняе **ўсякае** запатрабаваньне тэй ці іншай групы рабочых або сялян. Патрабаваньні могуць быць розныя. Ня ўсе працоўныя правільна разумеюць свае інтарэсы. І не заўсёды інтарэсы тэй ці іншай групы працоўных супадаюць з агульнымі інтарэсамі ўсіх працоўных, з інтарэсамі пролетарскай дзяржавы, з інтарэсамі будаўніцтва соцыялізму.

Возьмем, напрыклад, хаця-б пытаньне аб лясох. Якая-небудзь група сялян высунула-б патрабаваньне а падзеле ўсіх лясоў між сялянамі. Ці здаволіла-б партыя такое патрабаваньне, ці стала-б яна яго таксама падтрымліваць? Вядома, не, бо ад гэтага пацярпелі-б інтарэсы ўсіх працоўных. Лясная гаспадарка ня можа быць распыленай, а павінна весьціся паводле пляну, з падлікам інтарэсаў цэлых вобласьцяй. А калі падзяліць, распыліць гэту гаспадарку, дык можа быць бяда. Вось за царом, калі лясамі распараджаліся, як хацелі, памешчыкі і кулакі, і г. д., што атрымалася? На паўднёвым усходзе лес вырубілі цалкам, адкрылі шлях сухім вятром, якія дуюць з гэтага боку, дзякуючы чаму церпіць усё Паваложжа. Усе мы памятаем страшэнны сухмень і галадоўку ў Паваложжы ў 1921 г. Шлях для вятроў адкрыты, яны і сушаць зараз аграмадную вобласьць. Савецкая ўлада прымае зараз меры да аднаўленьня на паўночным усходзе лясных заслон, пасадзіць новыя лясы. Вось і патрабуй пасьля гэтага падзелу лясоў! Ясна, што партыя ня толькі не адстойвала-б такога патрабаваньня, але змагалася-б супраць яго.

Партыя не пляцецца ў хвасьце масы, яна не вядзе політыку, прыстасоўваючыся да ўзроўню адсталых мас, яна кіруе масамі, уздымае іх сьвядомасьць да ўзроўню перадавых, сьвядомых рабочых.

Сваё кіраўніцтва партыя ажыцьцяўляе праз масавыя організацыі рабочых ды сялян. Партыйная лінія праводзіцца партыяй праз комуністых, працуючых у

розных установах. Комуністыя, працуючыя ў якой-небудзь організацыі, яднаюцца разам і складаюць **комуністычную фракцыю.** Комуністычныя фракцыі маюцца ў саветах, коопэрацыі, камітэтах узаемадапамогі, яны ствараюцца на розных зьездах, нарадах, конфэрэнцыях і г. д.

Усе найбольш важныя пытаньні абмяркоўваюцца на фракцыі, а потым фракцыя організавана і згуртавана бароніць свае пастановы. Кожны член партыі павінен бесьпярэчна бараніць пастанову фракцыі і ажыцьцяўляць яе.

Аднак, гэта ня значыць, што партыя праз фракцыю навязвае свае пастановы беспартыйным масам, ня думаючы аб тым, зразумела ім гэта пастанова ці не. Партыя не навязвае сваіх пастаноў, не прымушае прымаць іх, не камандуе, патрабуючы выкананьня і г. д. Яна імкнецца, каб масы на **сваёй практыцы** праканаліся, што партыя дае правільную пастанову, што інакш вырашыць пытаньне нельга. Партыя патрабуе ад усіх сваіх членаў, усіх фракцый ды ячэек, каб яны ня гвалцілі волі беспартыйных, але **давялі** ім, **праканалі** іх, што толькі пастанова партыі абараняе інтарэсы працоўных, служыць гэтым інтарэсам. Ніхто іншы, як Ленін, навучаў нас не камандаваць, ня ўціскаць, але паказваць, растлумачваць, дзейнічаць прыкладам, павышаць сьвядомасьць.

Партыя так і працуе ва ўсіх масавых організацыях. Праз усе гэтыя організацыі яна зьвязваецца з масамі, організуе іх, кіруе імі. Найважнейшымі масавымі організацыямі зьяўляюцца саветы, профсаюзы і комсамол. Яны зьяўляюцца нібы прываднымі, перадавальнымі пасамі ад партыі да шырокіх мас рабочых і сялян.

Праз **саветы** партыя зьвязваецца з мільённымі масамі рабочых і сялян. У саветах і праз саветы яна тлумачыць ім задачы, якія стаяць на шляху соцыялістычнага будаўніцтва, і кіруе імі. Праз саветы, організуючы і ўцягваючы масы рабочых ды сялян у работу, партыя дамагаецца іх удзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

Тым прывадным пасам, праз які партыя зьвязваецца з рабочай клясай, зьяўляюцца **профсаюзы.** У профсаюзах арганізавана амаль уся рабочая кляса. Профсаюзы—яе масавыя арганізацыі. Праз гэтыя масавыя арганізацыі рабочай клясы партыя і арганізуе рабочых для соцыялістычнага будаўніцтва.

І праз комсамол партыя зьвязваецца з шырокімі масамі рабочай і сялянскай моладзі, уцягваючы яе ў соцыялістычнае будаўніцтва. Культурная, выхаваўчая, арганізацыйная работа, якую комсамол пад кіраўніцтвам партыі праводзіць сярод моладзі, павінна быць накіравана для аднэй галоўнай мэты: падрыхтоўкі моладзі да актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

І па ўсіх гэтых арганізацыях шырокіх мас партыя ўжывае ў сваёй рабоце адны асноўныя мэтоды: пераконваньне, растлумачэньне прыкладам, павышэньне сьвядомасьці мас.

### ПЫТАНЬНІ.

1. Якую ролю адыгрывае партыя ў справе соцыялістычнага будаўніцтва?
2. Як трэба арганізоўваць масы і кіраваць імі?
3. Чаму трэба быць бліжэй да мас?
4. Праз якія арганізацыі партыя кіруе масамі і ўцягвае іх у соцыялістычнае будаўніцтва?

## 3. ЯК ПАБУДАВАНА ЎсеКП(б).

Комуністычная партыя мае моцны фундамант, які складаюць партыйныя ячэйкі. Ячэйка—гэта першастковая нізавая форма партыйнай арганізацыі. У гарадох, на фабрыках, заводах, у савецкіх установах існуюць партыйныя ячэйкі. На вёсках такія ячэйкі арганізуюцца толькі ў буйных сельскіх гаспадарках (саўгасы, колектывы). Рэшта вясковых ячэек складаецца з комуністых, якія працуюць у межах аднэй і тэй-жа вёскі. Калі ў аднэй вёсцы комуністых мала і яны ня могуць скласьці ячэйку, тады комуністыя некалькіх вёсак яднаюцца і складаюць адну ячэйку.

Ячэйка там, дзе яна арганізавана, выконвае ўсю тую работу, што выконвае партыя ва ўсім СССР.

і партыя, праводзячы сваю работу, абапіраецца на свае ячэйкі і вядзе работу праз іх. Таму ячэйкі і называюцца асновай партыі, яе фундамантам. Ячэйка сочыць за работай сваіх членаў, робіць ім заўвагі, калі яны памыляюцца, выпраўляе іхныя памылкі ды інш. Ячэйка праводзіць лінію партыі ў тым месцы, дзе яна працуе. Яна арганізуе беспартыйных і кіруе імі. Кіруе пераконваньнем, растлумачэньнем, прыкладам, павышэньнем сьвядомасьці. Яна сочыць за правядзеньнем лініі партыі ў коопэрацыі, саветах, комсамоле. Ва ўсёй сваёй рабоце ячэйка дзейнічае, **як адно цэлае.** Для зручнасьці ў рабоце і кіраўніцтве ўсім жыцьцём ячэйкі, апошняе абірае **бюро.** У сваёй рабоце ячэйка дае справаздачу перад райкомам ці валкомам партыі. Раённыя ці валасныя камітэты партыі яднаюць работу ўсіх ячэек раёну ці воласьці і абіраюцца ці агульным сходам усіх гэтых ячэек, ці іх дэлегатамі. Райкомы і валкомы адказваюць за сваю работу перад абраўшымі іх ячэйкамі і перад павятовымі камітэтамі партыі (акругкомамі). У партыі існуе такі парадак, што кожны партыйны орган (валком, уком і г. д.) робіць справаздачу ў сваёй рабоце і перад тымі, хто яго абраў, і перад вышэйшымі партыйнымі органамі. Акругкомы яднаюць работу і кіруюць работай усіх раённых і валасных організацый павету. Павятовыя організацыі партыі яднаюцца ў губэрскія, на чале якіх стаяць губкомы. Губэрскія організацыі яднаюцца ў партыйныя організацыі рэспублік. На чале гэтых партыйных організацый рэспублік стаяць цэнтральныя камітэты партый. Існуюць комуністычная партыя Украіны, Беларусі і г. д. Яны маюць свой Цэнтральны Камітэт. Нарэшце, усе партыйныя організацыі рэспублік яднаюцца ва Ўсесаюзную Комуністычную Партыю (бальшавікоў). Найвышэйшым органам партыі зьяўляецца Ўсесаюзны зьезд комуністычнай партыі. Зьезд падсумоўвае работу партыі, выпраўляе яе памылкі, калі яны былі, і робіць заўвагі што рабіць у будучым. Ён абірае Цэнтральны Камітэт, які на грунце пастановы зьезду кіруе работай партыі да новага зьезду.

З каго-ж складаецца партыя?

Каб лепш паказаць, з каго складаецца партыя і як яна расьце, разгледзім колькасны рост партыі з 1924 па 26 год і выявім, за кошт каго адбываўся гэты рост—за кошт рабочых, сялян ці іншых груп насельніцтва.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| На 1 студзеня | 1924 г. | у партыі было | 446.000 | чал. | (з канд.) |
| „ 1 „ | 1925 г. | „ „ „ | 741.000 | „ | „ |
| „ 1 „ | 1926 г. | „ „ „ | 1.076.814 | „ | „ |

З гэтых лічбаў відаць, што за два гады партыя вырасла больш чым у два разы.

Хто ўвайшоў у шэрагі партыі за гэтыя два гады, відаць з наступных лічбаў.




У студзені 1924 г. у партыі **было рабочых** 196.000 чалавек. У студзені 1925 г. іх стала 429.000 чал., г. зн. за год лік рабочых павялічыўся больш, чым у 2 разы. Да пачатку 1926 г. рабочых у партыі было ўжо больш паловы ўсяго яе складу—624.552 чал., што складае 58 проц. **Лік рабочых у партыі павялічыўся ў 3 разы ў параўнаньні з 1924 годам.** У сучасны момант

(1927 г.) социяльны склад [1]) партыі такі: на кожныя 100 чалавек прыпадае рабочых 58, сялян 26 і служачых 16 чалавек. Павялічваючыся колькасна, партыя ўвесь час ачышчае свае шэрагі ад тых, хто нарушае статут партыі ці сваімі паводзінамі, сваімі ўчынкамі падрывае аўторытэт сярод беспартыйных мас рабочых ды сялян (напрыклад, у 1921 г. пры чыстцы было выключана 174.931 чалавек, а ў 1924 г.—бяз малага 16.000 ч.).

Партыя бязупынна ўмацоўвае сваё **пролетарскае ядро з прамысловых рабочых** ад варштату. Гэта і




зразумела, бо партыя наша зьяўляецца рабочай партыяй. Але партыя ўцягвае ў свой склад і перадавых сялян, батракоў, беднякоў і серадняков, чырвонаармейцаў, лепшых, найбольш адданых людзей з служачых, але толькі тых, хто давёў сваю адданасьць партыі і Савецкай уладзе на справе.

Тав. Ленін дамагаўся заўсёды прыйма ў партыю як мага большага ліку сьвядомых рабочых з фабрык

[1]) Социяльны склад—склад паводле клясавай адзнакі.

ды заводаў. Партыя няўхільна выконвае гэты наказ свайго правадыра і настаўніка і ўсямерна ўмацоўвае **рабочае ядро ў сваім складзе.** Значэньне рабочага ядра ў партыі вялізарнае. Рабочы-партыец працуе на заводзе і фабрыцы, ён ведае становішча большасьці рабочых, ён думае і жыве інтарэсамі сваёй клясы. Такі сьвядомы, перадавы рабочы ўпарта праводзіць пролетарскую політыку партыі, якая зьяўляецца партыяй рабочай клясы.

Гэта, аднак, ня значыць, што партыя без разбору прымае рабочых у свае шэрагі. І рабочыя бываюць розныя. Партыя таму бярэ ў свае шэрагі самых вытрыманых, разьвітых, сьвядомых, дысцыплінаваных рабочых. Яны складаюць асноўнае ядро партыі. Партыя, папаўняючы свае шэрагі лепшай, падрыхтаванай часткай прамысловых рабочых, лічыць небясьпечным для свае справы прыймо ў партыю, без належнай апрацоўкі, напоўрабочых і маладых рабочых, асабліва тых, якія не прайшлі вывучку ў профэсыянальных саюзах.

Вось чаму партыя і завецца авангардам, г. зн. перадавым лепшым адборным атрадам рабочай клясы.

Нямоцных, несьвядомых, недысцыплінаваных— партыя ў свае шэрагі ня прымае. Сапраўды, хіба можа быць дрэнны грамадзянін добрым комуністым? Хіба можа кіраваць той, хто сам ня можа кроку зрабіць без кіраўніцтва, хто без кіраўніцтва сам наробіць шмат памылак. А кіраўніцтва зараз патрабуецца ўмелае, бо масы за час рэволюцыі ўзрасьлі; яны патрабуюць ня слоў, але справы. Яны патрабуюць умелага кіраўніцтва і могуць адрозьніваць добрага кіраўніка ад дрэннага. Таму партыя і ад вясковага комуністага шмат чаго вымагае.

Якім-жа павінен быць вясковы комуністы, і як павінен ён весьці партыйную работу, каб выпраўдаць давер'е шырокіх мас працоўнага насельніцтва, сярод якога ён па, даручэньні партыі вядзе работу?

Перш за ўсё, вясковы комуністы павінен быць адданым, вытрыманым, дысцыплінаваным членам партыі. Ён павінен памятаць, што ён праводзіць політыку

партыі на вёсцы, а гэта накладае на яго вялізную адказнасьць. Каб менш рабіць памылак, канечна трэба заўсёды быць у курсе заўваг партыі, хаця-б па асноўных пытаньнях работы на вёсцы. Канечна трэба ведаць праграму і статут партыі. Праграма партыі гэта кароткае, сьціслае выкладаньне тых задач, якія партыя перад сабою ставіць, і тых мэт, якіх яна дамагаецца. Толькі той можа знаходзіцца ў партыі і быць карысным членам партыі, хто ўпэўнены, што партыя стаіць на верным шляху, што яе задачы і мэты адпавядаюць інтарэсам рабочай клясы, што партыя сапраўды вядзе рабочую клясу і ўсіх працоўных да соцыялізму.

Але мала быць упэўненым у тым, што партыя стаіць на правільным шляху. Трэба яшчэ актыўна працаваць у партыі. Член партыі павінен быць гатоў цалкам аддаць усе сілы тэй справе, за якую партыя змагаецца. Член партыі павінен актыўна працаваць у партыйнай організацыі. А гэта значыць, што ён павінен удзельнічаць у партыйным жыцьці, рэгулярна хадзіць на партыйныя сходы, прымаць удзел у вырашэньні партыйных пытаньняў, выконваць партыйныя даручэньні і заданьні, выўчаць гісторыю партыі, яе палітыку і пастановы.

Член партыі павінен усюды, куды яго партыя ні пашле, выявіць умельства, ініцыятыву ў ажыцьцяўленьні лініі партыі. Ён павінен быць цесна зьвязаны з масамі, ведаць іх патрэбы, дапамагаць задаваленьню гэтых патрэб. Ён павінен тлумачыць беспартыйным палітыку партыі, змагацца з іх адсталасьцю і забабонамі. Комуністы павінен паказваць беспартыйным шляхі да палепшаньня іх быту, вытворчасьці, шляхі да барацьбы з злоўжываньнямі, бюрократызмам ды інш. Ён павінен сачыць за сваім кожным крокам, ні хвіліну не забываючыся, што ён нясе **падвойную адказнасьць** за свае памылкі і ўчынкі—перад партыяй і як грамадзянін.

Комуністы павінен падыходзіць да беспартыйнага селяніна, як роўны да роўнага, без пагарды і камандаваньня, у абыходжаньні з беспартыйнымі быць чу-

лым, прыслухоўваючыся да таго, чым жыве селянін.

Кожны комуністы павінен быць **асабліва** асьцярожным у тых заявах, якія ён робіць ад імя партыі. Ён павінен мець сьмеласьць сазнавацца, што ён таго ці іншага пытаньня ня ведае і адказаць на яго ня можа.

На якую-б работу партыя комуністага ні ставіла, ён усюды павінен быць актыўным, старанным, павінен быць прыкладам акуратнасьці і чэснасьці.

Комуністы павінен быць пісьменным. Калі ён уступіў у шэрагі партыі замала пісьменным, дык у першы-ж год свайго быцьця ў партыі, ён павінен навучыцца пісьменнасьці.

Комуністы, зьвязаны з сельскай гаспадаркай, павінен быць прыкладным гаспадаром, імкнучыся не да павялічэньня разьмераў сваёй уласнасьці, але да палепшаньня гаспадаркі культурнымі мерапрыемствамі, да разьвіцьця коопэрацыйнага будаўніцтва. Комуністы-гаспадар абавязкова павінен уваходзіць у коопэрацыю і першы падаць прыклад колектыўнай гаспадаркі.

Трэба пры гэтым памятаць, што ні валасны камітэт, ні вясковая ячэйка ЎсеКП(б), ні асобныя члены партыі ніякіх адміністрацыйных праў ня маюць, а таму і загадваць што-небудзь і каму-небудзь з беспартыйных ці грамадзкім організацыям яны ня маюць жаднага права.

Калі прапановы ячэйкі будуць прыняты саветам, дык толькі тады яны стануць абавязковымі для ўсіх грамадзян.

Гэта трэ' цьвёрда запамятаць.

Для таго, каб уся партыя, як адзін, магла дзейнічаць пры правядзеньні партыйных пастаноў, усе члены партыі прыцягваюцца да вырашэньня пытаньняў партыйнай політыкі. Кожная ячэйка партыі ня толькі можа, але і абавязана абмяркоўваць калі ня ўсе, дык хаця-б найважнейшыя пытаньні. Пры абгаварваньні пытаньняў, яны абмяркоўваюцца з усіх бакоў. Члены партыі выказваюць свае думкі па гэтых пытаньнях. Гэтыя думкі могуць быць непадобныя, розныя, а бы-

ває, што і процілежныя. Канчаткова партыйныя пытаньні вырашаюцца галасаваньнем у самой ячэйцы, калі яны чыста мясцовага значэньня; калі-ж яны маюць значэньне для ўсяго раёну, павету, губэрні—яны канчаткова вырашаюцца раённымі, павятовымі і губэрскімі камітэтамі і зьездамі партыі. Нарэшце, пытаньні, маючыя значэньне для ўсёй партыі, для ўсёй краіны, канчаткова вырашаюцца ўсесаюзным зьездам партыі і Цэнтральным Камітэтам УсеКП(б).

Абмеркаваньні пытаньняў у партыі адбываюцца да таго часу, пакуль ня прынята канчатковая пастанова. Калі-ж такая канчатковая пастанова прынята,—тады трэба яе ажыцьцяўляць. Тады ўсякае абмеркаваньне спыняецца—трэба справу рабіць. Калі хто-небудзь пры абмеркаваньні прапанаваў адно вырашэньне пытаньня, а канчатковая пастанова, вынесеная ячэйкай, акругкомам, губкомам ці ЦК—другое, дык член партыі **павінен падпарадкавацца** гэтай пастанове, і ажыцьцяўляць яе. **Той, хто ня хоча падпарадкавацца, хто лічыць сваю волю вышэй ад волі партыі, той тым самым пазбаўляе сябе права быць членам партыі.** Ён нарушае партыйную дысцыпліну, якая патрабуе ад усіх членаў партыі адзінства дзеяньняў. Партыйная дысцыпліна аснавана на добраахвотным падпарадкаваньні членаў партыі партыйным пастановам. Падпарадкаваньне партыйным пастановам павінна быць у поўнай меры добраахвотным. Гэта значыць, што кожны, хто прыняў і падпарадкаваўся партыйнай пастанове, бярэ на сабе абавязак усімі сіламі яе ажыцьцяўляць, ажыцьцяўляючы, **адказваць за яе выкананьне перад партыяй.** Гэта канечна патрэбна—інакш партыя ня зможа быць партыяй і абернецца ў натоўп людзей, якія спрачаюцца між сабою. Сапраўды. Прадставім сабе такі малюнак: ячэйка прымае якую-небудзь пастанову. Асобныя члены ячэйкі нязгодны. Пачынаецца ажыцьцяўленьне пастановы. Адны праводзяць так, як пастанавіла ячэйка, а іншыя пасвойму. Што атрымаецца? Атрымаецца бязглузьдзіца. Нікому нічога зрабіць ня ўдасца, таму што, калі спрэчкі будуць цягнуцца, дык справа будзе стаяць.

Так будзе, калі дапусьціць такі выпадак у ячэйцы. А калі дапусьціць такі выпадак у партыі, што можа быць?—Партыя тады можа разьбіцца на маленькія групы, якія замест таго, каб працаваць, будуць спрачацца між сабой, нарушаць адзінства партыі. А калі няма партыйнага адзінства—ня можа быць адзінага кіраўніцтва. А калі няма адзінага кіраўніцтва, дык гэта значыць, што наогул ніякага кіраўніцтва няма. Адзін будзе казаць адно, другі—іншае,—будзе блытаніна, а не кіраўніцтва. **Моц партыі—у яе адзінстве, а адзінства партыі немагчыма без сьвядомасьці членаў партыі і жалезнай партыйнай дысцыпліны.**

## ПЫТАНЬНІ.

**1. Як пабудавана ЎсеКП(б)?**

**2. Чаму прамысловыя рабочыя зьяўляюцца асноўным ядром партыі?**

**3. Якім павінен быць вясковы комуністы?**

**4. Чаму ў партыі павінна існаваць жалезная дысцыпліна?**

**5. Што значыць падпарадкаваньне пастановам партыі?**

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАНЬНІ.

1. Падлічэце, колькі членаў партыі маецца ў вашай вёсцы. Складзеце дыяграму, з якое было-б відаць, колькі ў партыйнай ячэйцы вашае вёскі сялян ад сахі, рабочых, служачых.

2. Дастаньце статут партыі і разьбярэце ўважна яго першы разьдзел: «Аб членах партыі».

3. На сходзе ячэйкі падлічэце беспартыйных актыўных сялян-перадавікоў і агаварэце, якім чынам скарыстаць іхную практыку, іхныя веды для моладзі.

## ШТО МОЖНА ЧЫТАЦЬ АБ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ.


А. КРАЎЧЭНКА—„В борьбе за лучшую жизнь“ (кароткая гісторыя партыі). Дзяржаўнае выдавецтва. 2-е выданьне.

ВАСІЛЬЧЭНКА—„Жизнь подпольщика“. Выданьне „Новая Москва“.

А. ФАДЗЕЕЎ—„Против течения“. Выданьне „Московский рабочий“.

О. ЛІБЯДЗІНСКІ—„Неделя“. Выданьне „Труд и Книга“.

# ГУТАРКА ДЗЕСЯТАЯ.

## РАБОТА ПАРТЫІ НА ВЁСЦЫ.

У мінулай гутарцы мы высьветлілі, што такое комуністычная партыя, як яна пабудована, як зьвязваецца з масамі працоўных і кіруе імі, і чаму ёй давяраюць працоўныя нашае краіны. У гэтай гутарцы мы высьветлім, як працуе і як павінна працаваць партыйная організацыя на вёсцы, каб праводзіць там політыку партыі, узмоцніць саюз рабочае клясы і вясковае беднаты з сялянамі-серадннякамі, весьці барацьбу з кулакамі і ўцягваць вёску ў соцыялістычнае будаўніцтва.

У гутарцы аб партыі мы ўжо гаварылі, што асноўнаю нізавою організацыяю партыі зьяўляецца партыйная ячэйка. Партыйная ячэйка ў сваёй працы ня толькі выражае волю **ўсяе** партыі і выконвае гэту волю. Як партыйная організацыя, **як частка партыі,** ячэйка ў той-жа час **кіруе** ўсёю партыйнаю працаю ў сваім раёне. Калі вясковая ячэйка зьвязваецца з працоўнымі масамі свайго раёну, дык гэтым самым яна зьвязвае з імі ўсю партыю. Кіруючы працаю мас, яна ажыцьцяўляе партыйнае кіраўніцтва масамі. Працуючы над утварэньнем у сваім раёне моцнага саюзу вясковае беднаты з сярэднім сялянствам, кіруючы гэтым саюзам, ячэйка ўтварае і ўзмацняе саюз рабочае клясы з сялянствам пад кіраўніцтвам партыі.

Ні ў якім выпадку нельга прадстаўляць сабе справу так: бач, ёсьць, партыя, у якой прываднымі пасамі да мас зьяўляюцца ячэйкі. Партыя загадвае, а ячэйкі выконваюць. Быццам—партыя гэта нешта асобнае ад партыйных ячэек. Такое прадстаўленьне аб партыі і партыйных ячэйках ёсьць **чыноўніцкае, бюрократычнае прадстаўленьне.** Такое прадстаўленьне а партыі выкрывае поўнае неразуменьне будовы партыі.

Партыю можна прыраўняць да вялікага будынку, які складаецца з асобных цэглін. Цэгліны і ёсьць партыйныя ячэйкі. Калі вымаць з будынку цэгліны, то будынак разбурыцца. Чаму разбурыцца? А таму, што кожная цэгліна—гэта частка будынку і будынак ня існуе дзесь асобна ад цэглін, з якіх ён збудаваны.

Так і партыя. Яна складаецца з асобных ячэек, і кожная **ячэйка—гэта частка ўсяе партыі,** як кожная цэгліна ў будынку ёсьць частка гэтага будынку. Моц партыі залежыць ад моцы яе ячэек. Уплыў партыі на працоўныя масы залежыць ад уплыву на масы партыйных ячэек. Посьпех працы партыі залежыць ад посьпеху працы ячэек.

Нашы ворагі, ворагі нашае партыі, вельмі добра гэта разумеюць. Часта на вёсцы ад кулака, які баіцца проста нападаць на партыю, можна пачуць такія гутаркі: «Мы вось з партыяю згодны, партыя добра робіць, толькі вось наша вясковая ячэйка дрэнная, яна з сваёю працаю нічога ня варта». Чаму кулак хваліць партыю і лае ячэйку? А таму, што ён добра ведае, што калі ён падарве ўплыў і аўторытэт ячэйкі, дык гэтым самым падарве ўплыў і аўторытэт партыі. Вось што хаваецца за кулацкаю пахвалою партыі.

Там, дзе вясковая ячэйка ня зьвязана з масамі, там партыя ня мае жывое, непасрэднае сувязі з сялянствам. Там, дзе ячэйка дрэнна кіруе, там партыйнаму ўплыву і аўторытэту наносіцца шкода. Там, дзе ячэйка дрэнна бароніць інтарэсы беднаты, там партыя мае слабое апірышча ў гэтай беднаце і г. д.

Сяляне мяркуюць а працы партыі ў значнай ступені па працы сваёй партыйнай ячэйкі. І аб гэтым партыйная ячэйка павінна добра памятаць.

Таму зьвязваць партыю з сялянскімі масамі ячэйка можа толькі тады, калі яна наладжвае з імі сама моцную сувязь. Шляхоў для сувязі ячэйкі з сялянскімі масамі многа. Але найлепшым шляхам пойдзе ў сваёй працы ячэйка, калі яна згуртуе навокал сябе беспартыйных сялян-актывістых. У кожнай вёсцы можна сустрэць такіх сялян, якія мала цікавяцца грамадзкімі і гаспадарчымі справамі вёскі, яны звычайна прыслу-

хоўваюцца да таго, што гавораць другія і згаджаюцца з імі. З другога боку, можна сустрэць і такіх, што цікавяцца грамадзкай працаю, абгаворваюць розныя пытаньні, падбіраюць сабе прыхільнікаў, падтрымліваюць з імі сувязь і г. д. Гэтыя апошнія—вясковы актыў. Ячэйка і павінна гэты актыў згуртаваць навокал сябе. Праўда, сярод такіх актывістых трапляюцца і кулацкія прыхвасьні; такія, зразумела, ячэйцы не патрэбны. Яна павінна аб'яднаць навокал сябе батрацкі і бядняцка-серадняцкі актыў, які бароніць інтарэсы вясковае беднаты і стаіць за саюз беднаты з серадняком супраць кулакоў ды іх прыхвасьняў.

Якімі шляхамі павінна ячэйка аб'яднаць навокал сябе бядняцка-серадняцкі актыў?

Для гэтага ячэйка можа і павінна наладжваць **адкрытыя партыйныя сходы.** На гэтыя сходы заўсёды прыходзяць беднякі і серадпякі, сяляне і сялянкі, якія цікавяцца грамадзкім жыцьцём. На такіх адкрытых партыйных сходах трэба абгаварваць тыя пытаньні, якія вёску цікавяць. Гэта можа быць абгаварваньне працы сельсавету, коопэратыву, лясьніцтва, хаты-чытальні, пытаньні зямляўпарадкаваньня, агрономічнай дапамогі вёсцы і г. д. Канечна трэба ставіць на абгаварваньне і пытаньні агульнага парадку, блізка закранаючыя селяніна: пытаньне а падатках, а льготах для беднаты, аб мерапрыемствах улады па палепшаньні сельскае гаспадаркі і г. д. Да гэтых сходаў патрэбна адносіцца з вялікаю ўвагаю. Бюро ячэйкі павінна наперад прапрацоўваць пытаньні. У праціўным выпадку сход пойдзе бесталкова і сялян не зацікавіць. Пытаньні трэба ставіць практычна, а не абарачаць сходы ў пустую нікому непатрэбную гаварыльню. Інакш адкрытыя сходы ня будуць прыцягваць сялян, ня будуць зьвязваць ячэйку з найбольш актыўнымі і лепшымі з іх.

Асабліва моцна павінна ячэйка **зьвязацца з мясцовымі батракамі.** Сельскі рабочы батрак—**першае апірышча партыі на вёсцы.** Батракі—гэта-ж тыя самыя рабочыя, толькі працуючыя не на прамысловасьці, але ў сельскай гаспадарцы. Праўда, больш адста-

лыя, менш сьвядомыя, дрэнна разумеючыя свае клясавыя інтарэсы, распыленыя, слаба з'арганізаваныя. Але ўсё-ж батракі—частка рабочае клясы нашае краіны. І ячэйка, як частка рабочае партыі, павінна аддаць батрацтву асаблівую ўвагу, асобна павесьці з імі працу. Батракоў ячэйка павінна арганізаваць у саюз, кіраваць абаронаю іх інтарэсаў. Праз батрацтва лягчэй зьвязацца з беднатою. Большага бедняка, чым батрак, на вёсцы ня знойдзеш. Таму, арганізуючы і згуртоўваючы батракоў, дапамагаючы ім бараніць свае інтарэсы, кіруючы імі, ячэйка пракладзе сабе шлях да больш цеснага збліжэньня з вясковаю беднатою і бядняцкім актывам.

Для прыцягненьня да сябе беднаты і бядняцкага актыву ячэйка павінна арганізаваць групы беднаты і наладжваць сходы беднаты. Бедната таксама, як і батрацтва, зьяўляецца **апірышчам партыі** на вёсцы. Таму яна павінна быць арганізаванай. Дрэннае тое апірышча, якое разлазіцца. Апірышча павінна быць моцным, а яно тым мацнейшае, чым больш арганізована. Арганізоўваць беднату партыя лічыць неабходным у двох мэтах. Папершае, будучы арганізаванаю, бедната лепш можа бараніць свае інтарэсы ў сельсавеце, коопэрацыі, камітэце ўзаемадапамогі і г. д. Падругое, арганізаваная бедната зможа з большым посьпехам пад кіраўніцтвам рабочае клясы змагацца супраць кулацтва, лягчэй зьвязацца з сераднякамі і змагацца з уплывам кулацтва на сераднякоў. Таму партыя патрабуе, каб вясковыя ячэйкі дапамагалі беднаце арганізаваць групы пры сельсаветах, праўленьнях коопэратываў, камітэтах узаемадапамогі і г. д. Гэтыя групы беднаты могуць мець значэньне толькі тады, калі яны правільна арганізаваны і калі ў іхнай працы прымаюць удзел комуністыя. А на практыцы досыць часта арганізацыя гэтых груп робіцца няўмела або ім аддаецца ўвагі меней, чым трэба. Блытаюць групы беднаты са сходамі беднаты, з сябрынамі беднаты ды інш. Абарачаюць групы беднаты ў машыновыя таварыствы. Пры такіх умовах бедната на справе застаецца неарганізаванай або слаба арганізаванай, і яе

барацьба з кулацтвам робіцца больш цяжкою. А гэта—дрэнна.

У некаторых мясцох організуюцца групы беднаты самі па сабе, не пры коопэратыве, не пры сельсавеце, але **наогул.** Такія групы рассылаюць сваіх прадстаўнікоў пасьля ва ўсе савецкія і грамадзкія організацыі вёскі «для контролю» над імі. Гэта ўжо зусім дрэнна. Гэта ня група беднаты ўжо, але камбед.

Часта ня ведаюць, як падыйсьці да організацыі групы. Каго ў яе ўвесьці. Досыць часта робяць пры гэтым значныя памылкі. Склікаюць сход і пачынаюць вырашаць галасаваньнем—хто бядняк, хто серадняк і хто кулак? У вёсцы Тагучына, Гураўскага раёну, такі сход адбыўся. Вось як яго апісваюць.

«Ком'ячэйка правяла на пасяджэньні сельсавету пастанову выявіць групоўкі шляхам галасаваньня на агульным сходзе грамадзян вёскі.

На сход прышла амаль уся вёска. Пытаньне аб падзеле вёскі на «казлоў» і «бараноў» зацікавіла ўсіх грамадзян. Ніводнаму не хацелася трапіць у «казлы», г. зн. кулакі.

— Хто за Янку Міхасёвага выкажацца, бядняк ён ці не?

— Бядняк!—крычыць сход. І лес рук азначыў Янку «авечкаю».

— А Паўла Янкаў як?

— Паўла Янкаў, Паўла Янкаў,—панеслася па радох.

— Бедняком, можа, ці серадняком?—сход у тупіку.

— Серадняком, ці што?—расьпінаўся старшыня.

Так перабралі ўсіх.

Калі сход скончыўся, «казлоў» не знайшлося.

Усе—беднякі ды серадняки.

Як-жа правільна організаваць групы беднаты?

Дапусьцім што ў сельсавеце ёсьць 30 членаў. З іх чалавек дзесяць беднякоў, частка сераднякоў, ёсьць і блізкія да кулакоў. З гэтых дзесяці беднякоў організуецца група беднаты пры сельсавеце. На сходах групы абгаворваюцца ўсе важныя пытаньні, для таго,

каб правесьці іх пасьля праз сельсавет. Але пры гэтым трэба памятаць аб саюзе з серадняком. А для гэтага на сходы групы трэба заклікаць сераднякоў-актывістых, сераднякоў—членаў сельсавету. Гэта ўзмоцніць саюз беднаты з серадзякамі і дасьць магчымасьць правесьці пастановы групы праз сельсавет.

Ячэйка, кіруючы працаю групы, павінна асабліва сачыць за тым, каб група не зрабілася на справе камітэтам беднаты, ня прысвайвала сабе адміністрацыйных праў.

Другім мэтодам організацыі беднаты і кіраўніцтва ёю зьяўляюцца **сходы беднаты.** Гэтыя сходы трэба склікаць у сувязі з вялікімі кампаніямі (перавыбары саветаў ды інш.), а таксама тады, калі ў жыцьці вёскі паўстае якое-небудзь вялікае пытаньне (зямляўпарадкаваньне ды інш.). Такія сходы беднаты павінны ставіць сваёю мэтаю згуртаваньне беднаты для актыўнага процідзеяньня кулацкай частцы вёскі. Але і пры гэтым зноў-ткі трэба памятаць аб саюзе беднаты з серадняком.

Возьмем, напрыклад, зямляўпарадкаваньне. Вёска пастанаўляе правесьці зямляўпарадкаваньне. І зараз-жа на вёсцы распачынаецца барацьба. Кулаком зямляўпарадкаваньне нявыгодна. Але яны ў меншасьці. Грамада ўжо пастанавіла правесьці зямляўпарадкаваньне. Зразумела, што кулакі будуць прымаць усе крокі для таго, каб беднату выгнаць на дрэнныя вучасткі, а сабе захапіць лепшыя. Будуць імкнуцца беднату загнаць далей, а сабе захапіць зямлю бліжэй. Зразумела, што заможная частка серадзякоў будзе падтрымліваць кулацтва. Запалохваньнем, а то і подкупам кулакі могуць павесьці за сабою і частку беднаты, асабліва тую частку, якая ў іх у кабале. Зразумела, што тая бедната, што застаецца распыленая і неорганізаваная, толькі прайграе на зямляўпарадкаваньні. Яна ня зможа супраціўляцца кулацтву. Вось тут на дапамогу беднаце павінна прысьці ячэйка. Правесьці сярод беднаты шэраг сходаў. Выпрацаваць плян зямляўпарадкаваньня бедняцкіх гаспадарак. Організаваць беднату для адстойваньня гэтага пляну.

Падрыхтаваць беднякоў—членаў сельсавету. Дагаварыцца з актывістымі серадняками. Правесьці плян праз сельсавет і правесьці яго потым у жыцьцё.

Адна добра праведзеная такая работа падніме настрой беднаты, моцна зьвяжа яе з ячэйкаю, прыцягне на яе бок серадняка. І кулацкія махінацыі ня будуць мець ніякага посьпеху.

Але для таго, каб праца ячэйкі ішла з посьпехам, трэба, каб члены ячэйкі і ўся ячэйка ў цэлым добра разумелі свае задачы, як членаў партыі і як партыйнай організацыі. Іх задача ставіцца да організацыі **моцнага кіраўніцтва** ячэйкаю беднатою і сераднякамі вёскі. А каб гэтае кіраўніцтва наладзіць, ячэйка павінна весьці **простую і адкрытую лінію абароны інтарэсаў беднаты і падтрыманьня серадняка.** Яшчэ і цяпер у некаторых вясковых ячэек ёсьць якісь незразумелы «сорам» весьці працу сярод вясковай беднаты адкрыта. «Сорам» гэты выклікаецца страхам «раззлаваць» серадняка, а ў некаторых ячэек—нават страхам перад кулаком. Такія ячэйкі імкнуцца застацца ў баку і даручаюць працу з беднатою сельсавету, камітэту ўзаемадапамогі або праўленьню коопэратыву. З гэтага выходзіць толькі шкода. Праца вядзецца дрэнна, па-чыноўніцку, ад яе стараюцца адкаснуцца, як ад сілай навязанае працы. Трэба паставіць за цьвёрдае правіла, што праца сярод беднаты вядзецца **самою** ячэйкаю і **нікому** яна гэтую працу даверыць ня можа і не павінна. Ніякаму «сораму» ў гэтай справе не павінна быць месца. Гэта ня «сорам», але баязьлівасьць. Партыя ніколі не саромеецца сваёй працы, яна ніколі і ні ад каго не хавала і не хавае, што яна бароніць інтарэсы вясковай беднаты. Партыя заўсёды гаварыла і гаворыць і ня кіне паўтараць, што **батракі і бедната—апірышча партыі на вёсцы.** І кожная вясковая ячэйка, кожны вясковы комуністы, кожны комсамолец павінны моцна гэта памятаць. Павінны моцна памятаць і а канечнасьці саюзу з серадняком. Таму пры кожнай рабоце з беднатою трэба моцна трымаць сувязь з **серадняцкім актывам.** А галоўнае—не хавацца, **не хаваць партыйнага кіраўніцтва** працаю. Іначай уся пра-

ца ломанага грошу варта. Дрэнны той кіраўнік, які хаваецца, якога ня відаць. Бедны проста ня будуць ведаць, вакол каго ім аб'яднацца.

**Ячэйка павінна стаяць на чале бядняцка-серадняцкага саюзу.** Яна павінна гэтым саюзам кіраваць. А для гэтага яна павінна весьці зусім ясную, выразную, простую і рашучую партыйную лінію. І пры гэтым памятаць словы Ільліча: «не камандуй». Памятаць і тое, што праца сярод беднаты—не кароткая кампанія, што гэта праца на гады, праца па замацаваньні саюзу рабочае клясы з беднатою і сярэднім сялянствам.

Другая важная праца, якая кладзецца на плечы парт'ячэйкі на вёсцы—**ажыўленьне саветаў і коопэрацыі.**

Што гэта значыць: ажыўляць саветы і коопэрацыю? А вось што. Калі пачаўся ўздым прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, разам з гэтым пачала падымацца і расьці актыўнасьць сялянскай масы. Партыя пастанавіла, што гэта актыўнасьць павінна быць накіравана на паляпшэньне працы сельсаветаў і коопэрацыі. Лёзунг ажыўленьня саветаў быў высунуты партыяй у 1924 годзе. І з гэтага году вядзецца вялікая праца па ажыўленьні саветаў.

Для таго, каб ня зьбівацца, каб правільна весьці працу па ажыўленьні саветаў, трэба памятаць, што саветы праводзяць на вёсцы **пролетарскую дыктатуру.** Іначай кажучы, праз саветы рабочая кляса кіруе будаўніцтвам соцыялізму на вёсцы. Галоўнае апірышча яго кіраўніцтва—батрацтва і бедната, да саюзу з якімі прыцягваецца і серадняк. Нельга таму весьці працу па ажыўленьні саветаў, ня згуртоўваючы вакол ячэйкі, у першую чаргу, батрацтва і беднату. Трэба, каб ячэйка раней ад усяго паднімала актыўнасьць гэтых слаёў вёскі. Яна павінна дабівацца, каб актыўнасьць беднаты і батракоў была **вышэй** за актыўнасьць іншых слаёў вёскі. Потым накіраваць гэтую ўзрослую актыўнасьць па рэчышчы працы ў савеце і коопэрацыі. Адначасна моцна зьвязацца праз актывістых-сераднякоў з серадняцкімі слаямі вёскі.

Прыцягненьне серадняка да актыўнага ўдзелу ў савецкім будаўніцтве ў сучасны момант асабліва важна. Разам з ростам народнае гаспадаркі ўзрасла актыўнасьць ня толькі рабочых, беднаты і сярэдняга сялянства,—расьце і актыўнасьць кулацтва, расьце актыўнасьць гандляроў, нэпманаў і іх прыхвасьняў з буржуазнае інтэлігенцыі, тайных эсэраў і меншавікоў. Усе яны хочуць прыбраць саветы да сваіх рук, праз саветы праводзіць сваю лінію. Узяць саветы ў свае рукі ім патрэбна для таго, каб аслабіць рабочых, а потым зьнішчыць і саветы і Савецкую ўладу. З гэтаю мэтаю гэтыя ворагі Савецкае ўлады імкнуцца прыцягнуць на свой бок асноўную масу сялянства—беднату і сераднякоў. Таму якраз цяпер асабліва важна і патрэбна ўзмацняць саюз рабочых і беднаты з сераднякамі ў саветах і вакол саветаў. Таму асабліва важна моцнае кіраўніцтва гэтым саюзам комуністычнай партыі.

Ажывіць саветы і коопэрацыю—гэта значыць адносіцца сур'ёзна да выбараў у саветы і выбараў праўленьняў коопэратыву ды рэвізыйных камісій. Трэба дабівацца, каб у выбарах прымала ўдзел усё батрацтва, бедната і сераднякі. Трэба, каб яны дружна вялі барацьбу з імкненьнем кулакоў правесьці ў саветы сваіх стаўленікаў.

Нельга ажывіць саветы, калі пасадзіць туды гультаёў, людзей, якія мала цікавяцца грамадзкаю працаю, дрэнна ведаюць патрэбы вёскі і г. д. Такі савет ня толькі ня згуртуе працоўныя масы вёскі супраць кулацтва, ён проста ня здолее правесьці самае звычайнае працы. Таму ў саветы трэба выбіраць людзей путных, якія давялі, што яны могуць, умеюць і хочуць бараніць інтарэсы вясковай беднаты і серадняка.

Падбор працаўнікоў у саветы, зроблены насьпех, на скорую руку, непрадугледжана—не ажывіць, але зробіць мёртваю працу саветаў. Дрэнны працаўнік адгародзіцца ад мас моцнаю сьцяною паперак, цяганіны, чыноўніцкіх адносін да патрэб працоўнага сялянства. А ажывіць саветы, гэта значыць змагацца з

усякаю цеганінаю, бюрократызмам, хутка адклікацца на ўсе патрэбы працоўнага насельніцтва, хутка задавальняць гэтыя патрэбы.

Ячэйка ў вёсцы звычайна невялікая. Яна ня можа вылучыць для працы ў савеце вялікае колькасьці сваіх членаў. Але гэта і непатрэбна. Не за колькасьцю сваіх членаў у савеце павінна ганяцца ячэйка. Яна павінна дамагацца ўплыву на працу савету, дамагацца кіраўніцтва працаю савету. Вядома, кіраваць куды лягчэй, калі ў савеце большасьць комуністых. Але гэтага амаль нідзе ў вёсцы ня бывае. У вясковых саветах большасьць—беспартыйныя. Наладзіць правільнае кіраўніцтва саветам таму куды цяжэй. Тут ужо лёгка можна дапусьціць памылкі, якіх нельга будзе паправіць—пайсьці па шляху камандаваньня, навязваньня савету сваіх пастаноў і г. д. А гэтага ячэйка павінна сьцерагчыся. Навязваньнем сілком сваіх пастаноў савету, камандаваньнем, ячэйка адпіхне ад сябе беспартыйных, раззлуе іх, разарве сувязь з беспартыйнымі масамі. А разарваўшы сувязь, яна страціць усякі грунт, усякую магчымасьць для працы. У такім выпадку яна не дасягне тых мэтаў, якія прасьледуе партыя сваёю політыкаю ў вёсцы.

Наладзіць правільнае кіраўніцтва працаю савету—а бяз гэтага і гутаркі ня можа быць аб ажыўленьні саветаў—ячэйка зможа толькі тады, калі яна яшчэ задоўга да выбараў савету правяла належную працу. Калі яна згуртавала навокал сябе бядняцка-серадняцкі актыў, організавала працу гэтага актыву, наладзіла кіраўніцтва, падрыхтавала выбары, правяла членаў актыву ў савет, тады ніякіх труднасьцяй у кіраўніцтве працаю савету ня будзе. Яны могуць быць толькі тады, калі ячэйка дрэнна зьвязана з масамі, калі ў савет, дзякуючы гэтаму, трапілі людзі выпадковыя, з ячэйкай ня зьвязаныя і ёй невядомыя. Ячэйка, якая добра працуе, такога маху ня дасьць.

Ажыўленьне працы коопэрацыі павіннаісьці тымжа шляхам, што ажыўленьне саветаў. Уцягваючы ў коопэрацыю беднату і сераднякоў,—дапамагаючы

коопэраваць беднату праз камітэты ўзаемадапамогі, організуючы пры праўленьні коопэратыву групу беднаты,—ячэйка дапамагае ажыўленьню коопэрацыі.

Калі ячэйка і комуністыя-коопэратары дамагаюцца таго, што бедната і серадзякі цікавяцца працаю коопэратыву, дапамагаюць праўленьню, калі пры справаздачах праўленьня на сходзе пайшчыкаў і ў сельсавеце бедната і серадзякі даюць добрыя і путныя заўвагі, як наладзіць працу коопэратыву,—адбываецца ажыўленьне коопэрацыі. Ажыўленьне коопэрацыі немагчыма, калі коопэрацыя сваёю работаю не прыціскае кулака, не дапамагае беднаце і серадняку. Ячэйка павінна накіраваць працу так, каб гэта важнейшая мэта коопэратыву была дасягнута. Яна павінна накіраваць актыўнасьць беднаты і сераднякоў на барацьбу з пакражамі і растратамі ў коопэрацыі, дапамагчы зьберагчы кожную коопэрацыйную капейку,—гэта зноў-ткі ажывіць коопэрацыю. Але асноўнаю ўмоваю ажыўленьня працы коопэрацыі зьяўляецца бязупыннае кіраўніцтва партыйнай ячэйкі ўсёю працаю коопэратыву.

Калі ячэйка вядзе правільна сваю працу, яна згуртуе навокал сябе моцнае бядняцка-серадняцкае кола. Тады само сабою адпадае пытаньне аб тым, як і за кошт каго папаўняць ячэйку. Правільны рост ячэйкі павінен ісьці за кошт лепшае часткі батрацтва, лепшае часткі грамадзкіх працаўнікоў—беднякоў і сераднякоў. Галоўную ўвагу вясковая ячэйка павінна зьвяртаць, вядома, на тое, каб уцягнуць у свае шэрагі, у першую чаргу, лепшыя сілы мясцовага батрацтва. Калі мы гаварылі а партыі, то мы зазначалі, што комуністычная партыя зьяўляецца рабочаю партыяй. У гарадох яна імкнецца ўцягнуць у свае шэрагі лепшыя сілы прамысловых рабочых, якія складаюць **асноўнае ядро** партыі. Батрак гэта—рабочы, які працуе ў сельскай гаспадарцы. Батрацтва—частка рабочае клясы СССР. Таму зусім зразумела, што ячэйкі рабочае партыі ў вёсцы павінны раней усяго ўцягваць у свае шэрагі сельска-гаспадарчых рабочых (батракоў). Гэта ня значыць, вядома, што яны павінны прыняць усіх да аднаго батракоў у

партыю. Таксама, як і гарадзкія партыйныя ячэйкі адбіраюць у свае шэрагі лепшых прамысловых рабочых, так і вясковыя ячэйкі павінны прымаць у свае шэрагі з разборам. Аб'яднаўшы батракоў, арганізаваўшы іх у саюз працаўнікоў зямлі і лесу, кіруючы-ж працаю, ячэйка здолее адабраць найболей моцных, найболей вытрыманых і найболей дысцыплінаваных з іх у свае шэрагі.

Таксама з разборам трэба адносіцца да прыёму ў партыю актывістых сялян—беднякоў і сераднякоў. Трэба браць з іх найболей путных, якія зарэкомэндавалі сябе на практычнай працы і выявілі адданасьць партыі і Савецкай уладзе. Асаблівую ўвагу павінна зьвярнуць ячэйка на былых чырвонаармейцаў, якія прайшлі школу грамадзкай працы ў арміі. Актывістага бедняка і серадняка, якія імкнуцца ў партыю, можна спрабаваць шляхам высоўваньня іх на практычную працу ў сельсавет, у коопэрацыю, у савет хаты-чытальні, у камітэт узаемадапамогі, у школьны савет і г. д. У вёсцы шмат розных грамадзкіх організацый, на працы ў якіх можа выявіць сябе кожны селянін, які хоча трапіць у партыю. Справа ячэйкі—дапамагчы ім трапіць на гэтую працу, кіраваць імі, прыглядацца да іх. Усё гэта ячэйка можа зрабіць, бо ў яе руках знаходзіцца кіраўніцтва ўсім політычным, гаспадарчым і культурным жыцьцём нашае вёскі.

Для таго, каб палегчыць батраком, сялянам-земляробам і чырвонаармейцам з сялян уступленьне ў партыю, партыя прызнала канечным скараціць для іх лік патрэбных рэкомэндацый да 2-х і стаж рэкомэндуючых—да двохгадовага стажу.

Апрача таго, на мясцовыя партыйныя організацыі ўскладаецца абавязак дапамагаць у адшуканьні рэкомэндацый сялянам, якія хочуць уступіць у партыю.

У стасунку наплыву сялян—беднякоў і сераднякоў—у партыю вялікую дапамогу робіць партыі комсамол, які падрыхтоўвае ў сваіх шэрагах будучых партыйцаў з сялянскае моладзі, зьвязанай з сельскай гаспадаркаю. Такія члены партыі, якія вышлі з самога

сялянства, якія жывуць сялянскімі інтарэсамі, дапамагаюць прыблізіць сялянства да партыі, давесьці яму на практыцы правільнасьць комуністычнае програмы.

Трэба, апрача таго, памятаць, што чым больш у вясковай ячэйцы сялян, якія займаюцца сельскаю гаспадаркаю самі ці праз сваю сям'ю, тым больш такая ячэйка цікавіцца патрэбамі сялянскае гаспадаркі, працу сваю накіроўвае на задаваленьне гэтых патрэб; давер'е сялян да такое ячэйкі большае, за такою ячэйкаю ідуць шырокія масы сялянскага насельніцтва. А гэта самае галоўнае ў партыйнай працы.

Першым памоцнікам у гэтай працы вясковай партыйнай ячэйкі павінны быць вясковы комсамол. Далей у нас пойдзе асобная гутарка аб комсамоле, дзе мы больш падрабязна скажам аб яго працы на вёсцы. Тут мы зазначым толькі ў агульных рысах, у чым павінна выяўляцца дапамога комсамолу партыі ў вясковай працы.

Комсамольскіх організацый у нас на вёсцы больш, чым партыйных. Апрача таго, яны шматлікія, у іх больш членаў. Комсамольскія ячэйкі ў вёсцы шыракахапляюць сваім уплывам сялянскую моладзь. Моладзь у нашай краіне адыгрывае значную грамадзкую і політычную ролю. У буржуазных старонках моладзь трымаюць, па магчымасьці, на прывязі. Не дапускаюць яе да грамадзкай працы. Не дапушчаюць да ўдзелу ў політычным жыцьці. У нашай краіне кожны грамадзянін ці грамадзянка, дасягнуўшыя 18-гадовага ўзросту, карыстаюцца ўсімі політычнымі правамі нароўне з дарослым насельніцтвам. Аб чым гэта гаворыць? Гэта гаворыць аб тым, што ў нашай савецкай вёсцы моладзь можа і павінна граць значную грамадзкую, гаспадарчую і культурную ролю. Комсамол мае з гэтаю моладзьдзю вялікую сувязь. Яго непасрэдным абавязкам зьяўляецца таму дапамога партыі, шляхам адпаведнай працы сярод моладзі. Комсамол павінен дапамагаць партыі, праводзячы тую-ж працу сярод вясковай моладзі, якую партыя праводзіць сярод дарослага насельніцтва. Моладзь ідзе на зьмену старым.

Гэтая зьмена павінна быць падрыхтавана, наўчана і організавана. Яна павінна даць добрых і надзейных будаўнікоў соцыялізму, барацьбітоў за справу працоўных. А гэта будзе толькі ў тым выпадку, калі комсамол на справе будзе першым памоцнікам партыі на вёсцы.

## ПЫТАНЬНІ.

**1. Для чаго ячэйка павінна яднаць навокал сябе вясковы актыў?**

**2. Якую працу павінна праводзіць вясковая ячэйка сярод батрацтва?**

**3. Як павінны організавацца групы беднаты?**

**4. Для чаго наладжвае ячэйка сходы беднаты?**

**5. Што азначае ажыўленьне саветаў і коопэрацыі?**

**6. За кошт каго парт'ячэйка павінна папаўняць свае шэрагі?**

**7. Якую дапамогу можа зрабіць комсамольская ячэйка партыі ў яе працы на вёсцы?**

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАНЬНІ.

1. Папрасеце сакратара парт'ячэйкі зрабіць вам даклад а працы ячэйкі сярод беднаты. Абгаварэце потым, што яшчэ, павашаму, можна зрабіць, каб узмацніць і палепшыць гэту працу?

2. У чым выявілася дапамога вашай ячэйкі ЎсеЛКСМ партыйнай ячэйцы ў справе організацыі беднаты і працы з бядняцка-серадняцкім актывам? Заслухайце з гэтага поваду даклад сакратара ячэйкі і абгаварэце яго.

3. Калі ў сельсавеце ёсьць комсамолец, заслухайце яго даклад аб тым, што зроблена сельсаветам для беднаты і сераднякоў, і што робіць сельсавет для ажыўленьня сваёй працы.

## ГУТАРКА АДЗІНАЦЦАТАЯ

### УсеЛКСМ

#### 1. ПАРТЫЯ І КОМСАМОЛ.

У папярэдняй гутарцы мы гаварылі, што комсамол—першы памоцнік партыі на вёсцы. Вось у гэтай гутарцы мы зоймемся высьвятленьнем: што такое комсамол, як ён організованы, як працуе і якое значэньне ён мае ў грамадзкім жыцьці нашай краіны.

Поўная назва комсамолу такая: Усесаюзны Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі (УсеЛКСМ). Ужо па назьве можна здагадацца, што гэта за організацыя. Організацыя ўсесаюзная, г. зн. распаўсюджана па ўсяму СССР. Потым, гэта організацыя ленінская, г. зн., яе члены лічаць Леніна за свайго настаўніка, а сябе—за пасьлядоўцаў ленінскага вучэньня. Далей, саюз называе сябе комуністычным. Гэта значыць, што члены саюзу ставяць сваёй мэтай барацьбу за комунізм. І апошняе слова паказвае, што ў саюзе яднаецца моладзь.

На першы погляд як быццам ніякай розьніцы між партыяй і комсамолам няма. Абедзьве організацыі—і партыйная і комсамольская—распаўсюджаны па ўсяму СССР. Абедзьве лічаць Леніна за свайго настаўніка, а сябе за яго пасьлядоўцаў. Абедзьве змагаюцца за комунізм. І толькі ў аднэй арганізацыі (партыйнай), як відаць—дарослыя, а ў другой (комсамольскай)—моладзь.

А сапраўды гэта ня так. Між партыяй і комсамолам—вялікая розьніца. І памылкова было-б думаць, што ў партыі толькі дарослыя, а моладзі няма. У партыі ёсьць вельмі маладыя па ўзросту члены (ёсьць ва ўзросьце 18-19 г.). Частка комсамольцаў уваходзіць у члены гэтай партыі. Розьніца між комсамолам і пар-

тыяй выяўляецца і ў тым, што для прыёму комсамольцаў у партыю няма ніякіх асобных палёгкаў. Яны прымаюцца на роўных умовах з усімі. Толькі для рабочых і сялян рэкомэндацыя комсамольскага камітэту замяняе рэкомэндацыю аднаго члена партыі.

Як відаць, розьніца між комсамолам і партыяй не ва ўзросьце сяброў.

Комсамол—політычная організацыя і партыя—політычная організацыя. У гэтым між імі падабенства. А далей ужо пачынаецца розьніца. Партыя—**організацыя рабочая,** убіраючая ў асноўным лепшыя, адборныя, **перадавыя элемэнты рабочае клясы.**

Партыя—**авангард рабочае клясы.** А комсамол—масавая організацыя **рабочае і сялянскае моладзі.** Што значыць масавая організацыя? Гэта значыць, што яна ўбірае ў свае шэрагі не асобныя элемэнты моладзі, але імкнецца, па магчымасьці, ахапіць у сваіх шэрагах **усю моладзь, якая шчыра жадае змагацца за комунізм.**

Аднак, мала сказаць, што комсамол масавая організацыя. Масавых організацый многа. Коопэрацыя, Мопр і г. д.—усё гэта масавыя організацыі. Чым-жа розьніцца ад іх комсамол? Комсамол розьніцца тым, што ён організацыя політычная, ленінская, комуністычная. А ленінізм і комунізм—гэта вучэньне **пролетарскае, рабочае.** Вучэньне аб комунізьме ёсьць вучэньне аб тым, пры якіх умовах рабочая кляса можа заваяваць уладу, заснаваць сваю дыктатуру і будаваць комунізм. Вось гэтым вучэньнем комсамол і кіруецца ў сваёй працы. Такім чынам, комсамол у сваёй чыннасьці кіруецца вучэньнем чыста **пролетарскім.** Таму комсамол па характару сваёй чыннасьці, або, як кажуць, па сутнасьці зьяўляецца організацыяй пролетарскай, рабочай. У гэтым сэнсе комсамол зьяўляецца часткай рабочага руху нашай краіны. Так сказана і ў програме комсамолу. Там гаворыцца: «Будучы часткаю агульна-пролетарскага руху, РКСМ[1]) зьяўляец-

---

[1]) Комсамол раней называўся-Расійскі Комуністычны Саюз Моладзі.

ца па сваіх заданьнях і працы клясавай пролетарскай організацыяй».

Тое, што комсамол называе сябе ленінскім, комуністычным, накладае на яго вялікія абавязкі і вялікую адказнасьць. Асабліва вялікая гэта адказнасьць на аднэй частцы комсамолу. Асноўных частак у комсамоле, як мы ўжо ведаем, дзьве: рабочая частка і сялянская частка. Рабочая частка складае і павінна складаць **кіруючае ядро комсамолу.** На гэту частку і кладзецца большая адказнасьць.

Большая адказнасьць зусім не абазначае, што рабочая частка комсамолу мае больш праў, чым сялянская. Усе комсамольцы роўныя, як аднае організацыі. Усе яны ў саюзе карыстаюцца аднолькавымі правамі і павінны несьці аднолькавыя абавязкі ў адносінах да свае організацыі. Але адказнасьць за ўсю працу комсамолу нясе большую яго рабочая частка. **Большая адказнасьць заўсёды ляжыць на тым, хто кіруе.** А рабочая частка—кіруючае ядро. З мінулых гутарак мы ўжо ведаем, чаму кіраўніком зьяўляецца рабочая кляса. Ведаем, чаму рабочае ядро зьяўляецца кіраўніком у партыі. Таксама і ў комсамоле.

У ім кіруючая організатарская роля належаць рабочай частцы саюзу, як больш організаванай, больш разьвітой і стойкай. Гэта частка саюзу накіроўвае ўсю працу комсамолу на выкананьне тэй самай працы, якою занята рабочая кляса і сялянства нашае краіны пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Але мы ведаем, што партыя кіруе будаўніцтвам соцыялізму ў нашай краіне. У гэты бок накіраваны галоўныя патугі працоўных СССР. А як-жа комсамол? Дзейнічае ён самастойна, ці таксама падпарадкуецца кіраўніцтву партыі? Асобна, самастойна працуе моладзь для соцыялістычнага будаўніцтва, ці слухаецца заўваг партыі?

Калі-б самастойна працавала моладзь, атрымаліся-б два кіраўнікі. Адзін для дарослых—партыя, а другі для моладзі—комсамол. А мы ў СССР будуем ня два соцыялізмы, але адзін для ўсіх. Ясна, што моладзь павінна падпарадкавацца кіраўніцтву партыі, ясна, што

**комсамол павінен працаваць пад кіраўніцтвам партыі.** Больш таго—комсамол, які прыняў назву ленінскага, комуністычнага, павінен быць **узорам.** Ён павінен сваёю працаю давесьці, што ён хоча і ўмее падпарадкавацца кіраўніцтву **тэй партыі, якая створана Леніным,** тэй партыі, якая нясе ўвесь цяжар і ўсю адказнасьць кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам.

Комсамол так і робіць. **Ён лічыць абавязковымі для сябе, для ўсіх сяброў саюзу ўсе пастановы ленінскай комуністычнай партыі. Ён бярэ на сябе абавязкі ўсімі сваімі сіламі дапамагаць ажыцьцяўленьню пастаноў партыі.**

Вось чаму мы называем комсамол памоцнікам партыі. Комсамол вядзе пад кіраўніцтвам партыі працу на асобным вучастку. Ён вядзе яе ў масах рабочай і сялянскай моладзі. У гушчу моладзі ён праводзіць уплыў партыі. Але праца яго мае адну мэту: **арганізаваць сілы моладзі і накіраваць іх на будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне.** Такая асноўная задача комсамолу. З гэтае асноўнае задачы выцякае шмат другіх, паасобных задач. Але ўсе яны падпарадкаваны гэтай агульнай задачы.

Комсамол ужо на справе давёў, што ён добры памоцнік партыі. Калі партыя і Савецкая ўлада напружвалі ўсе сілы, каб адбіць напады памешчыкаў і капіталістых, падняўшых грамадзянскую вайну, комсамол даваў з сваіх шэрагаў тысячу стойкіх барацьбітоў. Комсамол дапамагаў партыі замацаваць дысцыпліну і баявую моц Чырвонае арміі. Комсамол дапамагае партыі ў яе працы ўпрофсаюзах і коопэрацыі, уцягваючы туды моладзь. Ён дапамагае весьці культурную палітыкаасьветную працу ў клюбах, у хатах-чытальнях як сярод дарослых, так і сярод моладзі. Ён дапамагае партыі праводзіць розныя масавыя кампаніі. Ён прымае ўдзел у будаўніцтве соцыялістычнай прамысловасьці, уцягваючы ў гэту справу моладзь і прывучаючы яе да працы. Ён дапамагае паднімаць сельскую гаспадарку, займаючыся распаўсюджаньнем агрономічных ведаў і пабуджаючы сваіх членаў, якія працуюць на сельскай гаспадарцы, весьці яе культурна. Няма ніводнага ву-

частку на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, на якім-бы комсамол не дапамагаў партыі. Ён у поўнай меры заслугоўвае гэтай ганаровай назвы—памоцніка партыі.

Мала таго, што комсамол дапамагае партыі. Выхоўваючы ў сваіх шэрагах моладзь, уцягваючы яе ў соцыялістычнае будаўніцтва, організуючы, дысцыплінуючы, комсамол падрыхтоўвае ў сваіх шэрагах будучых стойкіх партыйцаў. Многія комсамольцы ўваходзяць у партыю. Такім чынам, комсамол ня толькі памоцнік партыі, ён і **рэзэрв, з якога партыя папаўняе свае шэрагі.** Праводзячы ўплыў партыі на шырокія масы рабоча-сялянскай моладзі, комсамол гэтым самым дапамагае іх ленінскаму выхаваньню, рыхтуе з іх стойкіх барацьбітоў за справу працоўных.

Усім гэтым тлумачыцца бязупынны рост комсамолу. Моладзь ідзе вучыцца ў комсамол, вучыцца змагацца і будаваць.

| | | |
|---|---|---|
| У 1918 годзе ў комсамоле было | 22.000 | членаў і кандыдатаў |
| „ 1920 „ „ „ „ | 482.000 | „ „ „ |
| „ 1925 „ „ „ „ | 1.770.000 | „ „ „ |
| „ 1927 „ „ „ „ | 2.301.196 | (на 1 красавіка) чл. і канд. |

Па ліку ў ім больш усяго **сялянскай** моладзі.

Зараз у комсамоле налічаецца:

| | |
|---|---|
| Прамысловых рабочых | 34,4 % |
| Батракоў | 8 „ |
| Сялян | 47,5 „ |
| Іншых | 10,1 „ |

(Глядзі дыагр. на стар. 184).

З гэтых лічбаў відаць, якое месца займае сялянская моладзь у комсамоле і якую, значыць, важную ролю павінен адыгрываць комсамол у савецкай вёсцы.

## ПЫТАНЬНІ.

**1. Што за організацыю прадстаўляе ЎсеЛКСМ і чым адрозьніваецца ад партыі?**

**2. Чаму комсамол называецца памоцнікам партыі і ці апраўдвае ён гэту назву?**

**3. Якія ўзаемаадносіны комсамолу і партыі?**

**4. Чаму ў комсамоле павінна быць партыйна-пролетарскае кіраўніцтва?**

СКЛАД КОМСАМОЛУ

НА 100 ЧАЛАВЕК ПРЫХОДЗІЦЦА




ПРАМЫСЛОВ РАБОЧЫХ




БАТРАКОЎ




СЯЛЯН




РАМЕСЬНІКАЎ САМАТ. І ІНШ




СЛУЖАЧЫХ

### 2. ЗАДАЧЫ КОМСАМОЛУ.

XIV зьезд комуністычнай партыі, абгаварваючы пытаньне а працы комсамолу, прыняў пастанову, што політычная праца ячэек комсамолу на вёсцы **павінна бьць зьвязана з удзелам** комсамолу ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве вёскі.

У вёсцы жыве звыш мільёну комсамольцаў. Прыкладам, 800 тысяч з іх працуюць на сваёй гаспадарцы. Ясная справа, што калі такая комсамольская армія як належыць возьмецца за гаспадарчую працу і ў першую чаргу за паляпшэньне сельскай гаспадаркі, дык атрымаюцца значныя вынікі. Комсамол павінен прысьці на дапамогу савецкім зямельным органам, агрономам, сельска-гаспадарчай коопэрацыі ў справе палепшаньня сельскае гаспадаркі. У першую чаргу могуць дапамагчы ў гэтай справе комсамольцы-гаспадары, г. зн. тыя комсамольцы, што вядуць самастойна гаспадарку. Такіх комсамольцаў гаспадароў у вёсцы налічваецца звыш 100 тысяч. Гэта група комсамольцаў

вядзе гаспадарку самастойна. Значыць, яна можа без перашкод уводзіць у сваю гаспадарку паляпшэньні, рабіць досьледы і г. д. Як да самастойных гаспадароў, сяляне маюць больш давер'я і пашаны да такіх комсамольцаў. Комсамолец-гаспадар мае поўную магчымасьць асабістым прыкладам рабіць уплыў на сваіх беспартыйных аднавёскаўцаў. Паляпшэньне комсамольцам-гаспадаром свае гаспадаркі ёсьць лепшая агітацыя сярод сялянства за паляпшэньне і новыя спосабы гаспадараньня.

Таму комсамол упарта праводзіць організацыю комсамольцаў-гаспадароў. Саюз ставіць перад імі задачу—**працаваць над разьвіцьцём і ўзмацненьнем свае гаспадаркі, але разам з гэтым дапамагаць коопэраваць акаляючыя сялянскія гаспадаркі.** Комсамол ня высоўвае лёзунгу: комсамолец павінен быць добрым гаспадаром. Ён высоўвае другі лёзунг: **комсамолец павінен быць культурным гаспадаром, коопэратарам, грамадзкім працаўніком, які дапамагае аб'яднаньню,** коопэраваньню сялянскіх гаспадарак.

Сапраўды, які толк з таго, што комсамолец замыкаецца ў сваёй гаспадарцы. Што за толк, калі ён павышае прыбытковасьць свае гаспадаркі? Гэта робіць і беспартыйны селянін. Важна і канечна трэба, каб **комсамолец і сваю гаспадарку паднімаў і дапамагаў падняцьцю гаспадаркі аднавяскоўцаў,** галоўным чынам вясковай беднаты. А для гэтага ён павінен быць грамадзкім працаўніком, коопэратарам. Комсамол гаворыць сваім членам комсамольцам-гаспадаром: разьвівайце сваю гаспадарку, паляпшайце яе, але імкнецеся разьвіваць яе па коопэратыўнаму рэчышчу, будзьце самі членамі коопэрацыі, уцягвайце ў коопэрацыю беспартыйных сялян і асабліва беднату.

І мы бачым, што ўсё гэта паступова комсамольцамі ажыцьцяўляецца. На V Усесаюзнай конфэрэнцыі ЎсеЛКСМ падавалася шмат прыкладаў добрай працы комсамольцаў па павышэньні сельскае гаспадаркі.

У вёсцы Чарнова, Чыцінскае акругі, па пачыну комсамольца Юдзіна організована сельска-гаспадарчая сябрына з 5 чалавек. У сябрыну ўвайшлі беднякі.

Засеяна 8 дзесяцін. Сярод пасеваў ёсьць турнэпс і цукровыя буракі. Сябрына купіла плуг і жняярку і думае ў далейшым купляць сельска-гаспадарчыя прылады. Старшыня сябрыны—комсамолец.

Комсамольцамі ў Смаленскай губэрні організавана сем машыновых таварыстваў. У Башкірыі, у вёсцы Ленда, ячэйка організавала маслабойнае таварыства. Інарэцкая ячэйка Вароненскай губэрні організавала колектыў па апрацоўцы зямлі.

Ёсьць посьпехі і ў паасобных гаспадарках комсамольцаў. Комсамолец ячэйкі в. Бурасы Лаўрэнцьеў, маючы сям'ю ў 5 чал., аднаго каня, адну карову, завёў у сваёй гаспадарцы прапашныя расьліны (кармавыя буракі, гарбузы), пасеяў «суданскую траву», узараў раньні папар (у траўні м-цы). На папар выкінуў 50 пудоў гною, пачаў правільнае кармленьне жывёлы пачаў сылёсаваньне кормаў, зрабіў цёплы хлеў і гадуе заводзкую скаціну.

Комсамольцы, якія ня маюць уласнае гаспадаркі, а жывуць у сям'і, таксама могуць шмат зрабіць у справе павышэньня сельскае гаспадаркі. Яны павінны рабіць уплыў на сваіх бацькоў, каб тыя вялі гаспадарку культурна. Лепшы мэтод, вядома,—прыклад. Зрабіўшы якое-небудзь палепшаньне ў гаспадарцы, комсамолец зацікавіць і выкліча да сябе давер'е з боку бацькі. А тады праца пойдзе лягчэй.

Адзін, напрыклад, комсамолец—зваць яго Янка Сысоеў—вучыўся ў Вяземскім пэдтэхнікуме. Там ён даведаўся аб карысьці караньплодаў. Вярнуўшыся ў вёску Дзьмітраўку, Туманаўскай воласьці, ён купіў на некалькі капеек насеньня турнэпсу.

Сысоеў засеяў гэтае насеньне на 33 кв. саж., усё лета даглядаў за насеньнем: палоў, паліваў рэдкім гноем і ўвосень зьняў ураджай 120 пудоў турнэпсу.

Сяляне спачатку сьмяяліся з яго. Але хлапец не паддаваўся. А калі ўвосень яны ўбачылі такі вялікі ўраджай з такога кавалачку зямлі, дык загаварылі іншае. У гэты год якраз здарылася бяскорміца, і сяляне шкадуюць, што не паслухалі парады Сысоева і не засеялі караньплодаў. У сучасны момант яны кажуць:

«З вясны абавязкова засеем для пракорму кароў на 100 кв. саж. кораньплодаў. Гэта выратуе нас ад бяскорміцы».

Вось што азначае добры прыклад. Урэшце і комсамольскія ячэйкі ўцэлым могуць шмат чаго зрабіць для паляпшэньня сельскае гаспадаркі. Дзеля чаго, у першую чаргу, яны павінны заняцца організацыяй беднаты і коопэраваньнем сялянства. Трэба весьці жорсткую барацьбу з ашуканствам і бюрократызмам пры крэдытаваньні беднаты. Бо часта крэдыт, вызначаны для беднаты, не трапляе да яе. У Бійскай акрузе ў Сібіры, для крэдытаваньня беднаты было прызначана 120 тысяч рублёў, а на справе бедната паловы гэтых грошай не атрымала. У Яраслаўскай губэрні крэдыты, вызначаныя дзяржавай для беднаты, цалкам трапілі ў рукі заможных. Комсамольскія ячэйкі павінны за гэтаю справаю сачыць, паднімаць трывогу. Пры організацыі коопэратываў, машыновых таварыстваў трэба ўцягваць туды, у першую чаргу, батрацтва і беднату.

Могуць дапамагчы комсамольцы сельскай гаспадарцы, організоўваючы дасьледчыя вучасткі. Але пры гэтым трэба абавязкова зьвязацца з дасьледчымі станцыямі, з сельска-гаспадарчымі ляборatoрыямі, з агрономамі, з сялянамі-дасьледцамі.

Павінна дапамагаць ячэйка і зямляўпарадкаваньню, організоўваць асушку балот і дрыгвы, весьці прапаганду сельска-гаспадарчых ведаў сярод сялян праз сельска-гаспадарчыя гурткі.

У бліжэйшыя гады вясковыя ячэйкі комсамолу павінны большую частку свае працы ўкласьці на палепшаньне сельскае гаспадаркі і коопэраваньне насельніцтва. Прычым памятаць, што гэта задача ня можа быць выканана бяз цеснае сувязі з батрацтвам і беднатою.

Вялікае значэньне таксама мае праца комсамолу ў саветах і коопэрацыі. Падрыхтоўка комсамольцаў да грамадзкае працы, а потым і сама грамадзкая праца комсамольцаў—гэта складаная задача, якую павінны вырашыць на практыцы вясковыя ячэйкі. Там, дзе ёсьць партыйная ячэйка, там комсамольская ячэйка

павінна быць яе актыўным памоцнікам. Павінна дамагацца ў працы па ажыўленьні работы сельсавету, коопэратыву, камітэту ўзаемадапамогі ды інш. арганізацый вёскі. Павінна дапамагаць партыйнай ячэйцы організоўваць батрацтва і групы беднаты, наладжваць сходы беднаты, уцягваць актыўную бядняцкую і серадняцкую моладзь у грамадзкую працу. А там, дзе партыйнае ячэйкі няма, там усю гэту працу павінна выконваць ячэйка комсамолу.

І вось тут на комсамол кладзецца вялікая адказнасьць. Каб быць перадавым грамадзкім працаўніком, трэба выявіць вялікую актыўнасьць, вялікую сьвядомасьць. **Трэба на справе працаваць лепш, чым працуе беспартыйны.**

Мы ўжо гаварылі ў 10 гутарцы, у чым ёсьць задача ажыўленьня працы савецкіх і грамадзкіх організацый вёскі. Асноўная задача ў гэтай справе—уцягненьне ў працу батрацтва і беднаты з серадняками, уцягненьне ў працу і правільнае кіраўніцтва.

Патрэбна пры гэтым цьвёрда памятаць, **што ні ў якім выпадку нельга падмяняць ячэйкай сельскі савет або іншыя грамадзкія організацыі.** А гэта значыць, што ўсе сваe пастановы ячэйка павінна праводзіць праз сельсавет або іншыя організацыі. Праводзіць, не націскаючы і не камандуючы.

Ячэйка павінна выхоўваць ва ўсіх сваіх членах і асабліва ў тых, што працуюць у савеце або ў коопэрацыі, нянавісьць да жорсткіх бяздушных адносін да людзей, нянавісьць да нячэснасьці, да марнатраўства, да злоўжываньняў, да цeганіны і падхалімства. Гэту нянавісьць трэба выхоўваць і ва ўсёй беспартыйнай моладзі. Гэта дапаможа комсамольцам і моладзі, працуючым у савецкіх і грамадзкіх організацыях, весьці барацьбу **за паляпшэньне нашага дзяржаўнага апарату,** коопэрацыйнага апарату і г. д. Комсамолец і беспартыйная моладзь пад кіраўніцтвам комсамолу павінна адыграць вялікую ролю ў барацьбе з бюрократызмам і цeганінай. Комсамолец, калі ён даведаецца аб якім-небудзь выпадку бюрократызму, не павінен толькі абурацца, але павінен паведаміць аб гэтым ад-

паведныя органы. Ён сам павінен добра працаваць у гэтым апараце, вучыцца працаваць па новаму, абганяць у працы старых спэцаў.

Комсамольскія ячэйкі павінны самым уважным чынам адносіцца да скаргаў сялян на кожны выпадак цеганіны і бюрократызму ў нашым апараце. Яны павінны праз рабоча-сялянскую інспэкцыю, праз прокурора і г. д. дабівацца перадачы вінавайцаў у суд.

У барацьбе за паляпшаньне апарату, у барацьбе з бюрократызмам комсамол павінен паказаць сябе сапраўдным памоцнікам партыі.

Ёсьць у комсамола і яшчэ адна вялікая задача: ён павінен весьці барацьбу за культурную вёску, у якой няма месца халатнасьці, разбэшчанасьці п'янству, цемнаце і хуліганству. Гэта павінна быць бязупынным клопатам і заўсягдашняю справаю вясковага комсамолу.

Комсамол выхаваўчая організацыя. Ён выхоўвае з моладзі стойкіх барацьбітоў за справу працоўных. Таму выхаваўчая праца займае і будзе займаць у працы комсамолу самае паважнае месца.

Практычная праца ў гэтым кірунку павінна вылівацца ў шырокае заахвочваньне ад усялякіх відаў самадзейнасьці. Трэба заахвочваць да організацыі розных дабраахвотных гурткоў моладзі. Гурткі радыёпрыхільнікаў, маладых натуралістых, маладых вынаходцаў, маладых турыстых, фото-аматараў, рознага роду спортыўныя групы (фудболістых ды іншых)—дапамогуць весьці барацьбу з перажыткамі старога быту—п'янствам і хуліганствам.

Трэба толькі моцна памятаць, што **комсамол сваю культурна-асьветную працу падпарадкуе політычным задачам.**

Калі гэта памятаць, тады нават самая маленькая заваёва на культурным фронце прынясе савецкай вёсцы вялікую карысьць. Тады і гармонік, і запявала, і тэатр—усё гэта прынясе карысьць.

Ячэйка павінна ўмець паставіць у сваёй вёсцы самаадукацыю моладзі, шырока выкарыстаўшы для

гэтага ўсё магчымасьці на месцы і, у прыватнасьці, хату-чытальню.

Але выкарыстоўваючы хату-чытальню, ячэйка не павінна абарачаць яе ў клюб моладзі і тым болей у клюб комсамолу. У такую хату-чытальню дарослы селянін ня пойдзе, трэба таму прыўчацца працаваць поплеч з дарослымі, і разам з імі. Трэба ўмець аб'ядноўваць інтарэсы і запатрабаваньні маладых з інтарэсамі і запатрабаваньнямі дарослых.

Трэба наўчыцца зьвязваць культурную працу з палітычнаю (асьветаю). Комсамол—організацыя палітычная, і заняцца адным толькі культурным выхаваньнем моладзі, закінуўшы палітычнае, было-б вялікаю памылкаю.

Да ліку важнейшых работ ячэйкі трэба аднесьці яе працу па ліквідацыі няпісьменнасьці. Ня толькі сярод моладзі, але і сярод комсамольцаў досыць многа няпісьменных. Трэба ўсяго гэтага пазбыцца. Адначасна з гэтым трэба зьвярнуць больш увагі на дапамогу малапісьменным, жадаючым вучыцца далей. Пры добрай сувязі комсамольскай ячэйкі з таварыствам «Прэч няпісьменнасьць»—гэта не такая цяжкая задача.

Урэшце, у апошні час асабліва востра паўстала яшчэ адна задача, якой комсамол павінен аддаць многа сілы, гэта—падрыхтоўка моладзі да абароны нашай краіны.

У наступнай гутарцы мы падрабязна разгледзім, адкуль пагражае небясьпека нашаму СССР. Тут мы толькі заўважым, што ў сучасным годзе зусім стала зразумелым, што капіталістыя рыхтуюць супраць нас вайну. І гэтую падрыхтоўку вайны яны вядуць у самым тэрміновым парадку.

**Да гэтага нападу мы павінны быць гатовымі, мы павінны быць гатовы даць нашым ворагам належны адпор.**

У момант надыходзячай вайсковай небясьпекі **Комсамол павінен быць у першых шэрагах у справе падрыхтоўкі абароны краіны.**

Што можа зрабіць і што павінен зрабіць камсамол для абароны краіны?

Ён павінен:

Паперашае, у Чырвонай арміі і Чырвоным флёце быць праваднікам ідэі партыі сярод беспартыйнай сялянскай масы. Комсамольцы павінны, апрача таго, **быць узорам** акуратнасьці, выканальнасьці, дысцыплінаванасьці і **баявое падрыхтоўкі.**

Падругое, комсамол павінен больш цікавіцца дапрызыўнай і па-завайсковай падрыхтоўкай, вылучыць для гэтае мэты політрукоў, дапамагаць павышэньню зацікаўленасьці ў дапрызыўнікаў. У мясцох падрыхтоўкі ячэйкі павінны прыняць актыўны ўдзел у абсталяваньні вучэбных пунктаў і вайсковых кутков. Ячэйкі павінны праводзіць агітацыю сярод сялян за разьмеркаваньне дапрызыўнікаў па кватэрах, за своечаснае іх зьяўленьне і г. д.

Патрэцяе, комсамол павінен дапамагчы ліквідаваць няпісьменнасьць сярод дапрызыўнікаў, чырвонаармейцаў, па-завайсковых і г. д.

Пачацьвертае, комсамол павінен даць добрых інструктароў стралковага спорту, дапамагчы разьвіцьцю гэтага спорту сярод моладзі, **зрабіць з кожнага комсамольца добрага стралка.** Для гэтае мэты трэба разгарнуць у першую чаргу працу Асоавіяхіму на вёсцы.

Папятае, комсамол павінен падрыхтаваць дзяўчат-комсамолак і беспартыйных да абароны СССР. Для гэтае мэты могуць служыць усялякія санітарныя і хэмічныя гурткі—для азнаямленьня з доглядам за параненымі і хворымі, а таксама для вучэньня спосабу абароны ад хэмічных нападаў.

Пашостае, комсамол павінен зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на справу фізычнага разьвіцьця моладзі. Неабходна як найхутчэйшае разьвіцьцё самых рознастайных відаў спорту і фізкультуры.

Пасёмае, канечна трэба ў працу піонэраў уводзіць элемэнты вайскова-дапаможнае службы.

І, урэшце, трэба весьці шырокую пропаганду вайсковых ведаў і тлумачыць сялянскім масам значэньне

тых падкопаў, якія строіць супраць нас чужаземная буржуазія.

Так, вядучы барацьбу за ўздым сельскае гаспадаркі, за паляпшэньне працы саветаў, за пашырэньне і паляпшэньне працы коопэрацыі і другіх грамадзкіх організацый, за культурную і політычную асьвету вёскі, за організацыю абароны краіны, комсамольская ячэйка будзе сапраўды дапамагаць партыі выхоўваць стойкіх барацьбітоў, будаўнікоў соцыялістычнага грамадзтва.

**ПЫТАНЬНІ.**

**1. Як комсамол прымае ўдзел у палепшаньні сельскае гаспадаркі?**

**2. Якую працу вядзе комсамол у саветах і коопэрацыі?**

**3. Які ўдзел прымае комсамол у барацьбе за культурную вёску?**

**4. Што павінен рабіць комсамол для абароны краіны?**

### 3. КОМСАМОЛ ВЫХОЎВАЕ СЬВЯДОМЫХ УДЗЕЛЬНІКАЎ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА.

У. І. Ленін казаў, што задачы комсамолу могуць быць выражаны вельмі коратка, адным словам. «Задача,—казаў ён,—ёсьць у тым, **каб вучыцца».** Вучыцца комунізму. «Але вучыцца,—казаў Уладзімер Ільліч,—гэта зусім не абазначае вучыцца ў школе ці па кніжках. Гэта было-б,—казаў ён,—у вышэйшай ступені няправільным, бо бяз працы, без барацьбы кніжныя веды комунізму з комуністычных брошур і твораў зусім нічога ня варты». І Ленін тлумачыў, як трэба вывучыцца комунізму. «Трэба,—казаў ён,—кожны крок свайго вучэньня, выхаваньня, асьветы зьвязваць з удзелам ў агульнай барацьбе ўсіх працоўных супраць эксплёататараў». Што-ж Ленін разумеў пад барацьбою з эксплёататарамі? Зразумела, што ён разумеў ня толькі непасрэдную барацьбу са зброяю ў руках. Пад барацьбою Ленін разумеў і ўсю працу па будаўніцтву соцыялізму ў нашай краіне. Ня дарма-ж ён, зварачаючыся да комсамольцаў, казаў: «Вы павінны быць першымі будаўнікамі комуністычнага грамадзтва сярод міліёнаў будаўнікоў, якімі павінны

быць кожны малады хлапец, кожная маладая дзяўчына. Без прыцягненьня ўсёй масы рабочай і сялянскай моладзі да гэтага будаўніцтва комунізму вы комуністычнага грамадзтва не пабудуеце».

З папярэдніх гутарак мы ўжо ведаем, што працоўныя нашай краіны, пад кіраўніцтвам партыі,—узмацняючы саветы, узмацняючы саюз рабочае клясы і вясковае беднаты з сярэднім сялянствам, разьвіваючы социялістычную прамысловасьць, паднімаючы сельскую гаспадарку, коопэрыруючы яе, ажыцьцяўляюць будаўніцтва социялізму ў нашай краіне.

Чаго-ж патрабаваў Ленін ад комсамольцаў, калі казаў, што яны павінны быць «першымі будаўнікамі комуністычнага грамадзтва»? Ён патрабаваў, каб комсамол навучаў сваіх членаў і ўсіх маладых рабочых ды сялян ня кніжнаму комунізму, але выхоўваў іх для барацьбы, прыцягваючы да работы ў саветах, коопэрацыі, профсаюзах, да работы па будаўніцтву, прамысловасьці і палепшаньні сельскае гаспадаркі.

Такі наказ Леніна Комсамолу.

І комсамол не дарма называе сябе Ленінскім Комсамолам. Сваёю галоўнаю задачаю ён лічыць выхаваньне пад кіраўніцтвам партыі з маладых рабочых і сялян актыўных і сьвядомых удзельнікаў социялістычнага будаўніцтва.

Ад кожнага **сьвядомага** ўдзельніка социялістычнага будаўніцтва мы патрабуем, каб ён разумеў, добра разьбіраўся ў комуністычным ленінскім вучэньні. Мы ўжо казалі, што комуністычнае вучэньне, ленінізм вучыць: калі, як і пры якіх умовах рабочая кляса скідае панаваньне капіталістых, устанаўляе сваю дыктатуру і будуе социялізм. Таму комсамол імкнецца ўсіх сваіх членаў і, па магчымасьці, усіх маладых рабочых ды сялян азнаёміць з ленінскім вучэньнем. І кожны комсамолец, кожны малады рабочы і селянін, калі ён хоча быць сьвядомым будаўніком социялізму, **павінен ведаць, чаму навучаў Ленін.**

Але Ленін-жа патрабаваў, каб моладзь актыўна **прымала ўдзел** у будаўніцтве социялізму. Прымала ўдзел, працуючы ў саветах, у коопэрацыі, разьвіваю-

чы прамысловасьць і сельскую гаспадарку, баронячы СССР ад чужаземных капіталістых. І ленінскі комсамол выконвае і гэты наказ настаўніка. Ён уцягвае шырокія масы моладзі ў савецкае будаўніцтва, ён уцягвае іх у гаспадарчую працу, ён рыхтуе іх да абароны краіны.

Такім чынам комсамол выхоўвае сваіх членаў і рабоча-сялянскую моладзь і з дапамогаю кнігі, і пры дапамозе жывое працы. Гэтае злучэньне кніжнага выхаваньня з жывою непасрэднаю практычнаю працаю ёсьць аснова комсамольскага выхаваньня,—выхаваньня па наказах нашага настаўніка Леніна. Комсамол навучае сваіх членаў і беспартыйную моладзь на сваіх паліт-чытках, у гурткох і ў партыйных школах, комсамол вядзе культурна-выхаваўчую працу на вёсцы. Комсамольцы працуюць па ліквідацыі няпісьменнасьці, працуюць у хатах-чытальнях, у народных дамох. Комсамол дапамагае рабоце школ сялянскай моладзі і дзіцячых школ I і II ступені. Комсамол вядзе барацьбу з рэлігійнымі забабонамі праз антырэлігійныя гурткі і прымаючы ўдзел у рабоце Саюзу Бязбожнікаў.

Працуючы практычна, комсамольцы выконваюць абавязкі членаў сельсаветаў, праўленьняў коопэратываў, камітэтаў узаемадапамогі, організуюць сябрыны, машыновыя таварыствы, організуюць дасьледчыя палі і г. д.

У жыцьці вёскі комсамол адыгрывае вялікую культурную ролю. Наша вёска бедная на школы, бедная на культурныя сілы, бедная на культурныя ўстановы (бібліотэкі, музэі, выстаўкі ды інш.). Такая вялікая організаваная сіла, як комсамол, можа шмат чаго зрабіць для культурнага росту вёскі. Трэба толькі, каб культурная праца комсамолу расла. Вельмі часта можна пачуць ад комсамольцаў такія разважаньні: «Мы комсамол—організацыя палітычная. Ня наша справа займацца культурніцтвам. Наша справа займацца палітыкаю».

Гэткае разважаньне няправільнае. Вядома, у кожнай сваёй рабоце комсамол павінен памятаць,

што ён—організацыя політычная. Таму **ўсялякую сваю працу ён павінен падпарадкаваць політычным мэтам рабочае клясы.** Політычныя мэты рабочае клясы, як вядома, заключаюцца ў тым, каб **перамагчы эксплёататараў.** Для гэтых мэтаў рабочае клясы зусім ня ўсё роўна—ці культурныя працоўныя масы вёскі (батракі, бедната і сераднякі), ці яны някультурныя, неадукаваныя. Культурнасьць працоўных мас вёскі—гэта вялікі плюс для барацьбы з эксплёататарамі. Культурнага батрака, бедняка ці серадняка кулаку трудней закабаліць чым цёмнага. Таму культурная праца комсамолу на вёсцы набывае вялікае **політычнае** значэньне. І адплёўвацца ад гэтае працы—значыць рабіць вялікую памылку.

З дапамогаю культурнай працы комсамол ахоплівае самыя нязрушныя, косныя, самыя адсталыя слаі вясковай моладзі. А гэта хіба дрэнна? Не, гэта зусім ня дрэнна. Гэта абазначае, што сваім уплывам комсамол ахапляе, дзякуючы культурнай працы, самыя адсталыя слаі моладзі. Культурная праца пашырае ўплыў комсамолу на новыя міліёны маладых сялян, а ў горадзе—на маладых рабочых. Пры самым актыўным удзеле комсамолу, савецкаю ўладаю організаваны для рабочае моладзі школы фабрычна-заводскага вучнёўства. У гэтых школах рабочая моладзь выхоўваецца і падрыхтоўваецца такім чынам, што на фабрыкі і заводы прыходзяць на толькі кваліфікаваныя, але і грамадзка-актыўныя рабочыя. Усяго ў нас школ фабрычна-заводзкага вучнёўства 954 з 90.000 вучняў.

На вёсцы па зачыну комсамолу організуюцца зараз школы сялянскай моладзі. Лік гэтых школ перайшоў ужо за 1.000.

Школа сялянскай моладзі мае мэтай падрыхтаваць перадавога сельскага гаспадара, які ўмеў-бы працаваць супольна, быў-бы актыўным членам коопэрацыі, правадніком новых мэтодаў вядзеньня сельскае гаспадаркі.

Школы сялянскай моладзі яшчэ да таго, як з іх выходзяць набыўшыя асьвету гаспадары, зьяў-

ляюцца рассаднікамі сельска-гаспадарчых ведаў і пачынальнікамі сябрынскай работы. Так, напрыклад, Бікбірдзінская школа, на Урале, правяла масавае ўцяпленьне хлявоў. Барысаўская і Назараўская школы, у Сібіры, дапамаглі арганізацыі машыновых таварыстваў і г. д. У школах сялянскай моладзі навучаюцца, галоўным чынам, батракі, бednякі, а потым серадлякі. Кулацкія дзеці зьяўляюцца рэдкім выключэньнем: адзін на тысячу. А беднякі, батракі і рабочыя складаюць асноўную масу.

Сярод тэй моладзі, якая не пайшла ў школы сялянскай моладзі, і сярод дарослага сялянства, як мы ўжо казалі, сельска-гаспадарчыя веды распаўсюджваюцца праз сельска-гаспадарчыя гурткі.

Апрача таго, пры дапамозе комсамолу на вёсцы арганізуюцца курсы для дарослых, школы для пераросткаў. Урэшце, на вёсцы маецца шэраг профэсыянальна-тэхнічных школ і навучальна-рамесьніцкіх майстэрняў. Такія школы маюцца ў Маскоўскай, Саратаўскай губэрнях, на Паўночным Каўказе і ў шмат якіх іншых мясцох.

Нарэшце, комсамол дапамагае сялянскай моладзі трапіць на рабочыя факультэты і вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Так, у 1925-26 годзе на рабочыя факультэты залічана 11.800 сялян, што складае амаль палову ўсіх залічаных. У сельска-гаспадарчыя вышэйшыя навучальныя ўстановы залічана 42 проц. сялян, а ў іншыя 28 проц.

У самым комсамоле к пачатку 1926 году было 80.000 няпісьменных, пераважна з ліку сялянскае моладзі. Яшчэ большая колькасьць няпісьменнае моладзі сярод беспартыйных.

Комсамол ліквідуе іх няпісьменнасьць з дапамогаю Таварыства «Прэч Няпісьменнасьць». Кожны актыўны комсамолец зьяўляецца членам гэтага таварыства.

Асьвеце і політычнаму выхаваньню моладзі дапамагаюць таксама газэты і часопісы комсамолу. Комсамол выдае болей поўсотні розных газэт і часопісаў,

якія маюць сотні чысяч чытачоў і дзесяткі тысяч дапісчыкаў; маладыя рабкоры і сялькоры зьяўляюцца актыўнай і перадавой часткаю рабоча-сялянскае моладзі, якая выхавана і высунута праз друк.

## ПЫТАНЬНІ.

**1. Што гаварыў Ленін аб комсамольскім выхаваньні?**
**2. Як комсамол выконвае наказы Леніна аб выхаваньні моладзі?**
**3. Навошта патрэбна комсамолу культурная праца?**

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАДАНЬНІ.

1. Падлічэце ўсіх няпісьменных комсамольцаў і за зіму навучэце іх пісьменнасьці, шляхам прымацаваньня да кожнага пісьменнага аднаго няпісьменнага. Там, дзе ёсьць пункты па ліквідацыі няпісьменнасьці, прымусьце няпісьменных комсамольцаў хадзіць туды, сачэце за іх вучэньнем.
2. Зьвяжэцеся з бліжэйшай да вас школай сялянскае моладзі. Парадзьцеся з ёю, як лепей вясьці сваю гаспадарку.
3. Распрацуйце ўважна статут Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі.

## ШТО МОЖНА ПРАЧЫТАЦЬ АБ КОМСАМОЛЕ І ЯГО ПРАЦЫ.

В. СЯМЁНАЎ—„Молодыми силами“. Выданьне „Крестьянской газеты“. „Город и деревня“. Зборнік. Выданьне „Молодой Гвардии“.
ЗАМОЙСКІ—„Платина“. Дзярж. Выдавецтва.

---

## ГУТАРКА ДВАНАЦЦАТАЯ.

### СССР у капіталістычным абкружэньні.

СССР—**адзіная** на сьвеце краіна, у якой улада капіталістых і памешчыкаў скінута, у якой існуе **дыктатура пролетарыяту.** Ва ўсіх іншых краінах сьвету пануе капітал. Нават у краінах нязразьвітых, у якіх свая мясцовая буржуазія слабая, і там мы бачым панаваньне капіталу. Праўда, там гэта ў большасьці выпадкаў панаваньне не капіталістых данае краіны, але чужаземных капіталістых. Да ліку такіх краін належаць галоўным чынам краіны Ўсходу: Эгіпэт, Індыя, Кітай, Сіам і г. д. Наогул увесь сьвет, які знаходзіцца пад уладай капіталістых, можна падзяліць на дзьве часткі. Адна частка складаецца з краін **пануючых,** прыгнятаючых. Гэта—Англія, Францыя, Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі, Японія, Італія і г. д. Другая частка гэта—**зьняволеныя і прыгнечаныя чужаземным капіталізмам краіны:** Эгіпет, Кітай, Індыя, Мароко, Гэджас і г. д. Увесь капіталістычны сьвет падзяляецца такім чынам на дзьве часткі—на прыгнечаных і прыгнятальнікаў, але і ў самых краінах прыгнятаючых існуе таксама падзел. Калі мы гаворым, што Англія адна з самых магутных краін-прыгнятальнікаў, дык пад прыгнятальнікамі мы разумеем ня ўсіх ангельцаў. Ня ўсе ангельцы—прыгнятальнікі. У самой Англія мы бачым прыгнятальнікаў і прыгнечаных. Да ліку прыгнятальнікаў належыць невялікая кучка ангельскіх капіталістых, памешчыкаў (яны завуцца лёрдамі), буйных гандляроў, папоў і г. д. Да ліку прыгнечаных належыць большая частка насельніцтва Англіі—ангельскія рабочыя і сяляне. Тое самае мы бачым і ў кожнай іншай капіталістычнай краіне. Таму трэба памятаць, што калі мы гаворым, што Англія,

Францыя, Злучаныя Штаты і г. д. прыгнятаюць і занявольваюць і эксплёатуюць увесь сьвет, то гэта значыць, што мы гаворым аб аксплёататарах, якія пануюць у гэтых краінах. Гэта значыць, што **буржуазія,** што капіталістыя, памешчыкі і г. д. гэтых краін прыгнятаюць увесь сьвет, **у тым ліку** і сваіх рабочых ды сялян. Невялічкая кучка ангельскіх, францускіх, амэрыканскіх і г. д. капіталістых ды памешчыкаў рабуе, прыгнятае, гвалтуе, эксплёатуе і занявольвае большасьць працоўнага насельніцтва земнае кулі.

Краіны прыгнечаныя і заняволеныя чужаземным капіталам таксама падзяляюць на дзьве часткі. Адны з іх завуцца **колёніямі,** а другія **напоўколёніямі.** Чымжа адрозьніваецца колёнія ад напоўколёніі? Розьніца ёсьць у **форме,** у спосабе, якім чужаземныя капіталістыя прычапляюць прыгнечаным народам сваю волю. У адных краінах прыгнячэньне адбываецца непасрэдна, відавочна і груба. Сіла штыха, сіла паліцыі, сіла жандарскай шаблі, сіла чыноўніцтва, пастаўленага чужаземнымі капіталістымі, утрымліваюць заняволеныя народы ў паслушэнстве. Краіны прыгнечаныя, такім чынам, носяць назвы **колёній.** Да ліку іх належаць Індыя, Арабія (у Азіі), Марокко, Алжыр, Туніс (у Афрыцы) і г. д.

Але капіталістыя практыкуюць і другія спосабы прыгнечаньня. Яны дазваляюць прыгнечанаму народу мець «свой урад». Гэты ўрад звычайна складаецца з буржуазных, інтэлігентных капіталістых і памешчыкаў або генэралаў прыгнечанае краіны. Гэткі ўрад існуе, напрыклад, у Гэджасе (у Азіі), у Эгіпце ды інш. краінах. Але гэты ўрад толькі фіранка, заслона.

**Ён нічога ня можа зрабіць па сваёй волі.** Ён цалкам знаходзіцца ў залежнасьці ад чужаземных капіталістых. Калі-ж гэты ўрад дрэнна слухаецца чужаземных капіталістых, пачынае чаму-небудзь упірацца, то капіталістыя яго проста праганяюць і садзяць на яго месца новы, паслухмяны. Такім чынам, у некаторых краінах капіталістыя стараюцца рабаваць і прыгнятаць не непасрэдна, але прыкрывацца «урадам» га-

тае краіны. Гэтае прыкрыцьцё адразу кідаецца ў вочы, але некаторых з адсталых масаў яно ўводзіць у абман. Адсталыя і цёмныя масы часамі думаюць, што ў іх ёсьць «свой урад». А гэтае ашуканства і патрэбна капіталістым. Прыкрываючыся гэтым ашуканствам, яны рабуюць і прыгнятаюць працоўныя масы гэтае краіны. Вось такія краіны, у якіх капіталістыя робяць сабе фіранку ў выглядзе ўраду, завуцца **напоўколёніямі.**

Наш СССР з усіх бакоў акружаны краінамі, у якіх пануе капітал. На заходнай мяжы з намі стыкаюцца эўропэйскія капіталістычныя краіны, а на ўсходняй і паўднёва-ўсходняй мяжы з нашым саюзам стыкаюцца напоўколёніяльныя краіны Ўсходу—Кітай Пэрсія, у якіх сапраўды пануе чужаземная буржуазія.

Капіталістыя адчуваюць да нашае краіны страшэнную нянавісьць. Яны ніяк ня могуць даравацъ рабочым і сялянам нашае краіны таго, што яны прагналі ад сябе памешчыкаў і капіталістых. Яны ніяк ня могуць згадзіцца з тым, што ў нашай краіне не дыктатура капіталістых, але дыктатура пролетарыяту.

Яны ніяк ня могуць згадзіцца з тым, што наша краіна зьяўляецца ўзорам для ўсяго прыгнечанага і заняволенага народу. Яны ня могуць згадзіцца з тым, што рабочыя іх уласных краін паступова зьбіраюцца пад сьцягам комуністычнае партыі з тым, каб у сябе зрабіць гэткую-ж рэволюцыю, якую зрабілі ў нашай краіне рабочыя ды сяляне. З гэтае прычыны яны шукаюць розных шляхоў, каб нам пашкодзіць, шукаюць розных шляхоў, па якіх-бы яны змаглі ізноў зьнішчыць у нашай краіне ўладу капіталістых і памешчыкаў.

Капіталістыя чужаземных дзяржаў зараз-жа пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі дапамагалі нашым капіталістым і памешчыкам, якія пачалі грамадзянскую вайну. 14 чужаземных дзяржаў дапамагалі Дэнікіну, Калчаку, Урангелю, Юдзенічу ды іншым контррэволюцыйным генэралам. Але рабочыя і сяляне нашае краіны перамаглі іх, ня гледзячы на гэту дапамо-

гу чужаземных капіталістых. Перамаглі і пачалі будаваць соцыялізм у нашай краіне.

Капіталістыя і памешчыкі спачатку спадзяваліся, што рабочыя і сяляне нашае краіны ня справяцца з будаўніцтвам соцыялізму. Яны думалі, што мы наогул ня здолеем адбудаваць нашу народную гаспадарку пасьля тых разбурэньняў, якія яны зрабілі нам у часе грамадзянскае вайны. Гэтак яны і пісалі ў сваіх газэтах і часопісах. Яны казалі, што нашы рабочыя і сяляне неадукаваныя, цёмныя і някультурныя. Дзе-ж ім справіцца з такой вялікай задачай, як народная гаспадарка. Капіталістыя забыліся на дробязь. Яны забыліся, што працоўныя нашае краіны маюць добрага, загартаванага ў бойках кіраўніка—нашу комуністычную партыю.

І капіталістыя аблічыліся, яны памыліліся. Рабочыя і сяляне ня толькі адбудавалі сваю народную гаспадарку нашае краіны, але і пайшлі далей. Мы ўжо пераступілі ўзровень даваеннага вырабу і ўсё шырэй ды шырэй разгортваем соцыялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне. З кожным годам рабочым і сялянам нашае краіны робіцца лягчэй жыць.

І вось гэта асабліва выклікае ў стасунку да нас лютую нянавісьць чужаземных капіталістых і памешчыкаў. Жыцьцё нашых працоўных паляпшаецца, а ў капіталістычных краінах пагаршаецца. Капіталістыя адбіраюць у рабочых васьмігадзінны працоўны дзень, зьмяншаюць заработак, пагаршаюць умовы працы. Сялянства капіталістычных краін стогне пад цяжкімі падаткамі, пад уціскам процантаў, якія трэба плаціць капіталістычным банкам, стогне пад уціскам капіталістычных трэстаў, якія паднімаюць цэны на тавары, патрэбныя селяніну. Гэта ўжо ня кажучы аб тым уціску і зьдзеку, што церпяць рабочыя і сяляне ад перасьледаваньня паліцыі, жандармэрыі, суда і ахранкі ў капіталістычных краінах.

Вось чаму рабочыя і сяляне ўсяго сьвету глядзяць на нас з надзеяй. Вось чаму яны прыходзяць да думкі, што адзіным для іх шляхам да палепшаньня жыцьця можа быць толькі рэволюцыя супраць памешчы-

каў і капіталістых. Вось чаму яны толькі чакаюць зручнага выпадку, каб скінуць уладу капіталістых ды памешчыкаў і ўстанавіць у сваіх краінах Савецкую ўладу.

З гэтае-ж прычыны капіталістыя чакаюць выгоднага выпадку, каб накінуцца на нас, каб пайсьці супраць нас вайною і ў крыві задушыць Савецкую рэспубліку.

Так увесь сьвет у стасунку нашае краіны падзяліўся рэзка на дзьве часткі. Усе працоўныя, усе прыгнечаныя, усе тыя, каго эксплёатуюць,—на нашым баку; усе эксплёататары, усе прыгнятальнікі, усе дармаеды глядзяць на нас з ненавісьцю і чакаюць выгоднага выпадку, каб задушыць нас. Але ў капіталістычных краінах якраз пануюць эксплёататары, прыгнятальнікі і дармаеды. Яны там камандуюць. З гэтае прычыны **капіталістычнае абкружэньне СССР гэта варожае абкружэньне, гэта абкружэньне кожную хвіліну пагражае нам небясьпекаю вайны.**

Ужо цяпер капіталістычныя краіны трацяць на ўзброеньне ў два разы больш, чым яны трацілі да вайны 1914 году. Вырасла да страшэнных разьмераў ваенная прамысловасьць, г. зн. тая прамысловасьць, якая падрыхтоўвае вінтоўкі, патроны, гарматы, знарады, танкі, бранявікі і г. д. Адбываецца перабудова капіталістычных армій. Невялікія вайсковыя часткі ўзбройваюцца вялізнай колькасьцю зброі. Павялічаеццаца лік кулямётаў у часьцях павялічаецца далёкабойнасьць гармат. Будуюцца самалёты, якія могуць паднімаць дзесяткі і нават сотні пудоў бомбаў, вырабляюцца надзвычайнае сілы разрыўныя знарады, вынаходжваюцца страшэнныя атрутныя газы, вынаходжваюцца зажыгальныя знарады, якія здольны спаліць цэлыя палкі і дывізіі, вырабляюцца бомбы начыненыя пошасьцю (халера, чума, тыфус і г. д.). Гэтая будучая вайна, якую рыхтуюць капіталістыя, будзе вайною ня толькі на фронце. Яна разам захопіць і самы глыбокі тыл. З гэтае прычыны да абароны краіны павінны рыхтавацца ня толькі Чырвоная армія, але і ўсе працоўныя, усе рабочыя і сяляне.

**Вайна няўхільна** да таго часу, пакуль існue капіталістычны лад. Капіталістыя ня могуць жыць без вайны. Людзей можна прыгнятаць, рабаваць і эксплёатаваць толькі тады, калі яны пераможаны, калі яны ня могуць даць адпор эксплёататарам. Капіталістычны сьвет пабудованы на прыгнечаньні, на эксплёатацыі. Таму войны, пакуль існue капіталізм, няўхільны. Капіталістыя заўсёды будуць ваяваць, каб падпарадкаваць сабе іншыя народы, для таго, каб заваяваць іх, пачаць іх рабаваць і эксплёатаваць. Прайшло ўжо амаль дзесяць гадоў з таго часу, як скончылася сусьветная вайна. А ці быў ў гэты час мір? Не, яго ня было. Пасьля сканчэньня сусьветнае вайны капіталістыя тры гады запор бязупынна катавалі і рвалі на кавалкі ды палівалі крывёй працоўных нашу краіну. Ужо было многа воен за гэтыя восем год. Чэхія і Румынія нападалі на Вэнгрыю і задушылі там Савецкую ўладу. Грэкі ваявалі з туркамі, жадаючы адабраць ад іх горад Сьмірну (гор. Сьмірна знаходзіцца ў Турэччыне на Малазыйскай поўвысьпе). Францыя і Гішпанія вялі вайну з Мароко (Мароко знаходзіцца на поўначы Афрыкі. Адна частка гэтае краіны—колёнія Францыі, другая частка—колёнія Гішпаніі. Народ—рыфы, які жыве ў Мароко, паўстаў супраць чужаземнага панаваньня. Гішпанія разам з Францыяй, пасьля доўгае вайны, задушылі паўстаньне). Францыя вяла вайну ў Сірыі супраць друзаў. (Сірыя знаходзіцца ў Малой Азіі. Да імпэрыялістычнае вайны належыла Турэччыне. Пасьля вайны яе захапіла ў Турэччыны Францыя. Друзы, якія жывуць у Сірыі, паўсталі супраць панаваньня францускіх капіталістых. Францыя вяла з імі вайну). Злучаныя Штаты Амэрыкі вялі вайну з малюсенькай краінай Нікарагуа (Нікарагуа знаходзіцца ў так званай сярэдняй Амэрыцы, на пярэсмыку, які злучае Паўночную і Паўднёваю Амэрыкі. Гэта невялікая дзяржава, якую Злучаныя Штаты імкнуцца абярнуць у сваю колёнію). Цяпер буйнейшыя капіталістычныя краіны (Англія, Францыя, Японія, Італія і Злучаныя Штаты Амэрыкі) згрупавалі ў Кітаі сто-

тысячную армію і вялізны флёт. Гэта абазначае на справе вайсковы напад гэтых драпежнікаў на Кітай.

І ўсё гэта за якіх-небудзь 8 год. У розных куткох зямлі льлецца кроў рабочых і сялян для таго, каб капіталістыя маглі лепей рабаваць працоўных, атрымліваць больш прыбытку. Асабліва люта распраўляецца буржуазія там, дзе рабочыя і сяляне паўстаюць супраць уціску, дабіваюцца волі. Там буржуазія ня ведае літасьці.

Але капіталістыя ня толькі прыдушаюць рэволюцыйны рух, яны ня толькі вядуць вайну ў Мароко, Сірыі і г. д., яны ня толькі рыхтуюць вайну супраць нас. Адначасна буйныя капіталістычныя дзяржавы рыхтуюць вайну адна супраць аднэй.

У 1918 годзе буйныя драпежнікі: Англія, Францыя, Італія, Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі і г. д., зруйнавалі другога драпежніка—Нямеччыну. Пасьля гэтага яны зрабілі «мір». Што гэта за «мір», які зрабілі між сабою рабаўнікі? Гэта быў звычайны **рабаўніцкі мір.** Калі кучка бандытаў абрабуе каго-небудзь, яна пасьля дзеліць нарабаванае. Гэтак зрабілі, і пераможцы Нямеччыны. Яны яе абрабавалі і пасьля падзялілі нарабаванае. Гэта яны назвалі «мірам», але падзел нарабаванага не прымірыў рабаўнікоў, не супакоіў іх. Яны цяпер грызуцца між сабою. Яны шукаюць зручнага выпадку, каб зрабіць **новы падзел.** Але новы падзел зрабіць нельга, кожны моцна трымаецца за сваё і ні з кім дзяліцца ня хоча, згодзен дзяліць толькі чужое, то капіталістыя рыхтуюцца да вайны. Буйныя драпежнікі рыхтуюцца ўчапіцца адзін аднаму ў горла, абрабаваць адзін аднаго.

Вось чаму зноў-жа войны пры капіталістычным ладзе няўхільны. І ўсё-ж гэтыя войны—**войны рабаўніцкія.**

І толькі наша краіна, наш СССР, у якім няма ўлады эксплёататараў, у якім існуе пролетарская дыктатура, вядзе політыку міру, вядзе ўпартую барацьбу супраць вайны. У гэтай барацьбе супраць вайны нас падтрымлівае рабочая кляса капіталістычных краін.

Усё-ж ткі, **вайна няўхільна,** капіталістыя рыхтуюць вайну. Яны бязупынна ўзбройваюцца для вайны, а не для міру. Наша мірная палітыка, грызьня між самімі капіталістымі, барацьба, якую вядзе рабочая кляса ва ўсіх капіталістычных краінах супраць вайны,—усё гэта можа толькі адсунуць тэрмін набліжэньня вайны, але **ня** можа ўхіліць вайны. Вайна будзе, яна няўхільна. І гэтая вайна будзе вайною капіталістых супраць нас, супраць СССР і супраць Кітаю.

Чаму мы ўпэўнены, што капіталістыя пачнуць вайну супраць нас і супраць Кітаю?

Усе ведаюць, што ў Кітаі ў сучасны момант адбываецца рэволюцыя. Гэта рэволюцыя адбываецца ў вельмі цяжкіх абставінах.

Кітайскія рабочыя і сяляне дабіваюцца **вызваленьня ад уціску** чужаземных капіталістых, ад уціску сваіх памешчыкаў (фэўдалаў), дабіваюцца ўстанаўленьня ў Кітаі ўлады рабочых і сялян,**а кітайская буржуазія дабіваецца згоды з чужаземнымі капіталістымі,** каб яны не адны, але разам з ёю, з кітайскай буржуазіяй і памешчыкамі, рабавалі кітайскіх рабочых ды сялян. Рэволюцыя разьвінаецца з вялікімі труднасьцямі.

Што-ж прадстаўляе з сябе Кітай для капіталістых? Кітай—надзвычайна вялікая краіна з 400 мільёнамі насельніцтва. Насельніцтва ў пераважнай большасьці з сялян, якія прыгнечаны сваімі кітайскімі памешчыкамі—фэўдадаламі. І гэтую краіну капіталістыя рабуюць даўно. Яны збываюць туды свае тавары, танна купляюць сыравіну, прымушаюць кітайскіх рабочых за мізэрную плату працаваць у капальнях, на фабрыках, заводах, якія яны на рабаваныя грошы пабудавалі ў Кітаі. Ад рабаваньня Кітаю капіталістыя маюць вялікія прыбыткі. Банкі ў Кітаі, чыгункі, гандлёвы флёт, фабрыкі, заводы, рудні—усё гэта належыць чужаземным капіталістым, і больш за ўсё ангельскім капіталістым. Усё гэта дае багаты набытак за кошт кітайскіх працоўных мас. А рэволюцыя можа палажыць канец гэтым набыткам, капіталістыя страцяць

свае прыбыткі. З гэтае прычыны ўжо цяпер яны згуртавалі ў Кітаі 100-тысячнае войска і вялізарны флёт. Больш за ўсё там ангельскага войска. І гэтае войска ўжо пакрысе расстрэльвае кітайцаў. Варта толькі рабоча-сялянскай рэволюцыі ў Кітаі разгарнуцца ва ўсю моц, і капіталістыя бязумоўна пачнуць вялікую вайну супраць Кітаю. І пачынальнікамі гэтае вайны будуць ангельскія капіталістыя, якія ўжо зараз падбухторваюць капіталістых іншых краін задушыць кітайскую рэволюцыю.

У такім становішчы знаходзіцца справа з вайною капіталістых супраць Кітаю.

Цяпер выявім, чаму трэба спадзявацца, што капіталістыя нападуць на нас.

Раней мы ўжо казалі, чаму капіталістыя нас вельмі ненавідзяць. Да гэтага трэба дадаць яшчэ адну акалічнасьць.

Мы ўжо ведаем, што капіталістыя вядуць вытворчасьць дзеля набытку. А маюць набытак яны тады, калі атрымліваюць танна сыравіну, гэтую сыравіну перапрацоўваюць у гатовыя тавары і тавары прадаюць па высокіх цэнах. Значыць, капіталістыя шукаюць таннае сыравіны і рынку для продажу тавараў. А наша краіна на сыравіну багата. У нашай краіне жыве 150 мільёнаў чалавек, гэта значыць пакупнікоў ёй таксама многа. У часы самаўладзтва капіталістыя танна скуплялі ў нас сыравіну і прадавалі нам горшыя з сваіх тавараў па высокіх цэнах. Апрача таго, яны прымушалі нашых рабочых, у дрэнных і нявыгодных умовах, працаваць на тых фабрыках, якія будавалі яны ў нашай краіне. Ад сялян яны танна забіралі лён, пяньку і г. д. Ад цара патрабавалі вялікіх процантаў па пазыках. А цар выконваў гэтыя высокія процанты з сялянскае кішэні.

Кастрычнікавая рэволюцыя зьнішчыла гэты набытак чужаземных капіталістых, зьнішчыла гэтае рабаваньне рабочых ды сялян. А ў чужаземных капіталістых пасьля вайны справы не залішне добрыя. Вайна прынясла з сабою разбурэньне гаспадаркі ня толькі ў нашай краіне. Яна разбурыла гаспадарку і

капіталістычных краін. Капіталістыя павінны былі адбудаваць разбураную гаспадарку. Яны трымаюць у сваіх руках уладу таму, што яны ўладаюць і кіруюць народнаю гаспадаркаю ўсяе свае краіны. А калі гаспадарка разбурваецца, слабее іх моц, уладу ўтрымаць тады цяжка. Капіталістыя і пачалі адбудоўваць сваю гаспадарку. Адбудаваньне гаспадаркі патрабуе вялікіх выдаткаў. Гэтыя выдаткі капіталістыя пераклалі на плечы працоўных. Яны ўзмоцнілі эксплёатацыю працоўных. Скасавалі 8-гадзінны працоўны дзень і завялі 10-гадзінны, зьменшылі заробак, пагоршылі ўмовы працы, наклалі цяжкія падаткі на сялянства, павялічылі рабаваньне колёніяльных народаў. Ад моцнага рабаваньня людзі бяднеюць.

Бяднеюць рабочыя, сялянская гаспадарка прыходзіць у заняпад. А жабракі і зьбяднеўшыя людзі— гэта дрэнныя пакупцы. Капіталістыя, адбудоўваючы гаспадарку шляхам рабункаў працоўных, трацілі пакупцоў для сваіх тавараў. Збыт тавараў зрабіўся цяжкім. За час вайны ў шмат якіх колёніях вырасьлі фабрыкі і заводы. Попыт на тавары, якія прывозіліся з капіталістычных краін, зьменшыўся. Капіталістым не хапае рынку для збыту. Прыбыткі іхнія пачалі зьмяншацца.

А да гэтага яшчэ сыравіна зрабілася больш даражэйшай. Тая сыравіна, што ішла з колёніяльных краін, цяпер часткова ідзе на тыя фабрыкі і заводы, якія зьявіліся ў гэтых колёніяльных краінах. Вывозіцца адтуль цяпер толькі частка сыравіны. Апрача таго, бяднеючае сялянства ня ў стане разьвіваць сельска-гаспадарчую вытворчасьць. Гэта выклікала зьмяншэньне на рынку некаторых відаў сыравіны. Попыт на сыравіну ёсьць, а сыравіны ня старчыць. Цэны падняліся, прыбыткі капіталістых зьменшыліся.

А наш Савецкі Саюз ня руйнуецца, але разьвіваецца. Насельніцтва купляць можа. Сельская гаспадарка дае сыравіну для прамысловасьці. Вось капіталістыя і хочуць парабаваць нашу краіну. Хочуць зьнішчыць у нашай краіне дыктатуру пролетарыяту і вярнуць зноў старыя парадкі, калі яны атрымліва-

лі ў нас танную сыравіну, прадавалі дарага тавары, рабавалі рабочых і сялян нашае краіны. Рабаваньнем нашае краіны яны думаюць падняць сваё прыбыткі, умацаваць сваю ўладу. Але рабаваць нас ня так проста, мы проста і лёгка ў рукі капіталістых не даемся. З гэтае прычыны яны рыхтуюць супраць нас вайну. Вайна супраць нас патрэбна капіталістым яшчэ і для таго, каб зьнішчыць пролетарскую дыктатуру, каб сьцерці з твару зямлі ўсякія сьляды Кастрычнікавае рэволюцыі, паказаўшай шлях да вызваленьня прыгнечаных усяго сьвету.

І пачынальнікам, падбухторваючым капіталістых іншых краін напасьці на нас, зьяўляецца **Англія.** У ангельскіх капіталістых пасьля вайны прыбыткі ўвесь час зьмяншаюцца, дый ад нашае рэволюцыі яны атрымалі досыць вялікія страты. Вось чаму ангельская буржуазія асабліва нападае на нас, вось чаму яна больш другіх рыхтуе супраць нас вайну.

Як-жа мы адказваем на падрыхтоўку капіталістымі вайны супраць нас? Як мы адказваем на капіталістычную політыку крывавых воен, рабункаў і прыдушэньне колёніяльных народаў?

Адказ мы даем у трох кірунках. Папершае, **наш СССР праводзіць цьвёрдую і ўпартую політыку міру.** Капіталістыя ўжо некалькі раз імкнуліся да таго, каб выклікаць нас на вайну. Яны зрабілі наскок і зруйнавалі наша пасольства ў Кітаі. Арыштавалі там нашых працаўнікоў, пагражаюць ім карай сьмерцю. Яны зруйнавалі наша гандлёвае прадстаўніцтва ў **Англіі. Ангельскі** медналобы ўрад скасаваў нашу гандлёвую ўмову з Англіяй і спыніў з намі дыплёматычныя зносіны. У Польшчы організавалі забойства нашага пасла т. Войкава. Унутры нашае краіны агенты і шпегі **ангельскай** ахранкі організуюць замахі на нашых правадыроў, узрываюць у нас масты, падпальваюць фабрыкі ды заводы. Другі ўрад за ўсе такія ўчынкі даўно пачаў-бы вайну. Але савецкі ўрад, ня гледзячы на ўсе гэтыя выклікі, ня гледзячы на ўсе гэтыя злачынствы, праводзіць цьвёрдую політыку міру. Ён даражыць крывёю нашых рабочых і сялян, даражыць

магчымасьцю мірнае працы і на гэтыя выклікі чужаземных капіталістых не паддаецца. Наша краіна хоча міру, патрабуе міру, і ўрад цьвёрда вядзе політыку міру. Гэта—адзін наш адказ на пагрозы капіталістых вайною і на падрыхтоўку імі вайны.

Другі адказ, які мы даем капіталістым, падпальшчыкам вайны, гэта—**організацыя барацьбы супраць вайны.** Вайна, якую рыхтуюць супраць нас капіталістыя, будзе **клясавай вайною.** Буржуазія зьбіраецца змагацца **супраць дзяржавы пролетарскай дыктатуры.** Вайна, такім чынам, набудзе характар вайны буржуазіі супраць пролетарыяту, супраць рабочае клясы. Наша краіна—вогнішча сусьветнае пролетарскае рэволюцыі. У існаваньні нашае краіны, у існаваньні ў нашай краіне пролетарскае дыктатуры зацікаўлена рабочая кляса і прыгнечаныя ўсяго сьвету. Таму, нападаючы на нас, буржуазія тым самым нападае на міжнародны пролетарыят. Наша соцыялістычная бацькаўшчына ёсьць бацькаўшчына ня толькі працоўных нашае краіны. Яна зьяўляецца соцыялістычнай бацькаўшчынай і ангельскіх, і французскіх, і нямецкіх і г. д. рабочых. Яна зьяўляецца соцыялістычнай бацькаўшчынай пролетараў усіх краін, прыгнечаных усяго сьвету.

Рабочыя ўсіх краін ужо давялі, што яны лічаць нашу краіну за **сваю** соцыялістычную бацькаўшчыну. Мы ведаем, як у часе грамадзянскай вайны рабочыя капіталістычных краін дапамагалі нам супраць сваіх капіталістых, падтрымліваўшых нашых контр-рэволюцыянэраў. Маракі французскага флёту організавалі ў Адэсе паўстаньне. Ангельскія рабочыя організавалі камітэты пад лёзунгам: «Рукі прэч ад Расіі» і протэставалі супраць вайны з намі. Рабочыя-ж Англіі, кіраваныя гэтымі камітэтамі, рабочыя Нямеччыны, Італіі не дапушчалі перавозіць зброю для нашых белагвардзейцаў. Польскія рабочыя і сяляне організавалі партызанскія аддзелы, якія змагаліся з польскай-жа арміяй, ваяваўшай супраць нас, і г. д. У нас няма таму ніякага сумненьня, што і ў будучай вайне капіталістых супраць СССР рабочыя і сяляне ўсіх краін

будуць бараніць нашу агульную з імі соцыялістычную бацькаўшчыну.

Аб'яднаньне комуністычных партый усяго сьвету—Комуністычны Інтэрнацыянал—ужо ў сучасны момант вядзе падрыхтоўку і організацыю пролетарскіх сіл для барацьбы з вайною. Організацыя сіл рабочае клясы ідзе пад лёзунгам: «На падрыхтоўку буржуазнай вайны супраць СССР мы рыхтуем вайну супраць буржуазіі». Комуністычныя партыі ў асобных краінах ужо зараз організуюць баявыя аддзелы, якія рыхтуюцца да барацьбы са сваёй буржуазіяй, рыхтуюцца, каб скінуць яе. Так, у Нямеччыне, напрыклад, комуністычнай партыяй організаваны баявы «Саюз Чырвоных Франтавікоў», налічаючы ў сваіх шэрагах дзесяткі тысяч байцоў. Ёсьць такія баявыя організацыі і ў іншых краінах. Комсамол за межамі організуе для барацьбы моладзь, праводзіць у арміі пропаганду супраць вайны. Комуністычныя партыі вядуць **паражэнцкую** пропаганду ў капіталістычных краінах. Гэта значыць, што яны тлумачаць рабочым, што ў выпадку вайны рабочыя павінны дабівацца, **каб буржуазія іхнай краіны была на вайне пераможана.** Пераможаную буржуазію будзе лягчэй дабіць. Комуністычныя партыі вядуць работу сярод рабочых капіталістычных краін і організуюць іх для правядзеньня **ўсеагульнай стачкі і ўзброенага паўстаньня** супраць сваёй буржуазіі ў выпадку, калі яна пачне вайну.

Гэта другі адказ, які даюць комуністыя, у тым ліку і наша партыя, на падрыхтоўку капіталістымі вайны.

І, нарэшце, наш трэці адказ такі: мы не дазволім капіталістым і памешчыкам, няхай то свае або чужаземныя, зноў сесьці нам на карк. Мы не дазволім буржуазіі зьнішчыць вогнішча сусьветнай рэволюцыі, мы не дазволім нарушыць наша соцыялістычнае будаўніцтва.

А для таго, каб гэта ня было словамі, каб мы маглі **на справе** не дазволіць, мы ўзмацняем абарону нашай краіны.

Мы павінны ў кожную хвіліну быць падрыхтаванымі да абароны ад нападу. Абараняцца так, каб пакінуць па сабе доўгі ўспамін у тых, хто адважыцца на нас напасьці. Мы не павінны спадзявацца толькі на тое, што нас будуць бараніць рабочыя капіталістычных краін. Рабочыя капіталістычных краін свой абавязак у стасунку да нас выканаюць. Яны пастараюцца нанесьці ўдар сваёй буржуазіі. Але гэта яшчэ ў большай ступені абавязвае нас да падрыхтоўкі абароны. Разам з чужаземнымі рабочымі мы будзем біць аднаго ворага. Яны будуць наносіць удары з тылу, мы павінны біць з фронту. З гэтае прычыны **кожны рабочы, кожны селянін нашай краіны, уся наша моладзь павінны быць падрыхтаваны да абароны краіны,** павінны ўзмацняць абарону. У папярэдняй гутарцы мы ўжо ґаварылі, што комсамол шмат можа зрабіць і павінен зрабіць для абароны. На вясковую частку комсамолу ў гэтым стасунку кладзецца асабліва вялікая работа. Вясковы комсамол павінен падняць усю вёску для падрыхтоўкі абароны, уцягваць у гэту справу ня толькі моладзь, але і шырокія колы дарослага насельніцтва.

Усе працоўныя нашае краіны павінны асабліва вялікую ўвагу зьвярнуць на нашу Чырвоную армію.

Наша армія—рабоча-сялянская, армія працоўных мас. У шэрагі Чырвонай арміі не дапушчаюцца кулакі, гандляры, спэкулянты ды ўсе іншыя асобы, якія жывуць на непрацоўны прыбытак. Савецкая ўлада ня можа ім даверыць зброю—яны могуць яе накіраваць супраць працоўных.

Чырвоная армія—першая армія на сьвеце, у якой камандныя пасады займаюцца ня сынкамі памешчыкаў, дваран, фабрыкантаў, але працоўнымі. Рабочыя і сяляне ў ёй зьяўляюцца і радавымі байцамі, і камандзірамі.

У нашы вайсковыя школы, якія павінны падрыхтаваць новых камандзіраў, таксама прымаюцца толькі працоўныя.

Якая розьніца між царскай арміяй і Чырвонай арміяй, добра можна бачыць з наступнага: у старым

царскім вайсковым Аляксееўскім вучылішчы на кожных 100 курсантаў прыпадала:

| | |
|---|---|
| Дваран . . . . . . | . 67 |
| Купцоў і ганаровых грамадзян | . 25 |
| Духоўнага стану . . . . | . 3 |
| Сялян . . . . . . | . 5 |
| Рабочых . . . . . | . 0 (ніводнага) |

А ў нашай савецкай 2-й Маскоўскай пяхотнай школе, якая знаходзіцца ў тым-жа будынку, дзе было і Аляксееўскае вучылішча, на кожныя 100 курсантаў прыпадае:

| | |
|---|---|
| Дваран . . . . . . | . 0 (ніводнага) |
| Купцоў . . . . . . | . 0 „ |
| Сялян . . . . . . | . 60 |
| Рабочых . . . . . | . 35 |
| Дзяцей служачых . . . | 5 |

Асаблівасьцю, якая адрозьнівае Чырвоную армію ад арміі старой, царскай, зьяўляецца тое, што кожны




чырвонаармеец ведае, на што ён пакліканы ў армію, за што ён будзе змагацца. У царскай арміі афіцэрам, камандзірам прыходзілася таіць сапраўдныя мэты

арміі, зацямняць сьвядомасьць салдат, муштраваць іх да апошняй ступені. Салдат старой арміі ня мог разважаць, думаць. Адно, што ён мог гаварыць камандзіру, дык гэта: «так точно», «нікак нет, ваше благородие». У Чырвонай-жа арміі, наадварот, сіла яе ёсьць у сьвядомасьці кожнага барацьбіта. І таму кожны чырвонаармеец у Чырвонай арміі адтрымлівае ня толькі баявую падрыхтоўку, але таксама адукацыю і выхаваньне, канечна патрэбныя для кожнага грамадзяніна Савецкай рэспублікі.

Выхаваўчая работа чырвонаармейца вядзецца галоўным чынам у клюбах, у бібліотэках-чытальнях і ленінскіх кутках.

У Чырвонай арміі для гэтае мэты існуе 800 клюбаў, больш за 6.000 розных адукацыйных гурткоў, да 2.000 бібліотэк, у якіх налічаецца больш за 5.000.000 кніг.

Няпісьменных навабранцаў з першых дзён прыбыцьця ў армію вучаць пісьменнасьці, і таму няпісьменных у Чырвонай арміі няма. Адбыўшы тэрмін вайсковай службы, чырвонаармеец вяртаецца ў сваё сяло разьвітым грамадзянінам Савецкае рэспублікі, падрыхтаваным для актыўнай грамадзкай работы.

Мала таго, найбольш старанныя і здольныя чырвонаармейцы трапляюць у школы, на курсы, робяцца потым палітычнымі кіраўнікамі, камісарамі або камандзірамі Чырвонае арміі.

Усё гэта гаворыць аб тым, што наша армія рыхтуецца быць надзейным абаронцам інтарэсаў рабочых і сялян. Трэба толькі, каб рабочыя і сяляне мацней зьвязваліся з арміяй, мелі з ёю жывую сувязь. А гэта тым хутчэй і тым лягчэй зрабіць, чым хутчэй на мясцох будуць больш аддаваць увагі клопатам аб сям'і чырвонаармейца, аб дэмобілізаваным чырвонаармейцы. Чым хутчэй у дапамозе ім у справе наданьня розных льгот зьнікнуць цеганіна, няўважнасьць і казённыя адносіны, тым хутчэй і сьцісьлей зробіцца сувязь арміі з працоўным насельніцтвам, паднімецца баявы дух арміі.

Умацаваньне бояздольнасьці Чырвонай арміі, падрыхтоўка да абароны краіны кожнага рабочага, селяніна, уцягненьне ў справу абароны краіны ўсёй моладзі з комсамолам у першых шэрагах, умацаваньне соцыялістычнага будаўніцтва, умацаваньне змычкі рабочае клясы з сялянствам (беднатой і серадняхамі), умацаваньне нашых братэрскіх сувязяй з працоўнымі і прыгнечанымі ўсіх краін—лепшы адказ нашым ворагам на іх пагрозы вайны.

## ПЫТАНЬНІ.

**1. Чаму ненавідзяць СССР капіталістыя?**

**2. Як рыхтуюцца капіталістыя да вайны?**

**3. Чаму войны пры капіталізьме няўхільны?**

**4. Чаму капіталістыя могуць распачаць у першую чаргу вайну супраць Кітаю і супраць нас?**

**5. Ці ёсьць у нас сябры ў краінах капіталізму?**

**6. Як трэба рыхтавацца да абароны СССР?**

---

## ГУТАРКА ТРЫНАЦЦАТАЯ.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАНЬНЕ Ў БССР.

### КАПІТАЛІЗМ І НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЎЦІСК.

Адным з самых нялюдзкіх і ганебных выглядаў уціску, на якім трымаецца капіталістычны лад, зьяўляецца ўцісканьне аднаго народу другім, аднэй нацыі—другою. Гэты нацыянальны ўціск там, дзе пануе капітал, набывае вялізарных памераў. Каб паказаць, якім вялізным цяжарам ляжыць нацыянальны ўціск на плячох працоўных мас усяго сьвету, пададзім важнейшыя лічбы:

Усяго на зямлі жыве людзей каля аднаго мільярду 750 мільёнаў. З іх 1 мільярд 250 мільёнаў прыпадае на долю так званых колёніяльных народаў, г. зн. тых народаў, якія знаходзяцца ў поўнай або амаль у поўнаў няволі ў эўропэйскіх альбо амэрыканскіх капіталістых. Гэтыя народы—кітайцы, індусы, эгіпцяне, нэгры і шмат іншых. Усе гэтыя народы люта і бязьлітасна рабуюць ды душаць разбойнікі міжнароднага капіталу. Праз нялюдзкую эксплёатацыю працы чырвоных, чорных, жоўтых і інш. «каляровых» нявольнікаў капіталістыя нажываюць казачныя прыбыткі. Асабліва моцна эксплёатуюць прыгнечаныя народы ангельскія капіталістыя, якія пабудавалі на гэтым усю магутнасьць сваёй «Вялікабрытанскай Імпэрыі», дзе на аднаго ангельца прыпадае 9 колёніяльных нявольнікаў. Усяго-ж колёніяльныя народы, самыя ўціснутыя з усіх уціснутых, складаюць, як мы бачылі, больш за $^{2}/_{3}$ усяго насельніцтва зямлі.

Але гэтага яшчэ мала. У тых капіталістычных краінах, якія называюць сябе «вольнымі», у сваю

чаргу ёсьць нацыянальныя меншасьці, якія церпяць гостры ўціск. Буржуазія пануючай нацыянальнасьці адбірае ў гэтых нацыянальнасьцяй самыя простыя чалавечыя правы, забараняе ім мову, зачыняе школы ў іх роднай мове, гвалтам прышчапляе ім мову пануючай нацыі, не дае ім магчымасьці разьвіваць сваю культуру. Яскравым прыкладам гэтага можа служыць нашая суседка—панская Польшча. З усяго насельніцтва Польшчы пануючая нацыянальнасьць—палякі—складаюць усяго 53 проц., г. зн. толькі палову; рэшта насельніцтва падзяляецца так: 21 проц. украінцаў, 11 проц. яўрэяў, 7 проц. беларусаў і 7 проц. немцаў. А хто-ж ня ведае, якія нялюдзкія гвалты, надужыцьці і зьдзекі вычвараюцца над гэтымі нацыянальнасьцямі ў «дэмократычнай» Польшчы. У шэрагах міжнароднай буржуазіі польская шляхта стаіць на першым месцы, як кат нацыянальных меншасьцяй. Але нялёгкі лёс выпадае на долю малых ды слабых нацыянальнасьцяй і ўва ўсіх іншых краінах, дзе пануе капітал.

Аднак, і гэта яшчэ ня ўсё. Часта й тыя народы, якія зьяўляюцца «пануючымі» ў сваёй краіне, у рачаіснасьці знаходзяцца ў няволі ў чужаземных капіталістых. Возьмем хоць-бы тую самую Польшчу. Хіба сучасная буржуазная Польшча ня скача пад дудку ангельскіх лёрдаў (буйнейшых памешчыкаў)? Хіба яна ня робіць таго, што тыя загадаюць? Хіба не распрадаюцца чужаземным багатыром буйнейшыя нацыянальныя багацьці Польшчы? І хіба, нарэшце, польскія рабочыя і сяляне ня могуць быць кожны момант кінуты ў вайну з-за інтарэсаў ангельскіх драпежнікаў? Тут нацыянальны ўціск—схаваны, ня так відны, але ня менш гостры і жорсткі. А ў яшчэ горшым становішчы знаходзіцца Аўстрыя, яшчэ ў горшым становішчы знаходзілася (часткай і зараз знаходзіцца) Нямеччына, якіх рабавалі і рвалі на кавалкі перамогшыя ў сусьветнай вайне дзяржавы.

З усяго сказанага відаць, што **вялізная большасьць працоўных на ўсім сьвеце церпіць падвойны ўціск—клясавы і нацыянальны.** Капіталістыя і памешчыкі, па-

першае, уціскаюць **усіх** рабочых і сялян, як эксплёататары працоўных. Капіталістыя і памешчыкі, падругое, уціскаюць **пераважную большасьць** працоўных па лініі нацыянальнай, прымушаючы адну народнасьць душыць другую. Адсюль відавочна, якое вялізнае значэньне мае нацыянальнае пытаньне пры панаваньні капіталізму.

Калі-б працоўныя ўсіх краін і нацыянальнасьцяй зразумелі супольнасьць сваіх інтарэсаў у барацьбе з гвалтаўнікамі, то панаваньню капіталу прышоў-бы канец. Гэта вельмі добра ўсьведамляюць капіталістыя ўсіх краін. Дзеля гэтага яны на ўсю сілу стараюцца распаляць нацыянальную грызьню, нацкоўваючы працоўных аднэй нацыі на працоўных другой нацыі, сеючы паміж іх недавер'е і варожасьць. Эўропэйская буржуазія выхоўвае «сваіх» рабочых у духу пагарды да людзей жоўтага, чорнага і чырвонага колеру скуры. «Ты вольны ангелец»,—кажа ангельскі буржуй ангельскаму пролетару,—«ты належыш да народу «вышэйшай пароды», ці можаш ты мець што-небудзь супольнае з агідным жоўтатварым кітайцам, брудным нэграм або бронзавым індусам».—І ў той-жа самы час эўропэйская буржуазія рыхтуе «каляровыя» войскі, якія складаюцца з забітых і цёмных колёніяльных нявольнікаў, для таго, каб душыць рэволюцыйны рух рабочых сваёй-жа нацыянальнасьці.

Якраз гэткую-ж політыку капіталістыя вядуць і ўнутры кожнай краіны. У старой Расіі царскі ўрад цэлыя стагодзьдзі выхоўваў у працоўных вялікарусаў грэблівасьць [1]) ды пагарду да «інародцаў». Ён прывучаў іх называць людзей іншай нацыянальнасьці зьнеvažальнай мянюшкай: фіна—«чухной», татарына — «князем», паляка — «ляхам», яўрэя — «жыдам», а украінцаў і беларусаў не прызнаваць нават за асобную нацыянальнасьць. Ён прымушаў вялікарускага селяніна, апранутага ў салдацкі мундзір, душыць паўстаньні прыгнечаных народнасьцяй, вешаць паўстанцаў, паліць іх вёскі, рабаваць маемасьць. Гэтак было, напрыклад, у 1863 годзе, калі войскі «Мураўёва-ве-

---

[1]) Пренебреженне.

шальніка» «ўсьцішалі» паўстаньне ў Польшчы і Беларусі. У асабліваcьці-ж царская ўлада скарыстоўвала цкаваньне яўрэяў і «яўрэйскія пагромы», выстаўляючы яўрэяў вінавайцамі ўсіх бядотаў ды адводзячы такім спосабам справядлівы народны гнеў супроць цара, памешчыкаў, багатыроў, чыноўнікаў у другі бок.

Усё гэта ў сваю чаргу выклікала сярод уцісканых народаў недавер'е і нават варожасьць да працоўных вялікарусаў (адсюль варожыя мянюшкі: «кацап», «маскаль»). Прыгнечаныя нацыі, зямлю якіх заваёўваў і бунты «ўсьцішаў» салдат-вялікарус, часта ня бачылі, што гэты салдат сам цёмны, сьляпы, толькі выконвае загады царскіх душагубаў. Яго, забітага і паднявольнага, цары і памешчыкі гналі на ганебную справу—забіваць і рабаваць працоўных іншых нацый. Дзеля гэтага сваю самую справядлівую варожасьць супроць пануючых клясаў вялікарускай нацыянальнасьці украінцы, беларусы, татары, грузіны і іншыя часта пераносілі на працоўных вялікарусаў, з шэрагаў якіх вышла так шмат самаадданых і адважных барацьбітоў супроць усякага ўціску. А гэтага якраз і трэба было гвалтаўнікам. Пры гэтым трэба асабліва падкрэсьліць, што галоўны цяжар нацыянальнага ўціску заўсёды кладзецца на плечы бяднейшых кляс—рабочых і працоўных сялян. Калі ёсьць пабразгачыя, дык ёсьць і паслугачыя. Той, у каго шмат зямлі і грошай, заўсёды карыстаецца пашанай у буржуазнай улады і заўсёды можа адкупіцца ад сваволі,—гэтак за царскім рэжымам яўрэйская бедната страшэнна пакутвала, а для багатых яўрэяў рабіліся выключэньні з агульных законаў (аб гэтым больш падрабязна мы скажам далей). Тое самае было і з польскімі памешчыкамі. Польскія памешчыкі ў царскай Расіі былі, зразумела, вельмі нездаволены тым, што рускія памешчыкі займалі лепшыя пасады ў арміі, атрымлівалі вышэйшыя пасады ў міністэрствах і г. д., яны-ж усяго гэтага ня мелі, але становішча польскіх памешчыкаў нельга было нават і параўнаць з становішчам працоўных палякаў. Бо-ж той самы станавы або спраўнік, які зьдзекваўся над працоўным палякам, да яснавяльможнага пана

ўваходзіў з нізкім уклонам. А ў той-жа час польскіх памешчыкаў і капіталістых яднала з рускімі буржуямі ды памешчыкамі тое, што яны адnолькава эксплёатавалі рабочых і сялян. Дый сярод беларусаў, хоць з іх амаль ня было памешчыкаў і буйных капіталістых, багатаму селяніну лёгка было адкупіцца хабарам ад самых горшых формаў нацыянальнага і ўсякага іншага ўціску.

Дзеля гэтага ў барацьбе супроць рабочых і сялян буржуазія й памешчыкі ўціснутай нацыі заўсёды з ахвотай яднаюцца з буржуазіяй і памешчыкамі нацыі пануючай, забываюцца на ўсе свае нязгоды і ідуць адзіным фронтам супроць рэволюцыйных барацьбітоў. **Распаляць нацыянальную грызьню, нацкоўваць брата на брата, разьбіваць еднасьць працоўных розных нацый**— такую політыку вядуць памешчыкі, капіталістыя і іх урады ва ўсіх краінах земнай кулі. Пакуль існуе панаваньне капіталу, ня можа быць зьніштожаны нацыянальны ўціск. Хціваcьць і нянасыць капіталістых штурхае іх на ўсё новыя войны і заваёвы, на ўсё больш жорсткую эксплёатацыю слабых народаў, на ўсё больш нялюдзкае ўцісканьне тых, хто ня можа адбіцца ад імпэрыялістых сілай. З сусьветнай вайны 1914 году вырас нацыянальны ўціск і нацыянальная варожасьць яшчэ больш жорсткія, як да вайны. Нават тыя дзяржавы, якія ў выніку вайны атрымалі «незалежнасьць» (успомнім зноў нашых суседзяў—Польшчу і Літву), у рэчаіснасьці зьяўляюцца нявольнікамі буйных капіталістычных разбойнікаў—Ангельшчыны, Францыі, Амэрыкі. У барацьбе супроць рэволюцыйнага руху капіталістыя ўсё болей стараюцца распальваць нацыянальную грызьню і нацкоўваць адну нацыянальнасьць на другую. **Нацыянальны ўціск можа згінуць толькі разам з капіталізмам. Збаўцай прыгнечаных народаў можа быць толькі пролетарская рэволюцыя.**

«Ня можа быць вольным народ, які ўціскае іншыя народы»,—казаў вялікі настаўнік комунізму Фрыдрых Энгельс. Працоўным для перамогі над гвалтаўнікамі канечна патрэбны братэрскае яднаньне і сумесная барацьба працоўных усіх нацый. Дзеля гэтага мы, комуністыя, стаім за поўнае адзінства пра-

цоўных усіх нацыянальнасьцяй, за іх братэрскае давер'е адзін да аднаго, за бязьлітасную барацьбу супроць нацыянальнага ўціску і супроць усяго, што выклікае нацыянальную варожасьць. Дзеля гэтага нашая партыя ўжо пры сваім заснаваньні ўлучыла ў сваю праграму пытаньне аб поўным зьніштажэньні нацыянальнага ўціску, аб самавызначэньні нацый. Нашыя партыйныя зьезды неаднакроць выносілі пастановы па нацыянальным пытаньні. Асабліва шмат увагі аддаў яму XII-ы зьезд партыі, які прыняў цэлы шэраг пастаноў па гэтым пытаньні (рэзолюцыя XII зьезду ЎсеКП(б) па нац. пытаньні). У асобе прыгнечаных народаў міжнародная пролетарская рэволюцыя мае магутнага саюзьніка. Барацьба гэтых народаў за сваю свабоду ўсё ўзмацняецца. Успомнім хоць-бы гэройскую барацьбу кітайскага народу супроць няволі чужаземных капіталістых. А гэтыя прыгнечаныя капіталізмам народы складаюць, як мы бачылі, вялізную большасьць усяго насельніцтва зямлі. У гэтым У. І. Ленін бачыў адзін з доказаў таго, што нашая перамога над сусьветным капіталам немінуча. Вось што пісаў У. І. Ленін:

«Комуністыя ўсіх краін стаўляюць сабе за задачу падтрымаць барацьбу прыгнечаных народаў за сваё вызваленьне і злучыць яе з барацьбой рабочых супроць капіталізму. Дзеля гэтага Комуністычны Інтэрнацыянал абвясьціў лёзунг: «Пролетары ўсіх краін і прыгнечаныя народы ўсяго сьвету, злучайцеся». (Збор твораў т. XVIII, ч. 2, «Лучше меньше, да лучше»).

Лепшым доказам для прыгнечаных нацый таго, што толькі пролетарская рэволюцыя можа разьвязаць нацыянальнае пытаньне, зьяўляецца прыклад нашага Саюзу Социялістычных Савецкіх Рэспублік. Як-жа пролетарская дзяржава разьвязвае гэты вузел, заблытаны памешчыкамі і капіталістымі?

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАНЬНЕ Ў СССР.

Першая ў сьвеце Савецкая Рэспубліка атрымала асаблівую цяжкую спадчыну ў галіне нацыянальных адносін. Царская Расія была вялізарнай турмой наро-

даў, дзе агульны ланцуг скоўваў звыш 100 розных нацыянальнасьцяй. Каб скінуць з шыі праклятую спадчыну цароў, Савецкая ўлада паставіла перад сабой дзьве задачы:

1) зьніштожыць нацыянальны ўціск ва ўсіх яго формах;

2) дабіцца поўнага ўзаемнага давер'я і братэрскіх адносін паміж працоўнымі ўсіх нацый, якія насяляюць наш Саюз Рэспублік.

Увесь дзяржаўны ўклад Савецкага Саюзу і ўся дзейнасьць нашай партыі ды Савецкай улады накіравана да таго, каб як найхутчэй і лепей разьвязаць гэтыя задачы.

Замест ранейшага гвалту, яднаўшага сотню нацый у кіпцях царскага арла, народы былой Расійскай імпэрыі аб'ядналіся цяпер на зусім новых падставах. Для таго, каб злучыць свае сілы ў барацьбе з сусьветным капіталам і ў вялікай працы будаўніцтва соцыялізму, яны стварылі Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Усе рэспублікі, якія ўваходзяць у Саюз, зусім роўнапраўныя паміж сабой. Дагавор, зроблены імі, зьяўляецца добраахвотным. Для таго, каб дагавор паміж працоўнымі масамі быў зусім добраахвотным і вольным, трэба, каб кожная частка Саюзу магла ў кожны момант выйсьці з яго, калі пажадае. Дзеля гэтага нашая констытуцыя (асноўны закон) кажа: «За кожнай з саюзных рэспублік захоўваецца права вольнага выйсьця з Саюзу». Гэты пункт констытуцыі ажыцьцяўляе старое баявое патрабаваньне нашай партыі: права нацый на самавызначэньне [1]) ўключна аж да выдзелу з данай дзяржавы. У. І. Ленін заўсёды горача абараняў гэтае патрабаваньне як супроць меншавікоў і іншых паслугачых буржуазіі, так і супроць тых комуністых, якія не разумелі ленінскай політыкі ў нацыянальным пытаньні і з гэтым лёзунгам не згаджаліся. Ленін навучаў, што бяз права кожнай нацыі самой вырашаць свой лёс ня можа быць моцнага і цеснага саюзу паміж працоўнымі розных нацыянальнасьцяй. Вось чаму права на выйсьце з Саюзу ёсьць самая пэўная парука добраахвотнасьці

[1]) Самавызначэньне абазначае права кожнай нацыі самастойна вырашаць свой лёс.

Саюзу і самы моцны сродак у барацьбе супроць нацыяналістых[1]), якія прабуюць разьбіць адзінства рабочых і сялян. Каб больш забясьпечыць зьдзейсьненьне на справе асноў нацыянальнай політыкі, у нас побач з Усесаюзнымі Зьездамі Саветаў зьбіраюцца і Ўсесаюзныя Зьезды Нацыянальнасьцяй. Зьезд Нацыянальнасьцяй выбірае спаміж сябе Савет Нацыянальнасьцяй, які складае другую палову ЦВК СССР. Першую палову складаюць члены ЦВК, абраныя на зьезьдзе саветаў.

«Савет Нацыянальнасьцяй утвараецца з прадстаўнікоў саюзных і аўтономных савецкіх соцыялістычных рэспублік па 5 прадстаўнікоў ад кожнай і прадстаўнікоў аўтономных краін РСФСР па адным прадстаўніку ад кожнай. Склад Саветаў Нацыянальнасьцяй уцалку зацьвярджаецца Зьездам Саветаў Саюзу ССР». (З констытуцыі СССР, зацьверджанай ІІ-м Зьездам Саветаў СССР).

Другой важнай парукай братэрства і адзінства працоўных СССР зьяўляецца магчымасьць для кожнай нацыянальнасьці свабодна разьвіваць сваю культуру, навучаць дзяцей у роднай мове, выдаваць у сваёй мове кнігі і газэты.

Трэцім, вельмі важным сродкам да зьліжэньня нацыянальнасьцяй зьяўляецца **дапамога адсталым нацыям.** Царскі лад выціскаў сок з заваяваных ім ускраін, дзе жылі «інародцы», душыў іх гаспадарча і духоўна. Дзеля гэтага ўскраіны адсталі ў сваім разьвіцьці ад цэнтру. Політыка Савецкай улады накіравана да таго, каб падцягнуць экономіку і культуру адсталых ускраін Саюзу. За кошт больш багатых частак Саюзу яна памагае адсталым нацыянальнасьцям хутчэй разьвіваць сваю гаспадарку, падымаць пісьменнасьць, будаваць лепшае жыцьцё. Гэтак, напрыклад, Беларусь у 1925-26 годзе атрымала ад саюзнага ўраду 11 мільёнаў 379 тысяч 728 рублёў дапамогі на пакрыцьцё дэфіцыту па дзяржаўным бюджэце.

---

[2]) Нацыяналістымі называюцца людзі, якія нацыянальныя інтарэсы стаўляюць вышэй за клясавыя, пролетарскія інтарэсы.

Усё гэтае дае такі прыклад разьвязаньня нацыянальнага пытаньня і цеснага гуртаваньня працоўных мас розных народаў, якога няма і ня можа быць там, дзе пануе капітал. Гэты прыклад даводзіць прыгнечаным народам усяго сьвету, што толькі пролетарская рэспубліка можа даць ім волю і поўную магчымасьць культурнага і экономічнага разьвіцьця.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЎЦІСК У БЕЛАРУСІ.

Цяжкая і крывавая гісторыя Беларусі пакінула свой сьлед у выглядзе вельмі складаных і заблытаных адносін паміж нацыянальнасьцямі ў нашай рэспубліцы.

Беларусь перш за ўсё зазнала польск. ўціску. Пасьля таго, як Беларуска-Літоўскае княства ўвайшло ў склад Польшчы, польскія паны захапілі лепшую зямлю і зрабіліся ўласьнікамі вялізных маёнткаў, бязьлітасна эксплёатуючы беларускае сялянства. Разам з тым, яны стараліся абпалячыць насельніцтва Беларусі, назначаючы польскіх ваяводаў, ствараючы польскую школу, насаджваючы польскую культуру, замест таго, каб разьвіваць культуру беларускую. Так ішла справа аж да таго часу, калі сама Польшча была зруйнавана і падзелена паміж Расіяй, Аўстрыяй і Нямеччынай (гэта было 150 год назад). З агню Беларусь трапіла ў полымя: замест польскага чыноўніка прышоў рускі, замест польскіх школ пачалі насаджваць рускую школу, замест абпалячваньня пайшла русыфікацыя, г. зн. спроба гвалтам абярнуць краіну з беларускай на вялікарускую). На працягу многіх вякоў беларускае сялянства лупцавалі ў два бізуны—польскі памешчык і царскі чыноўнік. І ўвесь гэты шматвяковы гвалт прывёў краіну да гаспадарчага і культурнага заняпаду.

Няпісьменнасьць, цемната і ўбоства беларускай вёскі вельмі вялікія. Прамысловасьць разьвіта вельмі слаба. І ў гэтым няма анічога дзіўнага. Спачатку польская, а потым руская ўлада старалася не аб тым, каб памагаць краіне расьці і паляпшаць сваё жыцьцё, а толькі аб тым, каб зьдзіраць падаткі, браць паборы і хабары, забіраць у войска ды ўсьцішаць народ, калі

ён пачынаў бунтавацца. І калі цяжка было жыць пад няволяй каралёў цароў ды памешчыкаў працоўным Польшчы і Расіі, то яшчэ горшай была доля працоўных мас Беларусі.

Дзьве вайны—перш імпэрыялістычная, а потым грамадзянская—асабліва адбіліся на Беларусі, на палёх якой ішлі бязупынныя бойкі. І калі ў Беларусі нарэшце цьвёрда ўмацавалася Савецкая ўлада, яна знайшла краіну разбуранай, дый то толькі палову краіны, бо другая яе палова захоплена суседнімі буржуазнымі дзяржавамі.

Да самага замацаваньня Савецкай улады беларусы, якія складаюць 70 проц. насельніцтва краіны, не маглі вучыць свіх дзяцей у роднай мове, зварачацца на ёй у дзяржаўныя ўстановы і г. д. З усіх народаў былой царскай Расіі беларускі народ належаў да самых забітых, і нездарма беларускі сялянскі поэта Янка Купала пісаў у сваім вершы:

А чаго-ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сьляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

Цяжкі ўціск і няволя прышліся таксама і на долю буйнейшай нацыянальнай меншасьці Беларусі—яўрэяў. Мы казалі ўжо, што царская ўлада старалася накіраваць народны гнеў на яўрэяў, каб уратаваць сябе ад рэволюцыі. Супроць яўрэяў былі выдадзены асабліва цяжкія законы. Царскім указам яўрэям было забаронена жыць у сельскіх мясцовасьцях і займацца сельскай гаспадаркай. Спачатку забаранялася ім займацца таксама і рамёствамі, і толькі потым, пасьля доўгай барацьбы, яўрэям была дазволена рамесьнічая праца. Для яўрэяў была створана так званая «черта оседлости»: ім дазвалялася жыць толькі ў Беларусі, Літве, Польшчы, у праваўзьбярэжнай і леваўзьбярэжнай Украіне, але й тут можна было жыць толькі ў гарадох і мястэчках, а ў сельскіх мясцовасьцях забаранялася. Забаранялася ім пасяляцца ў пяцідзесяцівёрстнай паласе ад гораду. Толькі некаторых гэтая забарона ня тычылася,—ня тычылася яна купцоў першай і другой гільдыі ды банкіраў, якія нават умелі атрым-

лівяць ад царскага ўраду ўсякія рангі, адзнакі і найменьні. Забарона не пашыралася на скончыўшых вышэйшыя навучальныя ўстановы—дактароў, інжынэраў і г. д. Дзеля гэтага яўрэі і стараліся ўсімі спосабамі папасьці ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Але і там была для іх перашкода—процантавая норма, іх прымалі ня больш 5 проц. усяго ліку вучняў. На яўрэяў накладваўся асобны падатак звыш усіх іншых—карабковы і сьвечны збор. Яўрэяў забаранялася прымаць на дзяржаўную службу. Нават сторажам на чыгунку яўрэй ня мог застацца.

Куды-ж было падзецца яўрэйскай беднаце? Узяцца за сельскую гаспадарку—нельга. Застацца на завод амаль немагчыма, таму што ў буйных прамысловых цэнтрах жыць забаранялася. На дзяржаўную службу—ня прымаюць. Заставаўся амаль што адзін толькі гандаль, якім жыла блізка палова яўрэйскага насельніцтва, ды яшчэ саматужныя промыслы. Зьбітая ў мястэчках большасьць яўрэйскага насельніцтва жыла ў страшэннай беднасьці. Яе эксплёатавалі ліхвяры, скупшчыкі, багатыя гандляры (большай часткай таксама яўрэйскія) і ўсімі спосабамі ўціскала царская ўлада.

Царскі ўрад праз сваіх агентаў рукамі чорнай сотні рабіў яўрэйскія пагромы. Шмат хто яшчэ добра памятае яўрэйскія пагромы пасьля рэвалюцыі 1905 году, у часе якіх адбываліся масавыя забойствы, гвалты і рабункі. Той-жа пратаптанай сьцежкай ішлі ў часе грамадзянскай вайны і белыя банды: усюль, дзе яны зьяўляліся, масамі забівалі яўрэяў і рабавалі іх маемасьць.

Побач з польскімі памешчыкамі ў Беларусі жыве значны лік сялян-палякаў, якіх паны эксплёатавалі ня менш, як сялян «чужых» нацыянальнасьцяй, ёсьць таксама і польскія рабочыя. Пры цары палякі знаходзіліся таксама пад цяжкім уціскам. Іх родную мову і культуру таксама, як і іншых уцісканых царызмам народнасьцяй, душылі, самі яны былі бяспраўнымі. Два паўстаньні палякаў супроць царскай рускай няволі былі заліты крывёй. Пасьля гэтых паўстаньняў царская ўлада, пабратаўшыся з багатымі польскімі памешчы-

камі, глядзела на працоўных палякаў, як на небясьпечных бунтаўшчыкоў і ўсімі спосабамі ўціскала іх. Вялікарускае насельніцтва ў Беларусі складалася двума шляхамі. З аднаго боку, цары пасылалі сюды «служылы люд», сваіх чыноўнікаў для розных дзяржаўных устаноў. З другога боку, сюды ішлі, ратуючыся ад царскага ўраду, стараверы, якія і заснавалі ў Беларусі цэлы шэрах сваіх выселкаў. Нарэшце, у Беларусі жывуць, праўда, невялікімі выселкамі, латышы, літоўцы, немцы, эстонцы ды іншыя.

Ужо адно тое, што на параўнаўча невялікім прасторы жывуць побач некалькі нацый, стварае вялікія труднасьці ў справе разьвязаньня нацыянальнага пытаньня. Але ў Беларусі і гэтыя труднасьці павялічваюцца яшчэ дзьвюма ўмовамі.

Папершае, Беларусь мела мала прамысловых рабочых, а зближэньне паміж сабой рабочых розных нацый адбываецца лягчэй, як зближэньне сялян. Гэта зразумела. Рабочыя сабраны вялікімі масамі на адным заводзе ў вялікім горадзе, у рабочых усіх нацыянальнасьцяй—агульныя інтарэсы, агульныя мэты, у іх няма прычыны для спрэчак, і хоць буржуазія ўсюды стараецца нацкаваць адзін на аднаго рабочых розных нацыянальнасьцяй, яны ўсё-ж хутка гуртуюцца ў адну дружную сям'ю. Зусім што іншае сярод сялян. Сяляне розных нацыянальнасьцяй часьцей за ўсё жывуць асобнымі вёскамі: скажам, польская вёска—каля беларускай, яўрэйскія земляробы—каля латыскай колёніі і г. д. Паміж імі няма такой цеснай штодзеннай сувязі, як паміж рабочымі на заводзе, разам з тым у іх часта бываюць прычыны для спрэчак: з-за зямлі, з-за лесу і г. д. Калі-ж дзьве вёскі з розным нацыянальным складам спрачаюцца паміж сабой, то спрэчка іх лёгка пераходзіць у нацыянальную варожасьць. Узмацненьню нацыянальнай варожасьці і нацыянальнай адасобненасьці дапамагае і рэлігія. Папы, ксяндзы, рабіны стараюцца распаліць недавер'е і нянавісьць да людзей другой веры, а дзеля таго, што палякі, напрыклад, зьяўляюцца ў большасьці каталікамі, яўрэі-ж—іудэі, дык гэтая нянавісьць па лініі рэлігій-

най яшчэ больш абгастрае і нацыянальную варожасьць. Вось чаму разьвязаць нацыянальнае пытаньне ў сялянскай краіне куды цяжэй, як у краіне, дзе шмат рабочых.

Падругое, нацыянальны склад гораду і вёскі ў Беларусі—розны. Прамысловасьць слаба разьвіта, сялянскія дзеці ў гарадзкую школу (гімназію і унівэрсытэт) не пападалі, і дзеля таго ў горадзе беларусаў мала. З другога боку, яўрэям забаранялася жыць у вёсках, і яны пасяляліся выключна ў гарадох ды мястэчках. І вось у выніку гэтай царскай політыкі горад зрабіўся ў пераважнасьці яўрэйскім, а вёска беларускай. І толькі Савецкая ўлада паступова зьніштажае гэтую неадпаведнасьць, разьвіваючы прамысловасьць, адчыняючы для дзяцей рабочых і сялян вышэйшыя і сярэднія школы, у якіх рыхтуюць кадры інтэлігенцыі з беларускіх сялян і батракоў, ды надзяляючы яўрэяў зямлёй.

Патрэцяе, заблытаныя адносіны паміж нацыянальнасьцямі ў мінулым спарадзілі шмат узаемнага недавер'я, а часамі і варожасьці паміж імі. Усіх сваіх чыноўнікаў, вялікіх і малых, царскі ўрад выхоўваў у духу пагарды і зьнявагі да беларусаў, яўрэяў, палякаў. У сваю чаргу, і гэтыя нацыянальнасьці набіраліся варожасьці да рускага чыноўніка, а з яго пераносілі гэтую варожасьць і на ўсё рускае насельніцтва. Паны і ксяндзы прывучылі польскіх сялян пагардна глядзець на «цёмнага» беларускага мужыка, трымацца асобна, не кампанавацца з ім. У сваю чаргу, беларускія сяляне сваю зусім справядлівую варожасьць да памешчыкаў-палякаў (памешчыкамі ў Беларусі большай часткай былі польскія паны) досыць часта пераносілі і на сваіх братоў—польскіх сялян.

Яўрэйскія спэкулянты і ліхвяры набівалі цану, абіралі народ, нажывалі капіталы. Варожасьць да гэтых яўрэйскіх багатыроў працоўныя беларусы, палякі, вялікарусы, якіх падбівала ў дадатак яшчэ агітацыя папоў і чорнасоценцаў, пераносілі вельмі часта і на яўрэйскую беднату, на саматужніка, на дробнага гандляра, які сам эксплёатаваўся буйным гандляром.

У сваю чаргу, яўрэйскае насельніцтва, абкружанае варожасьцю, замуроўвалася само ў сабе і пачынала з недавер'ем адносіцца да іншых нацыянальнасьцяй. Так заблытваўся клубок нацыянальнай варожасьці. Разблытваць яго прышлося Савецкай уладзе.

## Нацыянальная палітыка Савецкай улады ў БССР.

Перш за ўсё Савецкая ўлада аднавіла дзяржаўную самастойнасьць у Беларусі. У 1919 годзе ўтварылася Беларуская Социялістычная Савецкая Рэспубліка. Адзін час Беларуская Социялістычная Савецкая Рэспубліка існавала, аб'яднаўшыся з Літоўскай Социялістычнай Савецкай Рэспублікай (Літбел). Прыход палякаў скончыў гэтае аб'яднаньне. Пасьля вызваленьня ад палякаў у 1920 годзе зноў ствараецца Беларуская Социялістычная Савецкая Рэспубліка, пакуль у складзе толькі 6 паветаў былой Менскай губэрні. Але калі маладая савецкая рэспубліка ўмацавалася гаспадарча і культурна, а правільная нацыянальная палітыка пачала даваць свае вынікі,—імкненьне далучыцца да Беларусі пачало расьці і ў іншых мясцовасьцях, дзе беларусы зьяўляюцца большасьцю. У 1924 годзе адбылося пашырэньне Беларусі: далучаны былі былыя губэрні—Віцебская і Магілеўская, а ў 1926 г.—Гомель і два паветы Гомельшчыны. Так мірным шляхам, братэрскім згаджэньнем Савецкі Саюз разьвязаў такія пытаньні, з-за якіх звычайна ідуць нясканчоныя бойкі і льлецца шмат крыві ў буржуазных дзяржавах.

Народжаная пролетарскай рэволюцыяй Савецкая Беларусь пачала падымаць сваю гаспадарку, прыдушаную грабежніцкай палітыкай рускіх цароў і яшчэ больш падарваную доўгай вайной. Гэта было нялёгкай справай. Але працоўныя масы Беларусі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі перамаглі і гэтыя труднасьці. Краіна вышла ўжо на шырокую дарогу гаспадарчых посьпехаў. Аб тым, чаго ўдалося дасягнуць за гэтыя гады Савецкай уладзе ў справе гаспадарчага будаўніцтва Беларускай Рэспублікі, ужо гаварылася ў другіх гутарках. Тут-жа мы ўспомнім толькі, што гэтых посьпехаў можна было дасягнуць толькі дзякую-

чы няспыннай дапамозе ўсяго Савецкага Саюзу, а таксама дзякуючы таму, што працоўныя ўсіх нацыянальнасьцяй згуртаваліся ў дружнай працы па аднаўленьні зьбяднелай краіны.

У галіне нацыянальнай політыкі ўрад Савецкай Беларусі паставіў сабе за задачу: устанавіць роўнапраўнасьць і памагчы разьвіцьцю ўсіх нацыянальнасьцяй БССР.

Для гэтага ён пастанавіў, што дзяржаўнымі мовамі, роўнапраўнымі паміж сабой, лічацца чатыры мовы, на якіх больш за ўсё гаворыць насельніцтва Беларусі: беларуская, польская, яўрэйская і руская. Кожны грамадзянін можа зварачацца ў дзяржаўныя ўстановы хоць на якой з гэтых моў, і яму павінен быць дадзены адказ на тэй мове, на якой ён зварачаецца. Дзеля гэтага і працаўнікі ў кожнай Савецкай установе павінны падбірацца так, каб мець магчымасьць зносіцца з насельніцтвам на кожнай з чатырох моў.

Далей, Савецкі ўрад паклаў шмат сілы і сродкаў на разьвіцьцё народнай асьветы. Беларускую, польскую, яўрэйскую і латыскую школы і г. д. прышлося ствараць зусім нанава. У гэтай цяжкой працы дасягнуты вялізныя посьпехі. У 1925-26 годзе налічвалася ўжо:

школ-чатырохгодак: беларускіх—3.794, яўрэйскіх—123, польскіх—93, рускіх—27, латыскіх—14, эстонскіх—1, літоўскіх—3 і нямецкіх—2; а ўсяго—4.057 чатырохгодак;

школ-сямігодак разам з транспортнымі сямігодкамі, дасьледчымі і дасьледна-практычнымі: беларускіх—199, яўрэйскіх—44, польскіх—5, рускіх—12 і латыскіх—1; а ўсяго—261 сямігодка.

Апрача гэтых школ, існуюць беларускія, яўрэйскія ды польскія тэхнікумы і чатыры вышэйшыя школы: Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Беларуская Сельска-Гаспадарчая Акадэмія, Комуністычны Унівэрсытэт і Вэтэрынарны Інстытут. Ня ўсё яшчэ, праўда, абстаіць добра ў гэтых школах. Іншы раз, напрыклад, школа толькі лічыцца беларускай, а вучаць у ёй больш паруску. Але большая частка справы ўжо зроблена, а

з цягам росту нашага дзяржаўнага багацьця будзе рабіцца і яшчэ болей.

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва выдае кнігі на ўсіх дзяржаўных мовах Беларусі (а таксама і ў яўрэйскай ды латыскай). У гэтых чатырох мовах выдаюцца газэты, у іх-жа працуюць суды. Для лепшай сувязі з мясцовым насельніцтвам ствараюцца нацыянальныя сельсаветы (яўрэйскія, польскія, латыскія і іншыя), якія вядуць працу ў роднай мове насельніцтва.

Нарэшце, пры ўсіх выбарах нашая партыя высоўвае ў саветы, управы коопэратываў, профсаюзы і інш. прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяй, забясьпечваючы гэтым больш цесную сувязь абраных органаў з абіральнікамі.

Уся праца комуністычнай партыі і Савецкай улады ў Беларусі накіравана, зноў кажам, на тое, каб стварыць роўныя для ўсіх нацыянальнасьцяй умовы гаспадарчага ды культурнага разьвіцьця і гэтым сьцерці нацыянальную нязгоду. Аднак, асабліва важнай задачай нашая партыя і Савецкая ўлада лічаць **беларусізацыю.** Беларусізацыя абазначае:

1) разьвіцьцё беларускай культуры (школа і унівэрсытэт на беларускай мове, выданьне беларускіх кніг, разьвіцьцё беларускай літаратуры, навуковая праца па вывучэньні Беларусі);

2) высоўваньне партыйных, савецкіх, профэсыянальных і іншых працаўнікоў з шэрагу беларускай нацыянальнасьці і іх бальшавіцкае загартаваньне;

3) перавод працы дзяржаўных, коопэрацыйных і іншых установ на беларускую мову.

Чаму-ж беларусізацыя зьяўляецца самай важнай задачай у галіне нацыянальнай палітыкі і чаму іменна ёй мы аддаем асаблівую ўвагу? Нясумленныя людзі крычаць, што гэта, бач, несправядлівасьць, што гэта значыць даваць аднэй нацыянальнасьці перавагі перад другімі. Усё гэта выдумка і глупства. Досыць добра ўдумацца ў пытаньне, каб зразумець усю недарэчнасьць такіх крыкаў. Аснова, на якой трымаецца Савецкая ўлада,—саюз рабочых і сялян. Відавочна, што важнейшая задача—прыстасаваць школу, дзяржаўныя

ўстановы ды інш. да патрэб сялянства і памагчы яму падняцца на вышэйшы культурны ўзровень. Але беларусы складаюць 70 проц. насельніцтва нашай рэспублікі, а сярод сялянства—і ўсе 80 проц. Няцяжка зразумець ужо з гэтага, чаму беларусізацыя мае для нас асаблівае значэньне. З другога боку, беларусы ў сэнсе культуры адсталі больш за ўсе нацыянальнасьці БССР. Прычыны гэтага мы бачылі. Мала-ж напісаць на паперы, што ўсе нацыянальнасьці роўныя. Трэба ўстанавіць сапраўдную роўнасьць. Што-ж патрэбна, каб была сапраўдная роўнасьць, а ня толькі на словах?

Для гэтага трэба **як найболей памагаць** самай адсталай нацыянальнасьці, каб яна магла дагнаць іншыя і пайсьці поруч з імі. Дзеля гэтага зноў-ткі з усіх задач нашай нацыянальнай палітыкі беларусізацыя зьяўляецца асабліва важнай.

Бывае, аднак, што і сярод самых беларускіх сялян выказваецца нявера ў карысьць беларусізацыі, а то нават і некаторае нездаваленьне. Раней гэта бывала часьцей. Цяпер параўнаўча рэдка. Ворагі нацыянальнай палітыкі нашай партыі карыстаюцца з гэтага і крычаць: «Глядзіце, самі беларускія сяляне супроць беларусізацыі». У рэчаіснасьці-ж прычыны гэтай нясверы і нездаваленьня вельмі простыя, і чым далей, тым болей гэтыя прычыны зьнікаюць.

Адна прычына ў тым, што беларуская мова цэлыя стагодзьдзі лічылася ніжэйшай, «мужычай», або «халопскай» мовай. У школе гэтая мова забаранялася, у горадзе з ёй ня было куды прыткнуцца, падымалі на сьмех. На вайсковай службе таксама прызнавалася адна толькі руская мова. Таму і ня дзіўна, што ў беларускага сялянства складалася такая думка: «вучоныя людзі» гавораць паруску або папольску, а беларуская мова толькі для вёскі. А дзеля таго, што селянін цяпер хоча і мае права хацець, каб яго сын быў вучоным, а ня цёмным, то ён і баіцца іншы раз, што з беларускай школы ня будзе ходу ў вышэйшую навучальную ўстанову, ды і ў горадзе не зразумеюць. Такая думка ня мае цяпер ніякай падставы таму, што як савецкія ўстановы, гэтак і вышэйшыя навучаль-

ныя ўстановы самі пераходзяць на беларускую мову. Побач з гэтым існуе Беларуская нацыянальная дывізія, дзе ўся вучоба, і ваенная і політычная, таксама вядзецца ў большасьці на беларускай мове. Сялянскі маладняк, які прайшоў праз гэтую дывізію або які вучыцца ў горадзе, прыносіць у вёску вестку, што беларуская мова цяпер не «халопская» і ня «мужычая», а робіцца поўнапраўнай і асноўнай мовай Беларускай Рэспублікі.

Другая прычына замыкаецца ў тым, што беларусізацыя ў нас падчас праводзіцца дрэнна. У савецкіх установах, дзе склад служачых у большасьці стары, яшчэ мала людзей, якія ведаюць беларускую мову, і асабліва мала такіх, якія добра ведаюць народную сялянскую мову. Дзеля гэтага часта-густа пастановы і загады пішуцца ў такой мове, што цяжка разабрацца селяніну. Гэтак сама і ў газэтах не хапае людзей, якія ўмелі-б пісаць проста і зразумела для вёскі. А затым трэба памятаць яшчэ вось аб чым. Дзяржаўныя і грамадзкія справы толькі цяпер пачалі весьціся ў беларускай мове. Некалькі стагодзьдзяў Беларусьсю кіравалі спачатку на польскай, а потым на рускай мове. Дзеля гэтага і словы, патрэбныя для таго, каб весьці дзяржаўныя справы ў беларускай мове, не разьвіваліся. Словы гэтыя пачалі разьвівацца толькі цяпер, словы гэтыя—**новыя.** Патрэбен час, каб селянін звыкся з гэтымі словамі і навучыўся ў іх разьбірацца. Усе-ж ведаюць, што і рускі селянін ня кожны загад або закон зразумее цалком, асабліва, калі яны напісаны занадта мудра, хоць законы ў Расіі заўсёды выдаваліся ў рускай мове. Беларускаму селяніну, зразумела, прыходзіцца яшчэ цяжэй. Вось гэта і выклікае нездаваленьне селяніна. Аднак, вінавата тут не беларусізацыя, а дрэннае правядзеньне беларусізацыі, ды яшчэ тое, што справа гэтая новая. І гэтая прычына паступова зьнікае.

Беларусізацыя, як сказана, зьяўляецца для нас асабліва важнай задачай. Але гэта ані не абазначае, што нашая партыя і Савецкі ўрад забываецца аб патрэбах нацыянальных меншасьцяй. Апрача агульных

мерапрыемстваў, аб якіх мы казалі раней, ужываюцца асаблівыя мерапрыемствы для дапамогі кожнай асобнай нацыянальнасьці. З гэтых мерапрыемстваў асабліва шырака праводзіцца надзяленьне зямлёй працоўных яўрэяў. Гаспадарчае становішча мястэчка зараз вельмі цяжкое. Досыць сказаць, што цэлая трэцяя частка яўрэйскага местачковага насельніцтва ня мае сталых заняткаў і перабіваецца з дня на дзень чым давядзецца. Рэшта насельніцтва ў большасьці таксама жыве ў вельмі цяжкіх умовах. Каб даць выйсьце з цяжкога становішча яўрэйскай беднаце, якой няма куды падзецца ў горадзе і ў мястэчку, савецкі ўрад пачаў надзяляць яўрэяў зямлёю з вольных зямельных запасаў. Там, дзе ёсьць гэтыя запасы, даецца зямля яўрэйскім зямляробскім арцелям. За апошнія гады праведзена значная праца ў гэтай галіне. Так, на працягу 2-х апошніх гадоў зямляўпарадкавана 1.300 яўрэйскіх сем'яў, з якіх арганізавана 109 зямляробскіх арцеляй і 21 выселак.

Мерапрыемствы па зямляўпарадкаваньні яўрэяў, апрача дапамогі яўрэйскаму местачковаму насельніцтву, маюць яшчэ і тое значэньне, што збліжаюць яўрэйскае насельніцтва з сялянскімі масамі іншых нацыянальнасьцяй.

## З ЧЫМ ЗМАГАЦЦА.

Вялізная праца, якую праводзіць нашая партыя па зруйнаваньні нацыянальнага шовінізму, зьніштажэньні нацыянальнай нязгоды і стварэньні вольнага саюзу народаў, умацоўвае заваёвы Кастрычнікавай рэвалюцыі. Зусім натуральна, што гэтая праца натыкаецца на заўзятае супраціўленьне з боку ўсіх нашых ворагаў. Хто-ж гэтыя вораг? Як яны сябе выяўляюць у нацыянальнай палітыцы?

Галоўны і самы небясьпечны вораг—**вялікадзяржаўны шовінізм.** Шовіністым мы называем чалавека, які: 1) **змагаецца не за інтарэсы ўсіх працоўных, а за інтарэсы толькі сваёй нацыянальнасьці** і які 2) **хоча заваяваць лепшыя ўмовы для сваёй нацыянальнасьці праз уціісканьне іншых нацыянальнасьцяй.** Вялікадзяр-

жаўным шовіністым мы называем чалавека, які марыць аб «адзінай непадзельнай Расіі» і аб тым, каб аднавіць усе даўнейшыя перавагі вялікарусаў за кошт іншых нацыянальнасьцяй, вызваленых Кастрычнікавай рэволюцыяй. Вялікадзяржаўны шовінізм у Беларусі мацнейшы за ўсё сярод старога чынавенства, якое засталося працаваць у савецкіх установах. Гэтыя чыноўнікі, выхаваныя ў духу старога часу, хацелі-б зноў бачыць расійскую мову адзінай і гвалтоўна прышчаплянай дзяржаўнай мовай, а вялікарусаў—адзінай поўнапраўнай нацыяй. Да вялікадзяржаўных шовіністых часта належаць ня толькі вялікарусы, але і абруселыя ды захаваўшыя старарэжымны дух у нацыянальным пытаньні выхадцы з іншых нацыянальнасьцяй. Асабліва заядлую атаку вядуць вялікадзяржаўныя шовіністыя ў Беларусі супроць беларускай мовы, якую яны і за мову прызнаць ня хочуць, а лічаць «сапсаванай рускай мовай». Дзеля гэтага яны ўсімі спосабамі перашкаджаюць увядзеньню беларускай мовы ў школах і ўстановах. Чаму вялікадзяржаўны шовінізм наш галоўны і самы небясьпечны вораг? Таму, што гэта шовінізм у карысьць тэй нацыянальнасьці, якая даўней уціскала. Але калі вялікадзяржаўным шовінізмам прасякнута старое чынавенства, **то вялікарускі рабочы, які сваёй барацьбой дабіўся зьніштажэньня ўсякага нацыянальнага ўціску, праводзіць такую палітыку, якая заваёўвае да яго братэрскае давер'е нацыянальнасьцяй, уцісканых пры царызьме.** Усякая праява вялікадзяржаўнага шовінізму выклікае трывогу ў гэтых нацыянальнасьцяй, якія яшчэ добра памятаюць сваю няволю ў царскія часы, падрывае заваяванае давер'е і парывае сувязь паміж працоўнымі вялікарусамі і працоўнымі іншых нацыянальнасьцяй.

Нашая партыя дзеля гэтага павінна весьці і вядзе бязьлітасную барацьбу супроць вялікадзяржаўнага шовінізму.

Другая лінія нашых ворагаў—шовіністыя тых нацыянальнасьцяй, якія раней былі прыгнечанымі. У Беларусі гэта, перш за ўсё, шовіністыя беларускія, яўрэйскія і польскія.

**Беларускі** шовінізм выяўляецца ў наступным:

1) у імкненьні парваць саюз працоўнай Беларусі з працоўнымі іншых саюзных рэспублік і

2) у жаданьні паставіць беларусаў у панавальнае становішча ў адносінах да нацыянальных меншасьцяй—падобна да таго, як вялікарусы ў царскай Расіі былі ў панавальным становішчы ў адносінах да іншых нацыянальнасьцяй. Імкнучыся адгарадзіцца ад Кастрычнікавай рэволюцыі і скінуць у Беларусі Савецкую ўладу, беларускія эс-эры і Беларуская Соцыялістычная Грамада ў свой час (1918 год) уваходзілі ў зносіны з нямецкім імпэратарам Вільгельмам і віталі прыход нямецкіх войскаў, як «збаўцаў Беларусі ад бальшавікоў». Цяпер яны падзяліліся на дзьве часткі. Адна з іх знаходзіцца заграніцай і там з дапамогай буржуазных дзяржаў вядзе барацьбу супроць Савецкай улады. Гэтыя ўцекачы з вольнай Беларусі мараць аб так званай «Незалежнай Беларусі», г. зн. аб буржуазнай рэспубліцы на ўзор Літвы і Польшчы. Яны дабіваюцца такой «Незалежнай Беларусі», дзе ўлада будзе ў руках буржуазіі і вясковага кулака, а рабочыя ды бяднейшае сялянства тысячамі запоўніць турмы і астрогі.

Другая частка—прызнала, што Савецкая ўлада моцная і яе ня скінеш, а шмат хто з яе зразумеў нават, што толькі Савецкая ўлада можа абараніць Беларусь ад чужаземнай няволі. Яны пайшлі на савецкую працу, але пад крылом Савецкай улады шмат хто з іх вядзе тут сваю шовіністычную працу, саслабляючы ды падрываючы саюз рабочых і сялян-беларусаў з працоўнымі іншых нацыянальнасьцяй.

**Яўрэйскія** шовіністыя імкнуцца да поўнага адасабненьня яўрэйскай нацыі. Яны лічаць, што Савецкая ўлада робіць замала для поўнага задаволеньня нацыянальных патрэб яўрэйства. Найбольш моцна яўрэйскі шовінізм выяўляецца ў сыонізьме. Сыоністыя навучаюць, што пакуль яўрэі ня будуць мець сваёй дзяржавы, яны заўсёды будуць цярпець бяду і гора. Карыстаючы з цяжкога гаспадарчага становішча мястэчка, яны заклікаюць яўрэйскае насельніцтва пера-ся-

ліцца ў «яўрэйскую дзяржаву»—Палестыну. На першы погляд можа здацца, што сыоністыя зусім безабідны народ, хочуць толькі пераехаць з аднэй дзяржавы ў другую. У рачаіснасьці-ж іх шовінізм ня менш контр-рэволюцыйны за ўсякі іншы. Цяперашняй палестынскай дзяржавай круцяць як хочуць ангельскія імпэрыялістыя, якія зьяўляюцца там сапраўднымі гаспадарамі. Ангельскія капіталістыя заклікаюць яўрэяў у Палестыну, каб з іх дапамогай душыць арабаў, якія складаюць пераважную большасьць палестынскага насельніцтва. Памагаць ангельскім бандытам душыць арабаў—вось да чаго ў рачаіснасьці прыходзіць політыка яўрэйскіх шовіністых. Сыоністыя сваёй агітацыяй прытупляюць клясавыя супярэчнасьці, яны імкнуцца падпарадкаваць яўрэйскага рабочага, яўрэйскага працоўнага буржуазнай ідэолёгіі, аддзяліць яго ад агульнай сям'і працоўных.

Нарэшце, **польскія** шовіністыя (асабліва ксяндзы) нацкоўваюць працоўных палякаў на Савецкую ўладу ды на працоўных іншых нацыянальнасьцяй і цягнуць іх на бок сучаснай панскай Польшчы.

Усе гэтыя шовіністыя розных адценьняў і нацыянальнасьцяй выконваюць адну й тую самую ганебную, контр-рэволюцыйную справу, **яны старающца разьбіць братэрства працоўных у барацьбе з сусьветным капіталам і з бліжэйшымі ворагамі—кулакамі ды нэпманамі.** Усюдых шовіністых падтрымліваюць папы, кулакі, багатыя гандляры, «былыя людзі», якія засталіся ад старога ладу. Комуністыя ўсюды і заўсёды абавязаны даваць адпор шовіністым усіх нацыянальнасьцяй і ўмацоўваць адзінства шэрагаў рабочых ды сялян.

Апрача такога баявога шовінізму, нашай партыі прыходзіцца змагацца яшчэ з аднэй бядой: з **нацыянальнай абмежаванасьцю.** Яна азначаецца ў тым, што людзі ў штодзенным жыцьці больш давяраюць чалавеку сваёй нацыі, групуюцца толькі з сваімі—яўрэі з яўрэямі, беларусы з беларусамі,—думаюць і клапоцяцца аб справах толькі сваёй нацыі, мала цікавячыся тым, што тычыцца іншых нацыянальнасьцяй і ўсёй

Беларусі. Супроць нацыянальнай абмежаванасьці нашая партыя высоўвае цеснае збліжэньне працоўных розных нацыянальнасьцяй і іх штодзеннае выхаваньне ў духу сумеснай барацьбы за агульную справу.

Нашая партыя так цесна зьвязана з беспартыйнымі масамі, што часта розныя некомуністычныя настроі прабіваюцца ў нашыя ўласныя шэрагі. Бывае так і ў нацыянальным пытаньні. Часамі асобныя няцьвёрдыя члены партыі падпадаюць чужым настроям і зьбіваюцца на нацыяналістычную дудачку. Ленін казаў: «Паскрабі іншага комуністага і знойдзеш вялікадзяржаўнага шовіністага». А так здараецца ня толькі з рускімі комуністымі, але і з комуністымі іншых нацыянальнасьцяй. Між тым комуністы павінен быць узорам інтэрнацыяналістага (міжнародніка) для беспартыйных мас. Дзеля гэтага мы павінны асабліва рашуча змагацца супроць усякага нацыяналістычнага ўхілу ў нашых партыйных шэрагах.

У барацьбе супроць усяго, што разьбівае еднасьць працоўных розных нацый, усе комуністыя павінны існці нага ў нагу, адзіным фронтам. Пакуль пытаньне абгаворваецца ўнутры партыі, для нас ня так важна, да якой нацыянальнасьці належыць той ці іншы партыйны таварыш, але калі справа ідзе аб працы сярод беспартыйных мас, мы павінны лічыцца з іх настроямі. Дзеля гэтага Ленін навучаў нас, што супроць шовіністых сваёй нацыянальнасьці ў першую чаргу павінны весьці барацьбу комуністыя тэй самай нацыянальнасьці. Усе члены партыі павінны весьці рашучую барацьбу з усімі праявамі шовінізму і нацыянал-дэмократызму [1]), як самых шкодных перажыткаў, якія дасталіся нам у спадчыну ад царызму, перажыткаў, якія перашкаджаюць справе ўмацаваньня саюзу працоўных.

З усяго пададзенага відаць, што буржуазія ня мае сілы разьвязаць нацыянальнае пытаньне. Капіталізм паглыбляе і абгастрае нацыянальныя супярэчнасьці. Комуністычная партыя з самага свайго заснаваньня паставіла перад сабой задачу зьніштажэньня нацы-

[1]) Нацыянал-дэмократамі ў нашых умовах называецца той, хто замест Савецкай Беларусі імкнецца ўтварыць незалежную, буржуазную Беларусь".

янальнага ўціску, нацыянальнай няроўнасьці. Пролетарская рэволюцыя ў кастрычніку 1917 году зьніштожыла нацыянальны ўціск, вызваліла прыгнечаныя народнасьці былой царскай Расіі. Вызваленыя нацыянальнасьці Беларусі маюць поўную магчымасьць будаваць сваю экономіку, сваю гаспадарку, будаваць сваю культуру ў роднай мове, знаходзячыся ў братэрскім саюзе з народамі іншых частак Саюзу. У спадчыну ад царызму засталіся перажыткі варожасьці паміж паасобнымі нацыянальнасьцямі. У задачу партыі, у задачу Савецкай улады ўваходзіць—зьніштажэньне гэтых перажыткаў і выхаваньне працоўных усіх нацый у духу ўзаемнага давер'я і братэрства.

### ПЫТАНЬНІ

1. Чаму буржуазія ня мая сілы развязаць нацыянальнае пытаньне?

2. Як разьвязвала нацыянальнае пытаньне царская Расія?

3. Нашто ўладжваліся яўрэйскія пагромы?

4. У якім сэнсе гаворыцца аб падвойным уціску беларускага селяніна пры царызьме?

5. Як разьвязаў нацыянальнае пытаньне ўзяўшы ўладу ў свае рукі пролетарыят?

6. Якую політыку праводзіць партыя і Савецкая ўлада ў адносінах да нацыянальных меншасьцяй?

7. Чаму вялікадзяржаўны шовінізм мы называем шовінізмам, з якім у першую чаргу трэба змагацца?

8. Што мы называем беларускім шовінізмам і ў чым яго небясьпека?

9. Якая розьніца паміж разуменьням «шовінізм» і «нацыянальная абмежаванасьць»?

# ЗЬМЕСТ



---

234416



